# СВЯТЫ І

## дата якіх вызначаецца ў залежнасці

| На якім тыдні да Вялікадня адзначаецца | Назва свята, прысвятка, асобных дзен або ўсяго тыдня | На якія дні тыдня або які час прыпадае |
|---|---|---|
| 10 | • Усеядны (Сплашны) тыдзень | |
| 9 | Масленічныя (зімовыя, стрэчаньскія) дзяды | У суботу, вечарам |
| 8 | • Масленічны (сырны) тыдзень<br>Крывы чацвер<br>Масленічныя (перадвелікодныя) загавіны | Чацвер<br>Нядзеля |
| 7 | Пачатак Вялікага (перадвелікоднага) посту<br>Паласказуб, Шыльны панядзелак<br>Уступная серада<br>Зборава субота, абрады "споведзі, дзежкі"<br>Ізборная нядзеля, (Зборніца) | Сем тыдняў (ад панядзелка да велікоднай нядзелі)<br>Панядзелак<br>Серада<br>Субота<br>Нядзеля |
| 4 | • Крашчаты (благавесны) тыдзень<br>Хрэстцы, Прапалоўны дзень, серадапосніца, сярэдзіна посту, Кросная серада | Серада |
| 3 | Яўрэйскія кучкі | За 10-15 дзен да Велікадня |
| 2 | Пахвальны тыдзень<br>Мезіна, Пахвальная субота<br>Вербніца, Вербная нядзеля | Субота<br>Нядзеля |
| 1 | Перадвелікодны (вербны, белы, страсны) тыдзень<br>Чысты панядзелак<br>Вялікая (красная) пятніца, дзень распяцця Ісуса Хрыста<br>Вялікая (красная) субота, пахаванне цела Ісуса Хрыста<br>Усенашная, уваскрэшанне Ісуса Хрыста<br>Вялікая нядзеля, Вялікдзень | Панядзелак<br>Пятніца<br>Субота<br>Ноч з суботы на нядзелю |

У праваслаўных: ад 21 сакавіка (дня

У каталікоў: адзначаецца ў першую

# АБРАДЫ,

## ад дня святкавання Вялікадня (Пасхі)

ўперад 13 дзен і затым пасля поўні
адзначаецца ў першую нядзелю




следам за 21 сакавіка (пачаткам
вясенняга раўнадзенства)

| На якім тыдні пасля Вялікадня адзначаецца | Назва свята, прысвятка, асобных дзен або ўсяго тыдня | На якія дні тыдня або які час прыпадае |
|---|---|---|
| 1 | • Велікодны тыдзень (Вялікадне)<br><br>Вялікі панядзелак, другі дзень Вялікадня<br>Вялікі аўторак, трэці дзень Вялікадня<br>Градавая серада, абрады ля калодзежа<br>Вялікдзень мертвых, Наўскі Вялікдзень<br>Фаміна (праводная) нядзеля, провады | Панядзелак<br>Аўторак<br>Серада<br>Чацвер<br>Нядзеля |
| 2 | • Радаўнічны тыдзень<br>Радаўніца (Радунічныя дзяды) | Аўторак<br>(дзевяты дз…<br>пасля Вяліка… |
| 4 | • Пераплаўны тыдзень<br>Перапалавенне, Градавая серада | Серада<br>(дваццаць …<br>дзень<br>пасля Вялік… |
| 6 | Ушэсце (Шоснік), абрад ваджэння і пахавання стралы (сулы) | Чацвер<br>(саракавы …<br>пасля Вялі… |
| 7 | Крывая, Градавая серада<br>Траецкія (летнія, духаўскія, семушныя) дзяды, вывешванне маю (упрыгожванне галінкамі дрэў падворка і хаты)<br>Тройца (Семуха, Зелянец, Зяленыя святкі), ваджэнне Куста, завіванне вянкоў, абрады "кумлення" | Серада<br>Субота<br>Нядзеля<br>(пяцідзеся…<br>дзень<br>пасля Вялік… |
| 8 | • Траечны (Граны, Клечальны, Духаў) тыдзень<br>• Русальны тыдзень<br>Духаў дзень (Сашэсце Святога Духа)<br>Конскі Вялікдзень (на Палессі)<br>Градавая серада, серада Русаль<br>Сухі чацвер, наўскі чацвер, абрады выклікання дажджу<br>Загавіны перад пятроўскім пастом, абрады развівання вянкоў | Панядзела…<br>Аўторак<br>Серада<br>Чацвер<br><br>Нядзеля |
| 9 | Розгары (Провады русалкі)<br>Дзевятнік, Свята Божага Цела (у каталікаў)<br>Дзевятуха | Панядзелак<br>Чацвер<br>Пятніца |
| 10 | Дзесятка<br>Дзесятуха (пяценка) | Чацвер<br>Пятніца |

У. М. Сысоў

# З крыніц спрадвечных



Мінск
«Вышэйшая школа»
1997

УДК 39(= 826) + 882.6-8
ББК 63.5 (4 Бен)
С95

Мастак *А. П. Пратасеня*

Сысоў У. М.
С95 З крыніц спрадвечных. — Мн.: Выш. шк., 1997. — 415 с.
ISBN 985-06-6265-1.

На прыкладзе найбольш вядомых і распаўсюджаных у нашым краі рытуалаў, павер'яў, заклінанняў, замоў, зычэнняў і іншых абрадавых кампанентаў разглядаецца каляндарная і сямейная абраднасць беларусаў. Высвятляюцца генетычныя вытокі рытуалаў і семантыка абрадавай сімволікі. Кожны нарыс дапаўняецца прыказкамі і прымаўкамі пра канкрэтнае свята, абрадавымі песнямі, якія запісаны аўтарам у розных рэгіёнах Беларусі.

Адрасуецца як навукова-папулярны і хрэстаматыйны дапаможнік выкладчыкам і студэнтам філалагічных факультэтаў ВНУ, настаўнікам сярэдніх школ, работнікам культасветустаноў, а таксама масаваму чытачу, якія цікавяцца духоўнай спадчынай беларускага народа.

ББК 63.5(4 Бен)

ISBN 985-06-6265-1

## Слова да чытача

*Паважаныя чытачы! Амаль кожны з вас яшчэ з дзяцінства ведае пра такія святы, як Каляды, Ражство Хрыстова, Стрэчанне, Масленіцу, Гуканне вясны, Тройцу, Купалле, Спас, Прачыстую і многія іншыя. Адкуль яны бяруць свой пачатак? Чаму беражліва захоўваюцца і святкуюцца ў нашым народзе з незапамятных часоў? Што азначалі шматлікія звычаі, вераванні, рытуалы, забароны ў жыцці нашых продкаў і якое дачыненне яны маюць да нашых сучаснікаў? Сапраўды гэта забабоны, як трактавалі нам у савецкі час тэарэтыкі навуковага атэізму, або нешта іншае, больш значнае і жыццесцвярджальнае? Чаму нараджэнне дзіцяці суправаджаецца радзіннай абраднасцю, утварэнне новай сям'і — вясельнымі абрадамі, а смерць чалавека — пахавальнай абраднасцю? І, нарэшце, як захаваўся той ці іншы абрад у нашым народзе, у якой паслядоўнасці ён праходзіць? Калі вас цікавяць падобныя пытанні, то адказ на іх вы знойдзеце на старонках гэтай кнігі.*

*Пры апісанні свят і абрадаў шырока выкарыстоўваюцца звесткі з вядомай этнаграфічна-фальклорнай літаратуры і з многіх рэдкіх выданняў, што захоўваюцца ў фондах цэнтральных бібліятэк нашай рэспублікі і за яе межамі.*



*Шматлікія этнаграфічныя апісанні і фальклорныя матэрыялы, змешчаныя ў кнізе, сабраны ў апошнія гады аўтарам. Усе яны знаходзяцца ў фондах Архіва Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук Беларусі. У вытрымках з архіўных крыніц захоўваецца мова інфарматараў, а ў канцы кнігі даецца пашпартызацыя да кожнага запісу. Акрамя таго, у кнізе шырока ілюструюцца шматлікія народныя выразы і азначэнні, што актыўна бытуюць у сучаснай гутарковай мове. Непасрэдна такія матэрыялы даюць уяўленне аб цяперашнім стане традыцыйнай абраднасці, нашай мовы ў яе народным варыянце і сучаснай традыцыйнай культуры, якая актыўна бытуе ў побыце беларускага народа.*

*Спадзяюся, што інфармацыйны змест кнігі будзе для вас займальным і цікавым, а ў душы пакіне глыбокае ўражанне ад знаёмства яшчэ з адной старонкай нашай духоўнай спадчыны, назва якой — традыцыйная абраднасць.*

*Аўтар*

## *Чалавек і традыцыйная абраднасць*

Традыцыі кожнага народа складваюцца вякамі, тысячагоддзямі і перадаюцца з пакалення ў пакаленне як неад'емная частка ўкладу жыцця чалавека, якая хутчэй у многім і вызначае гэты ўклад. Ва ўсе часы ўсё, што тычыцца паняцця «традыцыйнае» свята захоўвалася ў народзе як найдаражэйшая спадчына, бо любая традыцыя ў першую чаргу задавальняе духоўны густ і патрэбу чалавека. Менавіта гэта акалічнасць садзейнічае вялікай жыццяздольнасці і функцыянальнасці нацыянальных традыцый кожнага этнасу, яго абрадаў і звычаяў. І менавіта таму да нашага часу ў беларускай традыцыйнай культуры захаваліся лепшыя элементы храналагічна розных культурных пластоў і эпох: язычніцтва і хрысціянства, матрыярхальнага і патрыярхальнага грамадства, праславянскай і ўзнікшай пазней на яе аснове ўсходнеславянскай культурнай спадчыны.

На станаўленне і развіццё беларускай традыцыйнай абраднасці на працягу апошняга тысячагоддзя аказалі значны ўплыў розныя рэлігійныя веравучэнні, якія, умацоўваючы свае пазіцыі ў нашым краі, нярэдка імкнуліся абвергнуць спрадвечныя мясцовыя абрады, звычаі, вераванні і г. д., падмяняючы іх аналагічнымі новаўвядзеннямі ці падробкамі, якія грунтаваліся на ўласнай светапогляднай аснове. Але, як сведчыць гістарычная рэальнасць, народныя традыцыі



нельга наўмысна ні выжыць, ні падмяніць, ні забараніць, акрамя тых выпадкаў, калі яны свядома губляюцца і адыходзяць у нябыт у этнічнай памяці, як аджыўшае і непатрэбнае звяно ў культурным укладзе жыцця. Яскравым сведчаннем таму ўпартая барацьба хрысціянства з язычніцтвам, што вялася на працягу цэлага тысячагоддзя, але, відавочна, вынікі яе малазначныя, бо яна не змагла канчаткова зламаць рэлігійныя светапоглядныя пастулаты нашых далёкіх продкаў-язычнікаў, якія так і захаваліся ў свядомасці людзей да нашых часоў. У сённяшнім выглядзе і язычніцтва, і хрысціянства хутчэй утвараюць цэласную аснову культурнага здабытку нацыі. Падобнае меркаванне ў культуралагічным аспекце заслугоўвае сваёй ацэнкі і асэнсавання.

Хрысціянства, павёўшы ўпартую барацьбу за знішчэнне язычніцтва, выкарыстоўвала самыя розныя метады для дасягнення сваёй мэты, ад забарон да актыўнай ідэалагічнай хрысціянізацыі народных мас. Ужо з самага пачатку ўвядзення новай рэлігіі хрысціянскія прапаведнікі аб'явілі язычніцтва паганскай верай, людзей, якія ўпарта адстойвалі і абаранялі веру ў сваіх дахрысціянскіх Багоў, называлі паганцамі, нават Багоў язычнікаў перайменавалі ў ідалаў. У 1551 годзе ў шырока вядомай пастанове Стоглавага сабора язычніцкія звычаі і абрады былі асуджаны і ўвогуле забаронены: «Еще же мнози от неразумия простая чадь православных християн во градех и в селех творят еллинское бесование, различные игры и плясания в навечерии праздника Рождества Христова и против праздника рождества Іоанна Предтечи в нощи и в праздник весь день мужи и жены и дети в домах, по улицам отходя и по водам глумы творят всякими играми и песнями сотанинскими. ...Благочестивому царю по всем градом и по селом своя заповедь учинити, чтобы православные християне на таковыя бесования не сходилися

и чтобы проклятое еллинское бесование впредь попрано было до конца»*.

Трэба зазначыць, што хрысціянскія прапаведнікі падобныя пастановы выконвалі даволі сумленна. Вельмі цікавы запіс наконт гэтага зрабіў у канцы мінулага стагоддзя Мікалай Андрэевіч Янчук на падставе гутаркі з беларускім святчэннікам. Дык вось служка царквы расказвае яму: «Бывала даведаешся, якая-небудзь дзяўчына скакала з хлопцам праз агонь — не станеш іх вянчаць, калі захочуць жаніцца: другім навука. А то яшчэ, напрыклад, у нас Ражство называлі заўсёды Калядою: усё Каляда ды Каляда, а пахрысціянску ніхто не назаве. Я, ведаеце, і ў пропаведзі, і ў размовах тлумачыў, што няма ў нас такога святога, каб Калядою называўся, — нічога не дапамагло; а як я не дапусціў аднагодругога да прычасця за гэту самую назву, дык і сталі ўсе называць Ражством, прынамсі, пры мне баяцца ўспамінаць Каляду»**.

Не выпадкова, што і правядзенне хрысціянскіх пастоў, калі не дазваляліся любыя ўвесяленні, гулянні, спяванні, прыпадае на дні правядзення многіх найбольш важных язычніцкіх рытуальных дзён. Так, перадвелікодны сямітыднёвы пост сумяшчаецца з Гуканнем вясны, пятроўскі пост (з канца Траечнага тыдня да 12 ліпеня — дня апосталаў Пятра і Паўла) прыпадае на дні Купалля, а двухтыднёвы Успенскі (спажынны) пост супадае са Спасаўскімі сваткамі.

Але наш народ цярпліва перажываў і падобныя асуджэнні сваёй рэлігіі, і забароны, прадаўжаючы і захоўваючы традыцыі язычніцкіх часоў. Нават у XIX стагоддзі, калі, здавалася, хрысціянства ўжо даволі трывала «абжылося» на нашых землях як новая дзяржаўная рэлігія, тагачасны

* Стоглав / Изд. Д. Е. Кожанчикова. СПб., 1863. С. 261—263.
** Цыт. па працы: *Пятроўская Г.А.* Мікалай Андрэевіч Янчук (1859—1921) // Беларуская фалькларыстыка. Мінск, 1989. С. 250.



люд упарта прытрымліваўся шматлікіх рэлігійных свят і абрадаў, якія паходзяць з язычніцтва. Наш вядомы гісторык і этнограф Адам Багдановіч так характарызаваў адносіны беларусаў таго часу да хрысціянскай рэлігіі: «Багамі прызнаеце Вы стыхіі — і сонца, і агонь, і агню таксама моліцеся, называеце яго Сварожычам. Верыце і ў стралу, і ў полаз, і ў птушыны грай, і ў варажбу, вяшчуеце птушкамі і звярамі! Бог дае Вам усё добрае, Вы ж яго не пазналі, а ўсё ад бесаў сваіх мець уяўляеце...»*.

Як пацверджанне таму і сёння ў большасці традыцыйных абрадаў беларусаў мы знаходзім адлюстраванне як хрысціянскай, так і язычніцкай рэлігійных плыняў, зыходзячы з чаго нават ужыванне назваў многіх абрадаў і свят захавалася паралельнае: Каляды — Ражство Хрыстова, Грамніцы — Срэценне Божае, Зялёныя святкі — Тройца, Купалле — дзень Івана Хрысціцеля, Багач — Ражство Маці Божай і г. д. Тут варта зазначыць, што прыналежнасць гэтых свят да розных рэлігій выразна характарызуе і працягласць іх па часе. Як вядома, у нашых продкаў-язычнікаў месцамі правядзення рытуалаў і набажэнстваў з маленнямі да Багоў і Добрых Духаў былі рошчы, гаі, узвышшы, рэкі, свяцілішчы, дзе рытуальныя святкаванні праводзіліся на працягу некалькіх дзён, а то і тыдняў**. Прырода, адкрыты прастор, неабмежаваная колькасць удзельнікаў садзейнічалі таму. Хрысціянскія ж святы і абрады — гэта храмавыя цырымоніі, якія ў большасці сваёй разлічаны на аднадзённыя ўрачыстасці і маленні. Таму ў сённяшняй цесна пераплеценай канве язычніцкай і хрысціянскай духоўных плыняў заўсёды на час правядзення таго ці іншага язычніц-

---

* *Богданович А.* Пережитки древнего миросозерцания у белорусов. Гродно, 1885. С. 12.

** Гл.: *Срезневский И. И.* Святилища и обряды языческого богослужения древних славян по свидетельствам современным и преданиям. Харьков, 1846. С. 20—29.



кага свята прыпадае некалькі хрысціянскіх: Каляды і Ражство Хрыстова, Васілле, Вадохрышча; Гуканне вясны і Саракі, Вялікдзень, Дабравешчанне, Юр'е, Мікола; Зялёныя святкі і Тройца, Духаў дзень і г. д.

Пра жыццяздольнасць народных традыцый сведчыць і гісторыя савецкага часу, калі ўвогуле як народная (язычніцкая), так і хрысціянская светапоглядныя асновы лічыліся забабонамі, рэлігія была аб'яўлена «опиумом народа», а, каб запоўніць духоўны вакуум чалавека, традыцыйныя абрады і звычаі імкнуліся падмяніць новай культурай — савецкімі абрадамі і святамі. Аднак, як паказаў час, новае не прыжылося, бытавала як штучнае нізкапробнае наваўвядзенне, а старыя традыцыі, хоць і ў прыкрытай форме, захоўваліся ў большасці беларускіх сямей. Забаранялася хрысціць дзіця, але хрысцілі, забаранялася вянчацца, але вянчаліся, высмейваліся як забабоны народныя святы, абрады і звычаі (Каляды, Масленіца, Саракі, Дабравешчанне, Купалле і іншыя), але яны бытавалі ў народзе, як надзённая патрэба духоўнага жыцця чалавека.

Чаму ж так атрымалася, што на Беларусі, як нідзе ў іншай славянскай ці ўвогуле еўрапейскай краіне, захоўваліся і шанаваліся язычніцкія традыцыі? Галоўная прычына, на наш погляд, гэта тое, што на гэтай зямлі ні адна навейшая рэлігія не мела трывалага і пастаяннага прыжывання. Беларусь, знаходзячыся на памежжы дзвюх хрысціянскіх канфесій, каталіцызма і праваслаўя, амаль на працягу тысячагоддзя адчувала на сабе вастрэйшую барацьбу гэтых рэлігійных плыняў за свядомасць народных мас і тэрытарыяльны падзел. Акрамя гэтага, выкарыстоўваючы падобную сітуацыю рэлігійнай «валтузні» асноўных хрысціянскіх напрамкаў веравызнання, у нашым краі пачалі ўзнікаць шматлікія рэлігійныя секты і групоўкі кальвіністаў, сацыніянцаў, іезуітаў, дамініканцаў, брыгітаў, кармелітаў, евангелістаў, баптыстаў, іудзеяў, мусуль-



ман і многія іншыя, якія уносілі раскол у сістэму фарміравання адзінай рэлігійнай самасвядомасці беларускага этнаса. А паколькі на працягу многіх стагоддзяў у нашым краі не было адзінага і пастаяннага веравызнання, беларускі народ у большасці выпадкаў упарта прытрымліваўся спрадвечнай дзедаўскай веры часоў язычніцтва, якая хоць і забаранялася і крытыкавалася хрысціянствам і іншымі рэлігійнымі плынямі і дзяржаўнымі структурамі, але была адзіным, пастаянным і агульнавядомым на ўсёй тэрыторыі веравучэннем, якое трактавалася няпісанымі законамі продкаў, што бытавалі і перадаваліся з пакалення ў пакаленне, як самае сакральнае, і захавалася да нашых дзён у выглядзе традыцыйных рытуалаў, звычаяў, вераванняў і г. д.

Аналіз падобнай сітуацыі даволі пераканаўча сведчыць пра тое, што спрадвечная традыцыйная аснова і ўсё, што на ёй створана, уяўляе сабой найбольш устойлівае і актыўнае звяно ва ўкладзе жыцця чалавека.

Хочацца звярнуць увагу і на такі факт. Колькі прыгожых аўтарскіх песень ствараецца пры жыцці кожнага з нас, але большасць з іх, якімі б прыгожымі і мілагучнымі, папулярнымі і любімымі яны ні былі, з цягам часу адыходзіць у нябыт, забываецца, а народныя традыцыйныя песні жывуць вякамі і здольны задавальняць эстэтычны густ і патрэбу розных пакаленняў. Унутраная псіхалагічная акумулятыўнасць і актыўнасць гэтых песень настолькі вялікая, што кожнага з нас яны могуць прымусіць плакаць і смяяцца, падымаюць настрой і наганяюць сум, выклікаюць павагу да жыцця і роздум аб ім.

У жыцці чалавека традыцыйныя абрады, звычаі і рытуалы маюць шматбаковае значэнне. Яны ўяўляюць сабой пэўную квінтэсенцыю яго светапогляду на існасць жыцця, прыроду, сусвет, адлюстроўваюць культурны ўзровень быту як нашых продкаў, так і сённяшніх пакаленняў, даносяць да нас пэўную сістэму чалавекаахоўваючых



установак, медытацый і перасцярог, накіраваных на захаванне і прадаўжэнне чалавечага роду, і, потым, абраднасць — гэта традыцыйная норма паводзін, якая вынікае з гістарычнага вопыту жыцця многіх і многіх пакаленняў.

Зыходзячы з першабытнага анімістычнага светапазнання акружаючага свету, прыроды, будовы галактыкі, чалавек адчуваў сваю пастаянную залежнасць ад уяўляемых ім Багоў, розных Духаў, дэманічных істот і г. д. Добра ўрадзіў ураджай, шчасціць у жыцці, памнажаецца багацце ў сваёй сям'і, родзе — гэта «памагае Бог». Няўдачы, беды, хвароба, разарэнне, беднасць спісвалася на «нячысцікаў» альбо «Божы гнеў». У сваю абарону, заступніцтва і з надзеяй на «міласць Божую» і дапамогу ў паўсядзённых клопатах і справах чалавека нашы продкі стварылі шматлікія вераванні, заклінанні, замаўленні, маленні, рытуалы, звычаі і абрады, якія суправаджалі іх усё жыццё ад нараджэння да смерці. У народным жыцці яны гарманічна і лагічна спалучаліся з актыўнай працай людзей як на зямлі, так і ў дамашняй гаспадарцы, у сям'і. «І праца, і свята свой час маюць», «Працуй руплівa, святкуй гуліва, але на ўсё пару ведай», — з даўніх часоў падкрэсліваюць беларусы.

У народным календары самы актыўны абрадавы комплекс прыпадае на вясну і восень — менавіта на тыя поры года, калі чалавек засяваў ніву і ўбіраў яе. Такая акалічнасць невыпадковая. Пасля доўгага зімовага сну ажывала прырода, абуджалася да новага вітка жыцця маці-зямля. Думы і надзеі чалавека ў гэты час былі прасякнуты разважаннямі аб ранняй і цёплай вясне, будучым ураджаі, спрыяльным пладавітасці зямлі надвор'і. Але перш чым прыступіць да актыўнай сялянскай працы, трэба было дачакацца, пакуль сонейка прагрэе зямлю, ажывіць яе і адзене ў зялёны ўбор. Чалавек не жадаў быць толькі пасіўным назіральнікам і чакаць прыходу вясенняга цяпла і пачатку земляробчых работ. Ён

імкнуўся праз прызму вясенніх абрадаў, розных магічных рытуалаў звярнуцца з просьбамі і маленнямі да Добрых Духаў і Багоў, каб наблізіць прыход вясны і абудзіць жыватворную сілу зямлі. Гуканне вясны, Саракі, Благавешчанне, Юр'е, Мікола і многія іншыя вясеннія святы і прысвяткі былі прасякнуты гэтай надзённай марай людзей. А дачакаўшыся цяпла і засеяўшы ніву, трэба было звярнуцца і да Духаў-продкаў, каб разлічваць і на іх благаславенне і спрыянне ў паўсядзённых справах земляроба. І таму напярэдадні Духава дня, альбо Тройцы, ў суботу спраўлялі духаўскія ці, як іх яшчэ называюць, траечныя, Дзяды.

У аналагічнай паслядоўнасці праходзіць і восеньская абраднасць, сэнс якой зводзіўся да таго, каб аддзячыць Багоў за здабыты ўраджай і багацце ў сялянскіх засеках і каморах. Макаўе, яблычны і арэхавы Спас, Прачыстая, Багач, Пакроў вызначаюцца рытуаламі, маленнямі і ахвярапрынашэннямі Багам і маці-зямлі за іх ласку і клопат пра дабрабыт чалавека і шчодрыя дары сялянскай нівы. Вянцом восеньскай абраднасці зноў жа былі асяніны, ці змітраўскія Дзяды, на якіх дзякавалі Духаў-продкаў за іх садзеянне і спрыянне ў земляробчых і гаспадарчых справах чалавека і здабыткі на сялянскіх палях.

Зімовы і летні перыяды, як вядома, характарызаваліся актыўнай працай людзей. Пачынаючы з Піліпаўкі і амаль да Вялікадня абраблялі лён, ткалі палатно, шылі, вышывалі. Пачынаўся стойлавы перыял для жывёлы, якую штодзённа трэба было даглядаць, а таксама трымаць у цяпле жыллё, навучыць грамаце дзетак і г. д. Лета ж у сваю чаргу патрабавала актыўнай аддачы сіл на полі, у лузе, у лесе: «Лета працуе на зіму, а зіма на лета» альбо «Што ўлетку прыдбаеш, то зімой з'ясі», — сведчыць народная мудрасць. Таму летняя і зімовая абраднасць прадстаўлена значна вузей у народным календары, за выключэннем калядных (раждзественскіх) і купальскіх дзён,

якія былі прымеркаваны да перыядаў зімовага і летняга сонцастаяння.

Варта зазначыць і такую асаблівасць каляндарных абрадаў, што многія з іх характэрны толькі для пэўных рэгіёнаў Беларусі і хутчэй захаваліся як рэлікты племяннай культуры нашых продкаў. Так, абрад Пахаванне стралы бытуе толькі на тэрыторыі, якую насялялі радзімічы, Ваджэнне куста і Жаніцьба Пасвета — Дрыгвічы і Яцвягі, Жаніцьба Цярэшкі і Камаедзіца — крывічы. У кантэксце сённяшняй агульнанацыянальнай традыцыйнай культуры гэтыя абрады ўяўляюць сабой парэгіянальныя абрадавыя локусы, якія значна дапаўняюць і ўзбагачаюць нашу духоўную спадчыну.

Сямейная абраднасць ахоплівае найбольш важныя вехі ў жыцці чалавека — нараджэнне, вяселле, провады ў войска, перасяленне ў новую хату, пахаванне і памінанне нябожчыка — якраз усе тыя моманты, якія былі найбольш значнымі і адказнымі, пэўнай мяжой на жыццёвым шляху. І хоць усе яны абгрунтаваны практычнай неабходнасцю, іх змест у асноўным напоўнены клопатам аб прадаўжэнні чалавечага роду, здаровым развіцці будучага патомства. Нездарма ж у народзе кажуць: «Калі дзіця на свет прыходзіць, новы кусок хлеба родзіць», «Без дзяцей ціха, ды на старасці ліха» ці «Дзіцятка хоць і крыва, ды бацьку з маткаю міла».

У беларусаў з нараджэннем дзіцяці звязаны два абрады — адведкі (адведзіны), калі сваякі і знаёмыя прыходзілі да бацькоў немаўляткі, каб павіншаваць іх і раздзяліць іх радасць, падтрымаць маладых бацькоў слушным словам, практычным павучаннем альбо матэрыяльнай дапамогай, і радзіны (хрэсьбіны) — абрад хрышчэння дзіцяці ў царкве або касцёле. Жаданне здароўя маці і дзіцяці, шчаслівага будучага лёсу нованароджанаму ўласціва многім рытуальным дзеянням, звычаям і павер'ям, што суправаджаюць радзінную абраднасць.

Не адкрыю новай ісціны, калі скажу, што менавіта ў сям'і і дзецях — шчасце чалавека і яго вечнасць. У час адной з фальклорных экспедыцый на Рагачоўшчыну мне ўдалося запісаць такое паданне: «Жылі людзі ў Раю. Добра жылося ім там. Ды аднойчы нехта саграшыў. Разгневаўся Бог за той грэх і прагнаў усіх на зямлю: «Ідзіце, грэшнікі, па зямлі, і няхай кожны з вас самастойна шукае сваё шчасце. І хто здолее знайсці сваю палавіну, той і будзе шчаслівы». Задумаліся людзі, пра якую ж гэта палавіну сказаў ім Бог. Ды толькі з таго часу так і павялося, хто яе знаходзіць, таму і радасць у жыцці, а хто не знойдзе — так і блукае ў адзіноце ды смуце».

Стварэнню новай сям'і з даўніх часоў надавалася важнае значэнне. Па тых, хто будзе бацька і маці, яшчэ задоўга да вяселля судзілі аб лёсе будучай сям'і і яе нашчадкаў. Невыпадкова, што сярод усіх сямейных абрадаў вясельная абраднасць самая працяглая па часе. Пачынаецца яна звычайна сватаннем, калі жаніх з двума-трыма сваякамі прыходзіў да бацькоў дзяўчыны прасіць яе рукі. Атрымаўшы згоду на выданне дачкі, праз тыдзень-два збіраліся на заручыны, дзе сустракаліся родзічы жаніха і нявесты, і ўжо пасля такога знаёмства і згоды двух родаў на маючы адбыцца шлюб дамаўляліся аб часе правядзення вяселля, якое звычайна гулялі некалькі дзён. Заканчваліся ж беларускія вясельныя абрады пярэзвамі, калі на працягу тыдня, а то і больш, госці маладога і маладой запрашалі адзін аднаго да сябе ў госці.

Провады навабранцаў у войска таксама на працягу апошніх стагоддзяў вылiлiся ў характэрны для гэтай падзеі абрад, які хутчэй быў выкліканы заклапочанасцю родных і бацькоў аб вяртанні будучага салдата жывым і здаровым да роднай хаты, у сваю сям'ю.

Беларускі абрад провадаў на армейскую службу складаецца з некалькіх рытуалаў, такіх, як паездка навабранца з роднымі ў храм, дзе за яго

здароўе служылі абедню, развітанне з аднавяскоўцамі — абход будучым салдатам родных і знаёмых у сваёй вёсцы, якія яму зычылі хутчэйшага вяртання дадому, а старэйшыя людзі, былыя салдаты дзяліліся сакрэтамі вайсковага жыцця, вечар-провады, што спраўлялі за дзень да ад'езду на зборны пункт, на якім будучага воіна аплаквалі і благаслаўлялі «чэсна служыць Айчыне», надзялялі грашыма і рэчамі «на дарогу», а таксама провады непасрэдна ў дзень адпраўлення з сваёй хаты, калі родныя рабілі шматлікія рытуалы і магічныя дзеянні, «каб хлопец жывым і здаровым вярнуўся назад».

Перасяленне ў новую хату атрымала назву — улазіны альбо ўваходзіны, для якіх характэрны рытуалы, накіраваныя на шчаслівае і заможнае пражыванне пэўнай сям'і на новым месцы.

Смерць была канчатковай мяжой зямнога існавання чалавека. Жалоба і пашана, з якой праводзяць у апошні шлях нябожчыка, — гэта своеасаблівая даніна павагі і ўдзячнасці за пакінуты ім след на зямлі, сярод людзей.

Беларускія жалобныя абрады складаюцца з двух частак — пахавання памёршага і памінальных дзён аб ім: трацiны, шасціны, саракавіны і г. д. Па вераваннях беларусаў, пахаванне — гэта провады чалавека «на той свет», дзе ён прадаўжае сваё бясконцае і вечнае існаванне ў выглядзе Духа-продка і з'яўляецца апекуном свайго роду і сям'і.

Як бачым, традыцыйная абраднасць беларусаў складаецца з характэрных рытуальных цыклаў, якія адлюстроўваюць спрадвечны ўклад жыцця людзей, культуру іх быту, светапоглядную аснову. І хоць каляндарныя і сямейныя абрады вельмі старажытныя па сваім паходжанні, аднак да сённяшніх дзён яны не страцілі мэтавай накіраванасці і прызначэння ў народным жыцці, здолелі захаваць у сабе адну з цікавейшых старонак народнага побыту, нашай нацыянальнай культурнай спадчыны.

2 Зак. 1339

*Працуй рупліва,*
*святкуй гулліва,*
*але на ўсё*
*пару ведай*






З даўніх часоў Сонцу як адзінай крыніцы цяпла і жыцця на Зямлі розныя народы надавалі пэўнае значэнне: па сонцу звяралі час, да яго поўнага кругавароту вакол Зямлі прымяркоўвалі гадавыя календары, а ў нашых продкаў-язычнікаў сонейка ўвогуле ўшаноўвалася, як адно з галоўных боствaў.

У язычніцкай рэлігіі вярхоўным Богам лічыўся Сварог — Бог неба, а яго дзеці, што былі

стаўленнікамі паміж людзьмі і Богам-бацькам, называліся сварожычы: Сонца альбо Даждзьбог, а таксама Хорс — сонечны агонь і Пярун — маланкавы агонь.

Перыяду зімовага сонцастаяння надавалася значэнне часу, калі пачынаў адраджацца на новы віток жыцця Бог-Сонца. І сапраўды, з гэтага часу павялічваўся дзень, сонейка з кожным днём усё вышэй падымалася над гарызонтам, што набліжала вясенняе цяпло і адраджэнне зямной прыроды і чаго чакалі з вялікай надзеяй славянеземляробы. У гонар адраджэння Бога-Сонца ў народзе праводзіліся шматлікія ўрачыстасці і святкаванні, якія ў славян замацаваліся пад агульнаю назвай — Каляды.

Дарэчы, на Беларусі па афіцыйным календары ў залежнасці ад веравызнання Каляды святкуюцца ў розныя даты: у католікаў з 24 снежня па 6 студзеня і ў праваслаўных вернікаў з 6 па 21 студзеня. Але ж язычніцкія Каляды не мелі дачынення ні да католікаў, ні да праваслаўных. Падобнае разыходжанне ў датах святкавання звязана з гісторыяй рэлігіі ў нашым краі. Хрысціянства на працягу апошняга тысячагоддзя, вельмі актыўна выцясняючы язычніцкія традыцыі са свядомасці беларусаў, дабілася забароны іх на дзяржаўным узроўні. У такім выпадку Каляды як свята прадаўжалі функцыяніраваць у простанародным асяродку, і паступова, з узмацненнем пазіцый хрысціянства, дата іх святкавання прымяркоўвалася народам да календароў гэтых хрысціянскіх канфесій, у якіх на дні зімовага сонцастаяння прыпадае нараджэнне Ісуса Хрыста.

Язычніцкія калядныя святкаванні добра захаваліся да сёння і актыўна бытуюць у многіх беларускіх вёсачках і гарадах. Нягледзячы на тое, што пазней на гэтае свята наклала свой адбітак хрысціянства, у народным жыцці Каляды не страцілі свайго значэння і сэнсу. У многіх калядных песнях даволі часта можна пачуць такія матывы:

**...Ражство — Калядам прыхажство,**
**Васілле — Калядам красілле,**
**Святое Крашчэнне — Калядам прашчэнне.**

У іх вельмі выразна акрэслены час язычніцкіх Каляд і пазней супаўшых з імі хрысціянскіх свят — дня нараджэння Ісуса Хрыста, Васілія Вялікага і Хрышчэння Хрыстова. І хоць па часе правядзення язычніцкія Каляды і адзначаныя хрысціянскія святы супадаюць, але ў межах беларускай традыцыйнай зоны, нават нягледзячы на іх генетычную ўзаемасувязь, яны выразна скампанавалі ў сабе рознамэтавыя абрадавыя дзеянні і суправаджаючы іх фальклор, што і дало нам падставу разглядаць кожнае з такіх святкаванняў у асобным артыкуле.

24 снежня, а адпаведна сучасным датам святкаванне ў праваслаўных вернікаў — 6 студзеня, нашы продкі сустракалі Каляду, хутчэй за ўсё, Божую Маці Сонца. У каляднай абрадавай паэзіі яна надзяляецца рысамі вярхоўных Духаў і Багоў, якой нібыта служыць увесь касмаганічны свет:

**Прыехала Каляда на белым кані.**
**Яе конічак — ясен месячык,**
**Яе дужачка — ясна зорачка,**
**Яе пужачка — ясна звёздачка,**
**Яе вазочак — з тоўстага лядку,**
**Яе кажушок — з белага сняжку.**

У гонар Каляды ў кожнай хаце рабілі святую вячэру, на якой абавязковымі стравамі былі куцця і бліны, а ўвогуле на стол ставілі як мага больш страў, за што ў народзе гэты вечар называюць «вялікай куццёю». Уся ежа на першую куццю павінна была быць поснай, а калі і запраўлялі што, дык толькі канапляным або сланечнікавым алеем. Вячэраць пачыналі з узыходам на небе першай вячэрняй зоркі і абавязкова папярэдне запаліўшы на куце свечку і памаліўшыся Богу.

7 студзеня святкавалі Каляды. Святочныя застоллі праходзілі як у кругу сям'і, так і з за-

прашэннем у госці іншых сваякоў. Пасля доўгага перадкаляднага посту скаромная ежа на святочным стале і гарэлка ў пэўнай ступені падкрэслівалі ўрачыстасць застолля і яго значнасць. З гэтага ж дня, вечарам, пачыналі хадзіць калядоўшчыкі з абрадамі слаўлення і добрых зычэнняў гаспадарам і членам іх сямей. З незапамятных часоў хаджэнням калядоўшчыкаў і абыходам імі гаспадарчых падвор'яў у народзе надаецца магічны сэнс. Праз падобныя рытуалы, як лічылі нашы продкі, можна заручыцца падтрымкай Багоў на ўвесь будучы год. Калядоўшчыкі як бы выконвалі функцыянальную ролю пасрэднікаў паміж Богам і чалавекам. Услаўляючы таго ці іншага гаспадара, яны зычылі яму багацця, здароўя і дабрабыту:

Пане гаспадар, Бог цябе заве,
Бог цябе заве, дар табе дае:

Паруе валы ўсё палавыя,
Ўсё палавыя, ўсё вараныя.

Стайлуе коні на тры стайненькі,
А вараныя ды й на чатыры.

Шаруе стажкі ў тры шарачкі,
А пшанічныя ды й у чатыры.

Ў дар табе дае сям'ю роўнюю,
Ўсё маладую, ўсё пакорную.

Пасля кожнага куплета такой песні паўтараецца прыпеў: «Святы вечар!»

Усякі гаспадар імкнуўся шчодра надзяліць спевакоў за такія песні-зычэнні. Магчыма, што ў язычніцкія часы падарункі, якімі надзялялі гаспадары калядоўшчыкаў, у першую чаргу адрасаваліся вярхоўным і родавым боствам і Добрым Духам, і частку такіх ахвярапрынашэнняў тыя адносілі да месц пакланення Сварогу, Даждзьбогу, Перуну, Вялесу, Роду і іншым язычніцкім Багам. На такую думку наводзіць звычай, які захаваўся да нашых дзён на Палессі: грошы,

што даюць людзі на Каляды, калядоўшчыкі адносяць «на ахвяраванне» у мясцовую царкву (8-94-287-1, л. 8)*.

Паўсямесна калядоўшчыкі вадзілі з сабою «казу». Лічылася, што з дапамогай гэтай жывёлы можна выгнаць са двара «нячысцікаў», а таксама разлічваць у наступным годзе на добры прыплод жывёлы ў гаспадарцы і плённы здабытак ураджаю з сялянскай нівы, бо, як спяваецца ў песнях калядоўшчыкаў, «дзе каза ходзіць — там жыта родзіць, дзе каза хвастом — там жыта кустом, дзе каза нагой — там жыта капой, а дзе каза топ-топ — там жыта сем коп».

У большасці населеных пунктаў у «казу» ці «казла» пераапранаўся больш вёрткі і гаваркі хлопец, якому адзявалі вывернуты кажух і маску казы. Але паралельна такому звычаю ў некаторых вёсках рабілі чучала «казы» з саломы. Вось як апавядаюць пра такую «ляльку» старэйшыя жыхары вёскі Шапчыцы Старадарожскага раёна: «Бацька казла спляце з саломы: куль саломы падвяжыць, ды рогі сплятуць, ды хвост сплятуць, ды бубенчыкаў начапляюць на таго казла. І кажух яму такі падбяруць, цвет ці чорны, ці сівы, ці вот белы ўжо такі, але падбіраюць кажух, каб быў аднаго цвету» (8-93-270-2, л. 67). Такое чучала казы калядоўшчыкі насілі ў руках.

Больш вузкалакальнае значэнне на Беларусі маюць звычаі ваджэння калядоўшчыкамі мядзведзя, што характэрна для некаторых раёнаў Брэстчыны, і бусліка, што зафіксавана этнографамі і фалькларыстамі на Гомельшчыне.

Другая куцця адзначалася на шчодры ве-

* Тут і далей па тэксту падобны шыфр указвае на крыніцу з Архіва Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН Беларусі, дзе першая лічба азначае нумар фонду, другая — вопісу, трэцяя — справы, чацвёртая — спытка, а лічбы, якія стаяць пасля коскі, — нумар ліста.

чар — 31 снежня (13 студзеня)*, якраз пад Новы год. Гэта абрадавая вячэра вызначалася не толькі багаццем страў, але і вялікай колькасцю скаромнай ежы — смажанага і вэнджанага мяса, каўбас і іншых мясных прысмакаў, за што і называюць другую куццю шчодрай, мясной, ласай, тлустай, тоўстай, багатай і г. д. Сама ж куцця таксама падавалася на стол з маслам або мясам. Увесь наступны тыдзень калядоўшчыкі спявалі песні-шчадроўкі, якія мала чым адрозніваліся сюжэтыкай ад песень першага каляднага тыдня, але для іх характэрны прыпевы:

Шчодры вечар!

альбо

Добры вечар, шчодры вечар,
Усім людзям на ўвесь вечар!

5 (18) студзеня беларусы праўлялі трэцюю куццю, якую называюць «посная» або «водапусная». У гэты ж вечар на куццю звалі мароза. Звычайна гаспадар адчыняў дзверы і праз парог тройчы клікаў: «Мароз, мароз, хадзі куццю есці». Пасля запрашэння ўсёй сям'ёй садзіліся вячэраць. Мароза імкнуліся задобрыць, каб ён не быў «сярдзіты», а палагоднеў і «сцішыў свой сярдзіты нораў». Калі на наступны дзень надвор'е было менш марознае ў параўнанні з папярэднім днём, лічылі, што марозу спадабаліся пачастункі гаспадароў. Да трэцяй куцці заканчваліся і хаджэнні калядоўшчыкаў.

У залежнасці ад мясцовых традыцый на гэту куццю ці зранку наступнага дня гаспадыня пякла бліны, а гаспадар з першым спечаным блінам ішоў адпісваць Каляды: над парогам хаты, над варотамі падворка, хлява, пуні і іншых пабудоў «ставіў» мелам крыжыкі. Увогуле ж апошнім калядным днём у нашым краі лічыцца 21 студзе-

* Далей па тэксту ў дужках даюцца даты правядзення абрадаў і свят у праваслаўных хрысціян.

ня, калі амаль паўсямесна адзначаюцца Провады Каляд.

Беларускі селянін, з яго клопатамі аб будучым ураджаі, багацці і дабрабыце ўласнай гаспадаркі і здароўі членаў сям'і і роду, прымяркоўваў да гэтага свята шматлікія магічныя дзеянні і заклікання да Багоў і Добрых Духаў з надзеяй, што яны будуць садзейнічаць яму ў паўсядзённых справах. Перш-наперш да Каляд прыносілі ў ахвяру Багам і Духам жывёлу: рэзалі свіней, птушку — «пускалі кроў». На святочным стале на першы калядны дзень абавязкова стаяла засмажаная галава такой ахвяры. Гэты звычай хоць і страціў у этнічнай памяці сваё першапачатковае значэнне, але па часе строга захаваўся да нашых дзён.

На ўсе тры калядныя вячэры пяклі бліны. Прычым першы спечаны блін з кожнай вячэры (куцці) адкладваўся і захоўваўся да канца Каляд. Як расказваюць сяляне вёскі Баева Дубровенскага раёна, у апошні дзень Каляд гаспадыня зранку «скармлівала» гэтыя бліны жывёле і птушцы: «Даёш на ташчак карові адзін блін, аўцам ламаеш, каб было па два кусочка каждаму, а курям даёш уже мелкімі кусочкамі. ...Карові адзін блін, штоб аднаго цяляці дала, авцы, штоб двое акаціла ягнятак, а курям многа кусочкаў, штоб многа яічак няслі» (8-92-265-1, л. 40).

На працягу ўсіх Каляд беларускія дзяўчаты гадалі аб будучым замужжы і сваёй долі. Напрыклад, на Старадарожчыне дзяўчаты кідалі сабаку калядныя аладкі, чыю аладку сабака першай з'ядаў, той, лічылі, і пашанцуе першай сярод сяброўак выйсці замуж. Перапісвалі таксама на паперку ўсіх хлопцаў, «якіх мела на прымеце дзяўчына», і такую бумажку клалі на ноч пад падушку. Верылі, той, хто прысніцца дзяўчыне ноччу, будзе яе «суджаны» (8-93-270-2, л. 31). На Рагачоўшчыне ў пераднавагоднюю ноч дзяўчына лажылася спаць, не разуваючы адну нагу. Пры гэтым прыгаварвала: «Хто прыйдзе маю нагу

разуваць, з тым век векаваць!» Калі ж ноччу яна бачыла ў сне, што яе «разувае» хлопец, «то гэта яна бачыла свайго суджанага» (8-94-280-1, л. 9). Многія гаданні заснаваны на значэнні парных або няпарных лікаў: раніцай дзяўчаты прыносілі ў хату дровы і лічылі, колькі іх, абхоплівалі рукамі агароджу ў двары і таксама лічылі «шчакецiны» — калі пры падліку атрымліваўся парны лік, гэта прадказвала, што і дзяўчына на працягу года будзе ў пары.

Калядныя вечары вызначаліся яшчэ ігрышчамі і вячоркамі, на якія збіралася ў асноўным моладзь. Нярэдка пачынальнікамі калядных ігрышчаў і вячорак былі самі калядоўшчыкі, якія, закончыўшы абход гаспадарчых падворкаў у сваёй ці суседняй вёсцы, збіраліся ў адну з хат, дзе спачатку рабілі застолле, а пасля танцавалі, вадзілі калядныя карагоды, праводзілі розныя розыгрышы і гульні. Шырока вядома ў нашым краі калядная гульня «Жаніцьба Цярэшкі», арэол бытавання якой на сёння вызначаецца раёнамі паўночнай Міншчыны і паўднёва-заходняй Віцебшчыны. Такая гульня была скіравана на тое, каб спараваць і пазнаёміць паміж сабою дашлюбную моладзь.

На калядных ігрышчах і вячорках гучала вельмі многа песень, прыпевак, загадак, жартаў, напоўненых дасціпным народным гумарам і вымыслам.

Па надвор'і калядных дзён меркавалі, які чакае селяніна год. Калі куцця зварылася добра і была смачнай, гаварылі, што будзе добры ўраджай жыта. Яркае і зорнае неба вечарам на першую і другую куццю абяцала, што ў лесе будзе многа грыбоў, на полі «добры ўмалот», а ў хлеве добры прыплод жывёлы. Завіруха ў калядныя вечары («на куццю») прадказвала пчалярам добрае раенне пчол і багаты мёдазбор. У Крупскім раёне яшчэ зазначаюць: калі багатая Каляда (другая куцця) прыпадае на посны дзень (серада, пятніца), то год будзе багаты.

На Каляды дзеўкі рады, хлопцы семак прынясуць.

Калядкі добрыя сяткі: наеўся, напіўся, ды й на палаткі.

Надышлі Калядкі, бліны ды аладкі.

Калі Калядкі, рабі сам і парадкі.

Прыйшлі Калядкі — гаспадарам парадкі.

Як тыдзень да Каляд — пан чэлядзі не рад.

Каляды — хрысціяне (славяне) рады.

Хто перад Калядамі жывёлу добра даглядае, той перад Вялікаднём за хвост не падымае.

Калі ў Калядніцу сабакі будуць завываць, дык к вясне людзі будуць паміраць.

На Каляды ўночы трашчыць, а ўдзень плюшчыць.

Прыйшлі Сяткі—апалі ліскі (пра каляндар).

## ОЙ, ШУМІЦЬ, ГУДЗЕ...*

*Калядная.*

Ой, шуміць, гудзе,
Пчаліная матка йдзе.
Ой, Каледо,
Пчаліная матка йдзе.

Пчаліная матка йдзе,
Роячкі вядзе,
Ой, Каледо,
Роячкі вядзе.

Садзіцеся, роячкі,
На новуй вярбе.
Ой, Каледо,
На новуй вярбе.

А я старая
Сяду на старой.
Ой, Каледо,
Сяду на старой.

Да насіце, роячкі,
Медкі саладкі.
Ой, Каледо,
Медкі саладкі.

А я старая
Жоўтыяваскі.
Ой, Каледо,
Жоўтыяваскі.

* Праслухаць фанаграмы песень, змешчаных у кнізе, можна ў Архіве Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН Беларусі.

Тыя ваські
Богу на свечкі.

Ой, Каледо,
Богу на свечкі.

(8-89-243-2, л. 47)

## ДОБРЫ ВЕЧАР ТАМУ...

*Калядная, гаспадару.*

Добры вечар таму,
Хто ў етым даму.

П р ы п е ў: Святы вечар!
Хто ў етым даму*.

А ў етым даму
Сам пан-гаспадар.

Сам пан-гаспадар
На куце сядзіць.

На куце сядзіць
Калітку дзяржыць.

Калітку дзяржыць,
Грошыкі лічыць.

Грошыкі лічыць,
Шчадрушак дарыць.

Дарыце, дарыце,
Да нас ні пазніця.

Да кароткія світкі,
Да памерзлі лыткі.

(8-93-270-2, л. 65)

* Прыпеў паўтараецца пасля кожнага куплета з паўторам апошняга радка.

## ЕХАЛА КАЛЯДА...

*Калядная, гаспадару, які нядаўна ажаніўся.*

Ехала Каляда
З канца ў канец.
Заехала Каляда
К Мішэчку.
Мішэчка, а хадзяін,
Дай калядзіцы:
Пуд пшаніцы,
Хлеба бухатку,
Мяса лапатку,
Парасят з хвастом,
Калбас з шастом.
Вота Каляда
За сваю Ніначку.

(8-91-258-А-3, л. 9)

## А МАРОЗЫ ТРАШЧАЦЬ...

*Калядная, хлопцу.*

А марозы трашчаць,
Да варота скрыпяць.

П р ы п е ў: Святый вечар,
Да варота скрыпяць*.

— Чаму ў цябе, Валодзька**,
Да кажушка німа?

— Нашто мне кажух,
Калі ў мяне Леначка***.

Яна спацее,
Мяне сагрэе.

(8-93-270-1, л. 9)

* Прыпеў паўтараецца пасля кожнага куплета з паўторам апошняга радка.
** Называецца імя хлопца, якому калядоўшчыкі спявалі.
*** Называецца імя дзяўчыны, з якой кахаецца хлопец.

## ОЙ, РАНА, РАНА...

*Калядная, дзяўчыне.*

Ой, рана, рана
Зоры заззялі.

П р ы п е ў: Святы вечар
Добрым людзям*!

Ні раней таго
Ганначка ўстала.

Па двару хадзіла —
Ўвесь двор красіла.
Ступіла на ганi —
Ганi заззялі.

Ступіла на парог —
Тры сталы стаяць.

Тры сталы стаяць,
Баяры сідзяць.

Баяры сідзяць,
Кубкі наліваюць.

Кубкі наліваюць,
Ганначку ўсхваляюць.

(8-94-280-2, л. 16)

---

* Прыпеў паўтараецца пасля кожнага куплета.




Ражство Хрыстова (Дзень нараджэння Ісуса Хрыста) — хрысціянскае свята, якое прыпадае на 25 снежня. Але ў календарах каталіцкай і праваслаўнай канфесій гэта дата азначае не адзін і той жа дзень. У католікаў яна адназначна адпавядае сучаснаму афіцыйнаму календару, а ў праваслаўных вернікаў — дню 7 студзеня. Вытокі падобнай з'явы звязаны з гісторыяй нашага краю. Беларусь, знаходзячыся ў цэнтры Еўропы, адначасова апынулася і на мяжы сутыкнення

дзвюх хрысціянскіх плыней: каталіцкай, якая распаўсюджвалася на нашу краіну праз Еўропу, і праваслаўнай, што прыйшла да нас з Візантыйскай імперыі і ў 989 годзе была падтрымана і ўведзена на Старажытнай Русі кіеўскім князем Уладзімірам.

Як вядома, хрысціянскі свет амаль што на пачатку свайго ўтварэння вёў летазлічэнне па юліянскім календары, у якім Ражство Хрыстова вызначалася апошнім днём зімовага сонцастаяння, а Новы год пачынаўся на сёмы дзень пасля нараджэння Ісуса Хрыста. Гэты каляндар увёў у 46 годзе да нашай эры рымскі імператар Юлій Цэзар. Юліянскі каляндар, якому суджана было пачынаць летазлічэнне нашай эпохі, на жаль, быў не зусім дакладны ў падліку часу, у выніку чаго да сярэдзіны XVI стагоддзя каляндарныя дні адставалі ад астранамічнага года на 13 дзён. Таму ў 1582 годзе Папа рымскі Грыгорый XII, адкуль і паходзіць назва — грыгарыянскі каляндар, правёў рэформу календара адпаведна ўдакладненых астранамічных звестак. Гэты ж каляндар па загаду Вялікага Літоўскага князя і Польскага караля Стэфана Баторыя ў 1584 годзе быў уведзены на ўсёй тэрыторыі Вялікага княства Літоўскага, у складзе якога былі і беларускія землі.

Праваслаўная ж царква не падтрымала падобнай рэформы календара і па-ранейшаму прытрымлівалася летазлічэння старога стылю. З канца XVIII стагоддзя, калі Беларусь была далучана да Расіі, падобнае летазлічэнне было афіцыйна ўведзена і на нашых землях. І хоць у 1918 годзе адміністрацыйнымі коламі ў Савецкай краіне была праведзена рэформа календара адпаведна еўрапейскай, праваслаўнае крыло хрысціянства ў гэтым пытанні засталося да цяперашняга часу на старых дзедаўскіх пазіцыях. Таму і сёння даты каталіцкага, як і афіцыйнага ў нашай краіне, і праваслаўнага календароў не супадаюць і маюць розніцу ў 13 дзён.

Паводле хрысціянскіх паданняў, Ісус Хрыстос нарадзіўся ў горадзе Віфлееме недалёка ад Іерусаліма ў сям'і цесляра Іосіфа і прасвятой Дзевы Марыі, якія жылі ў горадзе Назарэце на поўначы Ізраіля. У той час Рымскі імператар Аўгуст загадаў правесці перапіс насельніцтва на ўсіх падначаленых яму землях. Згодна з тагачаснымі традыцыямі народныя перапісы вяліся па плямёнах і родах, непасрэдна ў тых населеных пунктах, адкуль былі выхадцы таго ці іншага роду. Паколькі «праведны Іосіф» і «прасвятая Марыя» паходзілі ад рода цара Давіда, яны павінны былі ісці ў горад сваіх прадзедаў — Віфлеем, каб унесці свае імёны ў спісы падначаленых імператара. Але калі яны прыйшлі туды, знайсці дзе-небудзь месца для пражывання ім не ўдалося, паколькі горад быў перапоўнены такімі ж прышэльцамі, як і яны. Таму Іосіф з Марыяй уладкаваліся на начлег за горадам у выкапнёвай пячэры, у якой утрымлівалі жывёлу. У гэту ж ноч прасвятая Марыя нарадзіла хлопчыка, якога сама спавіла і паклала ў яслі — месца, прызначанае для корму жывёлы, дзе Богачалавек і правёў першую ноч.

Нараджэнне Ісуса Хрыста было азначана падзеямі, якія абвясцілі свету аб яго з'яўленні. Першымі даведаліся аб гэтым пастухі, якія сцераглі ноччу на загарадных лугах жывёлу ад драпежных звяроў.

Да іх нібыта з'явіўся Божы Анёл са словамі: «Не палохайцеся, я абвяшчаю Вам вялікую радасць, якая будзе радасцю і ўсім людзям. Сёння нарадзіўся ў горадзе Давідавым Спасіцель, які ёсць Хрыстос Гасподні. І вось Вам знак: Вы знойдзеце дзіця ў пялёнках, якое ляжыць у яслях». Адначасова ў небе з'явілася вялікая колькасць светлых Анёлаў, якія ўхвалялі Бога песнямі. Пастухі, напалоханыя і здзіўленыя такой весткай з нябёс, першымі знайшлі Сына Гасподняга ў яслях і нізка пакланіліся яму.

Акрамя віфлеемскіх пастухоў, аб нараджэнні Ісуса Хрыста ў гэту ноч даведаліся ўсходнія астролагі — «волхвы», якія ўбачылі ў небе на ўсходзе незвычайна яркую зорку. Зорка, на думку мудрацоў, абвяшчала, што нарадзіўся Цар усяго свету. Таму яны тэрмінова паспяшаліся ў Іерусалім, з боку якога відаць быў свет зоркі-прадказальніцы. Прыйшоўшы ў горад, усходнія мудрацы распытвалі гаражан: «Дзе нарадзіўся Цар Іудзейскі? Мы бачылі яго зорку на ўсходзе і прыйшлі пакланіцца яму». У той час Іерусалімам правіў цар Ірад, які, пачуўшы такую вестку, рашыў загубіць Божага Сына, баючыся, што той зойме яго прастол. Ён паклікаў да сябе «волхваў», даведаўся ў іх пра час з'яўлення зоркі і папрасіў, каб яны, знайшоўшы Божае дзіця, расказалі яму аб яго месцазнаходжанні. Па дарозе з Іерусаліма перад мудрацамі на небе з'явілася тая ж зорка, якую яны бачылі напярэдадні. Яна «ішла перад імі», указваючы шлях мудрацам, і «спынілася над тым месцам», дзе нарадзіўся Сын Божы. Усходнія «волхвы», а іх было трое, нізка пакланіліся Ісусу Хрысту і даравалі яго золатам, ліванам і смірнай. Тады ж перад зваротнай дарогай Ангел Божы параіў ім вяртацца дадому, не заходзячы ў Іерусалім, што яны і зрабілі. Разгневаны ж цар Ірад даў загад воінам загубіць у Віфлееме і яго ваколіцах усіх дзяцей ад нараджэння і да двухгадовага ўзросту. Так былі загублены дзесяткі нявінных дзіцячых душ. Іудзейскі цар спадзяваўся, што сярод забітых ёсць і той, каго ён так баяўся. Аднак воіны не даўмеліся заглянуць у пячору, куды сяляне заганялі жывёлу. Пазней Іосіф і Марыя з Божым дзіцём перабраліся ў Егіпет, дзе пражывалі да смерці цара Ірада.

Народныя раждзественскія рытуалы на Беларусі ў многім упадабляліся каляднай абраднасці і праводзіліся ў асноўным па сцэнарыю язычніцкіх Калядак, але ў аснову іх тэматыкі і атрыбутыкі пакладзены сюжэты вышэйапісаных хрысціянскіх паданняў.

Святкаванне Ражства Хрыстова ў народзе пачынаецца 24 снежня (6 студзеня) з усходам першай вячэрняй зоркі, якая нібыта абвяшчае ўсяму свету аб часе нараджэння Сына Божага. Са з'яўленнем такой зоркі ў хрысціянскіх вернікаў заканчваецца пілііпаўскі пост і пачынаецца «рождественский сочельник», як называе праваслаўнае духавенства гэты вечар. Перад абразамі запальваюць свечкі, моляцца Богу і ўсёй сям'ёй вячэраюць.

На наступны дзень вечарам, падобна калядоўшчыкам, пачынаюць хадзіць звездары. Першапачаткова (прыкладна да XVII стагоддзя) гэты рытуал выконвалі мясцовыя прычты, якія абыходзілі хаты сваіх прыхажан з маленнямі і духоўнымі песнямі і віншавалі іх з Ражством Хрыстовым*. Звездары насілі з сабою васьміражковую (радзей пяці-, сяміражковую) зорку («звязду»), як сімвал віфлеемскай зоркі, што абвясціла людзям аб нараджэнні Сына Божага. Вось як, напрыклад, выглядала такая зорка ў вёсцы Урэчча Слаўгарадскага раёна Магілёўскай вобласці: «...іконка ўсярэдку, а тут звязда, круглая такая, бальшая, а ў сярэдку — іконачка: Божая Мацер ілі Ісус Хрыстос. Перад іконкай свечачкі гарелі — трі. Так, як ідзём па дарозе, не гараць, а як ужо ў дваре, запалім трі свечачкі перад іконкай. Сама звязда красівая, з разнымі ўкрашэннямі. Рагі яе лентамі ўкрашалі. Іконачка тая ўсігда ў нас хранілася, а звязду каждый год новую дзелалі» (8-94-282-1, л. 35). Звязда рабілася параўнальна вялікая — у дыяметры больш метра. Яе замацоўвалі на двухметровай жэрдцы і насілі, падняўшы над сабою. Звездары, як і ў царкве ў гэты дзень, спявалі: «Раждзяство твае, Хрысце — Божа наш, возсія міравы свет разума. У нём звёздам служашчые звездою учахуся, табе кланяціся — сонцу праўды і цебе відзеці с высаты Вастока. Госпадзі, слава табе!» Гэты тэкст, напісаны

* Литовские епархиальные ведомости. 1875. № 12. С. 436.

царкоўнаславянскай мовай, узяты з хрысціянска-біблейскай літаратуры і быў пераняты звездарамі хутчэй за ўсё ад царкоўных прычтаў, пра хаджэнні якіх мы згадалі вышэй. Але ў песнятворчасці беларускіх звездароў ён атрымаў народную апрацоўку і мае іншыя варыянты. У вёсцы Гронава Чэрыкаўскага раёна яго спяваюць, напрыклад, так: «Раждзество Тваё, Хрысце — Божа наш. Ево сіяніе — свет разума, са звездою неба сіяюшчае. Радуйся, Марыя, радуйся, Красна Дзева, сына спавіла, які збавіў нас» (8-93-273-3, л. 9). У суседнім да Чэрыкаўскага Слаўгарадскім раёне гэта песня ўжо гучыць інакш: «Раждзество Твае, Хрысце — Божа наш. Неба з звяздою учахася, сонца сонцу кланілася. Радуйся, Марыя, прэсвятая Дзева!..» і далей віншавальнікі гавораць гаспадарам словамі: «Паздраўляем с Раждзяством!» (8-94-279-1, л. 21). У некаторых выпадках звездары пачыналі спяваць «пад вокнамі» з псалмаў, якія ў народзе называюць яшчэ «бажэственнымі песнямі».

Пасля такога царкоўна-ўрачыстага пачатку віншавання спяваліся і іншыя песні раждзественскага цыклу, у якіх перадаюцца падзеі тых дзён, калі з'явіўся на свет Ісус Хрыстос:

Нова радасць стала,
Яка не бывала,
Звязда ясна над вярцепам
Светла вассіяла.

Дзе Хрыстос радзіўся,
З Дзевы ваплаціўся,
Как чалавек пеленаўся,
У Бога з'явіўся.

Ні ў царскуй палаце,
Ні ў багатуй хаце,
А ў вярцепе между скокі,
А ўсе будуць знаці...

(8-93-270-5, л. 12)

або

Звізда ясна вассіяла
Да тром царам пуць указала.

Ой, нашые трые цары...
На каленцах прыпадалі.

На каленцах прыпадалі,
Йсуса Хрыста звелічалі...

(8-89-243-3, л. 61)

Звездароў надзялялі рознымі пачастункамі: блінамі, пірагамі, салам, каўбасой, цукеркамі, грашыма і г. д. У кожнай хаце або на падворку ў заключэнне свайго абыходу звездары зычылі:

Наша звязда новага завета,
А хадзяйкі й хадзяіну на многая лета!

і спявалі гаспадарам «Многае лета» — агульнавядомы хрысціянскі гімн-пажаданне.

На Заходняй Беларусі, пераважна ў католікаў, такія абыходы хат у сваіх вёсках рабілі «тры каралі». Яніна Станіславаўна Супрун з вёскі Курчоўцы Воранаўскага раёна так расказвае пра гэты звычай: «Тры каралі ходзяць ад нараджэння Ісуса Хрыста і да свята Трох каралёў. Убіраюцца мушчыны ўтрох: адзін памажыцца чорным, другі бараду прычэпіць, трэцій бярэць кадзідла і злота. У касцёле само сабой адбываецца маленне, а па хатах ета ўжо ходзяць гэтыя тры каралі. ...Ну, тры каралі — гэта, як наш пан Езус нарадзіўся, а патом ужо етыя тры каралі сама першымі прышлі атведаць у гэту стаянку, у гэтый хлеў, дзе ён нарадзіўся. Яны і песні спяваюць: «Вэсола навіна, бо панна Марыя сповіла нам сына...» і «Прынеслі мы отто, меднэ кадзідло і злото». А іх ужо там кожны частуе, грошы дае ці што. Тры каралі — гэта Каспель, Мэльхон і Бальтазар» (8-94-284-1, л. 8).

Раждзественскія песні, у аснове якіх ляжалі чыста хрысціянскія матывы і сюжэты, былі не адзінымі ў рэпертуары звездароў і трох каралёў.

У беларускім фальклоры многія калядныя песні на працягу апошняга тысячагоддзя, пад уздзеяннем актыўнай хрысціянізацыі народных мас, таксама падвергліся ў асобных выпадках пераасэнсаванню і фалькларызацыі пад новую рэлігію. У выніку на сёння бытуе цэлы пласт такіх песенных варыянтаў, дзе язычніцкія матывы цесна пераплецены з хрысціянскімі і якія спяваюць як калядоўшчыкі, так і звездары, і тры каралі.

У раждзественскія дні на плошчах, базарах і іншых мнагалюдных месцах выступалі самадзейныя артысты — батлеечнікі. Яны насілі з сабою двух-, трох'ярусную скрыню, якая па форме і размалёўцы напамінала хатку або царкву. У ёй з дапамогай лялек паказвалі спектаклі, пераважна на біблейскія тэмы: «Цар Ірад», «Антон з казой» і іншыя.

Да раждзественскіх дзён мясцовае духавенства імкнулася прымеркаваць і некаторыя народныя вераванні, якія здаўна звязваліся ва ўсходніх славян з Калядамі. У адным з апошніх нумароў «Літоўскіх епархіальных ведамасцей» за 1875 год можна прачытаць: «Аще Рождество Христово прилучится в неделю, то зима велика и снежна, а весна дождлива, жатва суха, осень ведрена, плод потребен, овцам плодовито...; аще Рождество Христово прилучится в понедельник, то зима добра и весна дождлива, лето ведрено, осень добра, потом будут дожди великие, обилия много» і г. д. З народных жа назіранняў найбольш пашыраны на Беларусі ўяўленні аб Ражстве як часе моцных маразоў і зімовых бур.

Свята Ражства Хрыстова на сёння набыло сусветны рэзананс. Яго радасна адзначаюць усе хрысціяне. У многіх краінах свету — Амерыцы, Англіі, Германіі, Італіі, Канадзе, Францыі і іншых раждзественскія святочныя дні адзначаюцца на працягу цэлага тыдня з вясёлымі карнаваламі, гульнямі, святочнымі канцэртамі, фестывалямі і традыцыйным абрадам віншавання блізкіх кожнаму з нас людзей.

Святое Ражство — людзям прыгажство.

Святое Раждзяство — радасць прынясло.

Раждзяство святоя — мароз удвоя.

Раждзественскі мароз добра ўкусіць (ушчыпне) за нос.

## ЯВАР

*Калядная, на Ражство.*

Ой, Явар, Явар,
'Всокі да тонкі.

Прыпеў: Сьвяты вечар!

'Всокі да тонкі,
Лістом шырокі.

На том Явары
Сакаля сядзіць.

Сакаля сядзіць,
Далеко глядзіць.

Ено ўвідзело
Шчуку і ў моры.

Шчуку і ў моры,
Купца ў дарозі:

— Гой, купчэ, купчэ,
Побратаймосо.

З тваіх костачак
Сагном абруча.

З майго пер'ейка
Й абкладайненько.

Ўжо ж мы песенку
Да й дапеваём.

З святым Ражаством
Паздараўляем!

Сьвятэ Ражаство —
Радасць прынясло.

Свято Крашчэнне —
Воду сьвяціло.

Воду сьвяціло —
На свет пусціло.

Далей гаварацць словамі:

*Паздраўляем с празднiком,*

*З святым Ражаством!*

(8-89-243-3, л. 14)

## ОЙ, НА РЫДАНІ ЦІХА ВАДА СТАЯЛА...

*Калядная, на Ражство.*

Ой, на рыдані ціха вада стаяла,
Ой, там Прачыста свайго сына купала.

Ой, там Прачыста свайго сына купала,
Ой, іскупаўшы, ў срэбны човен паклала.

Ой, іскупаўшы, ў срэбны човен паклала,
Ой, а паклаўшы, ў сіня мора пусціла.

Ой, на ўсход сонца прыехалі тры цары,
Ой, тыя цары даравалі тры дары.

Ой, першы цар да кітаячку дараваў,
Ой, а другі цар усе золатам да срабром.

Ой, другій жа цар усе золатам да срабром,
Ой, трэці цар ўсе цвяточкам дараваў.

То ж не цвяточак, то ж Святое Раждзяство,
Ой, ўсяму свету, ўсяму міру радасно.

(8-89-243-2, л. 18)

## А Ў НАШАГА ПАНА...

*Калядная, на Ражство.*

А ў нашага пана
Двор гаражоны.

П р ы п е ў: Святы
вечар*.

Двор гаражоны,
Да ўсе рожамі.

Што ў той рожы,
Прачыста дзева.

Прачыста дзева
Дзіва дзівіла.

Дзіва дзівіла.
Сына радзіла.

* Прыпеў паўтараецца пасля кожнага куплета.

Прыйшоў да яе
Да й сам Гасподзь.

— Прашу, Госпадзі
К сабе на 'бед.

— К твайму абеду
Сам трэці прыду.

Адпраўлю Пятра
Сталоў засцілаць.

Святога Іллю
Кубкаў налівацъ.

Як кубка наліў,
Галоўку схіліў.

Галоўку схіліў,
Слёзачку ўраніў.

Дзе сляза ўпала,
Там царква стала.

Што ў той царкве?
Прыстолы стаяць.

Прыстолы стаяць,
Свечачкі гараць.

Свечачкі гараць,
Ды й Бога славяць.

Далей гавораць словамі:

*Паздраўляем з Новым годам!*

*З новым шчасцем!*

(8-94-287-1, л. 19)

## СВЯТЫЯ ВЕЧАРЫ...

*Калядная, на Ражство.*

— Святыя вечары,
Дзе ў Бога былі?

Прыпеў: Святы вечар*.

Дзе ў Бога былі?
— Цэркву рабілі.

Цэркву рабілі
С трамі вокнамі.

С трамі вокнамі,
З двамі дзвярамі.

Ў перва вакенца
Месяц засіяў.

Ў друго вакенца
Сонейка ўзышло.

Ў трэцця вакенца
Голуб уляцеў.

Голуб уляцеў
Слёзачку ўраніў.

* Прыпеў паўтараецца пасля кожнага куплета.

З тые слёзачкі
Плылі рэчачкі.

Што ў той рэчачцы
Сам Гасподзь купаўсь.

Сам Гасподзь купаўсь,
Ў рызы адзяваўсь.

Ў рызы адзяваўсь
З Ісусам Хрыстом.

З Ісусам Хрыстом,
З святым Ражаствам.

(8-94-285-1, л. 7)

## А Ў КАНЦЫ СЯЛА ВЯРБА СТАЯЛА...

*Калядная, на Ражство.*

А ў канцы сяла вярба стаяла.

П р ы п е ў: Ой, Каляды — святыя вечары*.

На той вярбіне свечы гарелі.
Капелька спала — речачка стала.
А ў той речачцы сам Бог купаўся,
Сам Бог купаўся — апосталам стаўся.
Первый апостал — свято Ражаство,
Другій апостал — святый Новый год,
Трэці апостал — свято Хрышчэнне.
Свято Ражаство — каўбас прынясло,
Святый Новый год — сватоў насіла,
Свято Хрышчэнне — будзе й вяселле.

(8-94-282-1, л. 37)

* Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.




Новы год — народнае свята, якім сустракаюць пачатак каляндарнага года. Адзначаецца яно з вечара 31 снежня па 1 студзеня. У хрысціянскай рэлігіі на 1 студзеня па старым стылі прыпадае таксама дзень памяці архіепіскапа Кесарыі Кападакійскай, свяціцеля Васілія Вялікага, які ў народзе называецца Васілле. Падобная назва ў беларускім фальклоры нярэдка асацыіруецца са значэннем навагодняга свята.

Навагоднія ўрачыстасці маюць у беларусаў сваю гісторыю. У дахрысціянскую эпоху нашы

продкі святкавалі Новы год з 1 сакавіка па летазлічэнні ад стварэння свету. Пачатак вясны пачынаў і земляробчы год селяніна, пачынаўся новы працоўны віток жыцця. Традыцыя пачатку Новага года ад вясны мела ў народзе даволі трывалыя і моцныя карані. Нават з прыняццем хрысціянства у простанародным асяродку продкі беларусаў, як зазначае адзін з сучасных складальнікаў народнага календара, фалькларыст А. Ю. Лозка, «...новы год пачыналі не з 1 верасня, як у Візантыі, і не з 1 студзеня, як у Рыме, а па сваёй старажытнай традыцыі — вясною, 1 сакавіка»*. Старажытныя навагоднія рытуалы былі звязаны з Гуканнем вясны і працягваліся больш месяца.

Мы, на жаль, не маем дакладных звестак, калі беларусы пачалі святкаванне Новага года зімою, адпаведна юліянскаму календару, які ўводзіўся ў Вялікім княстве Літоўскім адначасова з прыняццем на нашых землях хрысціянскай веры. Хутчэй за ўсё гэта адбылося недзе бліжэй да Сярэднявечча. Але дакладна вядома, што з увядзеннем у 1584 годзе ў Вялікім княстве Літоўскім грыгарыянскага календара Новы год у межах усёй дзяржавы адзначалі 1 студзеня. У той час сустрэча Новага года праходзіла ў кантэксце калядных святак. Гэта быў перыяд актыўнага хаджэння калядоўшчыкаў і звездароў і віншаванняў імі мясцовых жыхароў. Новае свята вельмі хутка было заўважана гэтымі калядньмі групамі і асіміліравана імі ў калядным фальклоры. У іх песнях і віншаваннях побач з калядньмі матывамі ўсё часцей знаходзяць прымяненне навагоднія пажаданні і зычэнні:

На Новае лета
Хай родзіцца жыта...
Жыта, пшаніца,
Усякая пашніца!
Жадаем табе,

* Беларускі народны каляндар /Аўтар-уклад. А. Лозка. Мінск, 1993. С. 10.

Слаўны гаспадару,
Піва варыці,
Сынкоў жаніці,
Пасаг збіраці,
Дачок выдаваці...

або

...Мы цябе, гаспадар, не зневажаем,
А з Новым годам паздараўляем,
Шчасця-долі жадаем!

Па звестках Е. Р. Раманава, у Магілёўскай губерніі ў першы дзень Новага года па хатах хадзілі кучкі дзетак, якія, пераступаючы хатні парог, сыпалі з рукі зерне, прыгаворваючы: «Сею-сею, пасяваю, з Новым годам паздраўляю!». За падобнае віншаванне дзетак шчодра адорвалі з навагодняга стала.

Удала супадала з Новым годам і другая калядная куцця, калі на стол многа ставілі ўсялякіх прысмак. У народзе гавораць: «Як сустрэнеш Новы год, так будзеш жыць і ўсе астатнія дні ў гаду». І тут шчодрасць сямейнага застолля якраз была да месца, бо з гэтым асацыіраваліся багацце і дастатак у Новым годзе. З падобнай надзеяй праводзіўся і такі рытуал: раніцай у першы дзень Новага года кожны гаспадар абыходзіў хлеў, пуню, камору і іншыя збудаванні ў сваім падворку і ў кожным з іх рассыпаў жменяю ў розныя бакі жыта або ячмень ці авёс.

Навагодняе свята — гэта яшчэ і характэрная часавая мяжа, пераступаючы якую чалавек хацеў ведаць, што яго чакае ў будучым. Таму калядная варажба і гаданні, якія найбольш папулярнымі былі ў дашлюбнай моладзі, адпавядалі падобным жаданням.

У пачатку XIX стагоддзя, з далучэннем усёй тэрыторыі Беларусі да Расіі, навагодняе свята пастулова пачало набываць у нашым краі больш канкрэтызаваны сэнс і значэнне па расійскаму ўзору. У Расіі святкаванне Новага года з 1 студзеня было ўведзена ў 1700 годзе спецыяльным зага-



дам Пятра I, які ў сваю чаргу рабіў яго па еўрапейскім сцэнарыі, пасля першага падарожжа па еўрапейскіх краінах. Царскі загад патрабаваў: «...Впредь лета исчислять в Приказах и во всяких делах и крепостях писать с нынешняго Генваря с 1 числа от рождества Христова 1700 года. По большим проезжим и знатным улицам знатным людям и у домов нарочитых духовного и мирского чина перед воротами учинить некоторое украшение от дерев и ветвей сосновых, еловых, можжевеловых, против образов, каковы сделаны на Гостинном дворе, у нижней аптеки. В знак веселия, друг друга поздровлять с Новым годом и столетним веком, и учинить сие, когда на Большой Красной площади огненные потехи начнутся и стрельба будет». Практычна да савецкага перыяду так и адзначалася навагодняе свята ў багатых дамах і гарадах з вясёлымі карнаваламі, балмаскарадамі, стаўленнем ёлак і г. д. Але ў рабочасялянскім асяродку і на вёсцы па старадаўняй звычцы Новы год прадаўжалі сустракаць каляднымі рытуаламі і звычаямі.

У савецкі перыяд, калі ўвогуле народныя і царкоўныя традыцыі былі аб'яўлены афіцыйнымі ўладамі забабонамі і ў розных формах забараняліся ці пераасэнсоўваліся, сустрэча Новага года набыла статус дзяржаўнага і сямейнага свята.

У цяперашні час вечарам 31 снежня, а часам і на дзень-два раней, у кожнай сям'і ставяць ёлку. Яе ўпрыгожваюць цацкамі, лямпавымі гірляндамі, свечкамі, ватай, дожджыкам з бліскучай меднай ці алюмініевай фальгі або цэлафана з люстраным напыленнем. Ёлка, як вечназялёнае дрэва, сімвалізуе сабою вечнае жыццё, яго бясконцасць і неўміручасць.

На святочную вячэру, якая пачынаецца бліжэй да поўначы, збіраюцца ўсе члены сям'і, «каб быць разам увесь год». Такая традыцыя паходзіць з даўніх часоў. Па звестках П. В. Шэйна, у мінулым стагоддзі, нягледзячы на жорсткія законы патрыярхальнай сям'і, маладой жанчыне, якая

была першы год замужам, нават дазваляліісці на перад航навагоднюю калядную вячэру да сваіх бацькоў.

Першыя тосты, якія гучаць на сямейным застоллі, адрасаваны добрымі ўспамінамі стараму году. Як толькі гадзіннікі праб'юць дванаццаць гадзін ночы, падымаюць чаркі «за Новы год». На такіх застоллях добрай традыцыяй стала не толькі віншаваць адзін аднаго з Новым годам, але і абменьвацца недарагімі падарункамі-талісманамі. У тостах выказваюцца пажаданні на здзяйсненне асабістых жаданняў і мараў у новым годзе. Для дзяцей пад ёлку ў гэту ноч кладуць навагоднія падарункі — цукеркі, лялькі, цацкі, якія нібыта прыносіць Дзед Мароз.

У першы дзень новага года запрашаюць у госці іншых членаў рода, сяброў або ходзяць самі да іх «павіншаваць з Новым годам». На святочным застоллі спяваюць песні, танцуюць, весяляцца.

Навагоднія традыцыі сённяшняга дня ўключаюць некаторыя забароны: нельга спаць у навагодні вечар (пад час сустрэчы Новага года), бо будзеш хадзіць сонны ўвесь год; нельга сустракаць Новы год, не вярнуўшы каму-небудзь пазыку, бо цэлы год будзеш мець справу з даўгамі; да навагодняга вечара абавязкова трэба памірыцца з тым, каго ты пакрыўдзіў ці абразіў, бо ў новым годзе ад цябе «адвернуцца» многія з тваіх блізкіх і знаёмых, і іншыя.

У навагодні вечар у клубах, дамах і палацах культуры, інтэрнатах каля навагодняй ёлкі з удзелам Дзеда Мароза і Снягуркі праводзяцца навагоднія забаўляльна-гульнёвыя вечары з вясёлымі карнаваламі, маскарадамі, танцамі, розыгрышамі.

На працягу навагодніх свят у школах і дзіцячых установах праходзяць ранішнікі, на якіх Дзед Мароз і Снягурка ў час розных гульняў і карагодаў з дзецьмі каля ёлкі раздаюць ім навагоднія падарункі.

Калі ўважліва прааналізаваць сучаснае навагодняе свята, то становіцца відавочным, што

ўзнікла яно пераважна пад уплывам калядных традыцый (віншаванні, пажаданні, адорванні, вячоркі і г. д.) і ў мясцовай традыцыйнай сферы ўяўляе больш сугучны рэчаіснасці нашага часу, забаўляльна-гульнёвы і пацяшальны варыянт святкавання.

Святое Васілле — людзям красілле.

На Новы рок прыбудзе дня на зайчы скок.

На Новый год хавай скот.

Туманы на Васіля — будзе ўраджаю ўдвая.

Іней на Вісіля — будзе саломы больш, чым зерня.

На Новы год ясна — будзе ў гумне цясна.




Хрышчэнне (Вадохрышча) — хрысціянскае свята. Яно адзначаецца штогод 6 студзеня ў католікаў і 19 студзеня ў праваслаўных вернікаў* у памяць аб дні, калі Ісус Хрыстос быў ахрышчаны Іванам Прадцечам у рацэ Іардан. У шматлікіх апісаннях жыцця і дзейнасці Ісуса Хрыста расказваецца, што ў часы яго зямнога жыцця хрышчэнне праводзіла-

* Тут і ў наступных артыкулах даты падаюцца адпаведна афіцыйнаму календару.

ся толькі над дарослымі людзьмі, якія ўсвядомілі ў сабе веру ў Бога. Рытуал хрышчэння праводзіўся калектыўна, адначасова над усімі вернікамі ў рэках або азёрах. Таму і Ісус Хрыстос прымаў хрышчэнне ва ўзросце 30 год разам з іншымі людзьмі ў рацэ Іардан.

Гэты ж дзень вядомы ў хрысціянскай рэлігіі яшчэ і як Богаяўленне, бо на момант хрышчэння Ісуса Хрыста, як сведчыць біблейская літаратура, «Бог Бацька глаголал з нябёс аб Сыне, Сын хрысціўся ад святога Прадцечы Гасподня Іаана і Дух Святы сышоў на Сына ў выглядзе голуба»*. Такім чынам, перад зямным светам прадстала святая Тройца — Бог-Бацька, яго Сын — Ісус Хрыстос і Святы Дух.

Ва ўсіх касцёлах і царквах Хрышчэнне адзначаецца даволі ўрачыста. У святочных маленнях спяваюць: «Во Іардане крашчаюшчуся Цебе, Госпадзі, Тройчаскае явіся пакланеніе: Радзіцелеў бо глас свідзецельствоваше Цебе, возлюбленага Ця сына іменуя, і Дух у відзе голубіне ізвествоваше словесе утверждзеніе. Явлейся Хрысце Божэ, і мір просвешчый, слава Цібе». Гэты царкоўна-славянскі тэкст на сучаснай літаратурнай мове гучыць прыкладна так: «У Іардане прымаючы хрышчэнне, табе Госпадзі Святой Тройцы з'явілася пакланенне: голас бацькі засведчыў цябе, назваўшы сынам любімым і Дух у выглядзе голуба пацвердзіў праўдзівасць слоў, сказаных ім. З'яўленнем сваім, Хрысце Божа, свет навучаеш, слава табе!».

Маленні ў храме працягваюцца звычайна да другой паловы дня. А затым святары разам з сваімі прыхажанамі выходзілі да бліжэйшых вадаёмаў: на рэчку ці возера. Вернікі ішлі калонай: «...выходжуют із цэрквы, нясуць пратасэі, крэст, іконы. Усю дарогу бацюшка паёт маліцвенныя песні. Ідуць пеўчыя і молюцца разам з бацюшкам Богу» (8-94-286-1, л. 20). Да святога рытуальнага

* Настольная книга священнослужителя. М., 1978. Т.2. С. 465.

шэсця далучаліся ўсе жыхары вёскі, і таму да ваdaёма заўсёды прыходзіла вельмі многа людзей.

На рэчцы або возеры, куды збіраліся жыхары таго ці іншага царкоўнага прыходу, зранку мужчыны выразалі з лёду крыж, прычым даволі вялікага памеру — паўтара-два метры ў даўжыню. Такі крыж высякалі на лёдзе сякерамі ці выразалі піламі на ўсю таўшчыню лёду, каб зрабіць палонку. Крыж з палонкі выцягвалі на вяроўках, аблівалі яго бураковым расолам, ад чаго ён меў ярка-чырвоны колер, а затым падымалі і ставілі на лёдзе на краю палонкі. Каб ён не ўпаў, яго залівалі знізу вадою і такім чынам прымарожвалі да лёду. Вакол крыжа ўтырквалі ў снег зялёныя ёлачкі, «етыя самыя ёлачкі паставют, йшча й нарадзят іх цвецікамі» (8-94-286-1, л. 20).

Бацюшка каля крыжа і палонкі праводзіў маленне і асвячаў ваду, абавязкова акунаючы ў яе царкоўны крыж. Тут жа «пеўчыя спявалі бажэственныя песні». У заключэнне рытуала ўсе прысутныя набіралі з сабою ў гарлачы, бутэлькі, слоікі, вёдры з палонкі вады і неслі яе дадому. Такая вада лічыцца ў народзе святою — гаючай ад розных хвароб чалавека і жывёлы і захоўваецца на працягу года ў кожнай хаце за абразамі. У народзе святая вада выкарыстоўваецца таксама ў рытуалах выгнання з розных месц «нячыстай сілы» і ў барацьбе з ведзьмакамі, для чаго ў дзень свята вадою асвячалі (акраплялі) хату, падворак і ўсе гаспадарчыя пабудовы. А ўвогуле кожны чалавек па заканчэнні рытуалаў імкнуўся напіцца святой вады. На Беларусі бытуе павер'е, што хрышчэнскія маленні і асвячэнне вадою здымае з чалавечай душы грахі за благія ўчынкі і думкі чалавека. Даволі часта з вуснаў праваслаўных вернікаў можна пачуць, што «Хрышчэнне — грахоў адпушчэнне». Падобнае павер'е садзейнічала актыўнаму ўдзелу вернікаў у святочных набажэнствах і рытуалах.

Рытуалы асвячэння вады праводзіліся амаль паўсямесна і добра вядомы да сёння ў памяці ста-

рэйшых людзей. У гады існавання Савецкага Саюза, у склад якога ўваходзіла Беларусь, яны былі забаронены афіцыйнымі ўладамі пад уплывам атэістычнай прапаганды. І таму апошнім часам асвячэнне вады на Хрышчэнне праводзілася пасля малення непасрэдна ў касцёлах або царквах.

Відавочна, што ў рытуалах хрышчэння надаецца вялікая ўвага вадзе. Генетычнае паходжанне падобных рытуалаў, як і сімволіка вады, мае даволі старажытны пачатак. Пра ачышчальныя здольнасці вады людзі ведалі яшчэ задоўга да прыняцця хрысціянства. У славян-язычнікаў вада ўвогуле абагаўлялася, ёй прыпісваліся розныя магчымыя уласцівасці: ад візуальных, чыста функцыянальных — ачышчаючых, вегетатыўных, пладаносных, нараджаючых да міфічных, пабудаваных на падставе ўяўленняў чалавека. Многія рытуалы з прымяненнем вады былі вядомы ў старажытныя часы таксама ў рэлігійных абшчынах Егіпта, Асірыі, Вавілона, Палесціны, ды і ў сённяшні час, як і ў хрысціянстве, яны функцыяніруюць практычна ва ўсіх рэлігіях свету.

У беларускіх католікаў Хрышчэнне супадае са святам Тры каралі. У рымска-хрысціянскім веравучэнні тры каралі упадабляюцца тром усходнім мудрацам, якія першымі прынеслі свету вестку аб нараджэнні Ісуса Хрыста. На гэта свята кожны прыносіў з касцёла асвечаную крэйду і «...як прыходзяць дахаты, зразу надпісваюць на дзвярах тры буквы: К, М і Б, каб ніякая злая сіла ні ўваходзіла ў дом» (8-94-284-1, л. 9). Літары, якія пішуць католікі над дзвярыма, узяты з імён трох каралёў, якіх называлі Каспель — К, Мэльхон — М і Бальтазар — Б. Гэты рытуал, хоць і пераклікаецца ў нечым са значэннем хрышчэнскай святой вады, але больш падобны да рытуала адпісвання Каляд, што захаваўся ў большасці мясцовасцей нашага краю. У простым народзе крэйду, якой рабілі падобныя надпісы ці ставілі крыжы над дзвярыма, захоўвалі ўвесь год як сродак ад болю ў жываце.

З рытуалам асвячэння вады ў рэках і азёрах звязаны некаторыя беларускія павер'і. Адно з іх, запісанае ў мінулым стагоддзі ў Мінскай губерні, сцвярджае, што гэтым самым рытуалам выганяюць чарцей з вады і што чэрці нібыта ад Вадохрышча да Вербнай нядзелі селяцца і жывуць на вербах.

У народным жыцці да хрышчэнскага дня прымеркаваны некаторыя назіранні і прыкметы. У Мазырскім павеце і на Віленшчыне на Хрышчэнне жанчыны імкнуліся пасля набажэнстваў прыйсці дамоў раней за іншых аднасяльчан: «Тады ты першая і з поля збярэш». На Міншчыне бытавала таксама павер'е: хто хоча мець улетку добрыя раі пчол, той павінен першым набраць вады з «усіх палонак крыжа» (паколькі палонка мела контурную форму крыжа, ваду трэба было набіраць з усіх канцоў (выразаў) палонкі. — *У. С.*) Па надвор'і, якое было ў хрышчэнскі дзень, імкнуліся прадказаць надвор'е будучага лета: калі на Вадохрышча было вельмі холадна, гаварылі, што жніво будзе сонечным і гарачым; калі Вадохрышча выдавалася ясным і сонечным і адначасова марозным, чакалі сухога і спякотнага лета. Паколькі хрышчэнскія маразы заканчвалі пік зімы, бо далей зіма паступова набліжалася да лета, то ў пасляхрышчэнскія дні гаварылі пра мароз: «Трашчы не трашчы, прайшлі Вадохрышчы — не к Ражству, а к Пятру».

У беларускім фальклоры песні, прымеркаваныя да Хрышчэння, не адзначаны, магчыма, таму, што да гэтага дня ўжо заканчваліся хаджэнні калядоўшчыкаў, звездароў, цыганоў і іншых калядных груп. Асобныя матывы і сюжэты, апавядаючы пра падзеі хрышчэскага дня, сустракаюцца ў раждзественскіх песнях.

Святое Хрышчэнне ваду свяціла, на ўвесь свет пусціла.

Іван Красціцель ваду асвяціў (акрасціў), на ўвесь свет пусціў.

На Вадохрышча чарцей з вады выганяюць.

Хрышчэнскі мароз добра кусае за рукі і нос.

Трашчы, мароз, не трашчы, ужо мінулі Вадохрышчы.

Калі на Вадохрышча мароз і сонца — чакай засушлівага лета.

На Вадохрышча дзень цёплы — будзе хлеб цёмны.




Стрэчанне, або Грамніцы, — зімовае свята язычніцкага паходжання, якое ў народным календары прыпадае на 2 лютага ў католікаў і 15 лютага ў праваслаўных беларусаў. Паводле народных меркаванняў, на гэта свята зіма сустракаецца з летам. Дарэчы, у некаторых рэгіёнах нашага краю (Кармянскі, Чачэрскі, Добрушскі, Слаўгарадскі раёны) мясцовыя жыхары адносяць Стрэчанне да вясенніх свят.

У старажытныя часы ў гэты дзень славянеязычнікі ўшаноўвалі Бога Перуна, або, як яго

яшчэ называлі, Грамаўніка. Назіраючы за з'явамі прыроды, нашы далёкія продкі заўважалі, што да сгэтага часу светавы дзень намнога пабольшаў, сонейка на дарогах і прыгорках усё актыўней падтайвае снег, частыя адлігі выклікаюць капеж са стрэх, ад Грамніц можна было пачуць першы гром, разам з Калядамі адышоў і пік марозных дзён, і хаця часам надакучалі снежныя віхуры, але і яны паступова здавалі свае пазіцыі. Усё гэта наводзіла на думку, што ў барацьбе злых Духаў, чары якіх праяўляліся праз цемру, холад і хваробы, і добрых Духаў, якія надзялялі чалавека святлом, цяплом і здароўем, перамагаюць апошнія. Пачуўшы першыя громы, адзначалі, што гэта Грамаўнік зганяе з зямлі злых Духаў («нячысцікаў»), выпрабоўваючы на іх свае агнявыя стрэлы.

Выказваючы сваю прыхільнасць і падтрымку Перуну, у час свята продкі беларусаў падносілі яму розныя ахвяраванні. Па рэштках рытуалаў, звязаных з грамнічнай свечкай, можна меркаваць, што напярэдадні ахвярапрынашэнняў у месцах пакланення язычніцкім Багам запальвалі рытуальны агонь, ад якога і самі ўдзельнікі атрымлівалі духоўнае ачышчэнне, прымаючы ад язычніцкага святара асвячэнне агнём: абпальванне крыжападобна валасоў на галаве. Не выключана, што на ахвяраванне прыносілі васковы крыжык і вялікую Грамнічную свечку, якую, запаліўшы ад «свяшчэннага агню» і такім чынам асвяціўшы, забіралі з сабою дадому для правядзення магічных дзеянняў на падворку, у хаце і як надзейны ахоўны сродак ад розных няшчасцяў.

Па-свойму тлумачыцца значэнне свята ў хрысціянстве, якое ў гэты дзень адзначае Стрэчанне Гасподняе (Сретенье). Хрысціянскія паданні расказваюць, што задоўга да нараджэння Ісуса Хрыста адзін з егіпецкіх цароў захацеў мець ва ўласнай бібліятэцы кнігі Старога Запавета, якія ў той час былі напісаны стараяўрэйскай мовай. Для перакладу кніг на грэчаскую мову, якая была вя-

дома шмат у якіх краінах, у тым ліку і ў Егіпце, ён запрасіў да сябе некалькі дзесяткаў перакладчыкаў. Адзін з іх па імені Сімеон, перакладаючы кнігу прарока Ісая, у сказе «Вось Дзева ў чэраве прыме і народзіць Сына» палічыў неабходным замяніць слова «Дзева» на «жанчына», і як толькі ён пачаў пісаць гэта, яго руку раптам утрымаў Анёл і, сказаўшы праведнаму Сімеону, што напісанаму трэба верыць, прарочыў яму, што ён не памрэ да таго часу, пакуль не пераканаецца ў праўдзівасці гэтых слоў і не ўбачыць Збавіцеля ад Бога. Пасля гэтага здарэння так і чакаў, ужо дажыўшы да сівога старца, Сімеон сустрэчы з Хрыстом.

На той час не толькі старац Сімеон, але і ўвесь народ Ізраіля спадзяваўся на прыход Месіі Гасподняй. Месія ў іўдаізме і хрысціянстве азначае даслоўна «выратавальнік», які павінен з'явіцца з нябёс і прынесці на зямлю адзіную Божую веру і спасенне ўсяму свету.

Божая Маці — прасвятая Дзева Марыя прыйшла першы раз з Ісусам Хрыстом на руках у Іерусалімскі храм толькі на саракавы дзень пасля нараджэння Сына Божага. Так патрабавалі старажытныя іўдзейскія законы: жанчына, якая нарадзіла дзіця, не мела права наведваць Божы храм да 40 дзён. Менавіта ў гэты дзень і адбылася сустрэча (стрэчанне) у Іерусалімскім храме старца Сімеона з Ісусам Хрыстом, калі туды прыйшлі Іосіф з Марыяй і прынеслі Божага Сына, каб выказаць Богу падзяку за нараджэнне дзіцяці і прынесці свае ахвяраванні.

У сённяшняй традыцыйнай культуры беларусаў адначасова з хрысціянскімі стрэчаньскімі маленнямі ў царкве або касцёле захаваліся і актыўна функцыяніруюць язычніцкія рытуальныя рэлікты свята. Напярэдадні Грамніц у кожнай сям'і робяць з воску ці купляюць у цэрквах і касцёлах свечы. Такая свечка адрозніваецца крыху ад тых, якія мы штодзённа бачым у час набажэнстваў дома або ў Божым храме: яна больш тоўстая

і па вышыні павінна быць, па ўяўленнях беларуса, не менш 20 сантыметраў. У мінулым стагоддзі ва ўніяцкіх прыходах, як апісвае М. М. Нікіфароўскі, «над укладзенымі на століку, табурэтках або на ўнесенай у царкву лаўцы свечкамі чыталася пяць спецыяльна прымеркаваных да іх малітваў, тварылася трохразавае кадзенне свечак, акрапленне свянцонай вадой і трохразавае ж асяненне іх напрастольным крыжам, з якім свяшчэннік выходзіў з алтара... Па сканчэнні свяшчэннік уласнаручна ўручаў гаспадарам іх свечкі. ...Багамольцы-гаспадары запальвалі асвянцоныя свечы з воклічам свяшчэнніка «благаславенна царства» — і тушылі іх пасля літургічнага Евангелля, — тушылі пераварочваннем кнота ўніз і хавалі свечы за пазуху, у рукаў або заварочвалі ў хусціну, у халсціну; так трымаліся свечы ў царкве да канца літургіі, і ўжо пад сапраўдным імем Грамнічных свечак яны дастаўляліся дадому»*.

Вярнуўшыся дахаты, гаспадар абпальваў крыж-накрыж у сябе на галаве валасы, а потым тое ж рабіў па-старшынству з усімі членамі сям'і. Падобны рытуал праводзіўся і над жывёлай.

З Грамнічнаю свечкай сяляне ў дзень Стрэчання абыходзілі ўсе пабудовы: лазню, хлеў, камору, сенцы, ёўню, дзе гаспадар датыкаўся агнём свечкі да сцен і вушакоў дзвярэй. Тое ж рабілася і каля пчаліных вулляў, куратніка, студні.

Такія свечкі захоўваюць ў кожнай хаце ў набажніцы перад абразамі ці кладуць іх за абразы. У побыце нашага народа Грамнічныя свечы запальваюцца пры правядзенні сямейных абрадаў (нараджэнне дзіцяці, вяселле, провады ў войска, пахаванне і г. д.), прычым у найбольш важныя рытуалізаваныя моманты ў абрадзе і жыццёвых сітуацыях: пры цяжкіх родах, у час благаславен-

* Цыт. па кн.: Беларуская народная творчасць. Земляробчы каляндар: Абрады і звычаі / Уклад. А. І. Гурскі. Мінск, 1990. С. 129—130.

ня дзіцяці на выезд пад вянец і дзялення караваю, пры адыходзе навабранца (прызыўніка) з хаты на зборны пункт і інш. Хвораму, які памірае, Грамнічную свечку даюць у руку, для таго каб, як запісаў у мінулым стагоддзі на Рагачоўшчыне Е. Р. Раманаў, «агнём свячы адагнаць ад душы сатану». Грамнічная свечка — неад'емны атрыбут і многіх земляробчых абрадаў: зажынак, пачатку засявання поля, пры першым выгане кароў на пашу, абыходзе на Юр'я жытняй нівы, пры загавенні і разгавенні ў час пастоў, а таксама пры памінанні памерлых продкаў — на трацiны, саракавiны, гадавiну, Дзяды, Радаўніцу, Задушны дзень і іншыя.

Сучасныя павер'і і прыкметы таксама звязаны з Грамнічнай свечкай. У час святочнага набажэнства ў цэрквах або касцёлах назіраюць, як свечкі гараць: калі патрэскваюць у час гарэння, то летам, як мяркуюць, будуць абавязкова навальніцы, частае патрэскванне свечак указвае на тое, што будзе шмат навальнічных дзён у годзе. Калі чалавек цяжка паміраў, запальвалі Грамнічную свечку і глядзелі, у які бок пойдзе ад яе дым: як за дзверы, хворы хутка памрэ, разыходзіцца па хаце — будзе яшчэ нейкі час жыць. Па старажытных ўяўленнях, такая свечка робіць бяссільнымі любыя чары ведзьмакоў і адганяе «нячысцікаў» ад чалавека. Яе заўсёды хавалі, беручы з сабою, у рукаў ці за пазуху, каб ніхто не мог бачыць ці здагадацца аб яе прысутнасці.

Кропелькі ад Грамнічнай свечкі, якія сцякалі ўніз і потым, застыўшы, абламваліся, насілі пры сабе як ахоўныя амулеты. У некаторых выпадках з такіх кропелек вылеплівалі тую частку цела, якую хацелі вылечыць або засцерагчы ад хваробы ці аднавіць яе аслабленую жыццядзейнасць, і насілі ўвесь час з сабою. Гэтымі ж кропелькамі ў спалучэнні з лекавымі зёлкамі акурвалі розныя прылады працы, адзенне, жывёлу і чалавека пры замаўленнях.

Ніколі і нікому Грамнічныя свечкі не дазвалялася пазычаць.

У беларускім фальклоры вядомы адзінкавыя запісы песень, што спявалі на Стрэчанне. У змесце іх песенных сюжэтаў зіма абмалёўваецца ў выглядзе хворай і старой асобы, якая дажывае свой апошні час, лета ж, наадварот, — маладое і поўнае энергіі:

А ў нас сёння Стрэчанне, Стрэчанне,
Зіма з летам стрэлася, стрэлася.
Лета зіму піхнула, піхнула
І ножачку звіхнула, звіхнула.
Зіма пайшла плачучы, плачучы,
Лета пайшло скачучы, скачучы.

Па надвор'і стрэчаньскага дня гадалі, якой будзе вясна: калі дзень выдаваўся марозны, то чакалі, што хутка растане снег; «ежэлі цёплая будзя Стрэчання, дык і вясна будзя цёплай» (Чачэрскі раён); на Грамніцы мяцеліца — вясна будзе позняй; адліга прадказвала, што не ўродзіць поле.

Ад Грамніц сяляне пачыналі аглядаць земляробчыя прылады працы, рамантаваць іх і рыхтаваць да вясенніх работ.

Грамніца — зімы палавіца.

Святое Стрэчанне свечы сукае, лета сустракае.

На грамніцы нап'ецца пятух вадзіцы.

Калі на Стрэчанне певень пад страхою нап'ецца вады, то на Юр'я вол наесца травы.

Грамніцы — хлеба палавіца, а зімы трэцяя часць.

На Грамніцы трэба, каб было хлеба палавіца, а пошару — траціна.

Да Грамніц не скідай з рук рукавіц, а як прайшлі Грамніцы, то ўжо не трэба рукавіцы.

Як на Грамніцы адліга — з ураджаю будзе хвіга.

На святога Ігната (11 лютага) зіма багата, а Ігнат Грамніцам рад.

На Стрэчанне рана ўзыходзіць сонца — будзе ранні лён.






Масленіца — язычніцкае свята. Яно не мае ў народным календары канкрэтнай даты, а пачынаецца за восем тыдняў да Вялікадня (у прамежку ад 7 лютага да 14 сакавіка), або, як яшчэ вызначаюць яе дні ў нашым краі, за сем дзён да перадвелікоднага сямітыднёвага посту. Працягваецца Масленіца роўна тыдзень, які так і называецца — масленічны або сырны.

Гэта апошняе свята, якое стаяла на перадмежжы двух пор года: зімы і вясны, а таксама

заканчэння старога і пачатку новага года, бо, як мы ўжо адзначалі, год у славян-язычнікаў пачынаўся непасрэдна з пачаткам вясны. Гэтыя і некаторыя іншыя абставіны і вызначылі тэматыку святочных рытуалаў і гульняў, вядомых да нашага часу.

Святкаванне Масленіцы праходзіла на Беларусі весела, шумна. Гульні, забавы, пацехі праводзіліся ў асноўным на вуліцы, горках, беразе рэчкі, за вёскай. Усё гэта падкрэслівала язычніцкі характар свята. Вяселлем і радасцю вітаў чалавек пачатак года і блізкі прыход вясны. Там, на адкрытай прасторы, дзе, па народных уяўленнях, нябачна прысутнічаюць розныя Духі, у якіх чалавек верыў і якім пакланяўся, ён выказваў сваімі дзеяннямі добрым Духам, якія нібыта неслі яму вясеннняе цяпло і жыццё, сваю ўдзячнасць і падтрымку ўсеагульнай радасцю, праз якую адначасова смяяўся і трыумфаваў над пагібаючымі Духамі цемры і холаду.

Е. Р. Раманаў, на падставе сваіх назіранняў у Магілёўскай губерні, пісаў: «Масляны тыдзень ад панядзелка да нядзелі праводзіцца шумна. Па вечарах у гэты тыдзень не працуюць. Ходзяць адзін да аднаго ў госці, а моладзь паўтарае калядпае ігрышча. Днём усе лічаць сваім абавязкам пакатацца: адны на саначках, другія на ледзяшах, высечаных на рацэ.., трэція катаюцца на перавернутых, злёгку падмарожаных скамейках ці простых дошках. Дбайныя гаспадары ў дзень Масляніцы абнаўляюць сані. Для гэтага новыя сані зацягваюць на горку, там на іх садзяцца чалавек 20—25 і стрымгалоў ляцяць з гары. Толькі такія сані і будуць потым лёгкія на ходу...»*.

У масленічныя дні, асабліва на заканчэнне Масленіцы — ад пятніцы да нядзелі, аб'язджалі маладых коней, дасягнуўшых трохгадовага ўзросту. Пры гэтым упрыгожвалі ўсю вупраж рознака-

* *Романов Е. Р.* Белорусский сборник. Вып. 8. Вильно, 1912. С. 137.

5 Зак. 1339

ляровымі стужкамі, на дугу прыбівалі званочкі і бубенчыкі. У Чэрыкаўскім раёне, па звестках сучасных інфарматараў, «дугу ўбіралі цвятамі». Аб'язджалі «маладых жарабцоў» абавязкова «кругом дзярэўні» (8-93-273-3, л. 10). Падобныя аб'езды суправаджаліся шматлікімі масленічнымі песнямі:

Масліная, шчаслівая,
Працягніся да Вялікадня!
Масліная, шчаслівая, бела вутка,
Нясі сыру, масла, да ня хутка!
А хто сыру не дае, няхай таму пагніе!

ці

Масленіца-каўзуха,
Працягніся да Духа!
Мы думалі Масляніцы сем нядзель,
Ажны яе, Масляніцы, адзін дзень.

На Масленіцу ў многіх мясцовасцях вешалі арэлі, прывязаўшы доўгую вяроўку да сука дрэва. Раскачваліся на арэлях, як мага вышэй. Моладзь нават праводзіла паміж сабою спаборніцтвы — хто вышэй раскачаецца.

У гэтых, здавалася б, звычайных гуляннях ці прадыктаваных практычнай неабходнасцю дзеяннях, як, напрыклад, аб'езд коней або абкатванне новых саней, захаваліся рэлікты старажытнай магіі: чым з вышэйшай горкі з'едуць санкі, тым вышэйшы вырасце лён і іншыя расліны, аб'ездамі на маладых конях вакол вёскі зганялі, згодна бытуючых вераванняў, «нячыстую сілу», чаму садзейнічала мелодыя бубенчыкаў і званочкаў на дузе і вупражы, а таксама «гіканне», крыкі, песні жадаючых пакатацца; гушканне на арэлях, як верылі, таксама спрыяла росту раслін, а паветра, якое абвявала чалавека ў час гушкання і шпаркай язды, павінна было зняць з яго ўсе хваробы і надзяліць моцным здароўем, пра што гаварылі, «каб быў здаровы і чырвоны, як рыжык».

На Віцебшчыне на працягу першых масленічных дзён сем'ямі наведвалі сваіх «павівальных бабак». Унукі разам з бацькамі прыносілі бабулі

вялікі пірог і яе дзецям па маленькаму піражку. Бабка прымала дарагіх гасцей і частавала іх гарэлкай і розным печывам: налісніkамі, блінамі, абаранкамі і малозівам — топленым малаком ад нядаўна ацяліўшай каровы. На наступны дзень бабка наведвала сваіх дзяцей — унукаў, дзе яе таксама частавалі.

У беларусаў Пскоўшчыны, Віцебшчыны, Магілёўшчыны, Смаленшчыны некаторыя масленічныя рытуалы прымяркоўваліся да канкрэтных дзён. Напрыклад, у Віцебскай губерні, па запісах П. В. Шэйна, на першы дзень Масленіцы з вечара жанчыны хадзілі праведаць маладуху, «якая ў апошні мясаед вышла замуж». Падышоўшы пад акно, «дзеўкі і бабы» спявалі:

> Маладая ты, Марутка,
> Выйдзі, выйдзі к нам на вулку!
> У нас на вуліцы дзевак многа,
> Дзевак многа і рыбят.
> Вазьмі сыра — родзіш сына,
> Вазьмі мачку — родзіш дачку...

Маладуха выходзіла на вуліцу і частавала жанчын і дзяўчат абаранкамі, сырам, тварагом і інш.

На наступны дзень той жа кампаніяй вазілі маладуху да карчмы, дзе муж такой маладзіцы частаваў усіх гарэлкаю і living рознымі прысмакамі*.

У першыя дні Масленкі кучка мясцовых зацейнікаў, сустрэўшы на вуліцы хлопцаў, якія доўга не жаніліся і вельмі пераборліва ставіліся да дзяўчат, як і дзяўчат, бацькі якіх занадта перабіралі сватоў, прывязвалі ім да нагі калодку — абрубак дрэва у наказанне за такі грэх або спявалі пад вокнамі песні-дражнілкі. За гэта «віноўнікі» мусілі адкупліваецца пачастункам ці грашыма.

У Мінскай губерні хлопцы гуртам цягалі такую калодку па вуліцы ад хаты да хаты, дзе жылі

* *Шейн П. В.* Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-Западного края. СПб., 1887. Т. 1, ч. 1. С. 115—125.

«дарослыя дзяўчаты». Кожная дзяўчына плаціла выкуп за калодку: запрашала хлопцаў у хату і частавала іх. Прычым мясцовыя дзяўчаты лічылі для сябе вялікай крыўдай, калі калодка абмінула б іх хату.

У Чэрыкаўскім раёне на другі дзень Масленіцы зяці хадзілі к цёшчам «галаву масліць». Як тлумачыць Ганна Сямёнаўна Маскальцова, 1914 года нараджэння, з вёскі Гронава, гэта азначае, што цёшча павінна «гарелку ставіць зяцю і бліны з маслам» (8-93-273-3, л. 10).

У Магілёўскай губерні ў чацвер наймалі пастухоў на будучы год.

У нядзелю з абеда паўсюдна наладжвалі провады Масленіцы — рабілі застолле сваёю сям'ёй дома ці гасцявалі, сабраўшыся ўсім родам за святочным сталом. Скаромнае ў апошні дзень свята елі толькі да вечара. Раней, чым звычайна, павячэраўшы, прасілі прабачэння і кланяліся адзін аднаму. Звычайна гаспадар садзіўся на куце, а да яго падыходзілі сыны, браты, жонка і, кланяючыся нізка, гаварылі: «Прасці, бацька родны, калі чым саграшыў перад табою, справай ці языком». Потым гаспадар уставаў, выходзіў на хату і кланяўся ўсяму свайму сямейству і прасіў у іх прабачэння за ўсе свае грахі і памылкі.

Прымеркаванасць тых ці іншых рытуалаў, гасцяванняў, гульняў да канкрэтных масленічных дзён, відаць, была абавязковай у язычніцкія часы. Напрыклад, у суседняй Расіі, дзе Масленка захавала намнога больш актыўны і разгульны пачатак, чым у нас, па звестках вядомага рускага фалькларыста І. П. Сахарава, да кожнага дня абавязкова дапасоўваліся канкрэтныя дзеянні: у панядзелак — сустракалі Масленку, у аўторак — «заигрыши»: пачатак катанняў з горак і хаджэння ражаных, у сераду — цёшчыны пачастункі, у чацвер — дзень вулічнага «разгулу», у пятніцу — цёшчыны вячоркі: цёшчы хадзілі ў госці да зяцёў, у суботу — залоўчыны пасядзелкі: маладыя нявесткі збіралі да сябе сваю радзіну, у нядзелю —

провады Масленкі*. Як відаць з вышэйапісаных дзён святкавання Масленіцы на Беларусі, падобная прымеркаванасць у нашым краі не заўсёды захоўвалася, а характар рытуалаў захаваў рэгіянальна-нацыянальную адметнасць.

Свята Масленіцы, на нашу думку, мае характэрнае яе часу сэнсавае і мэтаскіраванае значэнне. З аднаго боку, гэта была ў нашых продкаў своеасаблівая рытуальная мяжа на заканчэнні года. Яшчэ на пачатку хрысціянскай эпохі на нашых землях на працягу некалькіх стагоддзяў на Масленіцу палілі агні, на якіх спальвалі зношаны абутак, старое адзенне, іншыя непатрэбныя рэчы. Палілі і Масленіцу, чучала якой рабілі з саломы. Але Масленіцу не толькі спальвалі, а яе, як сведчаць дайшоўшыя да нас песенныя крыніцы, закапвалі і ў зямлі, хаpанілі:

...А мы Масленіцу пракацілі,
Ў пясок яе закапалі,
Да на лета яе прыбралі.

Гэта міфічная істота ў далейшым жыцці была варожая чалавеку, чаму ён і пазбаўляўся яе. Магчыма, Масленіца сімвалічна ўвасабляла ў сабе стары год, зло, холад ці адпаведных гэтаму Духаў, якія, як і зношаны абутак, адзенне і іншае, знішчаліся на агні. Усё старое, непатрэбнае і варожае павінна было застацца за парогам старога года. Усе думы і чаканні чалавека, выражаныя ў яго масленічных абрадах і рытуалах, цяпер былі звернуты да Сонца, якое ўсё актыўней уваходзіла ў фазу саграванне зямлі і яе штогадовага вяртання да жыцця. У масленічных песнях спявалі: «А зіма нам надакучыла, надакучыла, па вясенцы мы саскучылі, саскучылі...».

На заканчэнне года своечасова было праведаць

* Гл.: Сказания русского народа, собранные И. П. Сахаровым. М., 1990. С. 328.

і маладыя пары, якія восенню ці пасля Каляд у мясаед уступілі ў шлюб. Гэта была адна са звычаёва-прававых норм паводзін чалавека ў сваім сацыяльным калектыве, якая дайшла да нас яшчэ з часоў радавога грамадства. Падтрымка ўвагай і словам маладой сям'і праз павучанне, ушчуванне, дасціпны жарт ці нават намёк на што-небудзь заўсёды былі да месца: хай благое застаецца ў старым годзе, а ў новы год маладая пара павінна ўступіць, забыўшы старыя крыўды, з добрымі думамі, настроем і шчаслівай надзеяй.

З другога боку, для сялян быў адказны перыяд заканчэння запускаў кароў перад ацёлам або ў некаторых выпадках ужо да гэтага часу каровы цяліліся. Так ці інакш, але менавіта Масленіца пачынала новы малочны год і прыбытак пагалоўя жывёлы ў сялянскай гаспадарцы. Таму ў старажытныя часы шматлікія рытуалы гэтых дзён былі звернуты да язычніцкага Бога Вялеса — ахоўніка дамашняй жывёлы і багацця на падвор'і. Сыр, масла, тварог і іншыя малочныя прадукты, якія так шчодра выстаўляліся на святочным стале, у першую чаргу трэба разглядаць, як ахвяравальную ежу апекуну сялянскай гаспадаркі Богу Вялесу. На Магілёўшчыне у сувязі з гэтым да нашага часу захавалася павер'е, пра якое жыхары вёскі Ржавец Чэрыкаўскага раёна расказваюць: «Ета ўсігда сабіраліся жэншчыны асобенна, у каго скот, і танцувалі, пелі, гулялі, каб каровы не ялывалі, што б карова пагуляла ды цялілася. А калі не будзеш гуляць Масленку, дык карова будзя ялыўка» (8-93-273-1, л. 24).

Масленічныя рытуалы і паэзія як па часе, так і па зместу вельмі блізка стаяць да вясенняй абраднасці. Іх аб'ядноўвае і мэтавая скіраванасць: маленні і прашэнні аб сонечным цяпле, адраджэнні прыроды і хутчэйшым прыходзе вясны. Таму ў земляробчым календары масленічныя абрады і песні адносяцца да вясенняй традыцыйнай абраднасці, якую яны і пачынаюць.

Масленіца-палізуха: сыр і масла палізала.

Будзе Масленка, будзе ля пупа красненька.

Масленка з блінамі, а пост з грыбамі.

Масленіца-пакатуха, працянісь-ка ты да Духа.

Масленіца-палізуха, працяніся хоць да Духа.

Калі Масленіца ў маладзіку, сей вясною пшаніцу ва ўсю руку.

### А МЫ МАСЛЕНІЦУ ДАЖЫДАЛІ...

*Масленічная.*

А мы масленіцу дажыдалі,
Дажыдалі, люлі, дажыдалі.

Ўсе на горушку выбігалі,
Выбігалі, люлі, выбігалі.

Гору масілцэм пылівалі,
Пылівалі, люлі, пылівалі.

Гору сырніцэй пасыпалі,
Пасыпалі, люлі, пасыпалі.

— А ты, горушка, будзь катліва,
Будзь катліва, люлі, будзь катліва.

Нашы бабушкі вуркатлівы,
Вуркатлівы, люлі, вуркатлівы.

Мы думылі, маслінца сем недзелік,
Сем недзелік, люлі, сем недзелік.

Ажна маслінца сем дзянёчкаў,
Сем дзянёчкаў, люлі, сем дзянёчкаў.

(8-96-292-1, л. 8)

## А ТЫ, МАСЛЕНІЦА, БЕЛЫЙ СЫР...

*Масленічная. «На масленіцу ўжо ж свадзьбы атыйшлі, а ета ўжо дражняць маладуху, якая дужа перабірала сватоў».*

А ты, масленіца,
Белый сыр,
Ай, люлі, люлі,
Белый сыр.

А хто замуж ні пашла,
Суккіна дачка,
Ай, люлі, люлі,
Суккіна дачка.

А катора замуж пашла,
Бацькіна дачка.
Ай, люлі, люлі,
Бацькіна дачка.

А ты, масленіца,
Палізуха,
Ай, люлі, люлі,
Палізуха.

А хто ж цябе палізаў —
Маладуха,
Ай, люлі, люлі,
Маладуха*.

(8-94-279-1, л. 19)

## МАСЛЕНКА — БЕЛЫ СЫР...

*Масленічная.*

Масленка —
Белы сыр**,

* Падобную песню-дражнілку спявалі і хлопцу, які занадта перабіраў дзяўчат. Толькі замест слоў «суккіна дачка» спявалі «суккін сын»:

...А хто не жаніўся,
Суккін сын,
Ах, люлі, люлі,
Суккін сын.

А хто жаніўся,
Бацькін сын,
Ай, люлі, люлі,
Бацькін сын.

** Кожны куплет паўтараецца.

— Пабіў мяне, маменька,
Суккін сын.

— Ты б, маё дзіцятка,
Уцікла.

— А чорт яго, маменька,
Уцячэш.

За русую косаньку
Валачэць.

(8-92-265-1, л. 45)

## КАЛОША МАЯ, ЗІЛІНАЯ МАЯ...

*Масленічная.*

Калоша мая, зіліная мая,
Не шумі і ў лузе, у-ух!

Не шумі і ў лузе,
Не будзі свёкарька, у-ух!

А мой свёкарька лютый,
Ён някрепенька спіць, у-ух!

Ён някрепенька спіць,
А ён рана ўстае (ць), у-ух!

А ён рана ўстаець,
І мяне пабудзе (ць), у-ух!

І мяне пабудзець,
Па вадзіцу пашле (ць), у-ух!

А я млада журюся,
Па ваду йціць баюся, у-ух!

Па ваду йціць баюся,
Дзівярёчку кланюся, у-ух!

— Дзівярёчак-брахінька,
Пайдзём-ка мы са мно (ю), у-ух!

Пайдзём-ка мы са мною,
Бяры гуслі с сабо (ю), у-ух!

А я буду ваду браць,
А ты ў гуселькі граць, у-ух!

А я буду ваду несць,
А ты ў гуселькі пець, йэ-эх!

(8-94-279-1, л. 17—18)

## А З-ПАД ГОРЫ, ГАРЫ...

*Масленічная.*

А з-пад горы, гары
Ручай коціцца.

П р ы п е ў: Ой, лілюлюшкі,
Ручай коціцца*.

Дачка ў мамачкі
Гуляць просіцца.

Пусці, мамачка,
На раўчэй гуляць.

На раўчэй гуляць,
Сілізня відаць.

— Сілязенечка,
Ты мой сізенькі.

Раскажы-ка й ты,
Дзе мой міленькій?

— А твой міленькій
На вайне убіт.

(8-94-279-1, л. 20)

* Прыпеў і апошні радок паўтараюцца пасля кожнага куплета.




Гуканне вясны — язычніцкае свята, якое адзначалася ў дахрысціянскія часы на пачатку года, з першага сакавіцкага дня. Па сучасным календары гэта дата змясцілася на 14 сакавіка. Шматлікія рытуалы і абрады гукання вясны працягваліся да таго часу, пакуль аратыя не выходзілі ў поле рыхтаваць глебу пад вясеннія пасевы.

Прыход вясны ва ўсе часы быў чаканым і жаданым у народзе. Адраджэнне прыроды да новага вітка жыцця, хараство і непаўторнасць вясенніх

колераў, як і водар квітнеючых садоў і палёў, успрымаліся чалавекам, як Божы дар, якім надзялялі яго жыццёванеабходная энергія сонца, нараджаючая моц маці-зямлі і вегетатыўныя і жыватворныя сілы вады. І хаця ў сакавіку зімовыя завірухі і маразы яшчэ неахвотна ўступалі свае правы вясенннім сонечным дням, у красавіцкія дні вясна была ўжо поўнаўладнай гаспадыняй на зямлі. «У марцы, як у гарцы», — гаварылі сяляне, падкрэсліваючы адметнасць сакавіцкага надвор'я, бо «сакавік часамі снегам сее, а часамі сонцам грэе». Наступны ж месяц у народным асэнсаванні азначаны так: «Красавік хоць у лесе белы, але на полі чорны» або, калі вясна была ранняя: «У красавіку сонца зямлю грэе, а зямля прэе і зеленее».

Чалавек з яго спрадвечнымі вераваннямі і надзеямі імкнуўся па магчымасці пасадзейнічаць больш хуткаму прыходу вясны, якая ўяўлялася яму ў выглядзе маладой прыгожай дзяўчыны. У рытуалах і абрадах гэтага часу вясну клікалі да сябе, ёй прыносілі ахвяраванні, дзеля яе наладжвалі гульні, карагоды, спевы, прасілі сонейка хутчэй сагрэць зямельку. Ва ўсходнеславянскіх народаў гэта быў цэлы комплекс рытуалізаваных святкаванняў, які атрымаў назву гуканне вясны.

Безумоўна, што хрысціянства на працягу тысячагадовага існавання на нашых землях імкнулася ўвесь час адцясніць ці падмяніць язычніцкія традыцыі вясенняй абраднасці сваімі святамі і набажэнствамі. Аўдакея, Сарокі, Пасха, Благавешчанне — гэта ўжо хрысціянскія або часткова хрысціянізаваныя мясцовыя святы, якія прымяркоўваліся да найбольш важных язычніцкіх рытуальных дзён. Відавочны ўплыў да нашага часу на вясеннюю абраднасць аказаў перадвялікодны сямітыднёвы пост, які змясціў пачатак гукання вясны ў беларусаў у асноўным да Благавешчання. І толькі ў паўднёвых раёнах Гомельшчыны і Брэстчыны дзе-нідзе гукаюць вясну да пачатку посту. Разам з тым у народнай традыцыйнай

культуры вышэйадзначаныя хрысціянскія святы змясцілі і захавалі ў сабе як адпаведныя новай рэлігіі набажэнствы і рытуалы, так і язычніцкія абрадавыя моманты, прымеркаваныя да канкрэтнага часу. Прычым, што назіраецца не так ужо і рэдка, язычніцкая вясенняя абраднасць у гэтых святах часам пераасэнсавана ў розных варыянтах пад хрысціянства. Паставыя дні прадвызначылі таксама актыўнае бытаванне ў беларускім фальклоры гэтага перыяду шматлікіх псалмаў — «бажэственных песень», якія спявалі пераважна людзі старэйшага ўзросту ў час маленняў, за працай і г. д.

Рытуальныя вясеннія святкаванні пачыналіся са спальвання зімы. На высокіх пагорках за сялом моладзь разводзіла агні, на якіх «палілі зіму»: спальвалі льняное мялле, якога было дастаткова ў кожным двары пасля апрацоўкі лёну, зношанае адзенне і абутак, розныя непрыгодныя ў хатнім ужытку рэчы. Ля вогнішча са смехам і жартамі гулялі ў розныя гульні, пераскоквалі праз агонь, спявалі песні-вяснянкі:

Благаславіце, старыя людзі,
Ай, вясну-красну загукаць,
Загукаці.
Люту ж зіму замыкаць,
Замыкаці.
Да вясну-красну на вулачку,
На вулачку ж,
Люту зіму ў каморачку,
У каморачку.

На Пасожжы і беларускім Падняпроўі быў вядомы абрад спальвання кола. Хлопцы і дзяўчаты ішлі на бераг ракі ці возера і рабілі невялікі плыт, на якім замацоўвалі старое прамасленае кола ад калёс ці якой-небудзь іншай павозкі. Затым гэта кола падпальвалі і пускалі плыт на ваду. Вогненнае кола сімвалізавала сабой Сонца, якое ўшаноўвалася нашымі продкамі-язычнікамі як адно з галоўных боствaў. Пакуль плыт з палаючым колам плыў каля сяла, усе удзельнікі абраду

ішлі за ім берагам ракі і спявалі песні-вяснянкі, у якіх звярталіся да нябеснага свяціла:

Сонейка на прыпечак скацілася,
І зямліца ўсміхнулася:
— Вазьмі, сонейка, у Бога дазволу
І спусціся да долу.
Мы табе спяваем,
Мы цябе ўсхваляем,
Прыходзь, мы цябе чакаем!

У Лельчыцкім раёне, дзе вясну пачыналі гукаць у нядзелю напярэдадні перадвелікоднага посту, у гэты дзень варылі кашу і выпякалі з цеста «конікаў». Вось як пра гэта апавядае жыхарка вёскі Мілашэвічы Таццяна Раманаўна Паповіч: «Еты дзень маці варыць кашу, цесто мясіць, пячэ конікі, іх кашой той начыняе, замукі (замкі. — *У. С.*) такія леп'іш. А мы з дзеўкамі збіраемся, в лес ідом да вырубаем ёлку, а ёлкі няма, то хвою. Ёлку нараджаем, цветы вешаем туды, з бумагі цвятоў наробім, нарадзім, капыткоў начапляем. Все ету ёлку бяром і етыя конікі бяром, што маці напічэ з цеста, яйца бяром і ідом, дзе які пянёк вісокі. А як німа пінька, то мы на хлеў лезум і ту ёлку ўстаўляем і співаем:

— Гэй, Вясна!
Гэй, красна!
Што ты нам
Проці лета
Ву-унесла-а?

— А я вунесла
Беленького пірожка,
Красінько йечко
Не-едалечко-о.
Гэй, Вясна!..

Пойдум співаты, а хлопцы прыйдуць ды крадуць ёлку, а мы ж не даём. От так співаем, да і танцуем, вкруг ёлкі бегаем, да шмыгаем со хлёва до долу, рогочам. Так гулялі одзін дзень гэты перад постом» (8-94-280-2, л. 22—23).

На рагачоўшчыне, па звестках Е. Р. Раманава, моладзь дзялілася на дзве-тры кучкі, кожная з

якіх займала пагорак, ужо больш-менш падсушаны сонейкам і, папераменна падаючы свае галасы, «заводзілі»:

Ой, вясна-маці,
Хадзі к нам гуляці!
Хадзі к нам гуляці,
Карагод спраўляці!..

Вадзіць вясеннія карагоды і заклікаць у іх вясну дзяўчаты пачыналі са з'яўленнем першых пралесак. Гэта найбольш цікавы рытуальна-гульнёвы момант вясенней абраднасці, які ўвасабляе сабой бясконцы рух жыцця і вечнай маладосці. Вясна — заўсёды маладая, вясёлая, жаданая ў народнай свядомасці параўноўвалася яшчэ і з дзявочай чысцінёй і прыгажосцю.

Беларускія абрады гукання вясны вельмі багатыя на шматлікія песні, прыпеўкі, заклінанні, у якіх побач з рытуальнымі матывамі знайшла ўвасабленне тэма любові да роднай зямлі і працоўнай дзейнасці чалавека.

У вясенняй абраднасці, як і ў яе паэзіі, важнае месца займае таксама аграрна-магічная скіраванасць. З прыходам вясны запасы ў сялянскіх засеках значна памяншаліся. «Прыгожа вясна ды галадна», — сцвярджае народная мудрасць. Нашы продкі-земляробы звязвалі з гэтым перыядам надзеі на будучы ўраджай і спрыяючыя гэтаму пагодлівыя дні. Таму для многіх вясенніх абрадавых песень характэрны аграрна-магічныя заклінальныя функцыі:

А памажы, Божа,
Вясну-красну клікаць
На ціхае лета,
На спелае жыта.
А дай жа ты, Божа,
Ды ў снапу спорам,
А ў полі капамі,
А ў гумне спіртамі,
А ў пуні вазамі,
А ў клеці зернамі,
А ў млыне намолам,

А ў дзяжы падходам,
А на стале сыццю
Ды к добраму жыццю!

З вясеннімі днямі былі звязаны многія сялянскія павер'і і прыкметы: «Калі сакавік сухі, у красавіку травы яшчэ не чакай»; «Калі ў марце жыта глядзіць на неба — не есці тагды хлеба»; «Сухі марац, мокры май — будзе жыта, як гай»; сухое надвор'е ад Грамніц да Саракоў прадказвала засуху ў летні час і многія іншыя.

У вясенняй абраднасці нашых продкаў-язычнікаў знайшоў прадаўжэнне і своеасаблівы рэзананс сонечны культ. За сонейкам увесь час пільна сачылі. Кожнае змяненне яго руху над гарызонтам фіксавалася і асэнсоўвалася чалавекам-земляробам у зразумелым яму кантэкстце пабудовы свету. Праз прызму вясенніх свят Саракоў, Вялікадня і Дабравешчання тэматычны спектр гукання вясны ўсё актыўней факусіруецца на рытуалах, прысвечаных сонцу і яго жыватворнай сіле цяпла.

Вясенні дзень год корміць.

Вясна красна, хоць і галадна.

Вясной зверху пячэ, а знізу марозіць.

Вясна вочы адбірае.

Вясна не мясна, а восень не малочна.

Багата вясна кветкамі, а лета палеткамі.

Вясною лісток, увосень сучок.

Вясною дажджы не лішнія.

Вясну хваляць за сонца і дажджы, а лета — за снапы і вазы.

Страчанага вясною дня — не купіш.

Як зіма без марозу, так вясна без шкоды — не абыдуцца.

Калі на лёд грыміць, тады вясна будзе халодная.

Калі ўпору пасееш, то ўпору і пажнеш.

## БЛАГАСЛАВІ, БОЖА...

*Вясенняя.*

Благаславі, Божа*,
Божа мілы,
Вясну прыгукаці.

Вясну прыгукаці,
Божа мілы,
А зіму замыкаці.

Вясенку ў чаўночык,
Божа мілы,
А зімачку ў замочык.

Што былі за пташкі,
Божа мілы,
Ўсе ў выр паляцелі.

Што былі ж за дзеўкі,
Божа мілы,
Ўсе ж замуж пупайшлі.

Адна й астылася,
Божа мілы,
Маладая Надзечка.

Па ту пріізджалі,
Божа мілы,
Этую й ўзялі.

Этую ўзялі,
Божа мілы,
І на конях пувязлі.

(8-94-282-1, л. 39)

## БЛАГАСЛАВІ, МАЦІ...

*Вясенняя.*

Благаславі, маці,
Вясну гукаць, у-у!

Вясну гукаць,
Цёплага лета
Дажада.., у-у!

Дажадаць.
— Ой, вясна, вясна,
Вясняна.., у-у!

Вяснянaчка,
Дзе ж твая дачка
Мар'яна.., у-у!

Мар'яначка?
— Сядзіць у садочку,
Шыя сарочку, у-у!

Сарочку
Свайму сыночку
Васілёчку, у-у!

(8-94-286-1, л. 10)

* У песні першы радок у кожным куплеце паўтараецца.

## НЯ СТОЙ, ДУБЕ, У РАЗДОЛЛІ...

*Вясенняя.*

Ня стой, дубе, у раздоллі,
Люлі рана, у раздоллі.

— Не сядзі, малодка, у каморі,
Люлі рана, у каморі.

Хадзі ж з намі на Луку,
Люлі рана, на Луку.

— А я б рада выхадзіць,
Люлі рана, выхадзіць.

Кыла боку ж муж ляжыць,
Люлі рана, муж ляжыць.

Баюсь яго разбудзіць,
Люлі рана, разбудзіць.

Будзе ж мяне больна біць,
Люлі рана, больна біць.

(8-94-282-1, л. 9)

## ЯК З-ПАД ЛЕСІКУ Ж...

*Вясенняя, карагодная.*

Як з-пад лесіку ж,
Лесу цёмныва.

П р ы п е ў: Ой-лі, ой,
люлі,
Лесу цёмныва*.

Як з-пад садзіку ж,
З-пад зялёныва.

Там ішлі, прайшлі
Ды два молыйца.

А йны шлі, прашлі,
Стынавіліся.

Выхадзіла ж к ім
Красна дзевіца.

* Прыпеў «Ой-лі, ой, люлі» паўтараецца пасля кожнага куплета з паўторам апошняга радка.

— Ой, Вы, молыйцы,
Оба холасты.

Вы ніжынатыя,
Кудрюватыя.

Вы ж ня бейціся,
Й ні сварыціся.

Вы ж па-чэснаму
Разыйдзіціся.

Ой 'днаму каму
Я дыстануся.

Ліба ж белыму,
Белыкураму.

Ліба ж чорнаму,
Чорнаброваму.

Астылася йна
Й парню бравыму.

Парню й бравыму,
Кучырявыму.

(8-93-273-3, л. 12)

## КАЛІСЬ БЫЛІ ЛЮДЗІ НЯВЕРНЫЯ...

*Паставая песня (псалм).*

Каліcь былі людзі няверныя
Да й ня верувалі Госпаду Богу,
Да паверувалі зломy Цмоку,
Да й давалі Цмоку штодзень 'броку:
'Т каждае маці па дзіцяці.
Да й прышла чарга да самога цара —
Хоць сам ідзі, хоць дочку шлі.
Пашоўшы самому — не буўшы жывому,
Паслаўшы жэну — не с кім веку жыці.
— Да бяры ж, Ганна, залатыя вёдра
Да ідзі, Ганна к мору па воду.
Ганна ж в'ёдзяр не пабрала,
Да ўзяла Ганна святую кніжку,
Да ідзе Ганна плача-рыдая,
Плача-рыдая, кніжачку чытая.
Ішчэ ж Ганна да мора не даходзіць —
Злы, няверны з мора выходзіць:
З яго вушшу агонь сапля,
З яго ноздзер іскры сыплюць.
Ганна ж таго ізлякалась,
За крутую горуісхавалась.

Ажна едзя Святый Юрай:
— Пастой, Ганна, не 'лякайся,
Пастой, Ганна, не 'лякайся,
За крутую гору не хавайся,
Да бяры, Ганна, шаўковыя шнуры,
Да вугай Цмока за рогі, за вушы,
Да вугай Цмока за рогі, за вушы,
Да вядзі Цмока коню пад ногі...

(8-95-288-2, л. 44)




У цыкле вясенніх свят і абрадаў Саракі — гэта прысвятак, які прыпадае на дні вясенняга раўнадзенства і адзначаецца штогадова ў сённяшнім календары 22 сакавіка.

З гэтага часу дзень станавіўся роўны ночы, і гэта было для нашых продкаў-язычнікаў важкім доказам таго, што змрочная сіла злых Духаў актыўна ўступае ў фазу адмірання. Усё больш сонечныя і вясёлыя дні надавалі адпаведны настрой і ўпэўненасць чалавеку. Маленні і ахвярапры-

нашэнні Сонцу, Зямлі і Вадзе ўсё актыўней дапаўняюцца магічнымі дзеяннямі, накіраванымі на рытуальнае выгнанне і непрызнанне Духаў цемры і холаду. Як і ў папярэдніх абрадах, у многіх месцах прадаўжалі «паліць зіму», знішчаючы ў адпаведных рытуалах яе выяву. Напрыклад, у Слонімскім павеце і на Мазыршчыне на Саракі праводзіўся абрад выгнання зімы. Моладзь скачвала са снегу вялікага снегавіка, якога потым разбівалі на часткі і тапталі нагамі, «каб зіма знікла на дзевяць месяцаў». Затым разыходзіліся па хатах, бралі з дому стары гліняны посуд і ішлі да сваіх знаёмых, на парозе ў якіх гэты посуд разбівалі, прыгаворваючы: «Хазяйка, хазяйка! Кідай сваю пражу, Зіма ўжо прагнана! Адчыняй свае дзверы, заві нас у госці!». Такіх прадвеснікаў вясны, якія нібыта прагналі Зіму, запрашалі за стол і частавалі.

Увогуле назва свята — Саракі мае сваё тлумачэнне як у хрысціянскай, так і ў язычніцкай рэлігіі. Яе хрысціянскае паходжанне заснавана на тым, што ў гэты дзень былі пакараны смерцю сорак Севасційскіх воінаў. Падзея такая адбылася ў 313 годзе ў армянскім горадзе Севасціі. Адзін з тагачасных военачальнікаў Агрыкалай, які быў шчырым прыхільнікам язычніцтва, перад чарговым ваенным паходам рашыў прынесці ахвяраванні язычніцкім багам. Але падначаленыя яму сорак воінаў-каппадакійцаў, якія былі хрысціянамі, адмовіліся ад удзелу ў такой цырымоніі. За гэта Агрыкалай пасадзіў іх у турму, а потым рашыў зламаць волю іншаверцаў катаваннем. Спачатку севасційскіх воінаў спрабавалі пабіць каменнем, а пасля пры моцным марозе голымі вывелі на возера і пакінулі там на ўсю ноч, прыставіўшы стражнікаў. Але слаўныя воіны-хрысціяне сваёй мужнасцю і стойкасцю знайшлі Божую падтрымку і заступніцтва, што надало ім сілы застацца жывымі. На раніцу мучыцелі стойкіх хрысціян, убачыўшы іх жывымі, прадоўжылі свае катаванні. Нескарыўшыхся севасційскіх воі-

наў да смерці забілі палкамі, а трупы іх спалілі на вогнішчы. За прыхільнасць да Бога і веру ў яго хрысціянская царква штогадова адзначае 22 сакавіка дзень памяці сарака севасційскіх воінаў.

Аднак аналізуючы шматлікія народныя павер'і і прыкметы, можна дапусціць, што лічба сорак, як сімвалічны лік у гэтым прысвятку магла прыйсці і з язычніцкай міфалогіі, дзе ёй упадаблялася менавіта такая колькасць сіл, якія скоўваюць зямлю ў зімовым холадзе. Мяркуйце самі: у гэты дзень зранку дзяўчаты павінны былі пераламаць сорак дашчэчак, разарваць сорак вяровачак, што, напэўна, сімвалізавала сілы, якія замарозілі маці-зямлю.

У кожнай сям'і свята пачыналася з завіханняў гаспадынь каля печы, якія выпякалі з самага ранку «сорак жаваранкаў». Такое печыва мае шматлікія лакальныя формы ў выглядзе піражкоў, варэнікаў, каржоў, бліноў, галушак, клёцак і інш. Гэта было рытуальнае печыва, і таму, як толькі выпякалі першы такі хлябец, яго кідалі ў агонь — ахвяравалі той часцінцы нябеснага свяціла, што служыла чалавеку на Зямлі. Падобнае печыва давалі таксама з'есці жывёле, «каб яна была здаровай і добра пладзіла», ім частавалі адзін аднаго, «каб не хварэць улетку». Вядомая даследчыца беларускай вясенняй абраднасці Г. А. Барташэвіч адзначае таксама аграрна-магічныя функцыі печыва ў выглядзе птушакі сакральнае значэнне абрадавага хлеба пры сустрэчы вясны. У пэўнай ступені гэты звычай у больш позні час быў пераасэнсаваны хрысціянствам. Напрыклад, на Дубровеншчыне разам з «жаўрукамі» на Саракі пяклі і сорак піражкоў, якія называюць тут «бубашкі». Мясцовыя праваслаўныя вернікі так тлумачаць іх прызначэнне: «Пячом па сорак бубашак. Ета было сорак мучанікаў, далжны мы с'едаць і іх успамінаць» (8-92-265-1, л. 49).

Ушаноўвалі на Саракі і ваду, ці, дакладней, яе ўтварэнне — лядзяш. У гэты дзень нават раілі дзецям смактаць ледзяшы. Гаварылі, «Калі на

Саракі вол уволю нап'ецца вады ад расталых ледзяшоў, то будзе добрая вясна». Выява ледзяша абыгрывалася і ў беларускіх загадках, што загадвалі зранку за святочным снеданнем дзецям, накшталт: «Зімой расце коранем уверх, а вясной памірае, хто адгадае?» альбо «Са страхі звісае і вясной вырастае, хто адгадае?».

Хуткую і цёплую вясну прадказвала і ранняя паводка на рацэ, што адлюстравана ў многіх павяр'еннях і прыкметах: «Святыя Саракі — не суйся блізка да ракі», «На Саракі пайшоў снег да ракі» і г. д.

Гэтым жа днём, як толькі ўзыходзіла сонейка, кожны гаспадар вёў сваю жывёлу напаіць з палонкі, але перш мыў у ёй сабе твар і рукі. Верылі, што жывёла быццам бы пасля гэтага набіралася розуму ад чалавека і была яму паслухмянай на працягу ўсяго лета.

Беларусы, як і іншыя славянскія народы, звязаныя гаспадарчай дзейнасцю з зямлёй і жывёлагадоўляй, з нецярпеннем чакалі вясенняга цяпла, жадалі, каб вясна прыйшла ранняя і цёплая. Наконт гэтага з Саракамі ў народзе звязана вельмі многа павер'яў і прыкмет.

Па-першае, надавалася важнае значэнне прылёту птушак. Чакалі, што «на Саракі прыляціць сорак выраяў». А калі прыляцелі птушкі, то й надзеі селяніна павінны былі спраўдзіцца. Народныя вераванні тлумачылі, што быццам бы птушкі на сваіх крылах прыносяць сапраўдную вясну. У беларускім фальклоры гэты момант зафіксаваны ў многіх прыказках і прымаўках: «На Саракі прыляцелі з-за мора шпакі», «На Саракі прылятае сорак жаваранкаў», «На Саракі сарока звіла ў гняздо сорак прутікаў» і г. д.

Па-другое, на Саракі павінна было пракаціцца «сорак калёс па зямлі», для чаго моладзь, якая збіралася на гулянне ў гэты дзень, качала па зямлі колы ад калёс. Нават існавалі спецыяльныя гульні, прымеркаваныя да гэтага звычаю. Як вядома, людзі яшчэ карысталіся санямі, а кола ўжо

сімвалізавала сабой летні транспарт, на які пераходзіў селянін у час веснавых работ.

Па-трэцяе, сваімі паводзінамі чалавек паказваў, што ён ужо не баіцца холаду і зімы, а вітае Сонейка, якое растапіла месцамі снег да першых веснавых праталін, сагнала яго і з вясковых сцежак на больш высокіх месцах. Напрыклад, на Міншчыне быў звычай, калі дзеці днём босымі нагамі бегалі па такіх сцежках ці па вуліцы, але толькі там, дзе снег сышоў да зямлі. На такіх сцежках ці іншым сухім месцы гушкаліся дзеці. Вера Міхайлаўна Мышко, 1916 года нараджэння, з вёскі Залужжа Старадарожскага раёна ўспамінае: «Скакалі на досках тыя гады. Паложаць палена, а папярок доску вялікую, доўгую. І адна стане на адзін канец, а другая на другі. І мы босыя на той досцы даём ужо Сарака. Скакалі босымі нагамі: тая стукне, а тая падскочыць, а тады тая стукне, а тая падскочыць. Скакалі так на Сарака ў свята» (8-93-270-4, л. 53).

Гушканне ў дзень Саракоў было найбольш займальнай і любімай забавай у беларусаў. З гэтага дня вешалі арэлі — прывязвалі да столі ў хаце, за бэльку ў пуні ці хляве альбо за высокі сук да дрэва вяроўку і гушкаліся на ёй. Прычым кожны імкнуўся раскачацца як мага вышэй. На Шуміліншчыне Віцебскай вобласці з гэтым было звязана павер'е, што тады будзе расці высокі лён і таго, хто вышэй за ўсіх раскачаецца на арэлях, улетку не будуць кусаць камары.

З днямі Саракоў былі звязаны і некаторыя гаданні ў беларусаў. На Слонімшчыне дзяўчаты гадалі на будучае замужжа. Гуртам выпякалі сорак піражкоў і кожная пазначала свой. Потым раскладвалі іх у адзін рад на парозе, прыгаворваючы:

Вееце, вееце
Вясенні вецярок,
Прыйдзі, мой міленькі,
Дам табе піражок,
З мёдам сычаным,
З ласкай дзявічаю!

і ўпускалі сабаку. Чый піражок будзе з'едзены першым, тая і замуж пойдзе раней.

Даволі пашыраным у нашым краі быў і такі звычай: у адзін з піражкоў, што пяклі ў гэты дзень, клалі 20-капеечную манету, якую называюць «саракоўкай», і, калі елі піражкі, пра таго, хто знаходзіў у сваім піражку такую манету, гаварылі, што яму будзе шчасціць цэлы год.

Зразумела, што такі дзень не застаўся і па-за ўвагай народных метэаролагаў. Калі на Саракі быў марозны дзень — гаварылі, што трэба чакаць наперадзе сорак маразоў. Паводле народнага календара, які склаў У. А. Васілевіч, калі ад Грамніц да Саракоў не было дажджу і «не раскваліла» дарогу, то трэба было спадзявацца на сухое лета. Калі на стрэхах хат да Саракоў яшчэ ляжаў снег, то і на Благавешчанне ён будзе пакрываць зямлю, а месцамі праляжыць да святога Юр'я.

Як бачым, у народным жыцці абрады, рытуалы і павер'і беларусаў, прымеркаваныя да Саракоў, маюць аграрна-магічную накіраванасць. Яны адпавядалі імкненням нашых продкаў хутчэй выйсці ў поле, прыступіць да самай адказнай і руплівай працы — на зямлі, якую пачыналі аратыя і сейбіты. І ўзніклі яны як вынік спрадвечных чаканняў і жаданняў селяніна-хлебароба.

На Саракі дзень з ноччу мераюцца.

На Саракі пайшла зіма да ракі.

На Саракі пайшоў снег да ракі.

На Саракі ў адзін дзень сорак марозаў.

На Саракі прылятае сорак выраяў.

Калі на Сорак мучанікаў мароз, то яшчэ сорак маразоў будзе.

Мароз казаў: «І ў маі тры дні маю».




У хрысціянскім календары Вялікдзень рухомае свята і штогод прыпадае на перыяд з 4 красавіка па 8 мая. Яно адзначаецца ў католікаў у нядзелю пасля поўні, якая наступае следам за 21 сакавіка, ці дакладней, перыядам вясенняга раўнадзенства, а ў праваслаўных вернікаў пасля 21 сакавіка адлічваецца ўперад 13 дзён і таксама вызначаецца нядзеля пасля поўнага месяца.

У жыцці нашых продкаў-язычнікаў Вялікдзень адзначаўся ў гонар Бога Сонца — Даждзьбо-

га. Менавіта адтуль і прыйшла гэта назва ў сучасную беларускую лексіку, бо, як вядома, хрысціянская назва свята — Пасха. Вясеннія шматкантрастныя «паводзіны» прыроды выклікалі ў анімістычных разважаннях старажытных людзей уяўленні аб барацьбе прыродных стыхій: ціхіх і ветраных дзён, снегападу і дажджоў, цемры і святла, холаду і цяпла, кантрастнасць якіх выразна падкрэслівала воблачнае або чыстае неба. Актыўнае сонечнае цяпло ў красавіку днём суправаджалася журчаннем ручаёў і спевам жаўрукоў, ноччу ж, наадварот, у свае правы ўступала цемра, пад пакровам якой яшчэ заўважна праяўляў свае здольнасці мароз. Так паўтаралася многія суткі. Але час ночы і цемры няўмольна звужаўся, працягласць дня станавілася большай за ноч, што давала магчымасць чалавеку разважаць аб пераканаўчай перамозе Сонца над цемрай і холадам, своеасаблівым уваскрашэнні яго да новага вітка жыцця. На новае кола жыцця пад сонечнымі промнямі адраджалася і зямелька. Усё гэта не магло не радаваць славяніна-земляроба. Вітаючы перамогу Сонца (Даждзьбога) і пачатак аднаўлення зямной прыроды, нашы продкі-язычнікі спраўлялі свята вялікага дня — Вялікдзень.

Як і славяне, у дахрысціянскія часы падобныя святкаванні адзначалі егіпцяне, фінікійцы, грэкі, фрыгійцы і іншыя народы. У старажытных егіпцян уваскрэсенне вярхоўнага Бога Асірыса нават сустракалі словамі «Асірыс уваскрэс!». Зразумела, што хрысціянства, як рэлігія больш позняга перыяду, увасобіла лепшыя традыцыі язычніцтва і стваралася на іх. Да дзён пасляўвясенняга раўнадзенства ў хрысціянстве прымеркаваны дні смерці і уваскрэсення Ісуса Хрыста.

Згодна хрысціянскай міфалогіі, у пятніцу іудзеі асудзілі Сына Божага на смерць праз распяцце яго на крыжы. У суботу прыхільнікі Ісуса Хрыста выпрасілі ў іудзейскага цара дазвол на пахаванне і перанеслі яго цела ў пячору, заваліўшы ўваход вялізным каменем. А ў нядзелю,

калі Маці Божая з сваімі сяброўкамі прыйшла, каб апрануць свайго сына-нябожчыка ў пасмяротнае адзенне і зрабіць адпаведнае ўбранне яго пасмяротнага ложа, Анёл у белым адзенні абвясціў ёй і жанчынам, што Ісус Хрыстос уваскрэс. Менавіта таму, як толькі пачынаецца нядзеля (апоўначы з суботы на нядзелю) у царквах і касцёлах робіцца тройчы абыход вакол храма, пасля чаго свяшчэннікі ўрачыста абвяшчаюць: «Хрыстос уваскрэс!» Са словамі «Хрыстос уваскрэс!» на працягу нядзелі і наступных двух дзён, сустракаючыся са сваімі знаёмымі, роднымі, сябрамі, вітаюцца ўсе хрысціяне, на што адказваюць «Ва ісціну ўваскрэс!» і цалуюцца.

У народным жыцці гэта свята мае свае адметныя адценні і каларыт. Напярэдадні да чацвярга, які называюць «чысты чацвер», старанна прыбіралі ў хаце, мылі падлогу, вокны, бялілі ці абклейвалі шпалерамі хату, мыліся ў лазні. А ў суботу зранку завешвалі на вокны новыя фіранкі, на абразы — набожнікі, замешвалі ў дзяжы цеста на пірагі і з абеда распальвалі ў печы. Кожная гаспадынька рыхтавала святочныя стравы: смажыла мяса, каўбасу, варыла цыбульнае шалупінне і фарбавала ў яго адвары велікодныя яйкі.

«Свята Вялічка — з красным яічкам», — гавораць у народзе. Яйка з'яўляецца вельмі важным атрыбутам велікодных дзён. Яно сімвалізавала сабой, з аднаго боку, сусветную прастору, нашу галактыку, а з другога — кругаварот і бясконцасць жыцця, пачатак усякага адраджэння да жыцця. Як і ў большасці іншых славянскіх народаў, нашы продкі афарбоўвалі велікодныя яйкі ў зялёны, блакітны, чырвоны, жоўты колер, рабілі яйкі-пісанкі, расчэрчаныя або расфарбаваныя рознымі сімвалічнымі ўзорамі і колерамі. Такому яйку надавалася магічная сіла: з ім выганялі першы раз на пашу жывёлу, каб засцерагчы яе ад злых чараў ведзьмакоў, закопвалі ў першую баразну ці на ўскрайку нівы, каб тая добра радзіла, і г. д. Са спрадвечных часоў у нашым

народзе шырока вядома традыцыя адорваць адзін аднаго на Вялікдзень святочнымі яйкамі. З прыняццем хрысціянства гэта традыцыя была пераасэнсавана пад новую рэлігію. Паводле праваслаўных біблейскіх паданняў Святая Марыя Магдаліна, даведаўшыся аб пакаранні смерцю Ісуса Хрыста, прынесла ў падарунак рымскаму імператару Ціберыю чырвонае яйка, як знак нявіннасці Сына Божага і сімвалічнае сведчанне таго, што з гэтага часу ўвесь сусвет нясе на сабе адбітак яго нявінна пралітай крыві. Магчыма, што гэта падзея і стала прычынай таго, што, адпаведна хрысціянскай традыцыі, у наш час велікодныя яйкі фарбуюць пераважна ў чырвоны колер.

Вечарам з кожнай сям'і звычайна гаспадар ці старэйшыя людзі ішлі ў храм «на ўсенашную». З сабою бралі па кавалачку кожнай стравы: мяса, сала, пірог, яйкі, соль і інш. Зразумела, што ні адна царква або касцёл не маглі ўмясціць усіх жадаючых, таму людзі часцей збіраліся ў бліжэйшых хатах, у сваякоў і знаёмых, каб апоўначы выйсці да храма і разам з усімі хрысціянамі сустрэць радасны час уваскрэсення Ісуса Хрыста і прысутнічаць у час вынасу з храма святых харугваў з лікам святых і ўрачыстага шэсця.

Набажэнствы ў гэту ноч заканчваюцца гадзін каля чатырох. На заканчэнне «усенашнай» свяшчэннікі асвяцаюць «пасху» — прынесеныя з дому харчы. У вялікіх населеных пунктах гэты хрысціянскі рытуал паўтараецца некалькі разоў на працягу ўсяго нядзельнага дня.

У гэту ж ноч і тыя, хто заставаўся дома, імкнуліся не спаць. У хатах да ранку гарэла святло, запальвалі свечкі перад абразамі, маліліся Богу, расказвалі біблейскія паданні аб жыцці Ісуса Хрыста, святых Апосталаў і іншых святых.

Пасля «усенашнай» зранку ўсе, хто правёў гэту ноч у царкве (касцёле), спяшаліся ў свае сем'і. Дома кожная гаспадыня накрывала святочны стол, за які, папярэдне памаліўшыся Богу, садзіліся, «каб разгавецца». Толькі цяпер упер-

шыню пасля доўгага сямітыднёвага посту можна было ўволю паласавацца рознымі стравамі. Есці пачыналі з асвечанага яйка, солі і пірага, а пасля выпівалі па чарцы гарэлкі і смачна снедалі.

Вельмі радаснымі і жаданымі велікодныя дні былі для дзетак. Да іх у госці прыходзілі хросныя бацька і маці, бабуля-пупарэзніца, дзядзькі, цёткі, якія кожнаму з дзяцей прыносілі чырвонае яйка. У некаторых мясцовасцях (Рагачоўскі, Слаўгарадскі і іншыя раёны) дзеці самі абыходзілі двары сваіх хросных і блізкіх сваякоў, каб атрымаць велікодныя падарункі. Гэты звычай вызначаецца лакальнымі асаблівасцямі традыцыйных зон у нашым краі.

Абыходы дзеткамі ці дарослымі двароў у сваёй вёсцы на Вялікдзень маюць вельмі старажытнае паходжанне. Такіх хадакоў у розных рэгіёнах называюць валачобнікамі, галыкальнікамі, валоўнікамі, лалыншчыкамі, кукольнікамі і інш. «Валачобнікі — людзі Божыя...», — падкрэсліваецца ў песнях гэтага часу. Лічылі, што абыходы імі двароў прыносілі пладавітасць жывёлы, ураджайнасць на палях, засцярогу падвор'я ад розных прыродных стыхій. Падыходзячы пад акно, валачобнікі, падобна калядоўшчыкам, спявалі песні, ухваляючыя гаспадара, гаспадыню, іх сыноў і дачок:

Пане гаспадару, слаўны мужу,  
Слаўны мужу над мужамі!  
А ці спіш, ляжыш, спачываеш,  
Ці з жаною маладою,  
Ці з дзеткамі-малалеткамі?  
Устань рана, мыйся бела,  
Мыйся бела, як папера,  
Глянь у ваконца на ўсход сонца,  
Што дзеецца, лялеецца:  
У тваім дварку, як у вянку,  
Сады цвіцяць, пчолкі звіняць...

Кожны радок такой песні суправаджаўся адным з прыпеваў «Хрыстос уваскрос, Сын Божы!», «Слава табе, Божа, на ўвесь свет!», «Да й віно ж, віно зеляно!», «Вясна красна, зялёна!» і інш.

Вельмі шчодрымі ў песнях былі пажаданні валачобнікаў:

...Вот і песня спета процiў лета,
Штоб гаспадару па полю хадзіці,
Жыта жаці і нас памінаці!

альбо

...Слаўны пане, пане Іване!
Ой, жыві здароў і будзь багат
І з жаною маладою,
І з дзеткамі наймілейшымі,
І з брацелкамі найкраўнейшымі,
І з суседзямі найбліжэйшымі!
Будзь здароў, як крынічная вада!
Будзь вясёл, як харошая вясна!
Будзь багат, як сырая зямля!

Па заканчэнні песні гаспадары надзялялі валачобнікаў яйкамі, гарэлкай, пірагамі і іншай стравай са святочнага стала.

Варта зазначыць, што ў сусветнай традыцыйнай культуры валачобныя песні да гэтага часу захаваліся і зафіксаваны толькі ў беларусаў, што характэрна падкрэслівае нацыянальную адметнасць нашай культурнай спадчыны.

Завяршыўшы абыходы двароў у сваёй вёсцы, валачобнікі па папярэдняй дамоўленасці збіраліся ў адной з хат ці ў апошняй хаце, да якой яны прыходзілі з рытуальным спяваннем, і наладжвалі там застолле з цікавымі і вясёлымі гульнямі, танцамі, песнямі, жартамі.

У велікодныя дні як у дзетак, так і дарослых любімай была гульня «ў біткі». Той, чыё яйка было пабіта, аддаваў яго свайму пераможцу.

Шырока вядомай дзіцячай гульнёй гэтых дзён было таксама качанне яек з горкі на «выбіткі». Напрыклад, на Рагачоўшчыне дзеці рабілі спецыяльны латок ці на зямлі па невялічкаму схілу качалі яйкі. Робіцца гэта так: спачатку дамаўляюцца, хто за кім будзе качаць. Ложаць унізе латка ці пад горкаю адно, два, тры яйкі — «агульныя», колькі дамовяцца, і потым па чарзе качаюць

з горкі яйкі. Кожнае з іх, якое закране, пакуль коціцца, скачваемае яйка, дастаецца яго гаспадару, а калі не закране ніводнае, то яно застаецца ўнізе для розыгрышу, а гульню працягвае наступны ўдзельнік. У іншых месцах усе гуляючыя качалі па яйку з горкі, а пераможцам, які іх забіраў сабе, лічыўся той, чыё яйка закоціцца далей. Вядомы і іншыя варыянты гэтай гульні.

На Вялікдзень дзяўчаты гадалі аб будучым лёсе, пераскокваючы праз сані: хто пераскочыць — да таго ўвосень прыедуць сваты, а хто не — будзе чакаць да наступнага года.

З гэтымі ж днямі ў народзе было звязана вельмі многа павер'яў і прадказанняў.

На Віленшчыне, калі вярталіся з «усенашнай», надавалі значэнне таму, хто першым увойдзе ў вёску і раней за другіх прыйдзе ў сваю хату, у таго будзе больш ураджайнае поле і ён раней за іншых закончыць восеньскія палявыя работы. На Міншчыне і Магілёўшчыне, калі ехалі на конях, стараліся апярэдзіць адзін другога. Верылі, чый конь шпарчэйшы, у таго ён будзе ўвесь год здаровым і «пераганяць усіх суседскіх».

У многіх мясцовасцях у першы велікодны дзень выходзілі з хат, каб убачыць усход сонца. Гаварылі, што ў гэты час сонца быццам «іграе на ўсходзе», пераліваецца рознымі колерамі. Такую «гульню сонца» звязвалі з «вяшчаннем на добрае лета» і шчаслівымі вяселлямі на працягу года.

Паўсюдна беларусы мыліся раніцай крынічнай вадой, у якую клалі чырвонае яйка і залатыя ці сярэбраныя прадметы, каб быць увесь год чыстым і здаровым («чырвоным, як яйка»).

Старыя, зранку расчэсваючыся, прыгаворвалі: «Дай, Божа, колькі на галаве валасоў, каб столькі было ўнукаў!»

У першы велікодны дзень не палілі ў печы, а тых, хто парушаў гэта правіла, страшылі, што ўлетку яго падвор'е спаліць Пярун.

На Віцебшчыне ў некаторых вёсках існавала павер'е, што калі на прывітанне «Хрыстос ува-

скрэс!» не адказаць, а задумаць жаданне, дык яно абавязкова збудзецца.

У сялян Мінскай губерні ніколі не выкідвалі косці, што засталіся пасля святочнай трапезы, а адносілі і закапвалі іх на полі, што быццам бы садзейнічала добраму ўраджаю і засцерагала яго ад граду, буры і злых чараў розных ведзьмакоў. У іншых мясцовасцях з гэтай жа мэтай закапвалі на полі або пры набліжэнні буры рассцілалі на падворку абрус, на якім снедалі, калі «разгаўляліся».

Вельмі гуманным, пранікнутым любоўю да чалавека было ў гэтыя дні ў народзе і такое павер'е: лічылі, што кожны год, як і ў першыя дні пасля сваёй смерці, ад Вялікадня да Ўшэсця Ісус Хрыстос ходзіць па зямлі сярод людзей, найбольш у выглядзе жабрака. Таму ў гэты час да жабракоў, людзей-калек, старцаў ставіліся найбольш лаяльна і спачувальна, надзяляючы іх ежай і іншай міласцінай. Абыякавасць да такіх людзей лічылася за вялікі грэх.

У народным календары свята Вялікдзень вызначае правядзенне некаторых іншых свят і прысвяткаў. На восьмым перадвелікодным тыдні святкавалі Масленку, а ў суботу перад ёю масленічныя (стрэчаньскія) Дзяды, з наступнага тыдня пасля Масленкі пачынаўся сямітыднёвы перадвелікодны пост, у сераду за 24 дні да Вялікадня адзначаюцца Хрэстцы (выпякаюць з цеста рытуальныя хрэшчыкі), напярэдадні ў нядзелю — Вербніца (Вербная нядзеля), Радаўніца адзначаецца на дзевяты дзень пасля Вялікадня, Тройца — на пяцідзесяты, дваццаць пяты дзень называецца Перапалаўная серада (Прапалавенне), на шостым тыдні ў чацвер — Ушэсце, чацвер дзевятага тыдня — Дзевятнік (Дзевятуха), пятніца дзесятага тыдня — Дзесятуха (Дзесятка — хлебу пятка) і г. д.

Святое Вялічка — з красным яічкам.

Вялікі дзень — вялікая работа.

З Вялікадня птушкі пачынаюць пець.

На Вялікдзень першы раз зязюля кукуе.

Кукушка кукуе ад Вялікадня да Пятра, а пасля Пятра — ні дня.

Як на чысты чацвер добрая пагода, то і на Ўшэсце.

Дзень падаўжэў — нітка пакарацела.

## ВАЛАЧОБНЫЯ — ЛЮДЗІ ДОБРЫЯ...

*Валачобная.*

Валачобныя —
Людзі добрыя.

Прыпеў: Слава табе, Божа,
На ўвесь свет*!

Да было ў бабкі
Тры ўнучкі.

Валачыліся,
Памачыліся.

Да зайшлі к бабцы,
Пасушыліся.

Да дала бабка
Ўсім па яечку.

А адной сіраце
Ды й не выйшлася.

А даюць сіраце
Каня ў хамуце.

Сірата ні бярэ,
С-пыд акна не ідзе.

І не дзякуе,
Не падскакуе.

А даюць сіраце
Кораб пірагоў.

Сірата ні бярэ,
С-пыд акна не ідзе.

І не дзякуе,
Не падскакуе.

А як далі сіраце
Красна яечка,

Сірата узяла
С-пыд акна пашла.

І дзяквала,
І падскаквала.

(8-94-280-2, л. 8)

* Прыпеў паўтараецца пасля кожнага куплета.

## А ВАЛАЧЭБНІЧКІ, ДЫ НЕДАКУЧНІЧКІ...

*Валачобная.*

А валачэбнічкі,
Ды недакучнічкі.

П р ы п е ў: Хрыстос
васкрэс, Сын Божы*!

Не часта ходзюць,
Не дакучаюць.

А раз у гадок
На Хрыстоў дзянёк.

На Хрыстоў дзянёк
Ды пад вакошэчка.

— Ці спіш, ці ляжыш,
Пане хазяін?

Калі спіш-ляжыш,
Дык Бог з табою.

А ня спіш-ляжыш,
Дык гавары са мной.

На тваім двары
Дзіва дзеіцца.

Дзіва дзеіцца
Ды цэрква строіцца.

А ў той цэрквачкі
Ды ўсе праздпічкі:

Святое Ражство
Напярод пайшло.

Святоя Ілля
Пазадзі пайшла.

Свята Мікола
З севалкай пашла,

З кудравым аўсом,
Жоўтым ячмянём.

Святый Егор'я
На кані ездзіць.

На кані ездзіць
К залатым ключам.

К залатым ключам
Землю размыкаць.

Землю размыкаць,
Росы выпускаць.

Росы выпускаць,
Травы вырашчаць.

А валачэбнічкі
Ды сабраліся.

Сабіраліся
Ды размаўляліся.

А нашы дары,
Ды невялікії:

А пачынальнічку
Чарку гарэлкі,

Музыканцiку
Кусочак сальца,

---

* Прыпеў паўтараецца пасля кожнага куплета.

А падхватнічкам
Горкага піўца.
А мешаногаму
А хоць якую ёсць...

(8-89-244-5, л. 16—17)

### ІЗ-ЗА ЛЕСУ, ЛЕСУ ЦЁМНАГА...

*Валачобная.*

Із-за лесу, лесу цёмнага

П р ы п е ў: Віно ж маё зеляно.*

Ішла туча валачобная.
Валачобнічкі ж, недакучнічкі,
Ні часта ходзюць, ні дарага просяць.
У гадочак адзін разочак:
Пачынальніку ж чырвоны злоты,
Гэты злоты яму на боты,
А падхопнічкам па залоценькім,
А механошу жыта калошу,
Хай ён нясе, аж падарвецца.
З яго нехта насмяецца.

(8-94-280-2, л. 33)

* Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.




Жыццё чалавека такое ж кароткае і энергаздольнае, як успышка метэарыта на фоне зорнага неба, і, падобна метэарыту, кожны з нас пакідае на зямлі свой след, такі ж яркі і непаўторны.

Адметнасць жыцця асобнага чалавека не настолькі часта праяўляецца ў агульначалавечай памяці, каб яго помнілі ці нават заўважылі. Тут мала быць проста зоркай, а патрэбна праявіць выключную геніяльнасць і непаўторнасць у агульначалавечых справах. Але кожны з нас жыве ў

сваім родзе: у памяці сваякоў, дзяцей, унукаў — прадаўжальнікаў канкрэтнага роду.

Памяць аб сваім родзе і ўшанаванне яго продкаў — гэта характэрная святая повязь многіх і многіх пакаленняў, якая спрадвеку захавалася ў нашым народзе як нешта пачэснае і дарагое. Памяць аб продках — гэта яшчэ і своеасаблівы вусны летапіс свайго роду, які перадаваўся ад пакалення пакаленню, ад старэйшых малодшым, які сцвярджаў жыццё і вучыў жыццю. І ў гэтым родавым летапісе ніхто і ніколі не застаецца не заўважаным і не знікае бясследна, незалежна ад таго, добрую ці дрэнную памяць пра сябе пакідае чалавек. Так было з нашымі папярэднікамі, так будзе і з намі.

У коле штогадовых каляндарных абрадаў на большай частцы этнічнай Беларусі чатыры разы памінаюць сваякоў-нябожчыкаў: тройчы за сталом у роднай хаце — гэта на Дзяды масленічныя, траецкія і восеньскія і адзін раз на могілках — у дзень Радаўніцы.

Святкаванне Радаўніцы характэрна для ўсяго ўсходнеславянскага рэгіёна. Адзначаецца яно на наступным пасля Вялікадня тыдні ў аўторак і гэтак жа, як і Вялікдзень, не мае пастаяннай даты. У залежнасці ад месячнага календара штогадовае святкаванне Радаўніцы выпадае на красавік — першую палову мая.

Радаўнічны абрад паходзіць з часоў язычніцтва. Сярод многіх бостваў славян-язычнікаў значнае і пачэснае месца адводзілася бажаству Рода, Радагосту, вобраз якога параўноўваўся з далёкім продкам — родапачынальнікам славян. Пра гэта сведчыць хоць бы той факт, што выява яго была поўнасцю адліта з золата, а ложа зроблена з прыгожай пурпуровай тканіны.

З даўніх часоў чалавек верыў, што памёршы не знікае бясследна, а ператвараецца ў Духа свайго роду, яго заступніка. Такое вераванне захавалася і да нашага часу. «Цур, мяне!», — крычаць дзеці, гуляючы ў хованкі, «Цур, мяне!», — гаворыць

стары чалавек, калі яму пагражае небяспека. Цур, Чур, Прашчур — ніхто іншы, як наш далёкі продак, да якога людзі і звяртаюцца за дапамогай. Вядомыя ў беларускай міфалогіі вобразы Дамавога, Русалкі, Палевіка і іншыя ўяўляюць дэманічныя істоты, якія ўвасобілі ў сабе гэтыя Духі.

Назіраючы за штогадовым колам прыродных з'яў, старажытныя людзі лічылі, што з вясеннім ажыўленнем прыроды душы памёршых таксама ажываюць пасля зімовай спячкі і ў гэты дзень наведваюць месца пахавання свайго цела, дзе нябачна сустракаюцца з жывымі членамі роду.

Ідучы да месца спачывання памёршых, чалавек не толькі выказваў ім сваю любоў і пашану, але разлічваў па магчымасці задобрыць іх, каб атрымаць спагаду і дабрадзеянне ў адносінах да сябе. Беларусы спрадвеку верылі, што Духі продкаў пастаянна і нябачна наведваюць іх дом і здольны рабіць дабро альбо зло, садзеянне ці шкоду ў гаспадарцы селяніна. Некаторыя вучоныя звязваюць з гэтым вераваннем нават паходжанне назвы Радаўніцы. Радаўніца — рада — радзіць: меркавалі, што людзі прыходзяць да магіл сваякоў, каб парадзіцца з імі аб вырашэнні пэўных гаспадарчых праблем, цяжкасцей і турбот, што ўзнікалі ў паўсядзённым чалавечым жыцці. Дарэчы, многія памінальныя стравы, што прыносілі на могілкі, мелі назначэнне ахвярапрынашэння Духам продкаў.

Радаўнічны абрад амаль што аднолькава захаваўся на этнічнай тэрыторыі беларусаў, і запісаныя яшчэ ў мінулым стагоддзі некаторыя лакальныя асаблівасці правядзення Радаўніцы ў асобных рэгіёнах мала чым адрозніваюцца паміж сабой і хутчэй падкрэсліваюць каларыт мясцовых традыцый і звычаяў.

Напрыклад, у Ваўкавыскім павеце Гродзенскай губерні ў гэты дзень сяляне апоўдні збіраліся ўсе ў царкве, дзе служылі паніхіду па нябожчыках, і рабілі агульную абедню. Пасля гэтага забіралі запрастольны крыж, харугвы і разам са свяшчэн-

нікам, які апранаўся ў жалобную рызу, ішлі на могілкі, спяваючы па дарозе святыя песні. На могілках кожны з сялян запальваў на магілах сваякоў і нават знаёмых нябожчыкаў, калі да іх некаму было прыходзіць, свечку і клаў велікоднае яйка. А пакуль псаломшчык спяваў «Вечную памяць», пераходзячы ад адной магілкі да другой, жанчыны чулліва і са шкадаваннем галасілі над захаваннямі родных людзей.

У многіх паветах Магілёўскай губерні на Радаўніцу да абеда займаліся звычайнымі гаспадарскімі справамі, але да паўдня ўсе работы заканчвалі. Нават калі здаралася, што ў гэты час былі каровы на пашы, то пастухі абавязкова прыганялі іх да паўдня дамоў. Сабраўшыся ў сваёй хаце, уся сям'я садзілася за абедзенны стол, за якім даядалі рэшту велікодных страў і пміналі памёршых. А затым пасля абеду ішлі на могілкі, дзе памінальная трапеза працягвалася. Абедалі тут звычайна на магіле найбольш паважанага члена свайго роду.

У цэнтральных паветах Віцебскай губерні могілкі ў першы раз вясною наведвалі ў вербную нядзелю, калі на магілу кожнаму нябожчыку свайго роду прыносілі і ўтырквалі галінку пасвячонай вярбы. У гэты ж час аглядалі магільныя насыпы і вызначалі, дзе і што патрэбна падправіць. Хадзілі туды і на другі дзень Вялікадня, каб пахрыстосавацца са сваімі нябожчыкамі і аднесці ім велікоднае яйка. У дзень Радаўніцы кожная гаспадыня рабіла двайны абед: для хатняга стала — юшку, клёцкі і куццю і для памінальнай трапезы на могілках — бліны, смажаныя бульбянікі, блінчыкі з тварагом і іншае печыва, а таксама рэшту велікоднага стала і абавязкова сыр, яйкі і гарэлку. Паабедаўшы ў сваёй хаце, маліліся перад абразамі, пасля чаго ўсе ці толькі старэйшыя члены сям'і выпраўляліся да месца спачывання памёршых.

У некаторых вёсках на Віленшчыне памінальны стол рабілі ў бліжэйшай да могілак хаце.

На такое агульнавясковае застолле збіраліся толькі тыя, чые родзічы былі пахаваны на гэтых могілках.

Сённяшні радаўнічны абрад памінання нябожчыкаў мала чым адрозніваецца ад тых, што запісаны ў мінулым стагоддзі на Беларусі. Гэтак жа напярэдадні свята родзічы памёршых прыводзяць у парадак магілы продкаў: абкладваюць іх дзёрнам, зверху пасыпаюць свежым жоўтым пяском, садзяць на магільных насыпах і вакол іх кветкі.

У дзень Радаўніцы, звычайна пасля поўдня, усе члены сям'і апранаюцца ў святочнае адзенне і ідуць на могілкі. Старэйшая з жанчын засцілае магілы сваіх памёршых продкаў светлымі абрусамі, на якія кладуць чырвоныя велікодныя яйкі, пячэнне, цукеркі. Надмагільныя крыжы абвязваюць белымі вышыванымі ручнікамі, а ў многіх мясцовасцях вешаюць на крыж невялікія вяночкі, зробленыя з яркіх штучных кветак.

Па просьбе сваякоў і за невялікую плату святар моліцца над магіламі нябожчыкаў «за спачын душ памёршых». У гэты ж час у многіх месцах можна пачуць галашэнні: гэта, прыпаўшы да магільных насыпаў, плачуць жанчыны:

Узнімiцеся, буйныя вецярочкі!
Развейцеся, жоўтыя пясочкі!
...Разнясіце, вецярочкі,
Маю пячаль па мамачцы,
Падніміце радзіцелку
З зямелькі сырой цяжанькай,
Разнясіце досачкі сасновыя,
Развяжыце ручкі яе белыя,
Адкрыйце вочкі яе ясныя,
Вярніце мне маю мамачку!..

У гэтых журботных радках, з не менш журботнай і характэрнай для іх мелодыкай, часам гучалі высокамастацкія ўзоры народнай паэзіі, прасякнутыя любоўю, глыбокімі пачуццямі шкадавання і роздумам пра чалавечы лёс.

Прыкладна каля трох гадзін дня пачынаецца абед. На адной з магіл выстаўляюцца прынесеныя

з дому стравы: мёд, тварог, бліны, рыба, каўбасы, мяса, яешня, а таксама пітво — гарэлка альбо віно. Калі ж на адных могілках пахавана некалькі родзічаў, то абедаюць штогадова па чарзе на кожнай магіле.

Пачынаючы рытуальную трапезу, клікаюць да сябе памёршых:

Святыя радзіцелі!
Хадзіце к нам хлеба-солі есці,
Старыя і маладыя, свае і чужыя!
К каму некаму прыходзіць —
Сядайце за наш стол!

Пры гэтым наўмысна праліваюць на магілу кожны з сваёй чаркі віно альбо гарэлку і лыжачку сыты — памінальна-абрадавай стравы, якую робяць з вады, мёду і дробна пакрышаных кавалачкаў здобнага печыва. Затым пачынаюць выпіваць і есці самі.

За радаўнічным абедам успамінаюць добрыя справы памёршых, расказваюць пра іх жыццё, характар, звычкі, узаемаадносіны ў сваім родавым калектыве. Для малодшых членаў сям'і падобныя ўспаміны з'яўляюцца своеасаблівым урокам па гісторыі свайго радаводу.

Пасля заканчэння абеду зноў звяртаюцца да нябожчыкаў:

Мае радзіцелі!
Выбачайце, не дзівіце,
Чым багаты, тым і рады!

Рэшту памінальных страў забіраюць з сабой дадому, але, як сведчаць этнаграфічныя матэрыялы, яшчэ ў пачатку нашага стагоддзя ўсё, што заставалася ад памінальнага стала, раздавалі жабракам і бедным людзям, якія прыходзілі ў гэты дзень на могілкі спяваць псалмы і маліцца Богу.

Завяршаецца дзень Радаўніцы часцей вячоркамі ці працягам святочнага стала дома ў коле сям'і альбо на агульным застоллі ў аднаго з членаў свайго роду.

Сёння некаторыя дзеянні гэтага абрадавага свята страцілі сваё першапачатковае значэнне, але, як бы там ні было, у гэты дзень мы ідзём да магіл блізкіх нам людзей. Ідзём, каб яшчэ раз схіліць галовы над іх прахам, выказаць сваю ўдзячнасць і падзяку папярэднікам свайго роду, нашым родапачынальнікам за іх справы, іх жыццё, іх след на роднай зямлі. Помніць аб іх — наша ганаровая справа. І дзень Радаўніцы з года ў год вяртае нас у гэтую святую Памяць, якая злучае ў адзіную повязь розныя пакаленні — адзыўшыя, цяперашнія і будучыя.

На Радаўніцу да абеда пашуць, па абедзе плачуць, а к вечару скачуць.

Цяпер на Радаўніцу на кладбішча ідуць стапком, а назад — рачком.

## А ЎСТАНЬ, МАЯ РОДНАЯ МАМУЛІЧКА...

*Галашэнне памінальнае па маці, на Радаўніцу.*

А ўстань, мая родная мамулічка!
А кукуе шэрая зязюлечка!
Зараслі ўсе сцежачкі-дарожачкі,
Дзе мая мамулька хадзіла
І свае сцежачкі таптала...
А куда ж мне паглядаці?
А адкуль цібе, мамулька, дажыдаці?
А ты ж міне адну гадавала,
А я цібе не сумела зберагчы...

(8-89-244-2, л. 10)

## А МАМУЛЕЧКА МАЯ РОДНАЯ...

*Галашэнне памінальнае па маці, на Радаўніцу.*

А мамулечка мая родная!
А ўстань, мамулічка, прачніся,

А ўстань, мамулічка, прабудзіся...
А адкуль мне ж цябе дажыдацькі?
У катора акошачка паглядацькі?
А каму ж ты нас пакінула?
А мне ж усе людцы чужыя...

(8-89-244-2, л. 8)

## ДА КАЛІ Ж ТЫ, МАЯ МАМКА, ЗА МНОЙ ПРЫЛЯЦІШ...

*Галашэнне памінальнае*
*па маці, на Радаўніцу.*

Да калі ж ты, мая мамка, за мной прыляціш?
А я ж ужо горачка нагыравалася,
А я ж ужо мучанькі навідзелась.
Прыляці, мая радзіцелька любая!
А за то ж я так мучаюсь?
А за што ж я такоя горачка век свой гарую?

(8-89-244-3, л. 39)




Штогод 7 красавіка праваслаўныя беларусы адзначаюць Благавешчанне (у каталікоў — 25 сакавіка). «На Благавешчанне дзеўка касу не пляце, птушка гнязда не ўе, курыца яйкі не нясе», — гавораць у народзе, надаючы гэтаму святу асаблівую павагу і набожнасць.

Свята Благавешчанне прыйшло ў наш край з прыняццем хрысціянства. Адпаведна хрысціянскай міфалогіі ў гэты дзень архангел Гаўрыіл па-

ведаміў Дзеве Марыі пра яе непарочнае зачацце і тое, што яна павінна нарадзіць Сына Усявышняга — Ісуса Хрыста. Вось як апавядае пра гэту вестку «Біблія»: «Не бойся, Марыя, бо ты знайшла ласку Божыю, і вось зачнеш у чрэве, і народзіш Сына, і дасі Яму імя Ісус. Ён будзе вялікі і назавецца Сынам Усявышняга, і дасць Яму Гасподзь Бог прэстол Давіда, бацькі Яго, і будзе царстваваць над домам Іакава вечна, і царству Яго не будзе канца».

Дарэчы, назва Благавешчанне, якая найбольш пашырана на Беларусі ў народным ужытку, увайшла ў беларускамоўны лексічны склад як запазычанне з рускай мовы, адкуль яно прынесена да нас праваслаўем. Этымалагічнае значэнне першай часткі слова «блага» ў беларускай мове азначае «дрэнна» (у даным выпадку — дрэнная вестка), таму побач з рускамоўнай назвай «Благавешчанне» ў некаторых рэгіёнах узніклі і яе ўласнабеларускія варыянты — Дабравешчанне, або Звеставанне. Апошняя назва найбольш пашырана ў беларусаў-каталікоў.

Дабравешчанскі дзень заўсёды радаваў беларускага селяніна. Да гэтага часу з зямлі не толькі сыходзіў снег, а і зямелька ўжо дастаткова праграваласся, каб можна было пачаць яе абрабляць і засяваць. Таму ў народным жыцці гэта свята звязвалася ў першую чаргу са штогадовымі клопатамі селяніна аб зямлі і будучым ураджаі. Нездарма ў песнях, што спявалі валачобнікі, Благавешчанне выразна падкрэслена як час, калі ўжо пара прыступаць да веснавых работ:

> ...Благавешчанне — араты на ніву,
> Араты на ніву, сядун на прызбу...

або

> Благавешчань зямлю сушыць,
> Зямлю сушыць, жыта рушыць...

І калі для некаторых рэгіёнаў нашага краю былі характэрны свае лакальныя каляндарныя перыяды пачатку гукання вясны, то з прыходам

Дабравешчання вясну на Беларусі пачыналі гукаць паўсюдна. Дзяўчаты і хлопцы збіраліся кучкамі на пагорках, на прызбах, каля лесу і запявалі:

Дабравешчанніка святое,
Пашлі сонейка залатое,
Каб зямелька адышла
Да вясна да нас прыйшла,
Каб распусціліся веточкі,
Каб раскраселіся кветачкі,
Каб лугі зазеляцеліся,
Нашы нівачкі адзеліся.

Напрыклад, у Чэрыкаўскім раёне Магілёўскай вобласці нават тады, калі Дабравешчанне прыпадала на Вялікі перадвелікодны пост і старэйшыя людзі забараняллі пець у вёсцы, каб не наклікаць якой бяды, моладзь збіралася за вёскай — на узвышшах, каля ракі, лесу і, запаліўшы невялікае вогнішча з прынесеных з дому снапкоў саломы, льняной кастры ці сухіх галінак дрэў, запявала першыя песні-вяснянкі (8-93-273-3, л. 13).

Акрамя агульнавядомых песенных матываў гукання вясны, у канву песень, што спявалі на Благавешчанне, нярэдка, як і ў прыведзеным ужо прыкладзе, упісваецца зачын, характэрны гэтаму дню: «А ў нас сягоння Благавешчанне, ох і я, леле, Благавескі дзень...» або «Сягодні ў нас Благавешчанне, ой-лі, ой, люлі, Благавешчанне...».

Цёплыя благавешчанскія дні і асушаныя пагоркі спрыялі ваджэнню дзявочых карагодаў, а лясныя пралескі («падснежнікі») дазвалялі завіць вяночкі, у якіх дзяўчаты выглядалі сапраўднымі вясняначкамі. Усё гэта надавала святкаванню вясны непаўторны каларыт, праз які сцвярджаліся вечная маладосць, прыгажосць і сіла як у прыродзе, так і ў чалавечым родзе.

Прылёт буслоў у народных уяўленнях атаясамліваўся з сапраўдным прыходам вясны і канчатковай перамогай яе над зімою і халадамі. І калі ў дзень першага вясенняга прысвятка Аўдакеі гаварылі: «На Аўдокі возьмецца бусел

у бокі», што азначала — збіраецца ляцець на Радзіму, то на Благавешчанне ён павінен быў з'явіцца каля свайго гнязда. А ў некаторых мясцовасцях нават верылі, што да гэтага дня бусліха адкладвае першае яйка ў сваім гняздзе. З надзеяй чакалі першую сустрэчу з буслом, бо той, хто першым у вёсцы ўбачыць яго ў палёце, усё лета будзе «лёгкі на ногі».

Многія благавешчанскія павер'і беларусаў звязаны з курынай гаспадаркай. Каб куры не бегалі ў агарод і не несліся ў невядомых гаспадарам гнёздах, напрыклад, у Старадарожскім раёне Мінскай вобласці, гаспадыня перад усходам сонца лавіла куру і тройчы абносіла яе вакол печы ці хлява, прыгаворваючы:

Дай, Божачка,
Каб як гэта печ (ці хлеў) стаіць,
Так і мае курачкі ў двары сядзелі
І ні ў свае, ні ў чужыя гароды не глядзелі!

Іншыя гаспадары з надзеяй засцерагчы свой і суседскі агарод ад курэй уставалі на Дабравешчанне да ўсходу сонца, бралі ў двары якуюнебудзь палку і, ідучы ўздоўж плоту, ударалі па ім гэтаю палкаю, прыгаворваючы тройчы: «Кіш у двор! Кіш у двор! Кіш у двор!» (8-93-270-2, л. 15).

Каб куры не адкладвалі яйкі дзе папала і не гублялі іх, гаспадыні не выносілі гэтым днём смецце з хаты, а змяталі яго ў пасудзіну і ставілі пад лаваю на куце. Верылі, што падобнае дзеянне паспрыяе таксама колькаснаму прыросту рознай птушкі ў гаспадарцы.

Ранняю вясною на Дабравешчанне дазвалялася выпускаць першы раз на пашу жывёлу. Але паколькі жывёла ўпершыню пасля ацёлу, ці, як гавораць сяляне, «з новым малаком», выходзіла за межы падвор'я, над ёю праводзілі некаторыя засцерагальныя рытуалы ад злых чараў ведзьмы. Асабліва баяліся, каб ведзьма не адабрала малако, для чаго ў варотах хлява клалі крапіву і зверху

8 Зак. 1339

пасыпалі вуголлямі з сваёй печы, праз якія карова павінна была перайсці, або замаўлялі яе.

Забаранялася да Благавешчання рабіць новую або рамантаваць старую агароджу ці пачынаць ворыва. Увогуле, гаварылі, што да гэтага дня «няможна чапаць маткі-зямлі». Падобныя дзеянні, як верылі нашы продкі, маглі выклікаць засуху і бясплоднасць на сялянскай ніве.

Як бачым, нешматлікія абрадавыя дзеянні, вераванні, прыкметы, звязаныя з благавешчанскім днём, адлюстроўваюць спрадвечныя мары беларуса-земляроба аб дабрабыце ў сваёй сям'і, у сваім родзе, сярод сваіх людзей. І нават благавешчанскія маленні ў царкве ці касцёле да Багоў былі прасякнуты надзеямі не толькі на духоўнае ачышчэнне, але і просьбамі аб хлебе «насушчным» і паўсядзённым, што ва ўсе часы прыдавала нашым продкам веру, сілу, надзею і ўпэўненасць у дні будучым.

З думаю аб чакаемым ураджаі, які залежаў у многім ад надвор'я, былі звязаны назіранні беларуса ў гэты дзень. Напрыклад, цёплае Благавешчанне абяцала марозную восень. Калі на Благавешчанне дождж — добра зародзіць хлебная ніва. Сухое Благавешчанне пагражала засухай улетку, а калі ж у гэты дзень ішоў снег, то, наадварот, лета будзе мокрае з частымі дажджамі. Зыходзячы са шматгадовых назіранняў за надвор'ем, гаварылі таксама, што благавешчанскі дзень абавязкова паўторыцца на Вялікдзень.

На Благавешчанне дзеўка касу не пляце, птушка гняздо не ўе, курыца яйкі не нясе.

Да Благавешчання зіму не лай і сані трымай.

На Юзэфа снег кажа: «Рушу», а на Звеставанне: «Ісці мушу».

На Благавешчанне ў звон, а із морквы дух вон.

На Мацея дарога пацее, на Сараки дрэвы ад-

пушчаюцца, на Аляксея рыба хвастом лёд ламае, а на Благавешчанне — бусел прылятае.

З благавешчанскага цяляці каровы не чакаці.

## СЯГОДНІ Ў НАС БЛАГАВЕШЧАННЕ...

*Вясенняя, на Благавешчанне.*

Сягодні ў нас Благавешчанне,
Ой-лі, ой, люлі, Благавешчань...

Нашым дзевачкам перамешчання*,
Ой-лі, ой, люлі, перамешчань...

Жытанезскія** дзевачкі, перайдзіця к нам,
Ой-лі, ой, люлі, перайдзіця...

А ў нас хлопчыкі дзешавы тавар,
Ой-лі, ой, люлі, дзешавы тав...

За Іваначку куль саломы,
Ой-лі, ой, люлі, куль сало...

За Вяцячку мех паловы,
Ой-лі, ой, люлі, мех пало...

Савіла вянок, да й пайшла ў танок,
Ой-лі, ой, люлі, да й пайшла ў тан...

Што і ў тым танку трох ізлюбіла,
Ой-лі, ой, люлі, трох ізлюбіл...

Трох ізлюбіла, ўсех надзяліла,
Ой-лі, ой, люлі, ўсех надзялі...

---

* Перамешчання — таму што з Благавешчання, як тлумачаць мясцовыя сляне, моладзь пераходзіць спаць з хаты ў клець.

** Жытанезскія дзевачкі — дзяўчаты з суседняй з Іванаўкай вёскі Жытанежжа.

Ой, Сярожку руцьвяны вянок,
Ой-лі, ой, люлі, руцьвяны вян...

А Васячку золат персцянёк,
Ой-лі, ой, люлі, золат персцян...

За Міцячку да й сама пайду,
Ой-лі, ой, люлі, да й сама пайд...

(8-94-285-1, л. 15).




Юраўскае свята ў народным календары адносіцца да вясенняга цыклу абрадаў і звычаяў. Яно прыпадае на 6 мая (у католікаў — 23 красавіка), якраз на той час, калі вясна на Беларусі апранае зямлю і ўвесь раслінны свет у зяляніну, а сонейка надзейна саграе зямельку сваім цяплом і ласкай.

Карані гэтага свята паходзяць яшчэ з язычніцкай рэлігіі, у якой хрысціянскаму вобразу Святога Юрыя па сваіх дзеяннях і прызначэнні

адпавядаў Бог Вялес — ахоўнік дамашняй жывёлы і дабрадзей у хатняй гаспадарцы, а таксама Ярыла, сын Лады і Даждзьбога, апякун урадлівасці і закаханых.

У гісторыі імя святога Юрыя рэальнае. На рубяжы III—IV стагоддзяў, калі вялася жорсткая барацьба з язычніцтвам за станаўленне хрысціянскай веры ў Еўропе, Юрый-Перамоганосец (Георгий Победоносец) — рымскі афіцэр быў пакараны смерцю за прыхільнасць да хрысціянскіх ідэй і іх прапаганду, за што быў кананізаваны новай рэлігіяй як вялікамучанік за яе святую справу. Яго імя і подзвігі дзеля хрысціянства сталі сусветнавядомымі.

Як воіну на працягу многіх стагоддзяў Юрыю-вялікамучаніку надавалася значэнне абаронцы ад розных «нячысцікаў», вызваліцеля палонных і заступніка войска. На многіх абразах ён намаляваны ў выглядзе воіна з кап'ём, вастрыём якога прыціскае да зямлі лютага змея. Дарэчы, гэты малюнак адлюстраваны на гістарычным гербе г. Масквы. На Беларусі ў гонар святога пабудаваны праваслаўныя храмы ў гарадах Мінску, Нясвіжы, Давыд-Гарадку, вёсках Альба, Яглевічы Івацэвіцкага раёна, Будча, Чудзін Ганцавіцкага раёна і многіх іншых населеных пунктах. У царскай Расіі за асаблівую воінскую доблесць і гераізм быў устаноўлены нагрудны знак — Георгіеўскі крыж, які лічыўся адной з вышэйшых тагачасных узнагарод.

У сённяшняй народнай міфалогіі Святы Юрый уяўляецца стаўленікам Бога сярод людзей, які быццам бы адмыкае прабуджаную пасля зімовага сну зямлю і пускае на яе расу, ад якой усё жывое на зямлі набірае рост і моц. Вось як падаецца гэта ўяўленне ў адной з песень Юраўскага цыкла:

Ты, Юр'я, Святы ключнік,
Сядлай каня варанога,
Едзь у поле чыстае,
Адамкні зямлю, пусці расу,
Пусці расу на ўсю вясну,

І густую, і частую,
І цёплую, і мокрую,
І на кожны цвет,
І на ўвесь белы свет.

Па аналогіі з хрысціянскімі паданнямі пра Юрыя-Перамоганосца ў народных уяўленнях Святы Юрый «замыкаў раты» ўсім звярам, ахоўваў статак, штодзень аглядаў каласістыя палі і засцерагаў іх ад розных прыродных стыхій.

Утылітарная сутнасць гэтага свята абумоўлена чыста гаспадарчымі патрэбамі: зелянела на лузе траўка і пара было выпускаць на пашу свойскую жывёлу, на сялянскай ніве дружна падаліся ў рост жыта і пшаніца — трэба было «праведаць ніўку», памаліцца ёй і Багам на багаты ўраджай, а зыходзячы са шматвяковых вераванняў продкаў, карысна было і чалавеку акрапіцца юраўскай расою, каб набрацца моцы і здароўя на ўвесь працоўны сялянскі год.

Для кожнага члена сям'і дзень Святога Юр'я пачынаўся з усходам сонейка. Да выгану жывёлы ў поле стараліся закончыць усе дамашнія работы. І як толькі пастушкі зайграюць у ражок, маладзіцы і старэйшыя жанчыны выходзілі ў двор, каб «правесці кароўку ў поле».

Першы выган кароў на пашу суправаджаўся рознымі абрадавымі дзеяннямі, накіраванымі на захаванне жывёлы ад звяроў і злых чараў мясцовых ведзьмакоў. З гэтай мэтай, выпускаючы карову на двор, на парозе ў хляве клалі крапіву, «дзядоўнік» (лапухі), сыпалі асвечаны мак. У двары тройчы абыходзілі «кароўку» са свечкай, хлебам, соллю і чырвоным яйкам, асвечаным на Вялікдзень. У многіх мясцовасцях у час такіх абходаў абкурвалі жывёлу дымам ад спальвання духмяных зёлак. Пры гэтым гаварылі:

З Богам, кароўка, на пашу!
Будзь здарова цэлы год,
Як зямля і лёд!

Каб карова не баялася «суроку і розных гадаў», у Чэрыкаўскім раёне Магілёўскай вобласці

на выхадзе з хлява клалі пілу зубамі да парога з прыгаворам:

С утрашняю зарою
Загаварыю скаціну,
Чорную шарсціну.
Як ету пілу
Нікому ні ўзяць
І ат етуль не падняць,
Так маю скаціну
Вачамі нікому ні браць!

Як тлумачаць мясцовыя сяляне: «Тры разы нада так сказаць і жэлацельна скаціну выпхнуць задам у калітку. Вот када ўжэ выганяеш яе з двара, дак штоб яна не йшла перадам, а задам» (8-93-273-1, л. 32).

На Старадарожчыне, выпраўляючы карову ў поле, таксама замаўлялі:

Ідзі, мая кароўка,
Ў зялёную дуброўку.
Каб пад сонейкам хадзіла,
Пад месячкам не блудзіла,
Шаўкову травіцу з'ядала,
Крынічную вадзіцу співала!
Прынясі, Божа, з поўнымі цыцамі,
З густым малачком.
Тваражок-тваражышча
На масліца біцца!

(8-93-270-1, л. 16)

Выганялі «кароўку» са двара абавязкова галінкаю вярбы, якую асвячалі ў царкве або касцёле ў Вербную нядзелю. У варотах на выхадзе на вуліцу таксама клалі замок ці сякеру, хлеб, соль і велікоднае яйка, праз якія жывёла павінна была перайсці.

У гэты ж дзень адорвалі пастушкоў салам, блінамі, яйкамі, зернем, гарэлкаю, зычылі ім добрага здароўя і наказвалі спраўна глядзець статак на працягу года. Нярэдка, сабраўшы добрую «займанку», пастушкі наладжвалі вечарам гулянне, таму ў многіх вёсках гэты дзень адзначаўся яшчэ як свята пастухоў.

Выгнаўшы жывёлу на пашу, кожны гаспадар ішоў з усёй сям'ёю на агледзіны ўласнай нівы. З сабою неслі выпечаны круглы хлеб, соль, гарэлку і іншыя пачастункі. Напрыклад, на Навагрудчыне, прыйшоўшы на мяжу сваёй нівы, гаспадар прыпадаў перад ёю на калена і, трымаючы ў руках хлеб-соль, вітаўся:

Добры дзень, ніва святая!
Віншуем з хлебам і соллю
І Святым Юр'ем!
Каб Бог і Юрый
Пацешылі надвор'ем,
Ураджаем і здароўем!

Затым усёй сям'ёй абыходзілі поле, пасля чаго тут жа каля жыта садзіліся снедаць.

На Палессі такі абрад праводзіўся больш складана. Напрыклад, у Жыткавіцкім раёне зранку на Юр'е збіраліся старэйшыя жанчыны з кожнай сям'і і спачатку абыходзілі з юраўскімі песнямі двары ў сваёй вёсцы. Гаспадары, надзяляючы іх пачастункамі, прыгаворвалі пры гэтым пажаданні на добрае лета і надвор'е, накшталт:

Вось Вам хлеба акрай,
Да дай, Бог,
Каб быў і пад кустом рай!

Затым удзельнікі такога рытуальнага шэсця ішлі да жытняга поля і вадзілі там карагоды. Аграрна-магічнае значэнне юраўскіх карагодаў выразна падкрэслена ў песнях карагодніц:

Дзе карагод ходзіць,
Там жыта добра родзіць...

або

...Дзе наша Юр'е хадзіла,
Там наша жыта ўрадзіла,
А дзе наша Юр'е юравала,
Там наша жыта красавала.

Рытуальнымі абыходамі на Юр'е сваёй нівы, падвор'я і ваджэннем карагодаў сяляне-беларусы

спадзяваліся засцерагчыся ў летні час ад пажараў, навальніц, граду («каб град не пабіў поле») і г. д.

У гэты ж ранак кожны імкнуўся абмачыцца Юраўскай расою, якая быццам бы давала чалавеку, як і ўсяму жываму на зямлі, здароўе і сілу. На поўдні Міншчыны пра гэты звычай гавораць і сёння: «Ідзём калаціць ро́су». І босыя бегаюць па траве каля жыта, ходзяць па жыту, нават качаюцца ў ім.

Заканчваліся ж агледзіны нівы і хаджэнне на Юраўскую расу гуляннем па лузе, побач з хлебным полем, на расістай Юраўскай траве. Засцілалі абрус, ставілі на яго гарэлку, клалі хлеб, бліны, яйкі, мяса, сала, каўбасы. Пасля добрага пачастунку дружна спявалі Юраўскія песні, расказвалі легенды і паданні пра Святога Юрыя, якіх дасюль таткова ведаюць у нашай староньцы. Меншыя дзеткі гулялі ў даганялкі, куляліся, качаліся па чыстай і расістай Юраўскай траве. Дзяўчаткі збіралі першыя веснавыя кветкі, завівалі і адзявалі на галаву прыгожыя вяночкі.

З Юраўскім днём у народзе звязаны многія прыкметы: глядзелі, ці схаваецца ў жыце варона, як схаваецца — добры будзе ўраджай, а не — чакалі «галодны год»; калі на Юр'я няма расы, то не будзе і ўраджаю; на Юр'е густы дождж — жыта ўродзіць густое і буйное; толькі ж накрапваючы дожджык у гэты дзень абяцаў, што каровы ўсё лета будуць даваць многа малака, бо будзе расці сакавітая і добрая трава ў лузе; як да Юр'ева дня вада ў рэках прыбывала, то чакалі гарачае лета з частымі дажджамі падчас сенакосу і ўборкі зерневых культур. Многія з падобных прыкмет зафіксаваны ў прыказках і прымаўках пра гэтае свята, якія да сённяшняга дня актыўна бытуюць у народзе.

**Да Юр'я павінна быць сена і ў дурня.**

**Калі на Стрэчанне певень пад страхою вады нап'ецца, то на Юр'е вол травы наесца.**

Юр'ева раса — не трэба каню аўса.

Калі на Юр'е будзе раса, хопіць коням аўса.

Як дождж на Юр'я, то будзе хлеб і ў дурня.

Калі прыйдзе Юры, не ўгледзіш у жыце куры.

Калі на Юр'я мароз, будзе добры авёс.

Калі на Юр'я мароз, дык сей на балоце авёс.

Юрый з цяплом, а Мікола з кармом.

Юрый з расой, а Мікола з сяўбой.

Юрый сказаў: «Жыта ўраджу», а Мікола: «Пачакай, пагляджу».

Як на Юр'я пагода, то на грэчку няўрода.

Два Юр'і і абодва дурні: адзін галодны, а другі халодны.

### ЮР'ЯВА МАЦІ...

*Вясенняя, на Юр'е.*

Юр'ява маці
Упроч пайшла,
Залаты ключы
Не знайшла.

— Юр'ява маці,
Вярніся,
Залатыя ключы
Знайшліся.

Будзем зямельку
Адмыкаць,
Будзем расіцу
Выпускаць.

Гэта расіца
Для кароў,
Гэта травіца
Для валоў.

(8-94-280-2, л. 32)

### МАЛЕНЬКАЯ ПЦІЧКА...

*Вясенняя, на Юр'е.*

Маленькая пцічка*
Вісока летае й —
Пад самыга й Бога,

* Кожны радок паўтараецца.

Пад Юр'я ж Святога.
— Аддай, Юр'я, ключы
Замкнуць люту зіму,
'Тамкнуць цёпла лета.

(8-94-282-1, л. 41)

## НЕ БУДЗІЦЯ МАЛАДУ...

*Вясенняя, на Юр'е, «калі хадзілі на Юраўскую расу».*

Не будзіця маладу
Рана утрам па ваду.

Эх! Вы тагда міня будзіця*,
Кагда солнышка взайдзёт.

Эх! Кагда солнышка взайдзёт,
Раса на землю ўпадзёт.

Эх! Раса на землю ўпадзёт,
Пастух выйдзя на лужок.

Эх! Пастух выйдзя на лужок,
Да й зайграе у ражок.

Эх! Выганяйце вы скаціну
На зялёную даліну.

Эх! На зялёную даліну,
На шыроку лугавіну.

Эх! Гоняць дзеўкі, гоняць бабы,
Гоняць малыя рэб'яты.

Эх! Гоняць стары старыкі,
Пажылыя ужыкі.

---

* Далей кожны куплет паўтараецца. Пры паўторы вокліч «Эх!» адсутнічае.

Эх! Як загналі стада ў луг,
Станавілісь дзеўкі ў круг.

Эх! Адна дзеўка весела
У кружок плясаць пайшла.

Эх! Яна пляша, рукой маша,
Пастушка к сібе зав'ёт:

Эх! — Хадзі, хадзі, пастушок,
Хадзі, міленькі дружок.

Эх! Каб часочак паплісаў
Усю б стада паціраў.

(8-93-270-1, л. 63)




Свята Мікола штогод прыпадае на 22 мая. Свяціцель Мікалай Цудатворац, як і Юрый, вельмі шануемы ў хрысціян-беларусаў святы. Не толькі ў мінулым, але і сёння шмат дзе ў хатах можна ўбачыць на куце абразы з яго лікам. У многіх беларускіх вёсках гэты дзень святкуецца як прэстольнае свята.

У хрысціянскай літаратуры імя Мікалая Цудатворца падаецца, як вялікага Божага ўгодніка, які прысвяціў сваё жыццё прапагандзе і распаў-

сюджванню хрысціянства ў Лікіі (на паўднёвым узбярэжжы Малаазійскага паўвострава) і барацьбе з язычніцтвам. Штогод 19 снежня царква адзначае нараджэнне свайго вялікага паплечніка, а 22 мая перанос яго мошчаў з кафедральнай царквы мястэчка Міры ў італьянскі горад Бар, дзе яны захоўваюцца і цяпер.

Увогуле, як сведчаць гістарычныя і краязнаўчыя звесткі, імя Свяціцеля Мікалая з асаблівай павагай ушаноўваецца не толькі ў беларусаў, а і ў суседніх усходнеславянскіх народаў. Яно ўвекавечана ў назвах сабораў, манастыроў, цэркваў у Кіеве, Смаленску, Пскове, Архангельску, Галічы, Табольску і іншых гарадах і мястэчках. Мікольскай называецца адна з галоўных вежаў Маскоўскага крамля. У народзе шматлікім абразам з яго лікам надаецца цудадзейная сіла выздараўліваць безнадзейна хворых, дапамагаць людзям у бядзе. Згодна хрысціянскіх паданняў, Святы Мікалай выратаваў нібыта ў канцы XIV стагоддзя ад нашэсця татар. У гонар гэтай падзеі прысвечаны абраз Свяціцеля Мікалая Мажайскага, копіі якога знаходзяцца ў шэрагу праваслаўных храмаў.

У сялянскім жыцці гэта было апошняе веснавое свята, з якога паўсюдна на Беларусі пачыналі пасяўную. Шматвекавыя назіранні за асаблівасцямі кліматычнай зоны нашага краю падказвалі земляробу, што паслямікольскія дні — гэта апошні рубеж, калі можна ўжо сеяць, садзіць ці перасаджваць нешта на агародзе. Сяляне звычайна апраўдваюць такое меркаванне тым, што «не будзе калі расці». Таму і павучаюць у народзе: «Прыйшоў Мікола — сей, не пытай ні ў кога». Але нават тады, калі вясна была ранняя і да гэтага часу пасяўную ў асноўным заканчвалі, то цёплалюбівыя культуры — грэчку, ячмень, гарох, агуркі, памідоры, перац і іншыя — раней мікольскіх дзён не высаджвалі, што адлюстравана і ў некаторых беларускіх прыказках: «Да Міколы не сей грэчкі, не стрыжы авечкі». Лічылі, што

Мікола прыносіць на зямлю сапраўднае цяпло, а «як няма да Міколы цяпла, то не чакай ад пагоды дабра», — заключаюць звычайна старэйшыя людзі.

Вядомы даследчык беларускай і славянскай міфалогіі Адам Кіркор лічыць прататыпам у язычніцкай рэлігіі хрысціянскаму Міколе Стрыбога — Бога вады і вятроў. З такім меркаваннем цяжка не пагадзіцца, таму што ў звычаях старажытных славян з гэтага часу перыядычна праводзіліся русаліі — маленні да Багоў неба аб дажджах, якія павінны былі спрыяць раслiннасці на сялянскіх нівах.

Аграрна-магічныя функцыі, якія надаваліся Святому Міколу, ярка апісаны ў валачобных песнях: «Святы Мікола — старая асоба, гарох сеець, па полі ходзіць, па полі ходзіць, жытца глядзіць: дзе вымакла, там падсушыць, дзе высахла, там падмочыць...». Ён жа «...стары сявец, ячмень сеіць, засяваіць...», «...па межах ходзіць, жыта родзіць...», «...жыта глядзіць: дробным дожджыкам прамачываіць, ціхім ветрыкам прасушываіць...», «...па межах ходзя і ўсё родзя, — і траву расціць, і скот пасціць...», «...па барах ходзіць, пчолы садзіць, пчолкі садзіць раістыя, раістыя, медзяністыя...».

На Міколу гулялі сваё свята конюхі. У большасці мясцовасцей з гэтага дня першы раз выганялі на начлег коней і валоў. Е. Р. Раманаў адзначае, што ў гэту ноч «канюшкі» акурвалі коней Іванаўскай травою — у народзе так называюць зёлкі, сабраныя на Купалле, каб мясцовыя ведзьмакі не зрабілі жывёле якой шкоды, а таксама абыходзілі вакол іх з яйкам ці качалі яйка па спіне і крыжы коней і валоў, каб іх не ўкралі ў час пашы зладзеі і не напалі на іх ваўкі. На наступны дзень такое яйка аддавалі жабракам.

Закончыўшы падобныя рытуалы, «канюшкі» выбіралі з свайго круга старасту і наладжвалі невялікую гулянку, якая ў народзе атрымала назву — свята конюхаў.

У гэты ж дзень у многіх беларускіх вёсачках рабіліся так званыя аброчныя абеды, правядзенне якіх, на думку вяскоўцаў, адводзіць ад вёскі і яе жыхароў рознага роду няшчасці.

Кожная гаспадыня варыла на абед боршч, смажыла пеўня, а ў посны дзень — рыбу з алеем, крутую кашу і ставіла на стол спіртныя напоі — гарэлку, віно, піва.

Зранку запрашалі ў хату святара, які праводзіў малебен і чытаў «акафіст Святому Мікалаю», а потым святар, члены сям'і і сваякі гаспадара разам садзіліся абедаць. Крыху пазней за той жа стол запрашалі жабракоў, бедных і адзінокіх людзей, калек і таксама шчодра частавалі іх.

На поўдні Беларусі ў межах сучаснай Брэстчыны і Гомельшчыны, дзе сеяць заканчвалі на некалькі дзён раней у параўнанні з іншымі рэгіёнамі нашага краю, праводзіліся комплексныя абрады асвячэння поля, коней і сялянскіх падвор'яў. Жыхарка вёскі Старая Алешня Рагачоўскага раёна Малалетнікава Надзея Раманаўна ўспамінае: «Яшчэ й пасля вайны (маецца на ўвазе Вялікая Айчынная вайна 1941—1945 гг. — *У. С.*) на Міколу прывожылі бацюшку ў дзярэўню. Хадзілі на поля, зводжылі коней там у табун. Бацюшка пасвіцаў коней, пасвіцаў жыта. Потым ішлі па дзярэўні: маладыя дзеўкі, каторыя йшчэ замужам не былі, няслі ікону Маці Божай, упірадзі ішоў бацюшка... Народ выходзіў на вуліцу, станавілі скамейкі, засцілалі белымі скацеркамі, станавілі вядро вады, салянку з соллю і лажылі пару яец. Бацюшка йшоў, маліўся Богу й пасвіцаў двары.

Прайшлі ўсю дзярэўню, а патом зазывалі бацюшку і етых дзіўчат, каторыя няслі ікону, у адну з хат. Дзелылі стол, угашчылі бацюшку і дзелалі абед там. ...Ета было толькі на Міколу» (8—94—280—2, л. 34).

Паэтычны цыкл мікольскіх песень у беларускім фальклоры невялікі. Ён характарызуецца ў асноў-

ным велічальна-заклінальнымі формамі, што ўказвае на яго вельмі старажытнае паходжанне:

Як пайшоў Мікола
У чыстае поле
Жыта аглядаці:
— Радзі, Божа, жыта
Густа, каласіста,
Ядром ядраністаǃ

або

...А радзі, Божа, ячмень,
Ды п'яныя піва!

А радзі, Божа, збожжа,
Каб жыць было можна!

Аграрна-магічная сутнасць Мікольскага свята праявілася і ў народных павер'ях і прыкметах. Калі на Міколу жывёле хапае травы дасыта, то яе хопіць і на ўсё лета. Калі жыта «выплыве» да Міколы — будзе добры ўмалот. Верылі, што святкаванні ў гонар Міколы засцерагаюць ад граду ў вясенне-летні перыяд. А яшчэ, зыходзячы са штогадовых назіранняў, гаварылі, што менавіта пачынаючы ад Міколы ажываюць камары і мошкі.

Да Міколы няма добрай дарогі ніколі.

Да Міколы няма дабра ніколі.

Май сена да Міколы, не бойся зімы ніколі.

На Міколу сена карове дай, ды і вілы схавай.

Веснавы Мікола каня абкорміць.

Юрый з цяплом, а Мікола з кармом.

Прыйшоў Мікола — сей, не пытай ні ў кога.

Па Міколе не сей аўса ніколі.

Да Міколы не сей грэчкі, не стрыжы авечкі.

Юрый сказаў: «Жыта ўраджу!», а Мікола: «Пачакай, пагляджу!».

Прыйшоў Мікола — высыпаў мошак з прыпола.

Юр'я пасе кароў, а Мікола коней.

Ніводнаму Міколе не вер ніколі.

Да Міколы няма зімы ніколі.

Мікола 22 мая — правае лета, Мікола 19 снежня — правая зіма.

Колькі адзін Мікола дасць снегу, столькі другі дасць травы.

Юрый мосціць, а Мікола гвоздзіць.

## А ХВАЛА ТАБЕ, БОЖА...

*Вясенняя, на Міколу.*

А хвала табе, Божа,
Што Міколу даждалі.

Што Міколу даждалі,
Свячу насукалі.

Свячу насукалі
Із ярыга воску.

Із ярыга воску,
З белыга кужалю.

А радзі, Божа, авёс,
Да на тонкай сцяблінi.

А радзі, Божа, пшонку,
Да на белу праскурку.

А радзі, Божа, ячмень,
Ды на п'яныя піва.

А радзі, Божа, збожжа,
Каб жыць было можна!

(8-91-258-А-3, л. 17)




На заканчэнне мая — першую палову чэрвеня прыпадае цэлы цыкл вясенніх свят і прысвяткаў, вядомых пад агульнаю і найбольш распаўсюджанай у беларусаў назваю — Тройца, якая адзначаецца на пяцідзесяты дзень пасля Вялікадня. Свята Тройца або, як яе яшчэ называюць у народзе, Сёмуха, Сёмік — сёмы тыдзень пасля Вялікадня мае хрысціянскае паходжанне і святкавалася ў гонар сашэсця Святога Духа на апосталаў, пасля чаго ім суджана было несці ў народ праўду пра вучэнне

Ісуса Хрыста і хрысціянскую рэлігію. Менавіта Бог-бацька, Бог-сын і Святы Дух і ўтвараюць святую тройцу, трыадзінства, якое прызнаецца ў хрысціянскім свеце як пачатак усіх пачаткаў.

Але нават і цяпер у народнай лексіцы захаваліся і іншыя назвы гэтых дзён — Зялёныя святкі, Зелянец, Граная «нядзеля», Клечальны, або Русальны, тыдзень, якія паходзяць з язычніцкай рэлігійнай плыні і звязаны з уяўленнямі нашых далёкіх продкаў аб прыродзе і ўвогуле акружаючым іх свеце. «Зелянец — вясне канец» — так здавён ахарактарызаваў чалавек гэтыя дні. Вясна ўступала свае правы лету, адсюль і назва Граны тыдзень (грань — мяжа паміж вясною і летам).

Нашы продкі заўсёды пільна назіралі за прыродай, адчувалі сябе часцінкай гэтай прыроды, усведамляючы залежнасць свайго жыцця і існавання на зямлі толькі ад яе. Таму, калі сонейка добра прагрэла сваім цяплом зямельку, упрыгожыла зелянінай палі і лясы, калі нарэшце была закончана пасяўная, трэба было памаліцца Багам, заручыцца іх падтрымкай і садзеяннем, каб, як апявалася ў траечных песнях, былі «годы добрыя», «жыта густое», «ячмень каласісты», «авёс расісты», «грэчка чорная», «капуста белая».

У язычніцкія часы многія рытуалы гэтага перыяду былі звязаны з ахвярапрынашэннямі і ўслаўленнямі Духаў раслiннасці і Багоў. Да нашага часу як рэлікт падобных рытуалаў на цэнтральным і заходнім Палессі захаваўся абрад ваджэння Куста, які прыпадае менавіта на траечны тыдзень. Моладзь пераважна дашлюбнага ўзросту упрыгожвае сваю равесніцу, маладую дзяўчыну, якой надаецца роля Куста, галінкамі клёну, ліпы, бярозкі і потым абыходзіць з ёю двары ў сваёй вёсцы з аграрна-велічальнымі і заклінальнымі песнямі.

Па сведчанні Л. Галембёўскага, у некаторых іншых мясцовасцях на выгане закапвалі зялёнае дрэўца, якое ўпрыгожвалі рознакаляровымі стужкамі. Потым, вылучыўшы з свайго круга прыго-

жую дзяўчыну, моладзь «убірала» яе: аздабляла галаву вяночкам з зелені і апранала ў сплеценую з бярозавых галінак «суkenку ў выглядзе плашча». Такая дзяўчына ўвасабляла сабою язычніцкую Багіню Маю. Разам з ёю спявалі і танцавалі вакол упрыгожанага дрэўца.

Згодна з народным календаром абрадавы комплекс траечных свят адзначаецца на працягу амаль двух тыдняў. У суботу перад Тройцаю спраўляюць траечныя (духаўскія, летнія) Дзяды: трэба сустрэцца з Духамі продкаў, пачаставаць іх, выказаць ім сваю любоў і падзяку, каб, як уяўлялі сабе беларусы, можна было спадзявацца на іхнюю дапамогу і спрыянне ў вясенне-летні перыяд у паўсядзённых гаспадарчых і земляробчых справах.

У гэты ж дзень упрыгожваюць зелянінай хату: знадворку і ўнутры абтыркваюць яе галінкамі бярозы, клёну, ясеню, граба, каліны, рабіны, ліпы і іншых дрэў. Гэты звычай называюць у народзе «вешаць май». Пазней засохлыя галінкі маю здымаюць і спальваюць на купальскіх вогнішчах, а ў тых мясцовасцях, дзе Купалле не адзначаецца, іх утыркваюць пад страхою хлява і захоўваюць да восені як сродак ад навальнічных пажараў і буры.

У Старадарожскім раёне ў вёсках, дзе не паляць купальскія агні, вечарам перад Тройцаю імкнуцца ўкрасці ў якога-небудзь гаспадара стары вулей. А на Тройцу вечарам яго спальваюць на выгане ці каля жыта. Вакол такога агня водзяць карагоды і ўстройваюць гулянні, падобныя да купальскіх. Прызначэнне рытуалу мясцовыя сяляне тлумачаць так: «Калі добры агонь, дык будуць пчолы радзіць і раіцца вельмі добра» (8-93-270-1, л. 20—21).

Яшчэ да сярэдзіны нашага стагоддзя ў нядзелю на Тройцу моладзь хадзіла ў лес завіваць вяночкі і куміцца. Вяночкі завівалі з галінак бярозы, чаромхі і пахучай зеляніны: аеру, букавіцы, любісціку, палыну і іншых раслін, што мелі культа-

вае значэнне ў славянскім побыце. Гэтыя абрадавыя дзеянні маюць на Беларусі шматлікія лакальныя асаблівасці.

У адных месцах колькасць вянкоў адпавядала колькасці ўхажораў, што заляцаліся да дзяўчыны, у другіх плялі вянкі адпаведна колькасці членаў сям'і, але кожны вяночак адпавядаў канкрэтнаму чалавеку. Вяночкі развешвалі ў лесе на бярозках і пакідалі там на ўвесь тыдзень. Вакол кожнай такой бярозкі вадзілі карагоды, спявалі песні:

Пойдзем, дзевачкі,
Мы ў гай гуляць,

Мы ў гай гуляць,
Вянкі завіваць.

А заўём вянкі,
Ды на ўсе святкі,

Ды на ўсе святкі,
На Духоўскія...

Для абрада кумавання завівалі вяршыні дзвюх бярозак, пераплятаці іх паміж сабою. Потым дзяўчаты ці маладзіцы разбіваліся па парах і, прайшоўшы пад гэтымі бярозкамі, абдымаліся і цалаваліся. Пакуміўшыся, станавіліся ў адзін вялікі карагод і спявалі траечныя песні:

Ты не радуйся, зелен дуб,
Не к табе ідзём — к бярозке,
Не цябе заўём — бярозку.
Заўём бярозку з сасёнкаю —
Звянчаем Сашачку з Алёнкаю.

Абрад кумавання, як бачна з апошніх радкоў песні, заключаў у сабе перадшлюбны акт, накіраваны на тое, каб падружыць хлопца з дзяўчынаю, «спараваць» іх. Па сведчанні Е. Р. Раманава, у Магілёўскай губерні дзяўчаты хадзілі на кумаванне з хлопцамі. Пасля абраду кумавання раскладалі вогнішча, ля якога частаваліся яешняю, блінамі, гарэлкаю і іншымі стравамі,

вадзілі карагоды каля агню, вакол бярозак, наладжвалі розныя гульні. Падобныя «баляванні» часам зацягваліся да самай поўначы.

Пастушкі ў дзень Тройцы завівалі вяночкі і вешалі іх на рогі каровам. Вечарам гаспадары за гэта надзялялі пастушкоў рознымі прысмакамі і гарэлкай.

У панядзелак траечнага тыдня адзначаецца сашэсце Святога Духа. Сяляне ў гэты дзень як раней, так і цяпер нясуць у царкву пахучыя кветкі і расліны, якія асвяцаюць і потым захоўваюць у сябе цэлы год. У Магілёўскай губерні, па звестках І. В. Рубаноўскага, такой раслінасцю, калі яна засыхала, акурвалі хаты і жывёлу, а калі набліжалася навальніца ці бура, то спальвалі галінкі духаўскіх траў на агні, «каб прагнаць буру».

У аўторак святкавалі «коньскі Вялікдзень»: гэты дзень на конях не працавалі, а ў канюшнях запальвалі свечкі «за іх здароўе».

У сераду на Палессі і ў некаторых пагранічных з ім раёнах Заходняй і Цэнтральнай Беларусі праводзілі рытуалы, звязаныя са здабываннем і ўшанаваннем агню, які, па ўяўленнях продкаў, быў дадзены ў карыстанне чалавеку Багамі і які мог стаць у яго «жытлее», як добрым, так і злосным, усёзнішчальным, што асаблівае значэнне мела непасрэдна ў летнія спякотныя і навальнічныя дні. Гэты ж дзень называлі яшчэ Градавая серада, у якую катэгарычна забаранялася працаваць, а праводзілі рытуалы і маленні да Багоў, каб град і навальніцы ў летні перыяд не нарабілі шкоды на сялянскіх палях.

У чацвер спраўлялі абрады выклікання дажджу, каб не было засухі летам. На Гомельшчыне маладыя людзі цешыліся, абліваючы адзін аднаго вадою. Гэты звычай так і называюць у народзе — абліваха.

У нядзелю хадзілі ў лес развіваць завітыя бярозкі і глядзець свае вяночкі, якія потым неслі да ракі ці возера і пускалі на ваду. Па вяночках

гадалі аб лёсе таго чалавека, на якога ён быў завіты: калі вяночак засох ці патанаў у вадзе, гэта прадказвала няшчасце, а чый вяночак быў зялёны і свежы і плыў па вадзе, таму выпадала спаўненне жаданняў і спрыянне ва ўсіх справах. Нярэдка па вяночках дзяўчаты гадалі аб уласным лёсе, аб будучым замужжы, аб каханні.

Вяночкі, карагоды, рознага віду рухі ў час танцаў (напрыклад, абыходы адзін аднаго) сімвалізавалі сабой магічны круг, які, на думку нашых папярэднікаў, павінен быў засцерагчы і засланіць чалавека і яго сям'ю і гаспадарку ад розных стыхій прыроды, злых чараў ведзьмакоў і здзекаў злых Духаў.

З траечнымі днямі ў народзе былі звязаны некаторыя павер'і і забароны: да Сёмухі нельга было рабіць бярозавыя венікі, на працягу траечнага тыдня нельга было гарадзіць плот ці рамантаваць бароны, каб «не радзілася хатняя жывёла выродлівага выгляду». Катэгарычна забаранялася працаваць у першыя тры дні Тройцы, а таксама хадзіць на працягу тыдня ў лес, купацца і г. д.

Траечныя абрады і рытуалы значна дапаўняе і надае ім эстэтычнае і мастацкае ўвасабленне песенная паэзія беларусаў гэтага перыяду. У траечных песнях на фоне мілагучнай і прыгожай мелодыкі перадаецца багатая гама вобразаў і харавства расквітнеўшай прыроды, любові чалавека да яе.

На Зелянец — вясны канец.

На Зелянец — хлебу канец.

Святая Тройца: пакуміліся, не сварыліся.

На Духа будзе цёпла і суха.

Да Святога Духа не скідай кажуха, а па Святым Дусе — у тым самым кажусе.

## ДЗЕЎКІ НА ТРОЙЦУ ВЯНКІ ВІЛІ...

*Траечная.*

Дзеўкі на Тройцу вянкі вілі*.
Ай, на Купала дывівалі,
Пры сваю долечку гадалі.
Калі ж ты, доля, шчаслівая,
Цвіці вяночык, як васілёчык,
Калі ж ты, доля, нішчасная,
Ссохні вяночык, як сухарочык.

(8-91-254-4, л. 6)

## НА ТЭЙ ЖА БОК ДУНАЙ-РЭЧКІ...

*Траечная.*

На тэй жа бок Дунай-рэчкі
Слабодка стаіць**.

Ні бальшыя, ні малыя —
Чатыры двары.

А ў тых дварах, чатырох дамах
Чатыры кумы.

— Вы, кумушкі, галубушкі,
Сястрыцы мае,

Як будзеце краскі рваці,
Нарвіце Вы мне.

Як будзеце вянкі віці,
Савіця Вы мне.

Як будзеце на Дунай пускаць,
Пусціця ж Вы мой.

---

* Кожны радок паўтараецца.
** Кожны куплет паўтараецца.

А ўсі ж вянкі паверх вады,
А мой на дно паў.

А ўсе дружкі з вайны прышлі,
А мой там прапаў.

Ва ўсіх вянках свечкі гараць,
А мой тут загас.

А ўсе ж дружкі з падаркамі,
А мой хоць бы так.

(8-91-254-2, л. 9)

## КАЛА САДЗІКУ...

*Траечная.*

Кала садзіку*
Там дарожачка ляжыць.

Па той дарозе
Да мой міленькі ішоў.

Ён ішоў, прайшоў,
Разгаварываў са мной:

— Ай, пайдзём, Маша,
А ў зялёны сад гуляць.

Ай, сарвём, Маша,
З адной яблыні цвяток.

Ай, спляцём, Маша,
На галаваньку вянок.

(8-92-266-3, л. 20)

## ВОЙ, НА ВЫГАНЕ, НА ПОПЛАВЕ...

*Траечная.*

Вой, на выгане, на поплаве,
Да стаяў калодзеж вады повен.

* Перпш радок у кожным куплеце паўтараецца.

Да стаяў калодзеж вады повен,
Пашла маці воду браці.

Пашла маці воду браці,
Вой, брала, брала, не набрала.

Вой, брала, брала, не набрала,
Стаўшы, слёзкамі далівала.

Стаўшы, слёзкамі далівала,
Хоць гадуй дочкі, не гадуй.

Хоць гадуй дочкі, не гадуй,
Не будзеш імі пасылаць.

Не будзеш імі пасылаць,
Будзя пасылаці чужа маць.

Будзя пасылаці чужа маць,
Будзя тваю дзяцінку праклінаць.

(8-93-270-1, л. 19)






Яшчэ і сёння амаль у кожнай вёсцы можна пачуць расказы старэйшых людзей пра русалак. «...А то былі шчэ русалкі. Сама голая, страшная, валасы доўгія ў яе — цягнуцца па гоні, і ў яе, кажуць, усё, як у чалавека. ...От тут на курганку рошча була, дак іх тут самае гульбішча було. Гулялі яны больш на гранай нядзелі. Дак возьме на бярозу ўзлезе, да за голючку валоссямі прывяжацца, да ўніз апусціцца, да й ка-

лышыцца і крычыць, да: уу-гу, уу-гу, уу-гу!». Так распавядае пра русалак паданне, запісанае ў вёсцы Балсуны былога Рагачоўскага павета.

Па ўяўленнях беларусаў, русалкі — гэта душы памёршых дзетак, якія былі нехрышчонымі, душы тапельцаў, а таксама людзей, загінуўшых на русальным тыдні. Яны быццам бы жывуць у рэках і азёрах, адкуль выходзяць адзін раз у год пасля Тройцы, і на працягу тыдня бавяцца, гуляюць на палях, у гаях, каля рэк і азёр. Гэты тыдзень так і называецца ў народным календары — русальны.

Сярод беларускіх абрадаў русальнага тыдня найбольш вядомыя ў наш час абрады провадаў русалкі, якія спраўлялі звычайна ў панядзелак пасля траечных дзён.

Зразумела, што вобраз русалкі быў міфічны, і ў абрадзе яе ролю выконвала адна з дзяўчат, на якую сяброўкі адзявалі прыгожыя вяночкі, вадзілі вакол яе карагоды, спявалі адпаведна русальныя песні:

Правяду русалку
Із бору да бору.

Із бору да бору
Ў зялёну дуброву.

У зялёну дуброву,
У ядраное жыта.

У ядраным жыці
Там русалцы жыці.

Добра пазабаўляўшыся з русалкаю, дзяўчаты ўстройвалі над ёю розыгрыш: адводзілі яе ў жыта, за скрыжаванне дарог, на вясковыя могілкі і, пакінуўшы там, уцякалі назад у вёску. Па звестках інфарматараў Е. Р. Раманава, выводзілі русалку за вёску не як звычайна, а «плятнём». Рабілася гэта так: «Дзве пярэднія дзеўкі стануць і паднімуць рукі, а самая задняя ідзе ім пад рукі і вядзе за сабой усіх прочых. Тады етыя пярэднія

паднімуць рукі, а ідуць ужэ тыя, што стаялі, — во й пляцень». Дзяўчына, якая выконвала ролю русалкі, у большасці выпадкаў гналася за дзяўчатамі і ўрэшце рэшт вярталася са сваімі равесніцамі назад у вёску. Ад падобных розыгрышаў русалак паходзіць і іншая назва гэтых абрадавых дзеянняў — Розыгры альбо Розгары.

Абрадавы комплекс провадаў русалкі вызначаецца парэгіянальнымі мясцовымі традыцыямі і звычаямі.

Напрыклад, у Гомельскім павеце найбольш рухавай дзяўчыне распускалі косы, здымалі з яе адзенне, прыкрыўшы толькі чым-небудзь плечы, і плялі з васількоў, хмелю, зорачак вялікі вянок. Абвівалі гэтым вянком усё цела дзяўчыны і вялі яе ў жыта. Гэта было рытуальнае шэсце, у час якога палілі агні, спявалі песні, барабанілі, ударaючы дошкай аб дошку, у заслонкі і інш. У жыта русалку ўпіхвалі сілай, зрывалі з яе вянок, разрывалі адзежыну, якая была на ёй, і ўцякалі. Дзяўчына-русалка голаю гналася за русальніцамі да самай вёскі, хлопаючы ў далоні і палохаючы іх рознымі воклічамі.

У іншых мясцовасцях Гомельшчыны рабілі чучала русалкі. Перш кожная дзяўчына пляла вянок, потым усе разам збіраліся ў дамоўленым месцы. Прыносілі туды невялікі куль саломы, перавязвалі яго ў некалькіх месцах чырвонымі старымі паясамі так, каб з камля атрымалася галава чучала, а калоссямі апускалі ўніз. Па баках з пучкоў саломы рабілі рукі, апраналі на галаву чапец, на тулава кароткі армяк, на шыю завязвалі чырвоную хустку і спераду падвязвалі чырвоны «хвартушок». Потым убіралі «русалку» вянкамі, сплеценымі з розных кветак, акрамя любісцiку, і хавалі яе дзе-небудзь да вечара. А калі зямлю акунаў прыцемак, дзяўчаты-русальніцы, а іх павінна было быць шэсць або дванаццаць, апраналі на галовы свае вяночкі, распускалі косы, бралі русальную ляльку пад рукі і ішлі з ёю «вадзіць танка». Пад поўнач адводзілі «русалку» ў жыта і пакідалі там.

У некаторых сёлах каля жыта ўвечары распальвалі агні. У час розыгрышу русалкі, калі яна ганялася за дзяўчатамі, тыя імкнуліся сарваць у яе з галавы вянок і ўкінуць яго ў агонь. На гэтым роля русалкі заканчвалася і ўсе разам гулялі ля вогнішча: пераскоквалі праз яго, спявалі песні, жартавалі.

У вёсцы Белая Сарока Нараўлянскага раёна вянкі плялі з дзікага хмелю і кожная дзяўчынарусальніца як засцярогу запіхвала за пояс за спіной галінку з асіны. Надвячоркам з русалкаю за вёскай наладжвалі гулянне, у час якога «кідалі ўгару вянкі і самі куляліся», а затым адводзілі яе на мясцовыя могілкі. Калі ж русальніцы вярталіся дадому, маладыя мужчыны перапынялі іх: перавязвалі вяроўкамі вуліцу, аблівалі вадой і г. д.

Значэнне падобных рытуалаў у народным побыце беларусаў выразна асэнсавана ў русальных песнях:

...Правяду русалку да ямкі,
А сама вярнуся да мамкі.

Вам, русалачкі, вяночкі,
А нам, маладым, сярпочкі.

Вам, русалачкі, у зямлі спаць,
А нам, маладым, жыта жаць.

Правяду русалачку, правяду,
Шчэ й асінкаю заламлю.

Русалка — дэманічная істота, якая ўзнікла ў свядомасці людзей з уяўленняў аб лёсе несвоечасова памёршых, чые душы пакінулі чалавечае цела, як тлумачаць вяскоўцы, «не па-божаску». Яе прысутнасць на зямлі — варожая чалавеку і небяспечная яму, бо, як апавядаюць і сёння ў нашым краі пра русалак, яны здольны заманьваць да сябе людзей і «стараюцца зашчакатаць» такіх бедалаг да смерці. Невыпадкова, што час знаходжання русалак сярод людзей абмежаваны ў народным календары толькі адным тыднем, пасля

чаго яны павінны «згінуць», каб не перашкаджаць паўсядзённаму жыццю і творчасці працоўнага чалавека.

У абрадах провадаў русалкі праявілася існасць спрадвечных паняццяў «жыццё — смерць — вечнасць». Зыходзячы з народных уяўленняў, «белы свет», які найбольш выразна асэнсаваны ў пахавальнай абраднасці, належаў жывым людзям. Гэта акрэсленая, абмежаваная прастора, у якой праяўляецца толькі жыццё. Астатняе ж — вечнасць, дзе існуе і прабывае ў розных формах усё, што выходзіць за рамкі паняцця жывога, — Багі, Духі, душы, нашы продкі, дэманы і г. д. Рытуал провадаў русалкі быў накіраваны менавіта на тое, каб вывесці яе, як істоту, варожую чалавеку, за мяжу жыцця, у свет вечнасці і бясконцасці, што вельмі напамінае ў гэтым сэнсе абрады провадаў нябожчыка на «той свет».

Больш таго, у гэты дзень праводзіліся магічныя абрады, накіраваныя на захаванне ўсяго жывога і абарону яго ад «нячыстай сілы», да якой адносілі і русалак. На Дубровеншчыне ў вёсках Баева, Волькава і іншых хадзілі праганяць русалак з жыта. Гэты абрад, які атрымаў тут назву Розгары, праводзіўся даволі своеасабліва. Да абеда ўсе працавалі, а ў абед мужчыны тапілі лазню, у якой мыліся толькі жанчыны. Памыўшыся, маладзіцы прыгожа апраналіся і гуртам ішлі да жытняга поля. Старэйшая з жанчын засцілала на траве белы абрус, на які ставілі гарэлку і пачастункі, прынесеныя з дому: мяса, каўбасу, сыр, бліны і іншыя. Выпіўшы па чарцы гарэлкі, спявалі русальныя песні, танцавалі і вадзілі карагоды, а на заканчэнне ішлі качацца ў жыта — ганяць русалак, «каб не хаваліся ў жыце» і «каб добра жыта каласілася». Качаліся абавязкова папарна, іншыя бегалі па жыце, шумелі — «трэба ж ізгнаць русалак».

Потым зноў садзіліся вакол абруса, працягвалі ўзаемнае частаванне і ўбіралі жанчыну-ўдаву ў вянок з крапівы.

Закончыўшы трапезу, усе ўдзельніцы абраду ішлі ў вёску. Калі ж па дарозе сустракаўся мужчына, яго акружалі і пад пагрозай зняць штаны прымушалі пацалавацца з жанчынай у вянку з крапівы. Вядома, каб не пастрыкацца, мужчына вымушаны быў адкупляцца ад маладзіц грашыма ці нейкім пачастункам. Часам, заўважыўшы рытуальніц, мужчыны імкнуліся ўцячы ад іх, але маладзіцы ганяліся за такімі ўцекачамі, пакуль не зловяць (8-94-280-1, л. 5).

Не выключана, што ў больш даўнія часы такая жанчына-ўдава выконвала ў абрадзе ролю жрыцы, якой пасля выгнання русалак з жыта надавалася значэнне ахоўніцы не толькі ад русалак, а ўвогуле, як гавораць у народзе, «ад рознай нечысці». На падобную думку наводзіць выкарыстанне ў абрадзе такіх атрыбутаў ахоўнай магіі, як крапіва, фал (у даным выпадку імкненне рытуальніц зняць з мужчыны менавіта штаны) і выкуп, які напамінае ахвяраванне жрыцы і рытуальніцам грашыма і ежай. А неабходнасць адпужаць «нячыстую сілу» дыктаваў сам час, калі сялянская праца праходзіла ў асноўным на полі, у лесе, на лузе.

Сабраўшы добры выкуп ад мужчын, жанчыны збіраліся ў адну з хат, дзе рытуальнае застолле працягвалася.

Сёння падобны рытуал на Дубровеншчыне напамінае звычайную вечарынку, на якую прыходзяць да жанчын мужчыны, запрашаюць музыку і гуляюць разам — частуюцца на агульным застоллі, спяваюць песні, танцуюць.

Часам напярэдадні, як і ў мінулыя часы, гуляюць на лузе каля жыта, а потым пераапранаюць у «жаніха» і «нявесту» двух жанчын: адной вянчаюць галаву вянком з крапівы — гэта «маладая», а другой — з дзядоўніка (лапуховых кветак), а таксама падмалёўваюць ёй вусы і адзяваюць штаны — гэта «малады». «Маладых» водзяць па вёсцы, а сустрэчных мужчын пры-

мушаюць віншаваць і цалаваць «маладых» або плаціць выкуп. Але гэта ўжо праява нашага часу, дзе відавочны больш гульнёвы і забаўляльна-пацяшальны сэнс старажытнага рытуалу.

«Жывому — жывое, а мёртваму — мёртвае» — заключае народная мудрасць. Асэнсоўваючы свет, чалавек надумаў сабе мноства міфічных істот, падобных да русалак. У барацьбе з імі за выжыванне і сваё права існаваць ім жа створана не менш магічных рытуалаў і дзеянняў, якія выражалі яго волю і імкненне да жыцця. У абрадах провадаў русалак гэта барацьба набывае як міфічны, так і гарманічны, жыццясцвярджальны сэнс.

З русальным тыднем у народзе звязаны некаторыя перасцярогі, у першую чаргу ахоўнага характару: забаранялі купацца, хадзіць у лес, да возера, ракі, «каб не забралі русалкі», страшылі «тучніцай» — воўчай зграяй, якая быццам бы ўвесь тыдзень гуляе ў лесе і полі. Сярод іншых павер'яў найбольш пашыранымі былі наступныя: у аўторак кожная дзяўчына ішла ў жыта, знаходзіла свой вянок і прыносіла на агарод, дзе былі градкі з капустай. Вянок разрывалі і кідалі паміж капусты, каб не было чарвей. На русальным тыдні нельга было пачынаць якую-небудзь справу, забаранялі гарадзіць плот, рабіць бароны, плесці.

У беларускім народным календары русальныя песні завяршаюць вясенні цыкл песеннай паэзіі.

## ПРАВЯДУ РУСАЛКУ ЗА ГОРУ...

*Вясенняя, на русальным тыдні.*

Правяду русалку за гору,
Сама вярнуся дадому.

Правяду русалку ў цёмны бор,
Сама вярнуся ў таткаў двор.

Правяду русалку да мяжы,
Сама вярнуся да дзяжы.

Правяду русалку да ямкі,
А сама вярнуся да мамкі.

Вам, русалачкі, вяночкі,
А нам, маладым, сярпочкі.

Вам, русалачкі, у зямлі спаць,
А нам, маладым, жыта жаць.

Правяду русалку, правяду,
Шчэ й асінкаю заламлю.

(8-94-287-1, л. 26)

## РАНО, РАНО, ДА СЫЙДУ НА ГОРУ...

*Вясенняя, на русальным тыдні.*

Рано, рано,
Да сыйду на гору,
Да сыйду на гору,
Го-о-о-о!

Рано, рано,
Да ўдару ў далоні,
Да ўдару ў далоні,
Го-о-о-о!

Рано, рано,
Штоб персні звінелі,
Штоб персні звінелі,
Го-о-о-о!

Рано, рано,
Штоб русалкі чулі,
Штоб русалкі чулі,
Го-о-о-о!

Рано, рано,
Штоб нас пахвалілі,
Штоб нас пахвалілі,
Го-о-о-о!

(8-94-287-1, л. 25)

## НА ГРАНОЙ НЯДЗЕЛІ...

*Вясенняя, «на Граной пелі...»*

На граной нядзелі
Русалкі сядзелі,
Эй, рана-рана,
Русалкі сядзел...

Русалкі сядзелі,
На дзевак глядзелі,
Эй, рана-рана,
На дзевак глядзел...

Залётная пташка,
Ты ляці да мора,
Эй, рана-рана,
Ты ляці да мор...

Паслушай-ка, пташка,
Што там Бог гаворя,
Эй, рана-рана,
Што там Бог гаворь...

А там Бог гаворя:
— Буду піва варыць,
Эй, рана-рана,
Буду піва варь...

Буду піва варыць,
Буду сына жаніць,
Эй, рана-рана,
Буду сына жань...

Буду сына жаніць,
Ў Іллі дачку браці,
Эй, рана-рана,
Ў Іллі дачку бра...

Толькі Бог з-за горкі,
Дак Ілля ў ладонькі,
Эй, рана-рана,
Дак Ілля ў ладонь...

Дак Ілля ў ладонькі:
— Не 'ддам свае донькі,
Эй, рана-рана,
Не 'ддам свае донькі.

(8-96-295-1, л. 15)




Купалле — язычніцкае свята ў гонар летняга сонцастаяння, найвышэйшага росквіту прыроды і ўшанавання вады. Адзначаецца яно ў ноч з 23 на 24 чэрвеня ў католікаў і з 6 на 7 ліпеня ў праваслаўных беларусаў.

У хрысціянстве адпаведна на 24 чэрвеня і 7 ліпеня прыпадае дзень нараджэння Прарока Івана

Прадцечы, якому суджана было ахрысціць у рацэ Іардан Сына Божага Ісуса Хрыста. На працягу апошняга тысячагоддзя на падставе падзей, звязаных з імем «хрысціцеля Божага Іаана», у больш моцных царкоўных прыходах замацаваліся новыя варыянты назваў да язычніцкага Купалля, але ўжо з хрысціянскім адценнем — Іван Купала або Ян, Іванаў дзень.

Ад Каляд і да Купалля сонца ўвесь час было ў стадыі ўзыходжання: павялічваўся дзень, саграваласяя зямля, адраджалася прырода. Нарэшце, у дні летняга сонцастаяння ўсё гэта дасягала свайго найвышэйшага апагея. Да гэтага ж часу выраслі і адцвілі на сялянскіх палях жыта, пшаніца, грэчка, проса, лён, бульба і іншыя культуры, закончыўся прыплод жывёлы. Здабыткі новага года станавіліся відавочнымі, за што, як гавораць у народзе, «і хваліць Бога» або «дзякуй Богу». У купальскіх абрадах і рытуалах чалавек, з аднаго боку, выказваў падзяку Агню, Вадзе і Зямлі, што абагаўляліся ў нашых язычніцкіх продкаў, і прыносіў ім розныя ахвяраванні, часцей у выглядзе расліннасці ці прадуктаў харчавання, выраблены з яе, а з другога — сваім вяселлем і радасцю выказваў аднадушнае спалучэнне са станам прыроды, яе найвышэйшым росквітам і зямной прыгажосцю.

Купальскае свята практычна пачыналася з другой паловы дня 6 ліпеня дашлюбнай моладдзю. Дзяўчаты збіраліся кучкамі і ішлі да жытняга поля збіраць кветкі і завіваць вяночкі. Прычым, як, напрыклад, на Дубровеншчыне, кветкі збіралі з розных палёў, што адносіліся да суседніх вёсак. Па бытуючых павер'ях, такім чынам можна было заманіць да сябе жаніхоў з гэтых вёсак. Дубровенскія бабулькі — колішнія прыгажуні ўспамінаюць, што часам замест кветак «сабіралі жыта з каждага поля, з каждай дзярэўні, стараліся, каб хлопцы з чужых дзеравень да нас прыходзілі гуляць» (8-91-258-А-3, л. 13).

Хлопцы рыхтавалі месца для купальскага во-

гнішча, якое рабілі звычайна на скрыжаванні дарог, на мастах, беразе рэчкі або возера ці на пагорках. Закопвалі ў зямлю «дзябёлы» шэст або слуп, на вяршыні якога замацоўвалі ў гарызантальнай плоскасці з'езджанае і, ад чаго зразумела, добра прамасленае кола ад калёс. Ад кола па слупу ўніз абмотвалі таксама прамасленую вяроўку ці скручаны з саломы або льняной кудзелі кужаль. Знізу пад слуп зносілі ад кожнага двара і складалі ў кучу «май» — засохлыя галінкі дрэў, якія вешалі ў хаце і вакол яе на Тройцу.

З надыходам вечара, калі сонейка пачынала садзіцца за гарызонт, у кожнай акрузе наваколле напаўнялася мелодыямі купальскіх песень. Гэта дзяўчаты, «убраўшы» свае галоўкі вяночкамі, ішлі з поля да месца купальскага агню:

Божа наш, ой, месяцу, месяцу,
Да ўзыдзі раненька, Божа наш.
Божа наш, да ўзыдзі раненька,
Развядзі купаллейка, Божа наш.
Божа наш, дзевачкам пяяннейка,
Хлопчыкам гуляннейка, Божа наш.

У песні невыпадкова моладзь звяртаецца да месяца і Бога з просьбай развесці купальскі агонь. У старажытныя часы агонь лічыўся Божым дарам чалавеку, яго здабывалі трэннем адна аб адну дзвюх сухіх палак ці пазней з дапамогай розных прыстасаванняў. Такі агонь называлі свяшчэнным, а яго здабыванне суправаджалася рознымі магічнымі рытуаламі, якія праводзіў язычніцкі святар. Падобная традыцыя здабычы агню захоўвалася ў купальскай абраднасці аж да XIX стагоддзя.

Як толькі сонейка поўнасцю хавалася за гарызонт, запальвалі «май». Ад сухіх галінак агонь па кужалю або вяроўцы, намотанай на слуп, вельмі хутка перабіраўся да кола, якое і формай і размяшчэннем у прасторы сімвалізавала і як бы працягвала функцыі сонца на зямлі ў гэту ноч.

На Беларусі вядомы і іншыя варыянты распальвання купальскіх агнёў: падпальваюць у лесе ёлку, на вяршыню якой часам зацягваюць кола, раскладваюць вогнішчы на вуліцы, насупраць кожнай хаты, замест кола прывязваюць да слупа і спальваюць бочкі з-пад дзёгцю ці смалы, паляць аўтамабільныя шыны, што практыкуецца ўжо ў наш час, і г. д.

Вакол агню дзяўчаты вадзілі карагоды, спявалі купальскія песні. Хлопцы абавязкова наладжвалі гульні з пераскокваннем праз агонь. Агонь павінен быў, на думку нашых продкаў, паспрыяць ачышчэнню душы чалавека за дапушчаныя грахі, папярэдзіць або зняць з чалавека ўсякія злыя чары і хваробы, а таксама дапамагчы ў здзяйсненні задуманага. На падставе апошняга верavання, хлопец і дзяўчына, якія кахаліся, баючыся, каб іх не разлучылі, пераскоквалі праз агонь удвух, узяўшыся за рукі.

На заканчэнне гульняў каля агню моладзь пускала на ваду вяночкі, на якія, як і ў траечных гаданнях, задумвалі на будучае свайго роду і лёсу. Але ў адрозненне ад гаданняў на траечных вянках, як сведчаць песенныя крыніцы, у купальскі вяночак унутры рабілі перапляценне са сцяблінак лёну або жыта і ставілі туды свечачку, якую запальвалі ад купальскага вогнішча.

З нецярпеннем чакалі ў гэту ноч раніцы, калі пачынала ўзыходзіць сонца, каб паглядзець, як яно «грае». Сонца нібыта ў купальскі ранак пераліваецца рознымі колерамі, «гуляе і скача». Узыход сонца сустракалі адпаведнымі песнямі:

А на Купалу
Рана сонца йграла,
На добрыя годы,
На цёплыя росы,
На хлебы-ўраджаі...

Ой, рана-рана на Яна
Да хараша сонейка гуляла,
І зямля стагнала з Купала,
Дарожка звінела ад песен...

З Купаллем звязваліся ўяўленні, як аб характэрнай часавай мяжы. Падобна таму, як з пачаткам павелічэння дня і змяншэння ночы пасля Каляд уяўлялася адраджэнне да жыцця Сонца і добрых Духаў, так і цяпер, калі пасля летняга сонцастаяння ноч пакрыху пачынала павялічвацца, чалавек звязваў з гэтай прыроднай з'явай пачатак вяртання да жыцця злых Духаў цемры і холаду. Невыпадкова, што з купальскай ноччу на Беларусі звязаны самыя неверагодныя ўяўленні аб актывізацыі дзеянняў рознай «нечысці» — чарцей, Бабы Ягі, д'яблаў, пярэваратняў і, што асабліва характэрна для беларускай міфалогіі, ведзьмаў.

У самых захапляючых купальскіх сюжэтах расказваецца аб пераўтварэнні ў гэту ноч ведзьмы ў жабу, мыш, яшчарыцу, якая ў такім выглядзе прабіраецца ў хлеў, каб адабраць у каровы малако, зрабіць заломы ў жыце.

Многа ў нашым краі бытуе паданняў пра ведзьму. Паводле Ю. Крачкоўскага, у Брэсцкім, Слонімскім, Вілейскім, Дзісненскім, Навагрудскім і Барысаўскім паветах было шырока вядома паданне наступнага зместу: «У дзень Іаана Прадцечы сяляне наказваюць пастухам, каб на гэты раз яны не пераганялі сваёй жывёлы «праз мяжу», г. зн. праз тую мяжу, якая аддзяляе палі адной вёскі ад другой: там, гавораць, збіраюцца ведзьмы, пераварочваюцца ў жаб і, падпоўзшы пад кароў, адбіраюць малако. Аднойчы дамовіліся некалькі хлапчукоў не паслухаць сваіх гаспадароў і пагнаць жывёлу ў забароненае месца «за мяжу». Адзін хлопчык, назіраючы за жывёлай, заўважыў, што паміж каровамі поўзае вялізная жаба. Ён зразумеў, што гэта ведзьма, узяў палку, завастрыў яе, быццам долата, і, наблізіўшыся да жабы, сказаў: «Ах ты, ведзьма, ты прыйшла за малаком да маіх кароў, вось я цябе пачастую!» Ён прыцэліўся і так лоўка стукнуў па жабе палкаю, што адсек ёй пярэднюю лапу. Параненая жаба запішчала і папаўзла без нагі. Хлопчык расказаў

аб гэтай гісторыі сваім равеснікам. Яны пасмяяліся, пажартавалі — на гэтым усё, відаць, і закончылася б. Але калі гэты хлопчык вярнуўся вечарам з жывёлай дадому, то тут жа яму сказалі, што нядаўна хтосьці яго хроснай маці адсек руку. Успомніўся хлопчыку той выпадак, і ён тут жа паспяшаўся наведаць сваю хросную маці. Не паспеў ён уступіць у хату, як старая, сабраўшы апошнія свае сілы, схапіла качаргу і здаровай рукою шарахнула малому па галаве. «Ах ты, шалун, неслух, — сказала яна, — ты прыйшоў яшчэ сюды здзекавацца нада мною? З-за цябе я адыходжу на той свет». Усе, хто прысутнічаў, былі здзіўлены падобным відовішчам і прасілі хлопчыка растлумачыць ім прычыну такога прыёму яго хроснаю маці. Хлопчык, зразумела, расказаў, што здарылася ў полі з несапраўднай жабай. Хатнія даведаліся, што была ў іх за старая. Хутка яна сканала, а паданне пра яе захавалася»*.

Шумам і песнямі, якія спявалі дзяўчаты каля вогнішча, каля жыта, на полі, палохалі ведзьму, праганялі яе з поля. З гэтай жа мэтай кідалі ў жыта галавешкі ад купальскага вогнішча, абтырквалі поле асінавымі галінкамі, апырсквалі святою вадой. Лічылі, што ў гэту ноч Прарок Ілля дапамагае людзям у барацьбе з ведзьмамі і засцерагае ад іх злых чараў сялянскія палі. Такія вераванні зафіксаваны ў сюжэтыцы многіх купальскіх песен:

... — Хадзі, Ілля, на Купалу,
Хадзі, Ілля, агню класці.
— Я не пайду на Купалу,
Да пайду я ў чыста поле,
Да сяду я на мяжыцы
Сцерагчы жыта і пшаніцы
Ад тае ведзьмы-чараўніцы,
Каб яна па полю не хадзіла
І каб людзям шкоды не рабіла,
Каб раннюю расу не абганяла
І каб ад людзей спору не 'дбірала.

* Цыт. па кн.: Беларуская народная творчасць. Земляробчы каляндар: Абрады і звычаі / Уклад. А. І. Гурскі. Мінск, 1990. С. 224 — 225.

У некаторых рэгіёнах Беларусі на купальскім вогнішчы «спальвалі ведзьму». Вось як гэты рытуал захаваўся ў вёсцы Мілашэвічы Лельчыцкага раёна Гомельскай вобласці: «От мы збіраімса дзіўчат п'яць-шэсць і пойдом надзіром коноплі. Звяжам тыя нітачкі, да перэснуём, да й убіром, эту ўжэ ведзьму зробім, ляльку такую. Убіром яе: прывяжам постолы, што носілі, такіе во стопкі, што выкідалі. Возьмем да попрывязваем ўкружкі тыя постолы, кругом тыя лялькі повешаем і вжэ огонь запалім і яе ў агонь і вкружкі огня вжэ ходым і співаем:

А на Йвана Купала
Ведзьма зелле капала,
Не так зелле, як пятрушку,
Возьме чорт яе душку...»

(8-94-280-2, л. 25)

Ва ўсходніх рэгіёнах Беларусі (Слаўгарадскі, Чэрыкаўскі, Магілёўскі раёны) функцыі ведзьмы надаваліся змеям, якім упадаблялі ўсё жывое, што маглі сустрэць у купальскую ноч на зямлі. «Мыш, жаба якая, нада яе паймаць і ўкінуць ў цяпло жывую. Ета называецца змяя. Змяёныша сцераглі, што раньшэ адбіралі хлеб... Былі раньшэ такія бабкі ці дзяды, каторыя знали. Дык рядам будзе жыта: наша будзе пустое, а тоя — не падняць. Вот хадзілі сцераглі ету змяю» (8-94-282-1, л. 48).

Шматлікія паданні беларускай зямлі звязаны таксама з кветкай папараць, якая нібыта зацвітае на Купалле ў поўнач. Той, хто яе мог адшукаць і сарваць, станавіўся самым багатым чалавекам і валодаў незвычайнымі здольнасцямі, напрыклад разумеў мову траў, дрэў, вады, звяроў, хатняй жывёлы і інш. Як зазначае няўрымслівы і напаслядоўны даследчык купальскай традыцыйнай абраднасці А. С. Ліс, легенда пра папараць-кветку ў беларусаў «паэтычна ўвасобіла мары

старажытнага чалавека аб пазнанні зямных таямніц, жаданне стаць празорлівым і шчаслівым»*.

З нецярпеннем чакалі купальскай ночы шукальнікі схаваных у зямлі скарбаў. Верылі, што над кожным з іх апоўначы гарыць чароўны агеньчык.

Прыкметы і гаданні ў купальскую ноч і напярэдадні яе характарызаваліся аграрна- і любоўна-магічнымі матывамі. Напрыклад, пераскоквалі праз агонь на конях, каб зберагчы іх ад чараў злых Духаў і хвароб; вечарам і ноччу збіралі лекавыя травы, што называюць у народзе «святаянскімі зёлкамі», якія выкарыстоўваюцца пры лячэнні розных хвароб і правядзенні ачышчальных рытуалаў; у сям'і, дзе быў хворы, утырквалі на стыку бярвенняў хаты кветкі купалкі: калі на наступны дзень кветкі бачылі звялымі, лічылі, што вельмі хутка ён пойдзе на той свет; закідвалі на стрэхі хат, дзе жыла дашлюбная моладзь, вянкі з купальскіх кветак, каб хлопец або дзяўчына на працягу года «былі ў пары»; дзяўчаты кідалі купальскія вянкі ў вогнішча, чый хутчэй згараў, тая дзяўчына раней за іншых выйдзе замуж, а калі хлопец здолее выхапіць чый вянок з полымя, то тую дзяўчыну лічылі яго суджанай; завівалі касу з жытніх каласоў, што раслі на полі, чыя каса хутчэй разаўецца, тая дзяўчына раней і замуж выйдзе. Прыкмячалі таксама, дзе ля дарогі расце трыпутнік. Апоўначы дзяўчына прыходзіла да таго месца, зрывала адзін ліст расліны і паўтарала «тройчы без перадыху»:

Трыпутнік, трыпутнік,
Ты сядзіш пры дарозе,
Ты бачыш старога, малога,
Ці бачыў майго мілога?

---

* Цыт па кн.: Беларуская народная творчасць. Земляробчы каляндар: Абрады і звычаі / Уклад. А. І. Гурскі. Мінск, 1990. С. 58.

Такі ліст клалі пад падушку і чакалі, хто сасніцца ў сне. Па звестках Г. В. Таўлай, на Магілёўшчыне ў купальскую ноч гукалі сваю долю: «Доля мая, доля! Адгукніся мне! Гу-у!». З якога боку чулася рэха, у той бок дзяўчына і замуж пойдзе.

У Чэрыкаўскім раёне Магілёўскай вобласці, каб у каровы было «жырнае малако», на Купалу збіралі браткі і давалі з'есці жывёле. З гэтай жа мэтай, а таксама, «каб кароўка давала многа малака, ...каторыя панімалі жэншчыны, хадзілі па калодцах. З аднаго бяруць ваду, з другога, з трэцяга і поюць карову на Йвана» (8-93-273-1, л. 36).

У песеннай лірыцы Купалля, акрамя песень строга рытуалізаваных, што спяваліся ля вогнішча, у час апускання на ваду вянкоў або пры сустрэчы ўсходу сонца, вылучаюцца тэксты баладнага, велічальнага, жартоўнага, гульнёвага зместу, якім адпавядаюць характэрная мелодыка, вобразнасць і паэтыка.

На Івана ноч адарвана.

На Купала што зробяць — усё прапала.

На Яна баба п'яна.

У каго Купала пракосы ўбача — таго баба жнівом не заплача.

На Купала раса — будуць агуркі.

Перад Святым Янам прасіце, дзеткі, Бога аб дажджы, а па Святым Яне і сам упрашу.

Часамі Ян дасць ягад збан.

Святы Ян пчолы садзіць.

Калі выйдзець рой перад Янам, будзець зямец панам.

Авёс да Яна хварэе, а пасля Яна шалее.

Даглядай мяне да Яна, то выведу цябе на пана.

Калі не выліняў конь (карова) да Яна, то няхай ідзе да другога пана.

На Купала чэрці ў ваду залазяць.

На Купала чэрці ў вадзе купаюцца.

На Яна не выганяй каровы рана.

## УСТАВАЙЦЯ, ЧЭЛЯДЗЕНІ...

*Купальская.*

Уставайця, чэлядзені,
Люлі рана, чэлядзені.

Увадзіця коні ў поле,
Люлі рана, коні ў поле.

Толькі майго не вядзіця,
Люлі рана, не вядзіця.

Злотам, срэбрам прыбярыця,
Люлі рана, прыбярыця.

А я сяду, да й паеду,
Люлі рана, да й паеду.

Ў чыста поле пагуляці,
Люлі рана, пагуляці.

А там будзіць сонца йграці,
Люлі рана, сонца йграці.

Каля мяне маладзенька,
Люлі рана, маладзенька.

Каля Бога ўсё міленька,
Люлі рана, ўсё міленька.

(8-89-244-1, л. 35)

## ПОЙДЗЕМ, ДЗЕЎКІ, КАЛА ЖЫТА...

*Купальская.*

Пойдзем, дзеўкі,
Пойдзем, дзеўкі, кала жыта,
Кала жыта.

Ці ні найдзім,
Ці ні найдзім каго ў жыце,
Каго ў жыце.

Ці коніка,
Ці коніка варанога,
Варанога.
Ці молайца,
Ці молайца маладога,
Маладога.

На коніку,
На коніку пагарцуім,
Пагарцуім.

А з молайцам,
А з молайцам патанцуім,
Патанцуім.

На коніку,
На коніку ездзіць будзім,
Ездзіць будзім.

А з молайцам,
А з молайцам гуляць будзім,
Гуляць будзім.

(8-89-244-4, л. 40)

## А НА КАМНІ СІЗЫЙ ВОРАН...

*Купальская.*

А на камні,
А на камні сізый воран,

Сізый воран.

А ў Віценькі,
А ў Віценькі русый волас,
Русый волас.

Узяў жонку,
Узяў жонку мішчаначку,
Мішчаначку.

Мішчаначку,
Мішчаначку гультаечку,
Гультаечку.

На ніўку йдзець,
На ніўку йдзець, ніўку клінець,
Ніўку клінець.

І з ніўкі йдзець,
І з ніўкі йдзець, ніўку клінець,
Ніўку клінець.

— А каб ніўка,
А каб ніўка парыдзела,
Парыдзела.

Тады б міне,
Тады б міне палігчэла,
Палігчэла.

(8-89-244-3, *л.* 24)

## ПАД ІВАНА КУПАЛА...

*Купальская (балада).*

Пад Івана Купала
Паявілась навіна.
Ой, паявілась навіна.

Паявілась навіна:
А ўдовушка й малада,
Ой, а ўдовушка й малада.

А ўдовушка й малада,
А радзіла двух сыноў,
Ой, парадзіла двух сыноў.

Парадзіла двух сыноў:
І Ванюшу й Васіля,
Ой, і Ванюшу й Васіля.

І Ванюшу, Васіля
Ў пялёнычкі зпавіла,
Ой, ў пялёнычкі зпавіла.

Ў пялёнычкі зпавіла,
На ціх-Дунай занясла,
Ой, на ціх-Дунай занясла.

На ціх-Дунай занясла,
Ў ціхій Дунай бросіла,
Ой, ў ціхій Дунай бросіла.

Ў ціхій Дунай бросіла,
Ціхій Дунай прасіла,
Ой, ціхій Дунай прасіла:

— Ой, ты, ціхій Дунай,
Маіх дзяцей васпітай,
Ой, маіх дзяцей васпітай.

Васпітай маіх дзяцей
Да семнадцаці ляцей,
Ой, да семнадцаці ляцей.

На семнадцатым гаду,
Пайшла ўдоўка па ваду,
Ой, пайшла ўдоўка па ваду.

Пайшла ўдоўка па ваду,
Стала яна воду браць,
Ой, стала яна воду браць.

Стала ўдава воду браць,
Стаў кырабель пріплываць,
Ой, стаў кырабель пріплываць.

А на том жа караблє,
Адзін ў грабелькі грабе,
Ой, адзін ў грабелькі грабе.

Адзін ў грабелькі грабе,
Другі песенкі пяе,
Ой, другій песенкі пяе.

А ён песенкі пяе,
Йшчэ сватае і ўдаву,
Ой, йшчэ сватае і ўдаву.

— Удовушка ж малада,
Ой, ці пойдзеш за мяне,
Ой, ці пойдзеш за мяне?

— Я ж за цябе не пайду,
Сваю дочер аддаю,
Ой, сваю дочер аддаю.

У суботу сваталісь,
А ў скрысенне венчалісь,
Ой, у скрысенне венчалісь.

А ў скрысенне венчалісь,
Ў панядзелак спаць ляглі,
Ой, ў панядзелак спаць ляглі.

Пытаецца Ванюша:
— Й адкуль родам, дзяўчына,
Ой, скуль родам, дзяўчына?

— Пу матушке Ванаўна,
Па бацюшку Вайтаўна,
Ой, пу бацюшку Вайтаўна.

— Ай, скажы мне й, парянь мой,
Адкуль родам будзеш ты,
Ой, адкуль родам будзеш ты?

— Я з Кіева Йванавіч,

Па матушцы Вайтавіч,
Ой, па матоўцы Вайтавіч.

А Бог мяне забярёг,
Што з сястрою спаць ня лёг,
Ой, што з сястрою спаць ня лёг.

Прячыстая збірагла,
Сістра з братам не лягла,
Ой, сістра з братам не лягла.

— Пойдзем, брахніка, у поле,
Рассеемся травою,
Ой, рассеемся травою.

А ўсё тою травою,
Што брахнейка з сястрою,
Ой, што брахнейка з сястрою.

Пад Івана Купала
Пойдуць дзеўкі траву жаць,
Ой, пойдуць дзеўкі траву жаць.

Пойдуць дзеўкі траву жаць,
Брата з сястрой пумінаць,
Ой, брата з сястрой пумінаць.

Ета ж тая травіца,
Што брахнейка й сястрыца,
Ой, што брахнейка й сястрыца.

На брахніку — сіні цвет,
На сястрыцы — жоўценькі,
Ой, на сястрыцы — жоўценькі.

(8-94-288-1, л. 44—47)




12 ліпеня штогод праваслаўныя беларусы адзначаюць свята Пятро. Да гэтай назвы блізка прымыкае яшчэ адна — Пятроўка: дні перадпятроўскага посту, што пачынаюцца ад панядзелка пасля Траечнага тыдня і працягваюцца да дня Пятра. Але як Пятро, так і Пятроўка — гэта варыянты народных назваў свята. У сапраўднасці ж царква адзначае 12 ліпеня дзень слаўных і ўсеміпахваляючых першавярхоўных Апосталаў Пятра і Паўла.

Пётр і Павел уваходзяць у круг дванаццаці Апосталаў Ісуса Хрыста, яго бліжэйшых сяброў і вучняў. Адпаведна хрысціянскай міфалогіі, пасля ўваскрашэння Ісус Хрыстос наведвае Пятра і надзяляе яго ўладай пастара. Пётр вядзе вельмі актыўнае рэлігійнае жыццё сярод іудзееў, прапаведуе хрысціянства, лечыць людзей, валодаючы пры гэтым надзвычайнымі здольнасцямі, як, напрыклад, уваскрашэннем памёршых, пра што расказвае міф аб дзеве Тавіфе, вылечвае цяжкахворых. Пазней Пётр прыходзіць у Рым, дзе таксама навучае людзей Божаму слову і веры Хрыстовай.

Паколькі жыццядзейнасць Пятра праходзіла ў часы жорсткай барацьбы паміж язычніцтвам і хрысціянствам, рымскія ўлады, якія моцна прытрымліваліся язычніцкіх поглядаў, арыштавалі Пятра і як іншаверца прыгаварылі да пакарання смерцю на крыжы. Апостал Пётр, каб не ўгнявіць Бога, прымаючы смерць падобна яму, папрасіў распяць яго галавою ўніз. Будучы прыбітым да крыжа, перад смерцю ён звярнуўся з пропаведдзю да прысутных, у якой растлумачыў сэнс падобнага прашэння і тайну крыжа. «Крыж перавернуты — сімвал Адама, грэхападзенне якога скажае Божы строй, а прамастаячы — сімвал Хрыста, які аднавіў гэты першапачатковы парадак, вертыкальная апора крыжовага дрэва сімвалізуе логас, слова, набожнае ў Богачалавеку, а гарызантальная перакладзіна — чалавечую прыроду ў ім»*.

Апостал Павел таксама прапаведнік хрысціянства, якое ён сам прыняў, будучы папярэдне язычнікам. Яго пяру належыць 14 тэзісаў, якія ўваходзяць у Новы Запавет. Ён быў пакараны смерцю ў Рыме разам з Пятром па аналагічнаму абвінавачванню. У адрозненне ад Пятра яму адсеклі галаву, якая, быццам бы адваліўшыся ад цела, прамовіла імя Ісуса Хрыста, а на тым месцы, дзе яна ўпала, з'явіліся тры крыніцы.

---

* Мифы народов мира. Энциклопедия (в 2 томах) / Гл. ред. С. А. Токарев. М., 1988. Т. 2: К—Я. С. 309.

У хрысціянскім іканапісе Пётр і Павел у большасці выпадкаў намаляваны разам. У сучасным хрысціянстве Пётр надзяляецца ўладай Божага ключніка, які кіруе варотамі нябеснага Царства, або Рая, чаму на многіх абразах ён паказаны з ключамі ў руках.

Па характару земляробчай працы, песенных матываў, прыкмет і павер'яў, звязаных з Пятроўскім часам, можна меркаваць, што ў язычніцтве да гэтых дзён дапасоўваліся пэўныя старажытныя земляробчыя абрады, у якіх звярталіся да летніх Духаў і Багоў з маленнямі аб паспяховым росце і даспяванні культурных раслін на сялянскіх палях: лёну, бульбы, жыта, ячменю, пшаніцы, грэчкі і іншых, а таксама аб спрыянні спору ў працы і добрым сонечным надвор'і на перыяд уборкі траў і нарыхтоўкі сена. Хутчэй за ўсё гэта быў адзін з апошніх этапаў гулянняў і рытуалаў, якія завяршалі Купалле. На падобнае меркаванне наводзіць шэраг фактаў.

Па-першае, у многіх Пятроўскіх песнях зачын пачынаецца са зваротаў да Сонца і Бога: «Сонейка! Пятрова ночка невялічка, Сонейка...», «Сонейка! Пятрова ночка, дзе твая дочка? Сонейка...», «Божа наш! Пятрова ночка маленька, Божа наш...», «Божа наш! На сенажаці мядуначка, Божа наш...», а ў іншых песенных матывах выказваюцца прашэнні да іх: «Дай жа, Божа, пагоданьку на нашу работаньку! Гэта сена іскасіці, і ў стажок ізлажыці, і ў клуньку павазіці...», «Дай жа, Божа, Пятра прыждаці, пойдуць хлопчыкі дзевак шукаці...» і іншыя, што ўказвае на сакральны змест і прызначэнне гэтых песен.

Па-другое, Пятроўскія песні спяваюцца на адзін матыў з купальскімі і складаюць адзіную жанравую разнавіднасць, што таксама сведчыць пра іх сувязь у старажытнасці з адзіным абрадам.

Па-трэцяе, прыкладна 5—7 дзён на працягу летняга сонцастаяння сонца ўзыходзіць і заходзіць у адзін і той жа час, у прамежках якога не

мяняецца і даўжыня дня, таму, магчыма, у старажытныя часы на працягу гэтых 5—7 дзён і праходзіла святкаванне язычніцкага Купалля, бо шматдзённыя святкаванні, як мы ўжо адзначалі, наогул характэрны таму часу. Пра гэта сведчаць таксама некаторыя матывы купальска-пятроўскіх песен: «Перад Пятром, пятым днём, дзеўкі зёлкі збіралі...», «Перад Пятром, пятым днём, разгуляўся Янаў конь...» і г. д. На тое, што Пятро магло завяршаць Купалле, указваюць і некаторыя песенныя сюжэты:

> Ой, разгон, разгон, Пятроў дзень,
> Паразганяў дзевачкі з гулачкі:
> — Годзе Вам, дзевачкі, тут гуляць,
> Бярэце сярпочкі, йдзеце жыта жаць.

Відаць, раздваенне язычніцкага купальскага святкавання на два народныя святы адбылося на працягу апошняга тысячагоддзя пры актыўным удзеле хрысціянства, якое, не змогшы асіміліраваць Купалле, як, дарэчы, і Каляды, у сваёй рэлігійна-абрадавай канве, не толькі не прызнала галоўныя святы язычніцтва, але да сённяшняга дня вядзе ўпартую барацьбу за знішчэнне іх увогуле са свядомасці беларусаў.

Як вынікае з фальклорных крыніц, у народзе Святы Пётр надзяляецца рысамі і клопатамі селяніна-земляроба, чалавека зямлі. У валачобнай паэзіі «Святы Пятро жытцо спяліць», «жыта родзіць», «сярпы востра», налівае «жытцу ядро». У купальска-пятроўскіх песнях «Святое Пятро ў поле ходзе», «кваскі пачынае», «ідзець з сырамі», хлопцаў выпраўляе да дзевак шукаць нявесту. У легендах пра Бога і святых Апостал Пётр паказаны як Божы служка, ён ходзіць па зямлі ў выглядзе жабрака і наказвае скваппных і бессардэчных да чужога гора людзей, ён жа «ладзіць надвор'е», разганяе воблакі, якія насылае на зямлю пасля Купалля Святы Ілля. Падобны фальклорны вобраз Пятра таксама сведчыць, што ў язычніцтве ён ці адпаведнае яму іншае бост-

ва надзяляліся функцыямі Багоў, якія спрыялі і дапамагалі земляробу ў яго штодзённых справах.

У сённяшнім жыцці селяніна Пятроўскі дзень святкуецца пераважна як хрысціянскае свята, з маленнямі ў царкве і дома. На ахвяраванне царкве на гэта свята прыносяць сыр, масла, хлеб. У многіх беларускіх вёсках на Пятро адзначаюць прастольныя святы.

Па звестках фалькларыстаў і этнографаў мінулага і пачатку нашага стагоддзя, у асобных рэгіёнах Цэнтральнай, Паўднёвай і Усходняй Беларусі на Пятра дзеўкі хадзілі ў лес «куміцца» з хлопцамі, што было своеасаблівым працягам траечных гулянняў. У Рагачоўскім павеце, як засведчыў Е. Р. Раманаў, такое кумаванне нагадвала вечарынку, якую наладжвалі ў той хаце, дзе і зімою збіраліся на падобныя гулянні падчас апрацоўкі льняной пражы. «Кумаванне ў хаце праходзіць у такім парадку. Вечарам на Пятра дзяўчаты прыносяць хатняй гаспадыні сыр, масла, малако, яйкі, сала, муку на бліны. Гаспадыня з адной дзяўчынай гатуе, а астатнія спяваюць песні і танцуюць пад прыпеўкі. Хлопцы прыносяць гарэлку, і танцы робяцца жвавейшымі. ...Запрашаецца і музыка, і адбываецца, такім чынам, поўнае ігрышча. Танцы працягваюцца ўсю кароткую ноч, і моладзь расходзіцца па хатах ужо раніцай на другі дзень»*.

Там, дзе кумленне з хлопцамі рабілася ў лесе, раскладвалі вогнішча, ля якога частаваліся гарэлкай, блінамі і яешняй. Разам з дзяўчатамі ў падобных рытуалах удзельнічалі і жанчыны, але калі б туды пажадаў з'явіцца мужчына, жанчыны зрывалі ў яго з галавы шапку і кідалі ў агонь.

На Міншчыне на Пятра хадзілі на могілкі паглядзець магілы продкаў, на якія прыносілі пачастункі з новага ўраджаю, сабранага на ўласнай ніве або ў лесе, на лузе.

---

* *Романов Е. Р.* Белорусский сборник. Вып. 8. Вильно, 1912. С. 230.

У гаспадарчай дзейнасці беларускага селяніна Пятроўскі час патрабаваў стараннай працы на ўборцы сена. Пік лета прыносіў і самыя пагодлівыя дні, калі можна было сушыць і нарыхтоўваць жывёле корм на зіму. Адказная праца нярэдка залежала ад калектыўнай падтрымкі, для чаго на завяршэнне касьбы ў многіх вёсках збіралі пятроўскую талаку. «Святы Пётра талаку збіраець копы сена вазіць, стагі мятаць», — падкрэслена адзначаецца гэты момант у валачобнай паэзіі.

Пост, які накладвае хрысціянства на перадпятроўскія дні, і напружаная праца на лузе ў час касьбы стваралі пэўную дысгармонію, бо цяжкая праца патрабавала і больш-менш прыстойных харчоў. Таму гэты пост у беларусаў называўся — бабскім, жаночым, і мужчыны, якія больш працавалі з касой, не заўсёды яго прытрымліваліся.

Пятроўскі час быў і перыядам, калі канчаткова знікалі ў засеках селяніна запасы старога хлеба. Новы ж хлеб яшчэ не выспеў да канца. Але каб падтрымаць сям'ю, гаспадыні ў такім выпадку дазвалялі сабе нажаць сноп-другі жыта, каб з новага зерня спячы свежы праснак, блін, корж да святочнага стала, што зафіксавана ў народных выразах: «На Пятра баба хлеба напякла» або «На Івана каласок, а на Пятра — піражок».

На працягу пятроўскага посту жанчыны назапашвалі на ўвесь год масла і тварог. Як вядома, падобныя харчы забараняліся есці ў гэтыя дні, а малочны перыяд быў найбольш прадуктыўны ў сялянскай гаспадарцы. Таму ўсюды на Беларусі «білі» масла і «адціскалі» тварог. Затым умерана прасольвалі гэтыя малочныя прадукты і складвалі ў дубовую бочачку або скрыню ці ў макацёр — вялікі гліняны гаршчок, — папераменна чаргуючы слой масла — слой тварагу, слой масла — слой тварагу, а калі пасудзіна была поўная, зверху залівалі ўсю масу добра прасоленым растопленым маслам і выносілі ў камору, склеп ці ставілі пад

падлогай у хаце. У такім выглядзе масла і тварог маглі захоўвацца даволі доўгі тэрмін.

У некаторых выпадках у Пятроўскі дзень ці праз тыдзень-два пасля яго спраўлялі вяселлі. На нашу думку, такія вяселлі былі вымушанымі і праводзіліся для тых дзяўчат і хлопцаў, якія дапусцілі лішняе свавольства падчас траечных і купальскіх гулянняў. У купальскіх і пятроўскіх песнях, якія характарызуюць падобны грэх маладых людзей, у пэўнай ступені з адценнем маральна-павучальнага вываду сцвярджаецца, што «...зёлкі цар-зелле — дзявоцкае вяселле, дзявоцкае каханне, а хлопчыкам ўздыханне». У іншых песенных сюжэтах апавядаецца, як бацька просіць хлопца забраць дзяўчыну, за якую абяцае добры пасаг:

Ой, чабор, чабор развіваецца,
Бацька дачкою набіваецца:
— Зяцю, зяцю, бяры дочку —
Дарую табе жыта бочку...

Некаторыя песенныя тэксты прама ўказваюць на тое, што дачка вымушана ісці замуж, паколькі чакае дзіця:

У гародзе ячмень наліваецца,
Багатыр дачкой набіваецца:
— Бярыце дочку — дам жыта бочку,
Руны воўны, жывот поўны,
І бобу ляху, і дзіця ў мяху.

Па аналогіі жыцця хлопец заўсёды сам павінен быў засылаць сватоў да дзяўчыны, але ў даным выпадку, каб дачка канчаткова не была зганьблена, падобны жыццёвы рытм свядома парушаецца.

Пятроўскія прыкметы і назіранні больш звязаны з характарам летняй працоўнай дзейнасці чалавека і прыроднымі зменамі гэтага часу: на Пятра сена і пад кустом сохне, а пасля Пятра і на кусту не хоча; зязюля на Пятра падавіцца ячменным (жытнім) коласам, таму пасля яго змаўкае; Пятроўка сушыць балоты, а Спасаўка — рэкі; як

прыйдзе Пятроў дзень, палавіну цвету ападзе; павучалі: дзяры лыка на лапці да Пятра, бо пазней усохне кара, і многія іншыя.

Паводле У. А. Васілевіча, меркаванні прадказальнікаў на будучае надвор'е былі звязаны з заканчэннем зязюлінага кукавання: зязюля перастае кукаваць за два тыдні да Пятра — другая палова лета будзе спакойная і ўраджайная; калі ж яна змаўкае за дзень-два да Пятра — восень будзе халодная, а зіма ранняя; кукуе на Пятра — восень будзе цёплая, а зіма ляжа на пачатку лістапада.

У беларускай вусна-паэтычнай творчасці Пятроўскае свята завяршала купальскі цыкл летняй паэзіі. Пасля Пятра ў народзе спявалі жніўныя песні, якія называюць яшчэ паджытнімі.

Пятроўка — галадоўка.

У Пятроўку гразь — ураджай добры дасць.

У Пятроўку толькі слабое цяля мёрзне.

Чакай Пятра — з'ясі сыр.

Памажы мне, Божа, на Пятра — заб'ю табе ў Змітраўку вяпра.

Хто ў Пятроўку сена не косіць, той зімою ў сабак просіць.

Не заўсёды пачынай касіць з Пятра, а калі вырасце трава.

Кукушка да Пятра кукуе.

Святы Пятро ў косы звоніць.

Святы Пятро — жытцу ядро.

На Пятра баба хлеба напякла.

Прыйшоў Пятро — забраў мошак у вядро.

Прыйшоў Пятрок — адшчыкнуў лісток.

Прыйшоў Пятрок — час дня увалок.

Да Яна на пана, а па Пятры на вяпры.

Да Пятра з макатра, а па Пятры ў макатры.

На Пятра дождж — будзе жыта, як хвошч.

На Пятра дож — мокры сенакос.

Калі Пётра з Паўлам плачуць, дык людзі праз тыдзень сонца не ўбачаць.

Калі на Пятра дождж, то на Новы год будзе мяцеліца.

З Пятрова дня ў полі пажня.

Пайшоў Пятрок без парток.

## ПЯТРОВА НОЧКА НЕВЯЛІЧКА...

*Летняя, у Пятроўку.*

Божа наш! Пятрова ночка невялічка. Божа наш!
Божа наш! А хто ж у нас не выспаўся? Божа наш!
Божа наш! Млода Манечка ўсю ноч не спала, Божа наш!
Божа наш! Ўсю ноч не спала, паясы ткала, Божа наш!
Божа наш! Паясы ткала шалковыя, Божа наш!
Божа наш! Хусткі рабіла паркалёвыя, Божа наш!

(8-92-265-6, л. 8)

## ДЗЕВЫЧКІ, НІДАЛЁЧКА ПІТРА...

*Летняя, у Пятроўку.*

Дзевычкі, нідалёчка Пітра,
Хлопчыкам ды на шыю пітля.

Дзевычкі па гырелычку йдуць,
Хлопчыкі ды вярёвычкі ўюць.

Дзевычкі ды кумітца будуць,
Хлопчыкі ды давітца будуць.

Дзевычкі пыкуміліся,
Хлопчыкі пужаніліся.

(8-91-254-4, л. 7)

## УЧОРА БЫЛО ПЯТРО, А СЯГОННЯ ПАЎЛА...

*Летняя, на Пятра.*

Учора было Пятро, а сягоння Паўла*,
Учора піла гарелачку, а сягоння п'яна.
А я к Пятру мех табакі натру,
Ды я к Паўлу табакерачку спраўлю,
Я й Ванічку к Наташы напраўлю.
Хадзіў Іван чэрез трі гароды,
Ня здзелаў ён нікомачку шкоды,
Не стаптаў ён ні руты, ні мяты,
Толька стаптаў свае чорныя боты
Ён ходзічы к Наташы ў залёты.

(8-92-266-1, л. 7)

## ЯК ПАЙДУ Я ЛУГАМ ЗЕЛЯНЕНЬКІМ...

*Летняя, у Пятроўку.*

Як пайду я лугам зеляненькім*,
Як сустрэў мяне казак маладзенькі,
Як пычаў ён дарожку пытаці,
А я, млода, ня ўмела 'дкызаці:
— А ці ты, казак, дарожкі ні знаіш,
Што ж ты ў мяне, маладыя, пытаіш.

(8-92-268-1, л. 9)

* Кожны радок паўтараецца.




2 жніўня на Беларусі вернікі грэка-візантыйскай царквы адзначаюць свята ў гонар Святога прарока Іллі.

Паводле Ветхазаветных кніг, прарок Ілля нарадзіўся ў Фесвіі Галаадскай у родзе правіцеля Левііна за 900 год да ўзнікнення хрысціянства. Яго імя Ілія ў перакладзе са стараяўрэйскай мовы азначае «апора Божая», «крэпасць Божая». Усё сваё жыццё прарок Ілля прысвяціў служэнню Богу і жыў з верай у адзінага Бога Яхве. У той

час ізраільскі народ адступіўся ад веры продкаў і стаў забываць свайго адзінага Бога. Ізраільцяне пачалі пакланяцца язычніцкім Багам, веру ў якіх на іх землях увёў цар Іеровоам. Але, як сведчаць тагачасныя летапісцы, новая вера прывяла да нацыянальнага і маральнага разлажэння народных мас у краіне. Каб спасці свой народ, прарок Ілля звярнуўся да цара Ахава, які найбольш прытрымліваўся язычніцкіх поглядаў, пераконваючы яго пакаяцца і звярнуцца ў веры да сапраўднага Бога. Калі ж цар Ахаве не прыслухаўся да голаса Святога прарока, той аб'явіў, што ў пакаранне ў яго царстве тры гады не будзе «ні дажджу, ні расы на зямлі і засуха адступіцца толькі па яго малітве да Яхве». Словы прарока Іллі збыліся, але і Ахава не хацеў уступаць і прадаўжаў верыць язычніцкім Багам. Тады, каб канчаткова пераканаць цара ў сваіх словах, па сканчэнні трох год, за якія ізраільскі народ моцна змучыўся і пацярпеў ад смагі і спёкі, прарок Ілля папрасіў цара Ахава сабраць усіх ізраільцян на гару Карміл, куды запрасілі і язычніцкіх жрацоў, якія пакланяліся язычніцкаму Богу Ваалу. Прарок Ілля папрасіў людзей зрабіць два ахвяравальнікі, на адзін з якіх прынеслі ахвяры свайму Богу жрацы-язычнікі, а на другі — сам Святы прарок. «На які з іх упадзе агонь з неба, той будзе сведчаннем, чый Бог сапраўдны, — растлумачыў Святы Ілля свае дзеянні, — і ўсе павінны будуць пакланіцца яму, а не прызнаўшыя яго будуць пакараны смерцю». Пасля маленняў да Бога нябесны агонь упаў на ахвяравальнік прарока Іллі і прыняў яго ахвяру. Так ізраільскі народ быў пераканаsuccessны, што маліцца трэба адзінаму Богу — творцу сусвету. Язычніцкія жрацы былі пасаромлены і забіты, пасля чаго Святы Ілля звярнуўся з прашэннямі да Бога Яхве аб дажджы. Неба імгненна пакрылі воблакі і прайшоў доўгачаканы дождж, які напаіў зямлю і напоўніў перасохлыя рэкі вадой.

На зямлі з імем прарока Іллі звязаны і іншыя подзвігі ў імя веры ў адзінага Бога.

За свае дзеянні прарок Ілля яшчэ пры жыцці па волі Бога ўзнёсся на неба ў вогненнай калясніцы, якая з'явілася з расступіўшыхся вод ракі Іардан. Як павучае праваслаўная царква, прарок Ілля павінен з'явіцца сярод людзей у дні Страшнага Суда, калі адбудзецца другое прышэсце Ісуса Хрыста на зямлю, тады ж ён у час пропаведзі прыме цялесную смерць.

Нашы продкі, як і іх суседзі рускія і ўкраінцы, з асаблівай павагай ставіліся да ўшанавання памяці гэтага Святога. Першая царква ў Кіеве пры князю Ігару была пабудавана ў імя прарока Іллі. Сёння на Беларусі падобныя царкоўныя храмы дзейнічаюць у гарадах Гомелі, Оршы, гарадскіх пасёлках Бешанковічы, Радашковічы, а таксама ў шэрагу беларускіх вёсак.

У сучаснай славянскай міфалогіі прарок Ілля надзяляецца функцыямі Перуна. Пра гэта выразна расказваецца ў беларускіх казках, легендах, паданнях. Напрыклад, у адной з легенд, запісаных на Мазыршчыне, апавядаецца: «Даўно тое было, як яшчэ сам Бог па зямлі хадзіў. Аддаў Бог увесь свет Ільі й Пятру. Але, ведама, дзе два паны, там ніколі ладу няма. Адзін пасылае дождж, а другі — пагоду. Плачуць хмары, не ведаюць, што рабіць, каго слухаць. Пойдзе дождж, та Пятро бяжыць да крычыць, лаецца, на чом свет стаіць:

— Што Вы, патаскухі, робіце, нашто мочыце сена, цяпер жа людзі косяць!

— Нам, — кажуць, — Ілья прыказаў.

— Ах, Вы... — лаецца Пятро, — я Вам пакажу Ілью! Ілья заўсёды наробіць гнілля.

Ухваціць Пятро мятлу і паразганяе хмары па кутках, а неба чысценька падмяце. Та ось, адкуль ні вазьміся, тарахціць, едзе Ілья, крычыць, як на жывот, аж неба й зямля дрыжыць. Хмары таўкуцца, як непрытомныя, вылазяць з куткоў, і ўжо ліне такі дождж, што не толькі берагі, але і

груды паплывуць. Жаляцца людзі Богу, што паны дзяруцца, а ў мужыкоў чубы трасуцца, жаляцца й просяць, каб Бог даў пагоду. Прызаве Бог Ілью, насварыцца на яго, а той кажа, што столькі развялося нечысці-чарцей, што трэ іх громам пабіць, бо ўвесь свет запаганяць. Прызаве Бог Пятра і кажа, што няхай Ілья трохі папалюе чарцей. А Ілья тым часам падніме такія грымоты, што аж зямля стогне: няма ні дня, ні ночы; хмары таўкуцца, як уюны ў рэшаце; на небе кіпіць, як у гаршку; маланка бліскае, аж у ачу цёмна становіцца, а пярун смаліць раз-паўразу, паласуе хвоі, дубы да паліць будоўлю альбо стагі. А Ілья ездзіць сабе па небу ды камандуе:

— Так, так-так! Го-го-го! Яшчэ, яшчэ... Лупі, лупі яго, гада... от так-так... Го-го-го! Трэсні яго па затылку! Го-го-го! У патыліцу, у патыліцу лупі яго, гада! Трах-трах! Так-так-так! Го-го-го!

Просяць людзі на прамілуй Бог, каб уняліся грымоты, а Ілья не слухае. Ходзіць Пятро да плюецца бяззубым ротам ад злосці. Нацешыцца Ілья, пачысціць сваю каляску і паедзе к сонейку ў госці...*

Падобныя ўяўленні аб барацьбе прарока Іллі з «нячысцікамі» маюць пад сабой глебу. Пасля Пятра сонца паварочвала на восень. Ночы становяцца больш золкімі, карацее светавы дзень, паступова пачынае адміраць прырода — ападае лісце, сохне прыдарожная трава, халаднее вада ў рэках, набліжэнне восені суправаджаецца больш частымі вятрамі і дажджамі — усе гэтыя змены ў прыродзе адбываліся, па народных вераваннях, па волі адраджаючыхся злых Духаў і рознай «нячыстай сілы», што нібыта пладзілася на зямлі і спрыяла станаўленню злосных і нялюбых Богу і чалавеку сіл. Менавіта з імі і ўступае ў барацьбу Святы прарок Ілля.

У дзень Святога Іллі катэгарычна забаранялася

* Беларуская народная творчасць. Легенды і паданні / Склад. М. Я. Грынблат і А. І. Гурскі. Мінск, 1983. С. 127.

працаваць. У гэта свята маліліся ў царкве Богу, рабілі ў кругу сям'і святочныя застоллі, праводзілі прастольныя святы. У адваротным выпадку баяліся, што разгневаны прарок можа спаліць у час навальніцы селішча, пабіць градам поле або наказаць няверных людзей засухай і сухавеямі. Яшчэ і сёння, калі ў дзень свята здараецца навальніца і каго-небудзь заб'е пярун, на вёсцы тлумачаць, што гэта разгневаны Ілля «пакараў бедалагу за вялікія грахі перад Богам».

Характар гаспадарчых работ гэтага часу зводзіўся да завяршэння касавіцы, якую дапамагалі талакою закончыць маласямейным гаспадарам, удовам, адзінокім старым людзям. У Лельчыцкім раёне, па звестках фалькларыста А. Ю. Лозкі, пра такую касавіцу гаварылі: «Іванове сено — панове, а Петрове ўжэ не такове, а Іллінэ — удовінэ».

Ад Іллі амаль усюды на Беларусі пачыналі ўборку жыта. З надзеяй на новы хлеб чакаюць беларусы яго выспявання. Цяжкія каласы, што схіляюць долу кожную саломінку, радуюць вока хлебароба. «Будзе жыта — будзе й жытка», — з усведамленнем адзначаюць сяляне. Ужо на другі дзень пасля Іллі ў многіх сем'ях жанчыны выходзілі на свае надзелы, каб нажаць дзесятак-другі снапкоў і паставіць на полі першы абабак.

Пасля Іллі забаранялася купацца ў рэках і азёрах. Палохалі адзін аднаго, што з гэтага часу нібыта чэрці хаваюцца ад стрэл прарока Іллі ў ваду і могуць зацягнуць чалавека на дно, каб забраць яго душу. Іншыя вераванні беларусаў папярэджваюць, што вада да Іллі становіцца халоднай і таму залазіць у яе небяспечна. Такое павер'е зафіксавана ў прыказцы: «Прыйшоў Ілля і ўкінуў у ваду алядня».

З дня прарока Іллі наступаў адказны перыяд ў паляўнічых, якія выязджалі ў пушчы і бары адстрэльваць драпежных звяроў і дзікіх птушак: ваўкоў, мядзведзяў, качак, гусей, цецярукоў, рабчыкаў і інш.

Бадай больш, чым з якім-небудзь іншым святым, у беларускім фальклоры з імем прарока Іллі звязана прыказак і прымавак, у якіх асэнсоўваюцца гаспадарчая дзейнасць чалавека на гэту пару і змены, якія адбываюцца ў прыродзе: «Святая Ілля — слаўная жняя», «Прыйдзе Ілля — наробіць гнілля», «На Святога Ілляша з новых круп каша», «Пётр-Павел час убавіў, а Ілля-прарок — два ўвалок».

Прадказальнікі будучага надвор'я і ўраджаю судзілі: на Іллю сухі пагодлівы дзень — будзе добры сенакос «на атаве»; калі дзень спякотны — чакай доўгай зімы; ідзе дождж — арэхі папаліць маланка і г. д.

Ілля лета канчае, жніво пачынае.

Ілля блізка — гніся, бабка, нізка, уставай раненька, да й жні да пазненька.

Прыйшоў Пятрок — апаў лісток, прыйшоў Ілля — апала два, а там і восень — вось і я.

Прыйшоў Пятрок — апаў лісток, прыйшоў Ілля — прынёс гнілля.

На Іллю да абеда лета, а после абеда восень.

Да Іллі на сене пуд мёду, а па Іллі — пуд гною.

Да Іллі просяць аб дажджы, а па Іллі і баба хвартухом нагоніць.

Ілля наробіць гнілля.

Пасля Іллі вада і з зямлі.

Ілля ваюе з чарцямі, іх б'е перунамі.

Барыс с Ганнай не гуляюць, Святому Іллю памагаюць.

Святы Ілля копы лічыць.

Святы Ілля стагі стаўляе.

На Іллю перапечкі пальюць.

**На Іллю поўну печ хлеба налью.**

**На Ільяша — хлеб і каша.**

**Ілля ў воду ўкідае лёду.**

**Святы Ілля пытае, ці гатова ралля.**

**Да Іллі хоць адным зубам зямлі парні.**






Пра тое, што жніво было галоўнай і адказнай падзеяй у жыцці беларуса-хлебароба, здабыткам яго працы і спадзяваннеў на працягу года, сведчыць сама назва месяца, у якім прыступалі да ўборкі жыта, — жнівень. Спрадвеку нашы продкі павучалі: «У жніўні панамі сярпы — маруды тады не цярпі». Пачатак жніва, як і яго заканчэнне, у нашым краі суправаджаецца старадаўнімі земляробчымі абрадамі, якія, зыходзячы з іх ідэйнай скіраванасці і зместу, падзяляюцца на тры

часткі: агледзіны і пакрыванне поля, зажынкі і дажынкі.

На агледзіны нівы выходзіў сам гаспадар. Ён абыходзіў вакол поля, зрываў у розных месцах па каласку, спрабаваў на смак і цвёрдасць зярняты, уважліва прыглядаўся да жытнёвай нівы: ці не зрабіла дзе ведзьма заломы, вызначаў: пасля яго абходу ці на дзень, а можа і тыдзень пазней выпраўляць сваіх жанчын на зажынкі. Звычай агледзін на пачатку жніва вядомы на Беларусі паўсямесна. У першую чаргу ён быў абумоўлены практычнай неабходнасцю, і менавіта ў такім значэнні асэнсоўваецца сучаснымі носьбітамі традыцыйнай абраднасці. Жыхарка вёскі Старая Алешня, што на Рагачоўшчыне, Надзея Раманаўна Малалетнікава, успамінае: «Перад Іллёй, ужо ж нада жыта жаць, ...ну, йдзець бацька поле глядзець: ці паспела жыта. Паходзя, паглядзіць сваю ніву: які ўраджай, як урадзіла жыта, ці харошыя, ці плахоя. Усі палоскі абгледзя. А дома матцы саветуя, адкуль пачынаць жаць» (8-94-284-1, л. 12).

Па звестках Я. П. Тышкевіча, П. М. Шпілеўскага, П. В. Шэйна, у мінулым стагоддзі ў сялян Віцебскай і Мінскай губерняў актыўна бытаваў абрад пакрывання поля. Як апісвае П. М. Шпілеўскі, заключаўся ён у тым, што зранку, яшчэ да ўсходу сонца, на поле выпраўлялася маладая жанчына, якая нядаўна выйшла замуж, з некалькімі дзяўчатамі. Яна нажынала толькі адзін снапок жыта, які «абмотвала» адрэзам новага палатна або ручніком, наміткаю і потым падкідвала яго ўверх, прыгаворваючы:

Пакрыла ніўку
На добрую спажыўку,
Парадзі, Божа,
Наша збожжа!

Дзяўчаткі ў гэты час станавіліся вакол яе ў круг, пляскалі ў далоні і спявалі:

Пашлі, Божа, многа збожжа!
Нарадзі хлеба пры дарозе:
Што б было ўсім гожа
і не пуста на кожным возе!
Крыта, крыта!
Поўна, сыта!
Божа, памажы,
Хлеба урадзі!*

Відавочна, што і агледзіны нівы і пакрыванне поля — гэта рэшткі старажытных рытуалаў, у час якіх гаспадар разам з галоўнай жняёй прыходзіў не толькі агледзець жытнія палеткі, а першнаперш пакланіцца і памаліцца Духам поля і нябесным Багам за выспеўшае збожжа, параіцца, папрасіць у іх дазволу на пачатак жніва, каб Духі поля шчодра аддалі гаспадару вырашчанае збожжа.

Абрад зажынак, які добра вядомы і ў наш час, пачынаўся найчасцей у суботу ці нядзелю. Паснедаўшы, гаспадар ішоў у гумно ці ёўню і рыхтаваў месца і ток «пад новае жыта». Цікава, што ў беларусаў у гумне, як і ў хаце, вісеў на вуглу абраз якога-небудзь святога, то тады «іконку ету ўжо ат пылу абцяруць і набожнічак чысціенькі павесюць» (8-94-284-1, л. 13). Жанчыны пачыналі ўборку ў хаце: мылі падлогу, вокны, рыхтавалі рытуальны абед. Да абеду абавязкова пяклі каравай або круглы бохан хлеба.

Рытуальны абед у дзень зажынак пачынаўся ўрачыста: засцілалі на стол белы абрус, ставілі на цэнтр стала каравай або хлеб, сыр, боршч, кіслае малако, кашу і іншыя стравы, у залежнасці ад дастатку сям'і. Напрыклад, у Гарадоцкім павеце Віцебскай губерні гаспадар клаў на стол бохан хлеба, на які ставіў соль у салонцы, а затым пакрываў хлеб і соль чыстым абрусам і асвячаў святою вадой. Хлеб і соль стаялі на стале на працягу ўсяго дня. Па звестках беларускага этнографа і

---

* *Шпилевский П.* Обряды крестьян Витебской и Минской губерний при уборке хлеба с полей // Пантеон, 1853. Т. 9. Кн. 6. С. 19—20.

фалькларыста А. Р. Пшчолкі, на пачатку XX стагоддзя перш чым пачаць абедаць, маліліся Богу: «спачатку найсвенчай матцы, пасля Міколу з Юр'ем і нарэшце Спасу з Пакровам».

Пасля абеду галоўная жняя апраналася ў святочнае адзенне, брала з сабою кавалак каравая са стала, соль, сыр, грамнічную свечку і ішла зажынаць жыта. Зажынаючы першую жменю жытнёвых сцяблінак, жняя прыгаворвала: «Божа, благаславі пачаць жаць і памажы ў добрым здароўі кончыць!» або «Памажы, Божа! Стань мой, сноп, на тысячу коп!», «Дай жа, Божа, штоб лёгка жалася! Сярэдзіна не балела, ручанькі не млелі, ножанькі не дзервянелі, галава не гарэла!». Падобныя прашэнні-заклінанні вызначаюцца шматлікімі парэгіянальнымі варыянтамі. Нажаўшы першую жменю, жнейка клала яе на край нівы, а наверх хлеб, сыр і іншыя пачастункі, прынесеныя з дому.

Выдатная знаўца старадарожскіх абрадаў і песень Эма Іванаўна Александрова ўспамінае, як пачыналіся зажынкі ў яе роднай вёсцы Аляксандраўка: «Сабіраліся жанчыны, бралі сярпы, абвязвалі іх чыстай хусцінкай. Выбіралі самую старэйшую жанчыну. На левую руку завязвалі суконную красную нітачку або розавую і ішлі зажынаць жыта. Першую жменю жала гэтая старая жанчына. Яна зажынала: завязвала сабе на спіну такі пояс з гэтай першай жмені і прыгаворвала: «Дай, Бог, каб жыта добра жалася, а сярэдзіна не балела!». Тады яна нажынала першы сноп. Садзілася на гэты сноп і ўсе рабілі вянок — сноп гэты ўкрашалі». Звесткі Эмы Іванаўны дапаўняе яе сяброўка Вольга Іванаўна Александрова: «...Снапок абвяжам нітачкамі краснымі або розавымі. Прыносім гэты снапок дамой, ставім на кут і там снапок стаіць да Іспаса. Тады абціраем яго і носім зерняткі ў цэркаў свяціць на Іспаса. І етым жытам засяваем, калі сеем жыта ўвосень» (8-93-270-1, л. 30—31).

У Слаўгарадскім раёне Магілёўскай вобласці зажынаць жыта на калектыўнае поле выпраўлялі «здаровую дзеўку ці ўдову», якая нажынала столькі снапкоў, каб можна было «паставіць на полі і накрыць бабачак» (8-94-282-1, л. 51).

Пачынаючы з раніцы наступнага дня, жніўная пара вызначалася самаадданай руплівай сялянскай працай. І толькі песні жнеек, што разліваліся голасна над усім жытнёвым полем, ёмка ўкладаліся ў гэты працоўны рытм. Песня не толькі дапамагала ў нялёгкай жаночай працы, але несла ў сабе і магічны пачатак. Дакладней, не столькі словы песні, колькі мелодыя, у гучанне якой закладзена сакральная аснова характэрнага гукавога фону, які, як верылі старажытныя людзі, адпужвае ад поля злых Духаў ці ўзнікшыя пазней ва ўяўленнях чалавека розныя дэманічныя істоты. Моўная ж аснова песні, як адзначае сучасны даследчык гэтага віду паэзіі А. С. Ліс, «...пазначана матэрыялістычным светаўспрыманнем, рэалістычным бачаннем жыцця і такім жа рэалістычным узнаўленнем яго ў мастацкім слове»*.

Рэалістычнае ўспрыманне і адлюстраванне жыцця ў жніўнай паэзіі набываюць узровень яго філасофскага асэнсавання праз свядомасць канкрэтнага чалавека або пэўнага сацыяльнага калектыву. Прычым такое асэнсаванне перадаецца праз прызму свайго часу, што надае жніўнай паэзіі важнае значэнне гісторыка-храналагічнай фіксацыі рэалій жыцця. Для прыкладу прывядзём некалькі песенных сюжэтаў-замалёвак з мінулага стагоддзя аб долі маладой жняі:

А жнеячка з поля ішла, ый!
Пад поісам сярпок нес.., у-у!

Пад поісам сярпок несла, ый!
На плечыках калыса.., у-у!

---

* *Ліс А. С.* Жніўныя песні. Мінск, 1993. С. 58.

На плечыках калысачку, ый!
На ручачках дзіцятач.., у-у!..

або аб адносінах да яе ў вялікай патрыярхальнай сям'і:

А я ў полі зычачую,
На дваре журбы ні пачую,
Ай, ні 'д свёкра, ні 'д свякроўкі,
Ай, ні 'д дзеверя, ні 'д залоўкі.

Нельга без спачування ўспрымаць гэтыя радкі, у якіх адлюстроўваюцца нялёгкі лёс жанчыны-сялянкі, яе сацыяльнае становішча ў грамадстве. У цэлым жа жніўная паэзія — гэта спрадвечная песенная драма і ў той жа час урачысты гімн жанчыне працы, жняі, гаспадыні поля.

Заканчэнне жніва ці, дакладней, апошні яго дзень суправаджаўся дажыначнымі абрадамі, у аснове якіх ляжаць рытуалы, праводзімыя ля апошніх жытніх каласоў. Гэтыя абрады вызначаюцца тым, што жнеі, дажынаючы жыта, пакідалі на полі некалькі нязжатых сцяблінак, якія ў народзе называюцца «барада», «куст», «раёк».

Ефрасіння Іванаўна Мельнікава, жняя больш чым з саракагадовым стажам, якая пражывае ў вёсцы Урэчча Слаўгарадскага раёна, расказвае: «Кідаем вось такі кусочак жыта. Хто паследняя жне, завязваюць ёй вочы. Іна ўжо жнець і сколькі кіне, ...сколькі астанецца, што іна ўжо не захапя, тое тады прыбіраем: абмотваем, лентачкі вешаем, пад яго хлеб-соль кладзём. Пляцём вянок і тады скачам кругом і пяём песню» (8-94-282-1, л. 53).

Як зафіксаваў Е. Р. Раманаў у Быхаўскім павеце, дажынаючы жыта, «...на апошняй палосцы пакідаюць некалькі каласкоў і звязваюць іх уверсе стужкай ці жытняй саломай. Каласы гэтыя пакідаюць «на бараду Богу». Бараду чысценька полюць рукою, загорнутай у рукаў, але ні ў якім выпадку не голаю, рассцілаюць сярод калоссяў чыстую палатніну і кладуць на яе кавалачак хлеба і соль з малітваю і паклонамі да зямлі. Пасля гэтага жняя павінна тры разы пакаціцца па ніве

ўсім целам і сказаць: «Ніўка, ніўка, аддай маю сілку на другую ніўку!.. Судзі, Божа, налета жаці і ядранейшая і гусцейшая!» Толькі пасля гэтага абраду жнеі ідуць дадому»*.

У Гомельскім павеце для «барады» пакідалі кучку самых лепшых жытніх каласкоў, ля якіх садзіліся жнеі і чырвонымі ніткамі вязалі з іх крыж. А затым плялі вянок гаспадару нівы.

Заслугоўвае ўвагі і абрад дажынак, запісаны ў наш час на Шклоўшчыне. «Калі ўжо закончылі жніво ўсё, тады сабіралі і звівалі вянок із каласкоў і кветку такую вязалі вялікую, як букет. Жнеі па полю качаліся і гаварылі: «Ніўка, ніўка, аддай маю сілку! Я на табе жала, сілку пацірала» (8-91-254-2, л. 20).

Вяртаючыся дадому ці да хаты гаспадара, у якога жалі жыта, жнеі няслі яму вянок, звіты з каласкоў і кветак, што раслі на жытнёвым полі. На Чачэршчыне, па звестках мясцовых сялян, вянкі рабілі толькі з васількоў і жытнёвых каласоў. «Вянкі вілі, надзявалі на галовы і з етымі вянкамі ўжо з поля ідуць. І серп жытам абматываюць, каласамі етымі абверцюць. Нільзя, штоб серп быў голый. Ета каб усё ўрэмя хлеб радзіў і ўраджай штоб быў на полі» (8-94-286-1, л. 16).

Як бачым, абрады дажынак, як і папярэднічаючыя ім — зажыначныя, захавалі ў сабе старажытную магічную аснову, скіраваную на тое, каб, з аднаго боку, аддзячыць Духаў поля і ніву, якая ўпадабляецца ў народных уяўленнях жывой істоце, за плён земляробчага года: новае збожжа, новы хлеб, а з другога — зрабіць захады на будучы ўраджай: апошнія каласкі, як і пачастункі, якія пакідалі разам з імі на полі, былі ахвяраваннем гэтым Духам і «ніўцы», з дапамогай якога кожны гаспадар разлічваў на будучую плоднасць поля, яго нараджаючую моц і шчодрую аддачу.

---

* *Романов Е. Р.* Белорусский сборник. Вып. 8: Быт белоруса. Вильно, 1912. С. 262.

На заканчэнне жніва ў многіх вёсках збіралі талаку. Гэта форма калектыўнага заканчэння жніва ў савецкі час набыла свае адметныя рысы. Як вядома, на калгасным полі паміж уборачнымі брыгадамі праводзілася спаборніцтва: чыя брыгада хутчэй закончыць жніво. Брыгадзіру, брыгада якога першай завяршала ўборку збожжа, жанчыны-жнеі ў дзень дажынак падносілі апошні сноп з песняй:

Стаяў казёл на гарэ,
Дзіваваўся барадзе.

П р ы п е ў: Дзіва-дзіва-у!

— Чыя ж ета барада,
А ўся мёдам уліта?

— Максімава барада
Уся мёдам уліта.

Ты, Йванаўна, не ляжы,
Бароданьку абліжы.

У гэтай абрадавай песні, што запісана ў Шумілінскім раёне, у тэксце падстаўляюцца сапраўдныя імёны брыгадзіра і яго жонкі. Брыгадзіру ж адстаючай брыгады жнеі спявалі, што яго «барада, а ўся дзёгцем уліта» (8-89-244-4, л. 66—67).

Абрады жніва — гэта восеньскія абрады. Практычна яны пачыналі завяршэнне палявых работ. Пазней, напярэдадні Пакроваў, кожная дзяўчына чакала сватоў, пачынаўся час вяселляў. Гэта падзея прадвызначыла ў многім тэматыку жніўных гаданняў і вераванняў дашлюбнай моладзі. Напрыклад, на Магілёўшчыне для вянка дзяўчына вырывала з карэннем жменьку жытнёвых сцяблінак і лічыла каласкі: калі каласкоў было ў пару, «то тады пойдзе замуж», а калі — не, «каласкі тры ці пяць будзе, то ета сёлета яна не пойдзе замуж» (8-92-266-2, л. 10).

Агульнавядомае ў беларускіх дзяўчат і такое гаданне: пасля таго як прапаляць «бараду», яны

садзіліся вакол яе кругам і глядзелі, да каго і хто выпаўзе адтуль: калі прыпаўзе чарвячок, ды яшчэ «касматы» — пойдзе дзеўка замуж за багатага мужа, калі ж маленькая казявачка — будзе муж бедны, а калі выбяжыць павучок, то ісці дзяўчыне замуж за ўдаўца.

На Мсціслаўшчыне хлопцы, каб іх моцна кахалі дзяўчаты, у час намалоту імкнуліся аббіць першы сноп, зерне якога адварвалі ў вадзе, а потым пілі гэту ваду.

Жніўная пара знаходзіла працу ўсім жанчынам без выключэння. Не абыходзіла яна бокам і цяжарных жанчын, у стане якіх найчасцей аказваліся «маладухі». Здаралася, што часам роды адбываліся прама на полі. Такіх нававароджаных дзетак у беларусаў называюць жытнічкі.

З другой паловы XX стагоддзя ўмовы працы, звязаныя з уборкай зернявых культур, рэзка змяніліся. Працу жняі падмянілі камбайны. Гэта ўнесла свае карэктывы ў функцыі адпаведнай абраднасці. Рытуалы і песні, звязаныя са жнівом, можна ўбачыць і пачуць сёння толькі на ўласным сялянскім полі і то — далёка не ўсюды і пераважна ад прадстаўнікоў старэйшых пакаленняў. Падобная з'ява яскрава сведчыць, што земляробчыя абрады цесна звязаны з канкрэтнай сферай дзейнасці чалавека і функцыяніруюць непасрэдна ў гэтай сферы. Са знікненнем жа пэўнага віду працоўнай дзейнасці знікаюць і абрады, суправаджаючыя яе.

У жніўні панамі сярпы — маруды тады не цярпі.

Будзе жыта — будзе й жытка.

Жні жыта ў пару — будзе што вазіць к двару.

Закончыш жніво ў пору — будзе што насіць ў камору.

На Іллю хлеба малю, а на Барыса (6 жніўня) — еш, хоць распрыся.

Збожжа без душы, ды душу корміць, а само есці не просіць.

Жнівень сее, жне і косіць, на сталах багацця досыць.

У жніўні сярпы грэюць, ды вада халодзіць.

Што поле ўродзіць — жнівень находзіць.

Дзень уборкі беражы — будзеш есці пірагі.

Хто ў жніўні гуляе, той узімку галадае.

## А ДАЙ, БОЖА, ПАГОДАНЬКУ...

*Жніўная, на пачатку жніва.*

А дай, Божа, пагоданьку*
Да й на нашу работаньку.
Мы ў пагодку парабляем,
А ў неўнасця пагуляем.

(8-89-244-3, л. 21)

## СІРОТЫЧКА ЖЫТА ЖАЛА...

*Жніўная.*

Сіротычка жыта жала,
К сырой земле прелегала.

К сырой земле прелегала,
З сырой зямлёй гаворі..,

З сырой зямлёй гаворіла:
— Ты, сырая маць-зямель..,

* Кожны радок паўтараецца.

Ты, сырая маць-зямелька,
Ўзяла майго бацьку й маці,

Ўзяла майго бацьку й маці,
Ўзяла маю ўсю радзі..,

Ўзяла маю ўсю радзіну,
Вазьмі мяне, сіраці..,

Вазьмі ж мяне, сірацінy.
— Ня буду я цябе бра..,

Ня буду я цябе браці,
Хачу табе долю да..,

Хачу табе долю даці,
Хоць і не такой, як людско...

Не такою, як людскою,
Хоць табе сіроцкай.

(8-94-282-1, л. 50)

## ДА ЗА БЕЛЕНЬКІМ БЯРЭЗНІЧКАМ...

*Жніўная.*

Да за беленькім бярэзнічкам
А малодачка жыта жала.

Да малодачка жыта жала,
Да прыйшоў жа к ёй мядзведзечка.

Да прыйшоў жа к ёй мядзведзечка:
— А, малодачка, дзіця плача.

А, малодачка, дзіця плача.
— Мядзведзечка, мой братачка,

Мядзведзечка, мой братачка,
Да пакалыхай маё дзіцятычка.

Да пакалыхай маё дзіцятычка.
— Вой рад бы я калыхаці,

Вой рад бы я калыхаці,
Да й баюся, каб не ўдраці.

— Мядзведзечка, мой братачка,
Прынясі ка мне дзіцятычка.

Прынясі ка мне дзіцятычка.
— Вой рад бы я табе прынесці,

Вой рад бы я табе прынесці,
Да баюся, каб не з'есці.

— Мядзведзечка, мой братачка,
Да й ні еш майго дзіцятычка.

Да ні еш майго дзіцятычка,
Да й ідзі ж ты ў дубровушку.

Да й ідзі ж ты ў дубровушку,
Да й і з'еж маю каровушку.

Да й і з'еж маю каровушку,
Да й лысую, падласую.

Да й лысую, падласую,
Ад бацюхна пасадную.

(8-93-270-1, л. 27)

## ПАРА ДАМОЙ МНЕ РАНЕНЬКА...

*Жніўная.*

Пара дамой мне раненька,
Пара дамой,
Ой, мне ране.., у-у!

Халодная раса ўпала,

Халодная раса,
Ой, раса ўпа.., у-у!

Ў мяне ў дварэ біда стала,
Ў мяне ў дварэ,
Ой, біда ста.., у-у!

Свякроў з печы звалілася,
Свякроў з печы,
Ой, зваліла.., у-у!

На барану прабілася,
На барану,
Ой, прабіла.., у-у!

Ні жалка мне свякровачкі,
Ні жалка мне,
Ой, свякрова.., у-у!

А жалка мне бароначкі,
А жалка мне,
Ой, барона.., у-у!

Свякровачка хвараць будзя,
Свякровачка,
Ой, хвараць бу.., у-у!

Бароначка пахаць будзя,
Бароначка,
Ой, пахаць бу.., у-у!

(8-92-266-3, л. 11)

## НАШ ДЗІРЭКТАР МАЛОДЗЕНЬКІ...

*Жніўная.*

Наш дзірэктар малодзенькі, у-у!
Ў яго конік вароненькі, у-у!

Ў яго конік вароненькі, у-у!

Ён ўсё поля аб'іджа.., у-у!

Ён ўсё поля аб'іджая, у-у!
І жнеічак падганя.., у-у!

І жнеічак падганяя, у-у!
— Жніце, жнеі, быстрэй, быстрэ.., у-у!

Жніце, жнеі, быстрэй, быстрэй, у-у!
Як да краю мы дажнём.., у-у!

Як да краю мы дажнёмся, у-у!
Гарэлачкі там нап'ёмся, у-у!

(8-94-286-1, л. 11)




Спасаўскія святкі ў беларускім народным календары складаюцца з трох частак: 14 жніўня — Першы або Мядовы Спас, Макавей, 19 жніўня — Другі Спас, які называюць яшчэ Вялікім, Сярэднім, Яблычным, і 29 жніўня — Трэці ці Малы, Хлебны, Арэхавы Спас.

Характар земляробчай працы зводзіўся ў гэты перыяд да ўборкі ўраджаю з палёў. Дажыналі жыта, пачыналі ўборку яравых: пшаніцы, ячменю, аўса, проса. У садах даспявала сада-

віна: яблыкі, грушы, слівы, якую ў залежнасці ад выспявання пачыналі здымаць са жніўня. На градках вырасла свежая гародніна: морква, буракі, радыска, рэпа, бручка, рэдзька, ранняя капуста, бульба — ва ўсякім разе кожная гаспадыня ўжо падавала падобныя ласункі да стала. Выспелі і бабовыя культуры: боб, гарох, фасоля, якія таксама ўбіралі, пачынаючы са жніўня. Шчодра надзялялі чалавека сваімі дарамі мясцовыя лясы і пушчы. Здавалася, што ўсё ў прыродзе, як бы змовіўшыся паміж сабою і пашкадаваўшы чалавека падчас мізэрных мінулагодніх запасаў ежы, якой у многіх сялянскіх сем'ях ледзьве хапала да новага ўраджаю, шчодра надзяляла чалавека працы сваім багаццем. «Спасаўка — ласаўка», — адзначалі сяляне, але адначасова і павучалі: «Спас — усім рабочы час». Трэба было спяшацца забраць гэтыя дары прыроды, маці-зямлі, захаваць іх, назапасіць на ўвесь будучы год, які б дазволіў чалавеку ўпэўнена пачаць новы віток жыцця.

Прыпомнім, што ўвесь папярэдні час чалавек, які працаваў на зямлі, маліў Духаў і Багоў аб добрым ураджаі, спрыяльным таму надвор'і — і вось нарэшце яго маленні збыліся, апраўдаліся, цяпер усё залежала ад таго, наколькі ён сам пастараецца сабраць вырашчанае. Таму ў Спасаўку, убіраючы ўласнае поле ці прыносячы пэўныя здабыткі з лугу або лесу, земляроб імкнуўся аддзячыць спрыяючых яго дзейнасці Духаў і Багоў за новы ўраджай. Так, падобна язычніцкай каляднай куцці, якую тройчы на пачатку года падавалі на стол дзеля прыбытку ў гаспадарцы і будучага ўраджаю, цяпер тройчы селянін прыносіў Спасу і іншым Духам і Багам свае ахвяраванні з новага ўраджаю ў падзяку за іх спагаду да яго.

У язычніцкай рэлігіі Спас — гэта бажаство, якое ўвасобіла ў сабе Духа ўраджаю, а магчыма, што нават узначальвала цэлы пантэон Духаў поля, лесу, лугу і г. д. У доказ гэтаму варта

напомніць, што непасрэдна да Спаса беларусы звяртаюцца ў многіх сваіх маленнях, прашэннях, замовах, абрадавых песнях. «...Святы Спас, спасі нас, спасі нашую душачку!» або «Святый Спас, памілуй нас!..», — моляць набожныя людзі, калі іх напаткае нястача ці гора (9-93-270-2, л. 7). У замовах ён уяўляецца як «Спас Спасіцель з дзвінаццацімі апосталамі», зверху якога ідзе ці ляціць «Сіла світая Гасподняя» (8-93-273-1, л. 31). У валачобных песнях Спас — гэта памочнік хлебароба: «Святы Іспас — старэнькі дзядок, на восець садзіў, жыта малаціў...», «Святы Спас па полі ходзіць, копы лічыць, раскладаець: гэта на семя, гэта на емя!..», «Святы Іспас гнаі возіць...», «Святы Спас едзець у поле ды зямельку мяшаець, прыгатаўляець...». У іншых матывах абрадавых песень «Святы Спас жыта пасвянцаець...», «яблыкі свенціць».

Пазней хрысціянства зрабіла сваё ідэйнае напластаванне на Спасаўскія святкі. Па-першае, з 14 па 27 жніўня быў уведзены пост, які ў народзе называюць спасаўскім або спажынным постам. Па-другое, відаць невыпадкова з усімі трыма святочнымі спасаўскімі днямі супадаюць хрысціянскія святкаванні: 14 жніўня — свята ў гонар Усяміласцівага Спаса і Прасвятой Багародзіцы, якое ўведзена ў XII стагоддзі і звязана з вайной князя Андрэя Багалюбскага супраць волжскіх балгар у 1164 годзе, 19 жніўня — «пераўтварэнне Госпада Бога і Спаса нашага Ісуса Хрыста», што адбылося нібыта ў Ізраілі на гары Фаворскай незадоўга да распяцця Сына Божага, калі вучні яго ў час малення раптам убачылі Хрыста ў белым адзенні, твар яго асвяціўся сонечным святлом, а голас з неба мовіў: «Сей ёсць Сын Мой любімы, у якім уся мая добрая воля, яго слухайце!», і 29 жніўня святкуецца ў гонар Нерукатворнага Вобраза Ісуса Хрыста, які атрымаў з рук Сына Божага і прынёс у сірыйскі горад Эдэсу мастак Ананій, дзеля выратавання ад цяжкай хваробы свайго правіцеля Авгара.

Пазней, у 944 годзе, імператар Канстанцін Багранародны выкупіў і перанёс гэту хрысціянскую святыню з Эдэсы ў тагачасную сталіцу грэка-візантыйскага хрысціянства — Канстанцінопаль і перадаў на захаванне ў Фароскую царкву Прасвятой Багародзіцы, чаму ў хрысціянскіх рэлігійных календарах гэты дзень пазначаецца як «перанос з Эдэсы ў Канстанцінопаль Нерукатворнага Вобраза Госпада Ісуса Хрыста». Патрэцяе, не асіліўшы старажытныя вераванні і погляды селяніна на Спасаўскія святкі, царква часткова асіміліравала іх у сваёй ідэйна-рэлігійнай канве і, як і ў спрадвечныя часы, па меры выспявання асвячае на ўсе тры святкі вырашчаную агародніну, садавіну, зерневыя і іншыя культуры, частку якіх хрысціянскія вернікі пакідаюць на ахвяраванне ў Божым храме.

У сённяшняй культурнай спадчыне беларусаў Спасаўскія святкі ўяўляюць сабой аднадзённыя маленні ў царкве і рытуальныя застоллі ў кругу сям'і.

На Першы Спас асвячаюць мак, жанчыны пякуць з новага хлеба праснакі, варэнікі, пірагі з макам. У беларускай традыцыйнай абраднасці маку надавалася значэнне ахоўнага сродку ад ведзьмакоў і дэманічных істот. Таму асвечаны мак захоўвалі, як і святую ваду, на працягу ўсяго года. На Тураўшчыне і Гомельшчыне на Макавея макам абсявалі гаспадарчыя пабудовы і хату «от небожчыкаў». Гомельскія сяляне пяклі пірагі з асвечаным макам і морквою, лічылі, што «на Макавея трэба ўволю наесціся маку». У беларускім агародніцтве вырошчванне маку займае немалаважнае значэнне. Напрыклад, на Палессі і сёння кожная гаспадыня вырошчвае да дзесятка кілаграмаў маку, які шырока выкарыстоўваецца ў народнай кулінарыі. Любімым ласункам як дзяцей, так і дарослых з'яўляецца мачанка з маку, для прыгатавання якой таўкуць мак, дабавіўшы ў яго крышачку вады і цукру, а потым мачаюць у атрыманую масу аладкі, бліны,

піражкі, хлеб. Паводле запісаў Е. Р. Раманава, у мінулым стагоддзі на Першы Спас паўсямесна рабілі крыжовае шэсце да вады — служылі «водяную отправу» і асвячалі ў царкве садовыя кветкі і агародніну. Асвечаныя кветкі, як зазначае вучоны, «кідалі ў ваду, у якой купалі хворых дзяцей».

Другі Спас — гэта асноўнае і галоўнае спасаўскае свята ў беларусаў. У гэты дзень катэгарычна забараняецца працаваць. Асвячаюць у царкве яблыкі, грушы, мёд, а на поўдні Беларусі семянное жыта. Ва ўсе часы нашы продкі беражліва ставіліся да вырошчваемага ўраджаю, зыходзячы з чаго толькі ад Другога Спаса дазвалялася есці яблыкі і грушы, якія да гэтага часу канчаткова даспелі і былі прыгодныя для ежы. Падобныя вераванні нашых продкаў асабліва тычыліся жанчын. Гаварылі, што ў жанчыны, якая пакаштуе раней тэрміну яблыкі або грушы, будуць паміраць дзеці. Шырока вядома на Беларусі паданне пра тое, што калі жанчына, у якой памёрлі дзеці, будзе есці да Яблычнага Спаса садавіну, то на тым свеце ў Спасаў дзень Бог раздае ўсім дзеткам «райскія яблычкі», а яе дзіцяці не дасць, спаслаўшыся, што яго яблычка з'ела маці. Найбольш набожныя людзі павучалі, што маці, дапусціўшай такі грэх, нельга есці садавіну на працягу сарака дзён пасля Спаса і толькі такім чынам можна апраўдаць перад Богам сваю віну. На Другі Спас пяклі пірагі з яблыкамі або мёдам, смажылі яблыкі ў печы, варылі яблычныя кампоты і кісялі, рабілі мядовы квас. Ад Першага Спаса да Другога Спаса пчаляры вымалі з вулляў запоўненыя рамы з сотамі або падразалі іх. Шматгадовыя назіранні падказвалі, што ад Спаса пры запоўненых сотах пчолы зніжаюць актыўнасць медазбору, чаго нельга было дапусціць. Ведаючы пра гэта, гаспадары забіралі на сваіх пасеках пэўную колькасць напоўненых мёдам рам. У святочны дзень пчаляры частавалі спасаўскім мёдам сваіх

знаёмых, сяброў і ўсіх, хто заходзіў на свята да іх у двор. У народзе бытуе павер'е, што толькі шчодрага пчаляра і ў будучым годзе «Бог надзеліць» багатым медазборам і добрым раеннем пчол. Палохалі таксама: калі пчаляр не пачастуе суседскіх дзетак мёдам, то ў яго «прападуць пчолы». У асобных праваслаўных прыходах на Спаса насілі ў царкву мёд у сотах на ахвяраванне Богу і Духам памёршых продкаў.

Трэці Спас характарызаваўся заканчэннем асноўных уборачных работ. Паўсямесна асвячалі семянное зерне для пасеву азімых культур. Ватагі дзяцей збіралі ў лесе арэхі, грыбы, ягады. З гэтага часу засальвалі і марынавалі на зіму асеннія грыбы: чорныя грузды, апенькі, лісічкі, рыжыкі. На полі заканчвалі ўборку бульбы, капусты, гарбузоў. Аратыя пераворвалі на зіму поле, рыхтавалі глебу для пасяўной азімых.

На працягу Спасаўкі павінна была адбыцца «рабінавая ноч», якая вызначалася моцнай навальніцай з грымотамі і дажджом. На Рагачоўшчыне тлумачаць, што ў гэту ноч чэрці выходзяць з пекла, каб адзначыць нейкае сваё важнае свята, а Ілля-прарок, даведаўшыся пра гэта, «паліць іх, нячыстых, пярунамі». Шматлікія народныя календары тлумачаць таксама, што ў такую ноч нібыта з'ядноўваюцца сілы прыроды, каб даць адпор «нячыстай сіле», і што такая ноч патрэбна, каб выспелі ягады рабіны.

Са Спасаўскімі святкамі ў нашага народа звязаны некаторыя павер'і і прыкметы. Гадалі аб ураджаі: калі на Макаўе ідзе дождж, спадзяваліся, што ў лесе будзе многа асенніх грыбоў; аб пачатку зімы і яе норавах: калі буслы збіраліся ляцець у вырай за тыдзень да Другога Спаса, то зіма будзе ранняя і марозная, а калі пасля Спаса, то, наадварот, восень чакалі цёплую і доўгую, а зіму познюю і ветраную. Дзяўчаты на Першы Спас, калі бралі каноплі ці прасявалі канаплянае зерне, загадвалі:

**Макавею, Макавею,**
**Я на табе канапелькі сею,**
**Скажы мне, Макавею,**
**Дзе мая пара,**
**Каб я з ім у гэту ноч**
**Канапельку брала!**

і чакалі, што ў сне прысніцца «суджаны». Спасаўскі перыяд быў небяспечны для пажараў, якія маглі ўзнікнуць у час сушкі снапоў у ёўні або ад навальніц. На Магілёўшчыне папярэджвалі: «Калі на Макаўе не бывае дажджу, то будзе шмат пажараў».

Спас — усім рабочы час.

Спасаўка — ласаўка.

Прыйдзе Спас — насыціць нас.

Як быў Спас, было хлеба ў нас.

Добра яблычка к Іспасу.

Прыйшоў Пятрок — апаў лісток, прыйшоў Ілля — апалі два, прыйшла Прачыстая — ўвесь лес ачысціла, а прыйшоў Спас — усяму час.

Першы Спас — провады лета.

Прыйшоў Спас — лета шасць.

Прыйшоў Спас — і лета ад нас.

Ад Першага Спаса халодная раса.

Прыйшоў Трэці Спас — бяры рукавіцы ў запас.






Прачыстая — гэта хрысціянскае восеньскае свята ці, дакладней, цыкл свят, звязаных з імем Прачыстай Дзевы Марыі, Багародзіцы, за якімі замацавалася і такая назва, як Багародзіцкія святкі: 15 (28) жніўня адзначаюць Дзень смерці (Успленне) Божай маці, 14 (21) верасня — Дзень нараджэння Багародзіцы і 14 кастрычніка праваслаўныя вернікі святкуюць Пакроў Прасвятой Багародзіцы. У народным календары гэтыя святы вядомы, як Першая, Другая і Трэцяя Прачыстая.

Найбольш важнае месца ў цыкле Багародзіцкіх святак беларусы надаюць Першай Прачыстай. У гэты дзень, паводле хрысціянскіх літаратурных крыніц, Маці Ісуса Хрыста — Прачыстая Дзева Марыя закончыла сваё зямное існаванне. Напярэдадні смерці Божая Маці пражывала ў Іерусаліме. Яна часта наведвала гару Галгофу, дзе малілася над трунай свайго сына. Аднойчы пад час малення да Багародзіцы з'яўляецца Архангел Гаўрыіл і апавяшчае яе аб чакаемай канчыне. З гэтай весткай Прасвятая Марыя вяртаецца на зямлю продкаў, якія, як і Божая Маці, паходзілі ад рода цара Давіда, у горад Віфлеем, каб прыняць там смерць. Да яе пасмяротнага ложа Святы Дух збірае ўсіх апосталаў, якіх яна блага-слаўляе і хваліць за іх стараннасць у пропаведзі Хрыстовага Евангелія. Нарэшце з'яўляецца і яе любімы Сын у акружэнні Ангелаў, Архангелаў і іншых Нябесных Сіл. Прасвятая Дзева Ма-рыя, пакланіўшыся Госпаду Ісусу Хрысту, перадала яму без усякіх мучэнняў сваю душу. Ангелы ўрачыстым спяваннем суправаджалі чыс-тую душу Боганявесты ў Нябеснае Царства. Аплакаўшы зямную разлуку з Божай Маці, святыя апосталы перанеслі і пахавалі яе цела недалёка ад Іерусаліма ў даліне Ісафата, дзе было сямейнае пахавальнае скляпенне роду Прасвятой Марыі. Пазней на гэтым месцы быў пабудаваны хрысціянскі храм Успення Прасвятой Багародзіцы.

У земляробчым календары беларусаў Першая Прачыстая практычна падмяніла па сваіх функцыях Трэці Спас, якому яна папярэднічае. Справа ў тым, што ў гэты перыяд асноўныя набажэнствы ў царкве праходзяць у дзень Успення. Да гэтага ж свята хрысціянскімі святарамі быў прымеркаваны язычніцкі земляробчы звычай асвячэння семяннога зерня, без якога набожны селянін не мог пачаць пасяўную. Таму ў дзень Першай Прачыстай у многіх прыходах цэнтральнай і паўночнай Беларусі гаспадары спяпа-

ліся да Божага храма памаліцца Богу і асвяціць «жыта на семяно». Палешукі на гэта свята свяцілі разам з жытам пахучыя зёлкі, якія збіралі на лузе і каля рэк, ад чаго ў Палескім рэгіёне дзень Прачыстай называюць яшчэ Зельнаю (ад «зёлкі»). У сваіх святочных маленнях сяляне дзякуюць Богу за паспяховае завяршэнне жніва, просяць Багародзіцу дапамагчы ўдала закончыць малацьбу і распачаць сяўбу, ахаваць іх падвор'і ад пажараў і іншых няшчасцяў.

Пасеў азімага жыта і пшаніцы, які пачынаўся ў паўднёвых раёнах адразу пасля Прачыстай, суправаджаўся характэрнымі рытуаламі і магічнымі дзеяннямі. Як паведамляе Е. Р. Раманаў, у многіх беларускіх вёсках папярэдне ў кожнай сям'і варылі курынае яйка, з якім сяляне прыходзілі ў агульнавядомае і звычайнае месца збору — у карчму, да царквы ці чыёй-небудзь хаты і разбівалі яйкі: «чыё яйка акажацца без звычайнай пустаты ў пятцы, таму першаму пачынаць пасеў». Астатнія сяляне-сейбіты пачыналі сеяць толькі пасля яго. Па традыцыі восеньскае засяванне поля пачыналі з аўторка, чацвярга або суботы.

На пачатку сяўбы ў хаце рабілі рытуальнае застольнае маленне. Гаспадар апранаўся ў святочнае адзенне, на стол засцілаў чысты абрус, ставіў на яго асвечанае жыта, запальваў свечку, якую на працягу года асвячалі тройчы: на Грамніцы, у Чысты чацвер і на Вялікдзень, і ставіў яе ў жыта, клаў туды таксама просфіру — кавалачак булачкі, асвечанай на Благавешчанне, крыжык, выпечаны на Хрэстцы і асвечаны на Вялікдзень, і кавалачак прыхаванага велікоднага пірага. Усёй сям'ёй маліліся Богу, а затым гаспадар складваў усё са стала ў кашэль, браў з сабой вярбу, асвечаную ў вербную нядзелю, і ішоў на свой надзел. «Там ён сыпле ў лубку з пасяўным жытам прынесенае ў кашалю зерне, здымае шапку і, стаўшы на ўсход, моліцца, аддае тры зямных паклоны і пачынае сеяць, абыходзячы на-

дзел кругом і так, каб зерне кідаць не супраць ветру»*.

У Старадарожскім раёне і сёння, калі пачынаюць сеяць жыта, гаспадар, кідаючы першую жменю, замаўляе:

Дай, Бог, каб парасло
На ўсякую долю:
І на хазяйскую,
І на Разанскую,
І на цыганскую,
І на ўсіх добрых людзей!

(8-93-270-4, л. 65)

Просфіру, крыжык і рэшту пірага закопвалі на краю нівы або, як гэта рабілі на Піншчыне, прыносілі дадому і з'ядалі ўсёй сям'ёй у час вячэры.

Па звестках Д. Г. Булгакоўскага, у Пінскім павеце сяўбу пачыналі «звычайна нашча ў пятніцу». Закопвалі ў канцы загона салому зажыначнага снапа і варанае яйка, а потым сеялі, прычым першую жменю зерня пінчукі кідалі ў зямлю левай рукою.

Відавочна, што, як і падчас вясенняй сяўбы, жаданні чалавека, якія выказваліся праз магічныя дзеянні і маленні, пры засяванні азімых культур былі прасякнуты думкаю аб будучым ураджаі і дабрабыце ў сям'і.

З Першай Прачыстай у народным календары звязаны шматлікія прыказкі і прымаўкі, якія характарызуюць яе як адметную мяжу, час, які вызначаўся спецыфікай пэўнага віду гаспадарчых работ і стану прыроды. Ад Першай да Другой Прачыстай канчаткова завяршалі ўсякія ўборачныя работы на полі. Апошнімі звычайна дакопвалі караняплоды, якім не страшны былі першыя замаразкі: буракі, моркву, бручку, і ссякалі капусту. Маючы на ўвазе гэты прамежак часу, пад-

* *Романов Е. Р.* Белорусский сборник. Вып. 8: Быт белоруса. Вильно, 1912. С. 276.

крэслівалі, што «прайшла Прачыстая — стала поле чыстае». З разлікам на ўрадлівасць глебы павучалі: «Да святла араць — лішнюю капу нажаць», «Араты пацей — будзе зямля сыцей», «Асенняя ўспашка, як у дзяжы заквашка». Пра подых восені, які вызначаўся значна зменшаным днём, халоднымі росамі і начнымі замаразкамі на зямлі, частымі дажджамі і вятрамі, гаварылі: «Прыйшла Прачыстая — зусім паціснула», «Прачыста — урачыста, але зіма блізка». У беларускім земляробчым календары нават назве Успленне надаюць народнае асэнсаванне і тлумачаць яе паходжанне ад слоў «паспець», «выспяваць». «Успленне — усякі плод даспеў», — свядома зазначаюць старыя людзі.

Асноўны від жаночых палявых работ зводзіўся пасля Першай Прачыстай да копкі бульбы, рассцілання на лугах і паплавах лёну, а на падвор'і да сушкі і абмалоту зернявых культур. Як ні дзіўна, але жаночая праца, наколькі б цяжкай яна ні была, заўсёды суправаджалася песняй. Не стаў выключэннем і восеньскі ўборачны перыяд. Спецыфіка восеньскага песеннага цыкла абумоўлена адміраючым, але ў той жа час урачыстым станам прыроды, якая, выканаўшы свае штогадовыя функцыі, адцвіла залаціста-барвовымі адценнямі ў фарбах лясоў і лугоў. Падобныя малюнкі прыроды наводзілі чалавека на адпаведны ім роздум, надалі восеньскай песеннай творчасці лірычны, крыху сумнаваты настрой і глыбокі філасофскі падтэкст:

Ой, пад гаем зеляненькім
Рвала дзеўка лён бяленькі.
Рвала, рвала, тонка слала,
К сырой зямлі прыпадала:
— Зямля ж мая сырэнька,
Ўзяла айца, ўзяла матку,
Вазьмі ж мяне сіротаньку.
— Што я мела цябе браць,
Лепей долю табе даць.
Долю даўшы — будзеш жыці,
Ў зямлю лёгшы — будзеш гніці.

Многія матывы восеньскіх песень вызначаны перадвясельнай парой:

А зялёненькі мой авясец,
А каго ж ка мне Бог прынясець?
А калі старога — не хачу,
А калі маладога — біці буду,
А калі ж роўніцу — жыць буду.

Восеньскі фальклорны цыкл падзяляецца на песні ярынныя, ільняныя, баравыя, пастухоўскія і талочныя.

Паводле народных назіранняў, ад Першай Прачыстай пачынаюцца дні «бабскага лета». На Гомельшчыне пра такія дні гавораць: «Бабскае лета, як яе доля» або «Бабскае лета, як дзявочая доля», што азначае: хоць прыгожае і цёплае, але кароткае.

Ад Першай Прачыстай пачынаецца восеньскі цыкл свят — Багач, Уздвіжанне, Пакровы і іншыя менш значныя ў народным жыцці прысвяткі.

Спас памілуе нас, а Прачыстая прынясе хлеба чыстага.

Спажа — хлеба дзяжа.

Прыйшла Гаспажа — у нас хлеба поўна дзяжа.

Пытае Ілля, ці гатова ралля, а Успленне, ці гатова насенне.

Спленне — цягні бульбу за карэнне.

Свята Прачыста — поле ўрачыста.

Прайшла Прачыстая — стала поле чыстае.

## ШЭРЫ ЗАІЧКА, А ПА ЯЧЫННІКУ Й ТУЛЯЎСЬ...

*Восеньская.*

Шэры заічка, а па ячынніку й туляўсь*.
Бегаў Ванічка й па свайму роду й хваліўсь:
— Слава ж Богу й, што я сёлета й жаніўсь,
А даў жа мне Бог такога цесця, як мой бацька,
А даў жа мне Бог такую й цёшчу, як мая маць,
А даў жа мне Божа такую жонку, як я й сам.

(8-94-282-1, л. 31)

## ЗАКАЦІСЬ, ЗАКАЦІСЬ, СОНЕЙКА...

*Восеньская.*

Закацісь, закацісь, сонейка,
За зялёненькі гаёк.

Ды звараціся, мой міленькі,
Ды звараціся, мой дружок.

Ды, калі ж ты ня вернісьця,
Буду плакаць па табе, у-ух!

Ды ні плач, ні плач, дзевычка,
Наплачысьця біз мяне.

(8-94-286-1, л. 17)

## ОЙ, ТЫ, ДОЛЯ, МАЯ Й ДОЛЯ...

*Восеньская.*

Ой, ты, доля, мая й доля**,
Не такая, як людская.

---

* Кожны радок паўтараецца.
** Першы радок у кожным куплеце паўтараецца.

Быдай, доля, ты згарэла,
Як за етыга хацела.

Быдай, доля, прапала,
Як за еткуга й пупала.

Буду долю я шукаці,
Буду долю я гукаці.

Адгукнулась мне доля
Ой, на тэй жа бок моря.

Ой, на тэй жа бок моря
У шынкаркі на лаўкі.

У шынкаркі на лаўкі
Ды й на самым куточку.

Ой, на самым куточку
Прапіла доля сарочку.

Ой, на салодкім мядочку
Ды й на горькай гарелцы.

(8-93-273-1, л. 48)




22—23 верасня — дні асенняга раўнадзенства. У народным календары ім папярэднічае свята Багач, а ў хрысціянскім — Другая Прачыстая, або Дзень нараджэння Багародзіцы. Як адно, так і другое свята адзначаецца 14 (21) верасня.

Хрысціянская назва свята гаворыць сама за сябе — у гэты дзень нарадзілася Маці Божая. Гістарыяграфічныя біблейскія крыніцы расказваюць, што бацькамі яе былі праведны Іаакім з роду прарока і цара Давіда і Анна з роду

першасвяшчэнніка Аарона, якія пражывалі ў Галілейскім горадзе Назарэце. Нараджэнне Прасвятой Дзевы Марыі было добрай воляй Бога, ад якой павінен быў з'явіцца на свет Божы заступнік і выратавальнік чалавецтву, бо, паводле тагачасных апісанняў, людзі ў сваіх дзеяннях і паводзінах столькі награшылі і дасягнулі такога маральнага ўпадку і ненавісці адзін да аднаго, што толькі воляй Бога можна было пазбавіцца падобнага грэхападзення і павярнуць свет да спрадвечнай гармоніі жыцця. Сваім нараджэннем Прачыстая Дзева Марыя пачынае Новазаветны перыяд у гісторыі хрысціянства.

Багач — язычніцкае свята ўраджаю. Яго правядзенне, як гэта тычыцца і іншых язычніцкіх рытуалаў, абумоўлена гаспадарчай дзейнасцю чалавека і яго светапоглряднымі стэрэатыпамі.

Да гэтага часу ўсякія работы на полі заканчваліся, а калі дзе і пераворвалі зямлю, дык толькі пад позневясеннія цёплалюбівыя культуры — авёс, грэчку і інш. Дбайны ж гаспадар імкнуўся да Багача закончыць усе палявыя работы і нават пачысціць і схаваць да вясны земляробчы інвентар, які ў прыказках да гэтага свята называецца «рагачом». Асноўная ж сялянская праца працягвалася цяпер у гумне, асеці, ёўні, млыне: малацілі зерневыя культуры, ачышчалі, «веялі» зерне, малолі яго на муку. Як бы там ні было, але здабыткі новага ўраджаю былі ўжо надзейна схаваны на гаспадарчым падворку і чакалі канчатковай апрацоўкі для захавання і спажывання.

На працягу ўсяго ўборачнага перыяду чалавек неаднаразова праводзіў шматлікія рытуалы падзякі і ахвяраванні Духам поля, ураджаю і іншым ніжэйшым боствам. Цяпер жа надыходзіў самы спрыяльны час аддзячыць і прынесці ахвяры вярхоўнаму, найгалоўнейшаму Богу славян-земляробаў — Сонцу, або Даждзьбогу. На падобны акт як сімвалічны знак неба заклікалі чалавека і ўказвалі дні восеньскага раўнадзенства. Непасрэдна пад час Багачоўскіх святак і праводзіліся

рытуалы пакланенняў і ахвярапрынашэнняў Даждзьбогу.

На жаль, у этнагарафічнай літаратуры звесткі пра гэта свята амаль што адсутнічаюць. Больш-менш поўнае і адзінае апісанне Багача зрабіў беларускі гісторык і этнограф мінулага стагоддзя Адам Багдановіч на падставе назіранняў у Ігуменскім павеце Мінскай губерні. Аўтар дае азначэнне яму як святу «завяршэння ўборкі хлеба і гаспадарчага дастатку» і асэнсоўвае з багаццем здабытага ўраджаю на падворку селяніна. Увогуле ж багачом вяскоўцы называлі лубку, запоўненую зернем «з новага хлеба», у якім стаяла свечка. Жыта для багача прыносілі па жменьцы-дзве ад кожнага гаспадара, воск на свечку таксама збіралі з усяе вёскі. Прычым, як апісвае А. Я. Багдановіч, «падрыхтоўка свечкі суправаджаецца агульнай вячэрай усіх удзельнікаў і асобнымі песнямі, што нагадваюць дажынкавыя». У дзень свята запрашалі святара, які запальваў свечку, што стаяла ў жыце, і праводзіў малебен «за новы ўраджай і Божую шчодрасць да людзей». Пасля малебна лубку з жытам пераносілі на другое падвор'е, дзе таксама маліліся Богу, і так абыходзілі ўсе двары ў вёсцы, а затым абносілі багачоўскім жытам і свечкаю статак сялянскай жывёлы, для чаго пастухі пераганялі яго бліжэй да вёскі. Пасля заканчэння рытуалаў абыходу вёскі і маленняў адносілі лубку з жытам і свечкаю ў якую-небудзь хату і ставілі на покуце да наступнага Багачоўскага свята, але кожны год у новага гаспадара. Багач павінен быў прыносіць вёсцы і асабліва таму гаспадару, у якога ён стаяў, багацце і шчасце. У апошняй хаце, дзе пакідалі на ўвесь год багач, наладжвалі рытуальнае застолле з пачастункамі і выпіўкай.

У час святочнага абыходу кожны гаспадар выносіў і ставіў на двары на стол сваю лубку з жытам, ячменем ці пшаніцаю, якую пасля заканчэння маленняў святар забіраў «на карысць царквы»*.

---

* *Богданович А.* Пережитки древнего миросозерцания у белорусов. Гродно, 1885. С. 122—125.

Па звестках А. К. Сержпутоўскага, такое свята шырока было вядома і на Палессі, дзе яно называецца Багатнікам. Вучоны таксама звязвае яго значэнне з восеньскім дастаткам: «Можна святкаваць, бо усяго е багацька».

Багачоўскае свята адзначалі і жыхары Віленскай губерні, да якога, як адзначае мясцовы святар-свяшчэннік І. А. Берман, выпякалі з новага ўраджаю вялікі каравай.

Асэнсоўваючы нават такія даволі скудныя звесткі пра свята Багач, можна сказаць, што ў мінулым яго рытуалы заключалі ў сабе, з аднаго боку, пакланенні, ахвярапрынашэнні і ўрачыстае ўслаўленне Даждзьбога за дастатак і багацце на гаспадарчых падворках, а з другога — маленні і прашэнні да Бога-Сонца ахаваць родавае паселішча, здабыткі ураджаю і здароўе людзей ад усякіх няшчасцяў і разарэнняў на ўвесь наступны зімовы перыяд.

У ахвяру Даждзьбогу прыносілі і жывёлу. Рэшткі гэтага звычая захаваліся да сёння ў Заходняй Беларусі, дзе прымеркавана к Багачу рэжуць барана ці авечку. Калі ж які-небудзь гаспадар не выконвае патрабаванні звычая, яму судзяць, што яго барана «воўк зарэжа».

Дарэчы, апошнім часам некаторыя даследчыкі, напэўна зыходзячы з сучаснага кліматычнага стану ў нашым краі і на падставе асобных прыказак і прымавак, што спалучаюцца з Багачоўскім святам, як, напрыклад, «Прыйшоў Багач — кідай рагач, бяры сявеньку дый сей памаленьку», сцвярджаюць, што ад Багача пачынаецца або прадаўжаецца сяўба азімых культур. На нашу думку, такое меркаванне памылковае, таму што кліматычная зона Беларусі не дазваляла сеяць азімыя пазней дзён асенняга раўнадзенства. А маюцца тут на ўвазе, відаць, работы, звязаныя з прасяваннем, «веяннем» зерня на ветры ці скразняку для ачышчэння яго пасля абмалоту ад вусоў і прымясей пустазелля, тым больш што іншыя прыказкі прама ўказваюць, што да Багача работы

на зямлі заканчваліся: «Багач — кідай рагач і з агарода прэч».

У дзень Багачоўскага свята або ў бліжэйшую да яго нядзелю на Беларусі праводзяцца восеньскія кірмашы, якія вызначаюцца тут незлічоным багаццем сельскагаспадарчай прадукцыі і іншых тавараў.

Народныя прыкметы гэтага часу гавораць, што калі бусел адлятае ў вырай да Другой Прачыстай або пасля яе, жывёла з самага ранку «рвецца на пашу», то зіма не прымусіць доўга чакаць.

Багач заткнуў у страху рагач.

Прыйшоў Багач — кідай рагач і з агарода прэч.

Прыйшоў Багач — кідай рагач, бяры сявеньку ды сей памаленьку.

Прыйшоў Багач — рыкнуў рагач.

Да Багача баба рабача, а па Багачы — хоць за плот валачы.

Багач — бярыся за рагач, ідзі пад авёс араць.

У стагнача хопіць хлеба да Багача.




Уздвіжанне адзначаецца 27 верасня ў праваслаўных хрысціян і 14 верасня ў католікаў.

Хрысціянская гісторыя гэтага свята звязана з падзеямі, што адбываліся на пачатку нашай эры. У гады праўлення рымскага імператара-язычніка Адрыяна (117—138) месца пакарання смерцю Ісуса Хрыста было засыпана зямлёю, а на кургане, які ўтварыўся штучна, пабудавалі капішча язычніцкай Багіні Венеры і статую Юпіцера. Пазней, у 313 годзе, другі рымскі імператар Канстанцін Вя-

лікі, які быў прызнаны за свае дзеянні Роўна-апостальскім, упершыню дазволіў свабоднае, без усякіх ганенняў, хрысціянскае веравызнанне. У 326 годзе ён накіроўвае сваю маці царыцу Алену ў Іерусалім з пісьмом да мясцовага Патрыярха Макарыя з просьбай адшукаць крыж, на якім быў распяты Сын Божы. У хуткім часе, пасля знішчэння язычніцкага капішча, на гары Галгофе былі праведзены раскопкі, што дазволілі знайсці Труну і Крыж Гасподні. Каб пераканацца ў сапраўднасці рэліквій Патрыярх Макарый узлажыў Крыж на нябожчыка, які тут жа ажыў. Хрысціяне, якіх прысутнічала вялікае мноства пры гэтым цудзе, пачалі маліцца і кланяцца Жыватворнаму Крыжу і прасіць свяшчэннікаў устанавіць («воздвигнуть») Крыж, каб усе маглі бачыць яго. Пасля адпаведных цырамоній з такога выпадку Святая царыца Алена прывезла ў Канстанцінопаль частку дрэва і цвікі ад Гасподняга Крыжа. Для захавання святых рэліквій у Канстанцінопалі быў узведзены храм у гонар Уваскрашэння Хрыстова. Асвячэнне храма адбылося 13 верасня 335 года, а наступны за гэтай датай дзень быў узаконены як свята Устанаўлення Чэснага і Жыватворнага Крыжа Гасподняга.

У народным жыцці беларусаў хрысціянскае значэнне свята амаль невядома, акрамя таго, што назву яго спалучаюць з тым, што «бацюшка ў час малення ў царкве як бы здвігаецца», робіць своеасаблівыя рухі (8-94-284-1, л. 14). Значэнне Узвіжання больш асацыіруецца ў народзе з уяўленнямі аб «закрыванні» зямлі напярэдадні зімовых халадоў і запаўзаннем з гэтага дня ў норы на зімовую спячку гадзюк і вужоў. У кожнай вёсцы ведаюць, што ў гэты дзень нельга хадзіць у лес, бо «змеі збіраюцца тады кучамі». На падставе падобных уяўленняў сярод беларусаў бытуе мноства паданняў і вераванняў. Найбольш вядомыя з іх пра цара гадзюк.

«На Звіжанне, — расказваецца ў паданні, запісаным у вёсцы Бучча Слуцкага павета, — га-

дзюкі збіраюцца ў адно месца, каб паўзці на зіму ў вырай. Гадзюкі, як і птахі, маюць свой асабісты вырай. Яны ў яго паўзуць пад камандаю свайго цара, каторы паўзе папераду ключа. От трэба на Звіжанне чуць свет пайсці ў лес, дзе каля палянначкі е шмат лому да й цікаваць. Як толькі ўзыдзе сонейка да добра прыгрэе, дак усякія гадзюкі пачнуць вылазіць з лому да з нор і паўзці на сонейка грэцца. Перш гадзюкі поўзаюць туды-сюды ўмітуські, а потым, як пакажацца сам цар, дык яны пачнуць яго абвіваць, як пчолы сваю матку. От тагды трэ па том клубку ўдарыць папліскаю, толькі адзін раз, не больш, дак цар гадзюк і скіне свае рожкі. Тагды хутчэй іх узяць і ўцякаць, не аглядаючыся, а то гады загрызуць»*. Старыя людзі расказваюць, што той, хто мае гэтыя рожкі, якія яшчэ называюць каронай цара гадзюк, можа бесперашкодна адкрываць любыя запоры. І калі яны трапляюць да злодзея, то яго «затым ніхто не мажэ злавіць».

Закрыванне зямлі на зіму суправаджаецца, па народных вераваннях, гульнёю сонца на ўсходзе. Як расказваюць у Копыльскім раёне, «на Узвіжанне сонца, калі ўсходзіць, — гуляе, прыгае, дзвіжацца»; па назіраннях Буда-Кашалёўскіх сялян, «сонца зранку двігаецца, коціцца катком і пераліваецца рознымі колерамі»; на Усходнім Палессі яно быццам бы «іграе і дрыжыць».

У працоўным рытме гэтага часу працягвалася апрацоўка новага ўраджаю. Начныя замаразкі прымушалі паспяшацца з перавозкай у гумны снапоў, якія ляжалі ў скірдах на полі, або карняплодаў, што былі прыхаваны на нейкі час пад саломаю. Ураджай на полі звычайна пакідалі, калі не маглі адразу ўмясціць усё вырашчанае ў гумне або пад павеццю.

Да Уздвіжання амаль усе птушкі адляталі ў вырай, таму ў народзе зазначаюць, што гэта свята

* Беларуская народная творчасць: Легенды і паданні / Склад. М. Я. Грынблат і А. І. Гурскі. Мінск, 1983. С. 185—186.

закрывае летнюю пару, а «ключык шэрая птушачка за мора аднесла».

Паводле народных павер'яў, на Уздвіжанне нельга пачынаць якія-небудзь справы, таму што ўсё пачатае ў гэты дзень будзе марнай і безвыніковай працай або задумай.

На Уздвіжанне халат з плеч, а кажух на плечы.

Уздвіжанне з поля збірае.

На Уздвіжанне ўсё ў хату ўздвігаецца, каб мароз не пабіў.

Уздвіжанне — апошні воз з поля рушыў, а птушкі ў вырай пацягнуліся.

На Уздвіжання пару гадзюкі й вужакі хаваюцца ў нару.

Уздвіжанне лета замыкае, ключык шызая галачка за мора панесла.




Свята Пакровы ў народным і праваслаўным календарах прыпадае на 14 кастрычніка. Этымалагічнае значэнне лексемы 'пакровы' паходзіць ад слоў 'пакрыць', 'пакрываць' (пакрыць зямлю снегам).

У хрысціянстве гэта назва асацыіруецца з паняццем 'пакрывала Маці Божай' і ў адпаведных паданнях звязваецца з канкрэтнай падзеяй з жыцця і дзейнасці Дзевы Марыі.

А падзея такая адбылася нібыта ў сярэдзіне X стагоддзя ў горадзе Канстанцінопалі ў Влахерн-

скай царкве, дзе захоўваліся рыза Божай Маці, яе галаўны ўбор (мафорый) і частка пояса, што былі прывезены сюды з Палесціны яшчэ ў 500-я гады сучаснага летазлічэння. У час аднаго з начных маленняў, якое адбывалася ў гэтай царкве 1 кастрычніка, хрысціянскія вернікі Андрэй і Епіфан у чатыры гадзіны ночы, паглядзеўшы ў неба, убачылі, як адтуль да веруючых набліжаецца Маці Божая, якую акружалі анёлы і «сонм святых», а таксама Іаан Прадцеча і Іаан Багаслоў. Багародзіца, спусціўшыся да людзей, прыпала на калена і доўгі час малілася за ўсіх хрысціян, а закончыўшы маленне, зняла свой галаўны пакроў і распасцёрла яго над усімі, хто прысутнічаў у час малення ў храме, як тлумачаць сучасныя багасловы, абараняючы такім чынам Божых вернікаў ад бачных і нябачных ворагаў.

У рускай праваслаўнай царкве свята ў гонар такой падзеі было ўведзена ў XII стагоддзі. З таго часу на нашай зямлі з'явіліся і першыя храмы і цэрквы Пакрова Божай Маці. У беларускіх епархіях такія культавыя збудаванні дзейнічаюць на сёння ў гарадах Віцебску, Гродна, Дзяржынску, Дуброўна, Маладзечна, Клецку, Баранавічах, Жабінцы, Талачыне і многіх іншых населеных пунктах.

Штогод у Пакроўскіх маленнях праваслаўныя вернікі звяртаюцца да Прасвятой Багародзіцы з прашэннямі аб абароне і дапамозе: «Памяні нас у Тваіх малітвах, Божая Дзева Багародзіца, ды не загінем за памнажэнне грахоў нашых, пакрый нас ад усялякага зла і лютых напасцей. На Цябе бо спадзяёмся і Твайго Пакрова свята ўшаноўваючыя Цябе праслаўляем» (Месяцесл., с. 144—146).

У народным календары назва Пакровы атаясамліваецца таксама з пакровам зямлі, што праяўлялася ў заканчэнні ўсіх палявых работ і поўным адміраннем прыроды напярэдадні зімовых халадоў. Зямля, як тлумачаць старэйшыя людзі, павінна адпачыць да наступнага лета і чапаць яе пасля Пакроваў ні ў якім разе не дазвалялася.

Такое значэнне Пакровам надаецца і ў абрадавай паэзіі: «Святы Пакроў зямелечку засцілаець жоўтым лістам, белым снегам...», «А Ўзвіжанне з поля дзвігні. Святы Пакроў — саўсім дамоў...», «Святы Пакроў пакрыў зямлю жоўтым лістом, маладым сняжком...», «Святы Пакроў пытаецца да ў Вазвышкі: «Ці ўпахала ў полі жыта?», «А я й буду да й хадзіці, аглядаці, ці ўруніла ў полі жыта, зямлю лістом засыпаці, а снегам чыстым пакрываці»*.

«Бог пячатае зямлю пасля Пакроваў», — гавораць у народзе. Нават у шукальнікаў скарбаў бытуе павер'е, што шукаць нешта ў зямлі пасля гэтага свята — безнадзейная справа.

Сярод нешматлікіх звычаяў Пакроўскага свята, як зазначае адзін са складальнікаў сучаснага народнага календара У. А. Васілевіч, найбольш выразна праявілі сябе звычаі абыходу гаспадарчых пабудоў, што захаваліся яшчэ на Віцебшчыне. Зранку гаспадыні ў кожнай сям'і пяклі пакроўскі пірог, з якім абыходзілі хату, хлеў, асець, лазню і г. д., дакранаючыся пірагом да страхі гэтых пабудоў. Лічылі, што пасля такіх абыходаў моцныя вятры і буры, якія суправаджаюць зімнюю пару, не змогуць разбурыць стрэх, якія ў нашым краі робяць з жытняй саломы.

Іншых пакроўскіх звычаяў, рытуалаў, абрадаў у побыце беларускага народа даследчыкамі не зафіксавана. Магчыма, што яны не захаваліся і ўвогуле, тым больш што выразней у народным жыцці Пакровы праявіліся як пэўная мяжа ў паўсядзённай гаспадарчай дзейнасці чалавека і яго сямейным жыцці.

На Пакровы заканчваўся выган жывёлы на пашу. Звычайна пастухі наймаліся пасвіць жывёлу ад Юр'я да Пакроваў. У гэты дзень гаспадары рабілі канчатковы разлік з пастухамі за іх працу. У далейшым у кожнай гаспадарцы жывёлу пера-

---

* Беларуская народная творчасць: Валачобныя песні / Уклад. Г. А. Барташэвіч, Л. М. Салавей. Мінск, 1980. С. 108—149.

водзілі на стойлавы перыяд утрымання. Таму, як падкрэслівае народная мудрасць: «Прыйшла Пакрова — кіі на дрова».

Ад Пакроваў жанчыны пачыналі апрацоўваць лён, які ўжо досыць прасушыўся ў сялянскіх асецях ці ў хаце на печы. Трэба было аддзяліць валакно ад кастрыцы. Відавочна, што гэты від гаспадарчай дзейнасці адлюстраваны і ў назве месяца — кастрычнік, які пачыналі Пакровы, бо па стараму стылю гэта свята прыпадала менавіта на 1 кастрычніка. На працягу ўсяго месяца ў асецях, гумнах, пунях лён мялі, вытрасалі, вычэсвалі — рыхтавалі льноваланко для сукання і звівання ў ніткі.

Да Пакроваў сваталі дзяўчат. Трэба зазначыць, што сярод іншых сямейных абрадаў абрады і рытуалы вяселля найбольш прытрымліваліся пэўных тэрмінаў народнага календара. Цяпер, калі былі закончаны ўсе палявыя работы, а ў засеках селяніна было што ўзяць і падаць да стала, надыходзіў самы спрыяльны час для гуляння вяселляў. Таму да Пакроваў бацькі жаніхоў засылалі сватоў да дзяўчат. Ад Пакроваў да Піліпаўскага посту, які пачынаецца з 28 лістапада, у кожным родзе спраўлялі дзецям вяселлі. Бо пазней гэтага тэрміну, у пост, ніхто і ніколі вясельных застолляў не рабіў, падобнае лічылася за вялікі грэх, а сям'і, створанай у такі час, прадказвалі самыя розныя няшчасці ў жыцці. «У Піліпаўку, — як тлумачылі з даўніх часоў нашы продкі, — толькі ваўкі ды сабакі вяселлі водзяць ды нема выюць». Таму і зазначаюць у народзе: «Пакрова — дзеўка гатова. Пакрова прайшла — дзеўка замуж не пайшла».

Характэрнай адметнасцю Пакроваў стаў у апошнія стагоддзі асенні набор у войска, які пачынаецца штогод з кастрычніка. Як зазначыў на пачатку нашага стагоддзя А. К. Сержпутоўскі, у дзяўчат «...самы вялікі клопат — хлопцаў бяруць у салдаты. Хлопцы ходзяць п'яныя, гуляюць перад канцом, пяюць песні ды развітваюцца з

дзеўкамі. Ніколі так хлопцы не любілі моцна, як цяпер, ніколі не рвалася так сэрца, як цяпер, на развітанні. Дзеўкі ходзяць да знахарак варажыць, ці застанецца любы, ці не»*. У кожнай сям'і, з якой забіралі навабранцаў на службу ў войска, бацькі наладжвалі Вечар провадаў.

З Пакроваў моладзь пачынала таксама збірацца ў тую ці іншую хату на вячоркі.

Як бачым, свята Пакровы як бы падзяляла год на летні і зімовы перыяды і, зыходзячы з гэтага, умовы працы чалавека. Да ўсяго трэба дадаць, што яшчэ ў зусім нядаўнія часы першыя зазімкі на Беларусі пачыналіся менавіта з Пакроваў. Праца земляроба пераносілася цяпер у асноўным на падворак і ў хату. Не менш важны ўплыў на характар працы аказвала таксама працягласць дня і ночы, калі цемра і холад упэўнена ўступалі ў свае правы.

З Пакровамі ў беларускім народным календары звязваюцца шматлікія назіранні аб будучым надвор'і. Адзначалі, калі на Пакроў зямля не схаваецца пад снегам, то і Каляды пройдуць без снегу, а таксама не будзе яго на працягу наступных двух тыдняў; якое надвор'е ў пакроўскі дзень, такой будзе і ўся зіма; з якога боку ў гэты дзень дзьме вецер, з таго боку ён будзе дзьмуць у асноўным на працягу ўсёй зімы: прычым, паўночны вецер на Пакровы прадказваў суровую зіму, паўднёвы — мокрую і з невялікімі маразамі, усходні — маласнежную, а заходні вецер указваў на зіму снежную з завеямі і моцнымі вятрамі.

Ярка выражаныя абрадавыя пакроўскія песні ў беларускім фальклоры амаль не адзначаны. Аднак у многіх народных песнях восеньскага цыклу выразна адлюстраваны жыццёвы рытм і дзейнасць чалавека гэтага часу, якія ўмоўна можна назваць як прымеркаваныя да Пакроўскага свята. Некаль-

* *Сержпутоўскі А.* Прымхі і забабоны беларусаў-палешукоў. Мінск, 1930. С. 107.

кі ўзораў такіх песенных тэкстаў мы і даём у дадатку да артыкула.

Прыйшоў Пакроў — зарэжам барана на кроў.

Прыйшла Пакрова — усохла дуброва.

Прыйшла Пакроўка — не дала малака кароўка.

Пакровы — зарыкалі каровы.

На Пакрова дай сена карове.

Святы Пакроў пытаецца ў плутоў: «Дзе Вы летавалі і дзе зімаваць будзеце?»

Хто сее па Пакрове — не будзе мець чаго даць карове.

Святыя Пакровы пакрываюць лес лістом, траву сняжком, ваду лядцом, а дзяўчыну шлюбным чапцом.

Святы Пакроў пакрыў рыбу луской, дрэва карой, птаху пяром, дзеўку чапцом.

Святы Пакроў накрыў зямлю жоўтым лістом, маладым сняжком, ваду лёдам, пчалу мёдам.

Святый Пакроў стагі пакрыў: першы стажок дранічкамі, другі стажок саломкаю, трэці стажок белым снегам.

На Пакрова дзеўка гатова, а прайшла Пакрова — раве бы карова.

Як на Пакровы дождж, то на Юр'я лісце.

На Пакроў мароз — сей пад кустом авёс.

Калі на Пакроў бяроза і дуб застануцца без лістоў — да цёплай зімы, а калі не — да халоднай.

Як на Пакроў дождж ідзе, то бортнік скача, а пахар плача.

## ОЙ, ПРЫЙШЛА ВОСІНЬ...

*Восеньская.*

Ой, прыйшла восінь —
Зарэжам лося,
Да некаму есць будзь.., ух!

Ой, Пакроў, Пакроў,
Ня будзь ты такоў,
Як тая Прачыста.., ух!

Прачыстая прыйшла —
Ўсё лісця ўбрала,
Пакроў дажыдала, ух!

(8-94-285-1, л. 25)

## АХ, ВОСІНЬ, ВОСІНЬ, МАКРОТА...

*Восеньская.*

Ах, восінь, восінь, макрота,
Хлопцам жаніцца ахота,
Дзіўчатам замуж іцці няхота.
Хлопцы жэняцца — песні пяюць,
Дзіўчаты замуж ідуць — слёзы льюць.
Ах, восінь, восінь, макрота,
А ўсім вяселлі ў ахоту.

(8-89-244-5, л. 51)

## СЯДЗІЦЬ ЗАІНЬКА ПАД БЯРОЗКАЮ...

*Восеньская.*

Сядзіць заінька пад бярозкаю,
Вочкі трэ,
Ён жалкуецца шчэ й на хлопчыка,
Што заб'е:

— Ці я тваіх вароных коней
Папудзіў?

Ці я тваю красну дзевачку
Пагудзіў?

Папудзілі вароных коней
Мядзведзі,
Пагудзілі красну дзевачку
Саседзі.

Папудзілі вароных коней —
Ні дагнаць,
Пагудзілі красну дзевачку —
Нільзя брацъ.

(8-92-286-2, л. 30)

## ОЙ, АРАЛА, ВАЛАЧЫЛА...

*Восеньская, удоўя.*

Ой, арала, валачыла,
Люта зіма захваціла.

Ой, пайду я к свайму брату
Прасіціся к яму ў хату.

— Пусці, братко, мяне ў хату
Ў хаце зіму зімаваці.

Ў хаце зіму зімаваці,
Дробных дзетак гадаваці.

Ой, сеў дзядзько да й думае,
Дума думу навявае.

Дума думу навявае,
Сляза слязу наганяе.

— Вядзі, сястра, дзяцей ў хату,
Пасаджу іх на прыпечку.

Пасаджу іх на прыпечку,
Дам іх хлеба па кусочку.

Дам ім хлеба па кусочку,
Да йшчэ й солі па драбочку.

— Ешце, дзеткі, йшчэ й мачайце,
А на болей прабачайце.

(8-89-243-2, л. 31)




Піліпаўка ў народным земляробчым календары пачынаецца з 28 лістапада і заканчваецца 6 студзеня. Напярэдадні, 27 лістапада, вернікі грэка-візантыйскай царквы адзначаюць дзень Вялікага прапаведніка і знаўцы слова Хрыстовага Святога апостала Піліпа, адкуль і паходзіць назва наступных дзён. Дарэчы, да Піліпавага дня дапасоўваецца канец мясавіду і загавіны напярэдадні шасцітыднёвага перадкаляднага посту.

Адметнасць гэтага часу характарызуецца, па-першае, строгімі законамі посту, які суправаджае піліпаўскія дні і ў многім накладае на іх свой адбітак, а па-другое, спецыфікай гаспадарчай дзейнасці чалавека, правядзеннем ім вольнага часу, у якім актыўна праявілася песнятворчасць беларускага народа і актывізацыя бытавання іншых фальклорных жанраў.

У гадавым коле дзён Піліпаўка вызначаецца самымі моцнымі маразамі і завеямі. Ваўкі і сабакі пачынаюць вадзіць вяселлі, чаму ў нашым краі гавораць: «У Піліпаўку воўк нема вые». Звычайна працяжным і доўгім выццём важакі збіралі да сябе воўчую зграю. Згодна традыцый праваслаўных пастоў, са сталоў у кожнай сям'і знікае ўсё скаромнае. Ежа падаецца посная: рыба, агуркі, бульба, буракі, капуста, морква, грыбы, рэдзька. Стравы, зробленыя з іх, запраўляюцца алеем ці канапляным маслам. Нават дзяцей, каб яны не елі чаго скаромнага, напрыклад на Рагачоўшчыне, палохалі: «Не еж жырнага, а то поп зловіць, вуха адрэжа, а попу залапіць». Забараняюцца ўсялякія ўвесяленні, ігрышчы. Песні гэтага часу больш сумныя: паставыя, лірычныя, з глыбокім роздумам аб сэнсе жыцця, сусвету, месцы чалавека ў ім. Ды і ўвогуле настрой сялянскага жыцця вельмі дакладна мусіў гарманіраваць, згодна дзедаўскіх законаў, настрою прыроды і надвор'я. І такія дзедаўскія погляды мелі сваё апраўданне: на працягу амаль усяго піліпаўскага перыяду светавы дзень становіцца ўсё меншым і меншым і на 19—23 снежня дасягае сваёй крытычнай адзнакі — крыху больш за сем гадзін. Таму цяпер, калі на зямлі панавалі цемра і холад, а святло і цяпло, роўна як і добрыя Духі і Багі, якія быццам бы надзялялі ім чалавека і зямельку, былі, згодна народных уяўленняў, пераможаны моцай змроку і злымі сіламі, чалавек імкнуўся выказаць свой смутак і журбу аб закаванай маразамі прыродзе і нібыта пераможаным і паміраючым Духам і Багам, якія яму былі жаданыя

і якім ён штодзённа пакланяўся і маліўся. Забягаючы наперад, варта прыпомніць, як мяняюцца паўсядзённы настрой і паводзіны чалавека, якія вылiлiся ва ўсенароднае каляднае гулянне і радасць, пасля зімовага сонцастаяння, калі дзень пачынаў прыбываць.

Адметнай з'явай у сялянскай працы становіцца апрацоўка льновалакна, з якога сукалі і пралі ніткі. Жанчыны збіраліся невялічкімі кучкамі ў адну з хат, дзе і займаліся такой справай. Дзенідзе піліпаўскімі вечарамі апрацоўвалі воўну — авечую шэрсць, якую вычэсвалі, а затым каталі з яе валенкі альбо пралі суконныя ніткі. Сялянка вёскі Ржавец Чэрыкаўскага раёна Магілёўскай вобласці Марыя Ермалаеўна Марозава ўспамінае, як гэта было ў 30—40-я гады XX стагоддзя: «У Піліпаўку дак ужо знаіця як пралі. Не было ў нас света, а мы пры капцілачке. Вот капцілачка гаріць і мы сабіраемся ўсе, хто з кудзеляй, хто з грэбнем, садзімся ўсе — пяць, чатыры... сколька там дзяўчат ходзіць, столька сабіраемся і прядзём. Вот веряцёны былі такія длінныя, на етыя веряцёны ўжо столькі напрядзёш, што круціць нільзя, а ўсё падсукваеш ету пряжу. Ну, і песні ўжо тады пелі, вот у сыботу і в васкрысення. А ўжо ў будзённый дзень... ніякіх песен ні пелі» (8-93-273-1, л. 23). Падобныя зборы жанчын набылі на Беларусі назву піліпаўскіх вячорак ці попрадкаў.

Магчыма, што першапачаткова такія калектыўныя працоўныя вечары мелі адзіную назву — попрадкі, а вячоркі, як іх паралель, узніклі значна пазней, недзе ў XVIII—XX стагоддзях, калі разбурэнне і пераасэнсаванне старажытных традыцый, адступленне ад дзедаўскіх законаў, пра якія мы ўпаміналі вышэй, набылі, пераважна ў маладзёжным асяродку, даволі актыўны пачатак.

У большасці мясцовасцей на вячоркі збіраліся, аб'ядноўваючыся па ўзростава-полавых групах: старэйшыя жанчыны, мужчыны, маладзіцы, дашлюбная моладзь. Паводле апісанняў М. В. Доўнар-

Запольскага, зробленых на падставе этнаграфічных матэрыялаў XIX стагоддзя, ужо з восені моладзь дамаўлялася з гаспадарамі, у якой бы хаце ім дазволілі збірацца піліпаўскімі вечарамі. Калі пастаяннага месца знайсці не маглі, то па чарзе кожны вечар пераходзілі з адной хаты ў другую. Кожная маці, выпраўляючы дачку на вячоркі, давала ёй з сабою кудзелю, кавалак хлеба і сала. «Вечар, — як зазначае далей вучоны, — пачынаецца вельмі паважна. Дзяўчаты прыходзяць з кужалем і прадуць, паціху спяваючы. Часам бабуля расказвае ім казкі. Але вось гуртам увальваюцца хлопцы. Пачынаюцца жарты, размовы і таму падобнае. Хлопцы падсаджваюцца да дзяўчат, не абыходзіцца без абдымкаў, пацалункаў, ушчыпванняў. Наогул вядомая вольнасць у адносінах на вячорках не толькі дазваляецца, але нават патрабуецца звычаем, і дзяўчыну могуць выключыць з вячорак, калі праз меру сур'ёзна супраціўляецца звычайным жартам. Зрэшты, не трэба думаць, што жарты гэтыя і вольнасць заходзяць вельмі далёка або становяцца не зусім прыстойнымі. ...На вячорках не існуе розніцы паміж багатым і бедным хлопцам, прыгожым і непрыгожым. Усе аднолькава роўныя»*.

Закончыўшы працу і азнаёміўшыся паміж сабою, дзяўчаты і хлопцы наладжвалі сумесную застольную вячэру, на якую запрашалі мясцовага музыканта. Працягваўся такі вечар часам далёка за поўнач з музыкай, танцамі, песнямі, да чаго занадта ахвоча была моладзь. У маладзёжным асяродку нават змест піліпаўскіх песен набываў жартаўліва-гульнёвы характар, як, напрыклад, у песні, запісанай у вёсцы Сава Горацкага раёна Магілёўскай вобласці:

Як прыйшоў, як прыйшоў казёл пад аконца:
— Ці прадуць, ці прадуць дзеўкі валаконца?

---

* *Довнар-Запольский М.* Заметки по белорусской этнографии // Живая Старина. СПб., 1893. Вып. 2. С. 295.

А ўсе дзевачкі прадуць, адна Манька не прадзе,
Аддадзім мы яе за казла, за казла.

За карасліва пуза, за крывую за нагу,
За крывую за нагу, за сівую бараду...

Старэйшыя ж людзі адназначна на працягу ўсёй Піліпаўкі прытрымліваліся традыцый хрысціянскага перадкаляднага посту. Бабулькі, збіраючыся выхаднымі днямі ў якой-небудзь сваёй сяброўкі, найчасцей спявалі набожныя песні — псалмы, якія характэрны былі для дзён піліпаўскага і перадвялікоднага пастоў.

Па надвор'і, якое трымалася на працягу Піліпаўкі, спрабавалі зрабіць прагноз на будучае лета. Гаварылі, калі Піліпаўка хмарная або снежная, то май будзе мокрым; піліпаўская «непагадзь» абяцала ўраджайнае лета; калі да піліпаўскіх запускаў мянтуз намеча ікру, то зіма закончыцца хутка, а вясна будзе ранняй і г. д.

У Піліпаўку дзень да палудня.

У Піліпаўку воўк нема вые.

Як Піліпаўка настала, то ваўкі ідуць гайною (зграяю. — *У. С.*).

Піліп дзяцей адзявае.

Піліпаўскія ночкі надзенуць сарочкі.

Піліпаўскія ночкі прадуць сарочкі.

Спорны піліпаўскі клубок, як пятроўскі стажок.

Што ў Піліпаўку спрадзеш, тое ў Вялікі пост сатчэш.

Піліпаўскі лёд кажа: «Хоць трашчу, але не пушчу».

Як у Піліпаўку навісь на дрэвах, то будзе ўраджай на хлеб.

## ДЗЕ ГАСПОДЗЬ ПРАХАДЗІЎ...

*Паставая песня (псалм).*

Дзе Гасподзь прахадзіў,
Там сады пасадзіў.

Пасадзіў ён сады
Маладым і ўдавам.

— Маладыя ўдавы,
Палівайця сады,

Не вадою, не расою,
А гарачаю слязою.

Ой, адна і ўдава
Ніпаслушна была,

Напусціла вады
З-пад крутыя гары.

Ой, па той па вадзе
Грешны душы плылі.

Яны плавулі,
Расплываліся,

На радных на сваіх
Абіжаліся:

— Вы, радныя, былі,
Як няверны царі.

Як няверны царі
Нас не навучалі,

Да Божыга храму
Нас не пасылалі.

А толька вучылі,
А ўсё й быгацець.

За ета мы будзема
Ў пламені гарець.

(8-93-273-1, л. 53)

## ПРАДУ, ПРАДУ, ДЫ КУДЗЕЛІЦУ...

*Пілiпаўская.*

Праду, праду, ды кудзеліцу,
А галоўка баліць.

Як кіну я да кудзеліцу
Усё й пад караваць,

А сама пайду маладзюсенька
Ў карчомку гуляць.

Як зап'юся, загуляюся
На чатыры дні.

А на пятый жа дзянёчак
У двор прывялі.

Дзевярочык-лебядзёчык
Ў варотах стаіць.

— А, нявестухна, ты, лябёдухна,
Прысціражыся.

Прывязёна тры вазы лазы
І ўсё для цябе.

— Дзевярочык-лебядзёчык,
Будзь ты за мяне.

А пашыю я ды кашулюхну,
А ўсё для цябе.

Як пачуў жа ды мой міленькі,
Ў варотах стаяў:

— А я етых тры вазы лазы
Ў печы папалю.

А я ету кашулюхну
Я і сам знашу.

(8-91-258-А-3, л. 28)

## ДУНЯ Ж, НАША ДУНЯ...

*Піліпаўская.*

Дуня ж, наша Дуня
Тонкапраха была.

Тонкапраха была,
Тры дні нітачку віла.

У гадочак прасціночак,
У нядзельку нітачку.

Вот дзівятая вясна,
Яна не ставіла красна.

На дзісятая вясна
Дуня паставіла красна.

Скрозь гораду ткала,
Колам прабівала.

Ехалі казакі,
Бог-помач казалі:

— Памажы, Бог, Дуні
Рагожу даткаці.

— Хоць жа вы казакі,
Дык жа вы дуракі.

Гэтая ж тканіна —
Тонка парусіна.

(8-91-254-2, л. 48)

## ОЙ, КАЛЯДАЧКІ, ПРЫБЛІЖЫЦЕСЯ...

*Пілipаўская.*

Ой, калядачкі, прыбліжыцеся,
Ай, люлі, люлі, прыбліжыцеся.

Ай, каўбасачкі, паніжыцеся,
Ай, люлі, люлі, паніжыцеся.

Мы ж Вас, Калядачкі, шанаваць будзем,
Ай, люлі, люлі, шанаваць будзем.

Кожны вечарок святкаваць будзем,
Ай, люлі, люлі, святкаваць будзем.

То на йгрышчайка, то з ігрышчайка,
Ай, люлі, люлі, то з ігрышчайка.
На йгрышча йдучы, аж душа гарыць,
Ай, люлі, люлі, аж душа гарыць.

З ігрышча йдучы, галава баліць,
Ай, люлі, люлі, галава баліць.

(8-91-254-2, л. 50)



*І праця,*
*і свята*
*свої час мають*






Нараджэнню дзіцяці спакон вякоў нашы продкі надавалі асаблівую ўвагу і прыхільнасць. Шматлікія забароны, вераванні, магічныя дзеянні і рытуалы, што захоўваліся і функцыяніравалі як жанпісаныя правілы ў адносінах да цяжарнай жанчыны, не толькі рэгламентавалі яе статус у канкрэтным этна-сацыяльным калектыве, але і выступалі абавязковай нормай паводзін у гэты перыяд як будучай маці, так і аднавяскоўцаў, знаёмых і сяброў у адносінах да яе. На псіхалагічным і

маральна-этычным узроўні яны былі скіраваны ў першую чаргу на тое, каб жанчына лёгка нарадзіла, а дзіцятка з'явілася на свет «здаровенькім і на радасць бацькам і ўсім людзям». Падобная скіраванасць радзіннай абраднасці знайшла прадаўжэнне і ў наступных яе частках — у час родаў і ў пасляродавых абрадах і рытуалах.

Як бы не праходзілі роды, але для кожнай жанчыны гэта быў фізічна-актыўны, эмацыянальна-стрэсавы, у нейкай ступені нават небяспечны момант у яе жыцці. І таму, калі роды адбыліся, калі шчаслівая маці ўпершыню ўбачыла сваё дзіцятка, напаіла яго сваім малачком, узнікала натуральная патрэба расказаць каму-небудзь пра ўсё, што хвалявала рожаніцу, яе ўражанні і перажыванні ад родаў альбо, як гавораць у народзе, «трэба было выгаварыцца, зняць з душы набалелае». Натуральна, што падобную размову жанчына магла весці толькі з тымі, каму яна найбольш давярала, з кім магла падзяліцца самым патаемным пра справы чыста жаночыя, хто мог зразумець і паспачуваць ёй, раздзяліць радасць і трывогі рожаніцы. І такімі суразмоўцамі былі таксама жанчыны: сяброўкі-равесніцы, сёстры, швагеркі і іншыя сваячкі з яе радзімы. Менавіта яны і прыходзілі ў адведкі, або, як называецца яшчэ гэты абрад на Беларусі, у адведзіны, на радзіны. Дашлюбная моладзь і мужчыны ў такім абрадзе ўдзелу не прымалі.

Адведкі спраўляюць звычайна ў адзін з дзён на працягу першага тыдня пасля родаў. Вызначаецца такі дзень у залежнасці ад асаблівасцей традыцыйнай зоны канкрэтнага рэгіёна*. Да рожаніцы прыходзілі пасля абеда. Кожная жанчына выпякала «на атведкі» якое-небудзь печыва: аладкі, бублікі, рагалікі, варэнікі, булачкі, якія абмочвалі ў мёд, салодкую смятану, варэнне. Акрамя печыва, да рожаніцы неслі таксама кісель, розныя

* Гл.: *Кухаронак Т. І.* Радзінныя звычаі і абрады беларусаў: канец XIX—XX ст. Мінск, 1993. С. 42—44.

ягадныя адвары, каўбасу, яечню, малочныя прадукты. У апошні час дамашняе печыва ўсё часцей замяняюць абаранкамі, пячэннем, пернікамі, сушкамі, цукеркамі, якія набываюць у мясцовай краме.

Паводле звестак сучаснай даследчыцы радзіннай абраднасці Т. І. Кухаронак, рожаніца абавязкова павінна была сустрэць жанчын, якія прыйшлі да яе ў адведкі, лежачы ў ложку. На Гродзеншчыне, пераступіўшы парог хаты, жанчыны-наведвальніцы пыталіся: «Ці ў гэтай хаце месячык-маладзічок нарадзіўся?», на што бацька павінен быў адказаць: «Дзякуй Богу! Каб шчасліва рос!».

У час наведвання пазбягалі, каб хто-небудзь з гасцей «хоць вокам зірнуў на малое», баяліся, што нехрышчонае дзіця вельмі лёгка сурочыць. З гэтай засцярогі ад суроку амаль паўсюдна на Беларусі калыску-люльку, якую падвешвалі да столі каля ложка маці, абвешвалі посцілкамі ці якой-небудзь матэрыяй, якая б закрывала немаўлятка «ад чужога вока». Калі ж выпадкова, як маці карміла ці спавівала дзіця, хто-небудзь убачыў яго, ён тут жа тройчы сплёўваў назад праз левае плячо, «каб не навесці суроку», і прыгаворваў: «Дай, Бог, каб здаровенькім расло!». Да ўсяго варта дадаць, што да таго часу, як дзіця ахрысцяць у Божым храме, пра яго стараліся нават не ўпамінаць у час размоў. Нават у кантакце з немаўляткам у гэты перыяд была даволі абмежаваная колькасць асоб: маці, бабуля-павітуха, родная бабуля і некаторыя іншыя старэйшыя члены свайго роду жаночага полу.

Наведвальніцы ўважліва слухалі парадзіху, «як ёй прыйшлося ў час родаў», што яе больш турбуе. Жанчыны, большасць якіх ужо самі мелі дзетак, давалі парады па догляду дзіцяці, падказвалі, як правільна купаць, спавіваць, карміць дзіцятка, як лепш загаіць раны, атрыманыя маці ў час родаў, і г. д. Падобныя павучанні-падказкі асабліва былі карысны для маладых жанчын, якія нарадзілі ў першы раз.

Бацька дзіцяці ў гэты дзень наладжваў для гасцей невялікае застолле. Ставіў на стол «графін краснай гарэлкі», так называюць на падобных застольных урачыстасцях настойку — гарэлку, настоеную на салодкіх ягадах вішні, парэчкі, каліны, рабіны, журавін, брусніц, з дабаўленнем цукру або медавуху — гарэлку, падсалоджаную мёдам, пачастункі, прынесеныя жанчынамі-наведвальніцамі, і тое-сёе з дамашніх харчовых запасаў, пасля чаго запрашаў жонку і яе сяброўак сесці за стол.

Першую чарку падымалі на адведках за здароўе маці. На застоллі выказваліся добрыя пажаданні ў адрас бабулі-павітухі, бацькі і роду дзіцяці. Усеагульная радасць сяброўак маці і яе сваячак мела своеасаблівы працяг у песнях, што спявалі госці:

Паздароў, Божа, каваля,
А што скаваў нам дзіця.
А ні ў ручкі не хукаў,
А ні молатам не стукаў,
А ў мяккіх падушках,
А пад цёплай дзяружкай,
Без молата, без кавадла.
А паглядзіш — дзіця ладна.

Падобны эротыка-хвалебны змест характэрны многім песням, што спяваліся на адведках. У іншых песенных тэкстах усхвалялі бацьку, маці, бабулю-пупарэзніцу, свой род, зычылі шчаслівага лёсу дзіцятку, апявалі рытуальныя «сцэны» адведак, як, напрыклад, у песні, запісанай на Вілейшчыне:

А белая бярозачка,
Чырвоная вольха,
Нам справіла бяседачку
Раманава жонка.
Сама сядзіць у запечку,
Як курыца, квокча,
А ён ходзя каля стала,
Бяседачку топча.

Нярэдка на адведках у час застольнай бяседы, найбольш тады, калі маці была «першародкай»,

госці раілі маладым бацькам, каго лепш узяць за кумоў, падказвалі, калі і як лепш правесці хрышчэнне дзіцяці і адпаведнае таму застолле.

З абрадам адведак спалучаліся і некаторыя забароны і правілы, якія рэгламентаваліся спрадвечнымі законамі продкаў. У адведкі хадзілі па ўласнаму жаданню без запрашэння бацькоў. Да жанчын, якія ігнаравалі наведванне парадзіхі, нават у сваім родзе ставіліся з непавагай і асуджэннем. Нельга было хадзіць у адведкі з пустымі рукамі, а таксама наведваць парадзіху жанчынам, якія чакалі дзіця або насілі жалобу па памёршых родзічах. Падобнае табу тычылася і жанчын, у якіх праходзіў менструальны перыяд, але апошнія абавязкова павінны былі наведаць парадзіху на некалькі дзён пазней. На нехрышчонае дзіця таксама нельга было рабіць рукою знак крыжа.

Жонка твая сямейніца, што год — то удод.

Родзіцца дзіцёнак — гатуй пялёнак.

Знае бацька пра адведкі, калі ражаюцца дзеткі.

Дзевачка была б, да пятух запеў, як ражалася.

Дзіцятка хоць і крыва, ды бацьку з маткаю міла.

Многа дзяцей — многа клопату, але і радасці шмат.

Калі маеш дзіцятка, дык май і калыску.

Адно дзіця — не дзіця, двое дзяцей — палова дзіцяці, трое дзяцей — гэта дзіця.

Тады матка бяду знае, як малое дзіця мае.

Апошняе дзіцятка — панятка.

Багаты Аўдзей, калі поўна хата дзяцей.

Дасць Бог дзеткі, дасць і на дзеткі.

З дзеткамі гора, а без іх удвое.

## А Ў НЯДЗЕЛЬКУ Ж...

*Радзінная.*

А ў нядзельку ж,
Да й па раненьку,
Прыйшоў Колечка,
Да й па бабеньку.

Тая ж бабачка
Дагадалася,
Дагадалася,
Да й сабралася.

Дагадалася ж,
Да й сабралася,
Да й адзін сапог,
Да й без пояса.

Да й адзін сапог,
Да й на ножаньку,
А другі сапог,
Да і ў ручаньку.

А другі сапог,
Да і ў ручаньку,
Да й адведаці
Сваю ўнучаньку.

(8-93-270-4, л. 22)

## КАК НА РЕЧЫЦЦЫ, КАК НА БЫСТРЕНЬКАЙ...

*Радзінная.*

Как на речыццы, как на быстренькай
Гібка кладачка ляжыць.

Па той кладачцы, па той гібенькай
Гаспадзін Ванечка ідзёць.

А ён Надзечку-гаспадынечку
Ён за ручаньку вядзёць.

А ты, кладычка, а ты гібкая,
Ты ж ня гніся пыда мной.

А ты, Надзечка-гаспадынечка,
Ты ж не старыйся за мной.

(8-91-254-4, л. 25)

## КАЖУЦЬ ЛЮДЗІ, ШТО МОЙ ЎНУК СКУПЫ...

*Радзінная.*

Кажуць людзі, што мой ўнук скупы,
А ў майго ўнука,
Да гарэлачкі бочка.

Да гарэлачкі бочка,
А ў яго ж я напілася, наелася,
Што не заеду ж дадому.

Што не заеду ж дадому,
Я, кажацца, не п'яна,
Да ў сенечках павалілася.

Да ў сенечках павалілася,
Дзяржы, мой унучак,
Каб я крэпка не забілася.

Каб я крэпка не забілася,
А ў дарозе патаптала ж лапці,
Пагубляла ж й анучы.

Пагубляла ж й анучы
Ад свайго ўнука,
Ды да дому ідучы.

(8-93-270-1, л. 34)




Хрэсьбіны, або хрысціны (радзіны), — радзінны абрад, праводзімы ў сям'і нованароджанага з выпадку яго хрышчэння ў царкве ці касцёле. Спраўляюць хрысціны звычайна ў адну з нядзель на працягу першага месяца-паўтара пасля родаў. Ідэйная скіраванасць абрада хрэсьбін, як справядліва адзначае беларускі этнограф Т. І. Кухаронак, сімвалізавала сабою «прыняцце нованароджанага ў сям'ю і грамадства»*, а таксама рытуалізаванае

* *Кухаронак Т. І.* Радзінныя звычаі і абрады беларусаў: канец XIX—XX ст. Мінск, 1993. С. 55.

далучэнне дзіцяці да спрадвечнай веры дзядоў і прадзедаў, прыняцце яго ў рэлігійную абшчыну.

Да гэтага дня бацькі выбіралі кумоў: мужчыну і жанчыну, якія прадстаўлялі немаўлятка ў святым храме Богу і пасля рытуалаў хрышчэння лічыліся ў адносінах да яго хросным бацькам і хроснай маці.

Традыцыйна дзіця везлі хрысціць у другой палове дня. К абеду ў хату, дзе было дзіцятка, збіраліся кумы і бабуля-пупарэзніца. Кума абавязкова прыносіла для будучага хрэсніка хлеб, пялёнкі, адрэз палатна або, што найбольш характэрна для сённяшніх дзён, камплект дзіцячага адзення — сарочачку, шапачку, падгузнікі і г. д. Бабуля, якая бабіла дзіця, у гэты дзень павінна была памыць унука. Яна набірала са студні ці крыніцы ваду, награвала яе ў печы і затым, наліўшы вады ў драўлянае карыта, ночвы, кідала туды святаянскія зёлкі, а таксама галінку чартапалоху, «каб не баяўся», і дубовую кару, «каб зубкі былі моцныя». Памыўшы дзіцятка, бабуля загортвала яго ў пялёнкі, прынесеныя кумой, і разам з ёю апраналі малое.

На заканчэнне рытуала абмывання дзіцяці напярэдадні хрышчэння бацькі запрашалі кумоў і бабулю паабедаць разам. Пачаставаўшыся, бабуля першай уставала з-за стала, спавівала дзіцятка і перадавала яго куме. Спавітае дзіцятка абавязкова перавязваюць стужкай, прычым хлопчыка — блакітнага колеру, а дзяўчынку — чырвонага або ружовага. Кумы тры разы абносяць дзіця вакол кутняга стала і адразу выходзяць з хаты (8-93-270-2, л. 36).

Пакуль кумы з дзіцём былі ў Божым храме, бацькі, бабуля-пупарэзніца і іншыя члены сям'і «накрывалі сталы» для святочнага застолля. У гэты ж час у хату збіраліся госці — род дзіцяці. Кожны з іх прыносіў для нованароджанага падарункі: дзіцячае адзенне, цацкі, спальныя прыналежнасці і г. д.

Прыезду кумоў чакалі з хваляваннем, бо па традыцыі імя дзіцяці павінен быў даць святар. І

таму кум з кумой і хрэснікам на руках, увайшоўшы ў хату, першае, што рабілі, называлі бацькам імя іх дзіцяткі. Сустрэча кумоў суправаджалася ў многіх мясцовасцях адпаведнымі рытуаламі. У Хоцімскім раёне Магілёўскай вобласці родныя дзед і баба, як толькі кумы ўвойдуць у хату, падыходзяць да іх і кланяюцца, прыгаворваючы:

Як Вы дзіцятка хрысцілі,
Мы Госпада Бога прасілі:
— Памажы, Ісус Хрыстос,
Каб унучак шчаслівы рос!

Кумы ж, перадаючы дзіця дзеду і бабе, адказвалі: «Бог памог вам Максімку (ці Хрысцінку) прывезці». І такім чынам усім прысутным аб'яўлялі імя, дадзенае дзіцяці ў час хрышчэння.

У Воранаўскім раёне кумы, увайшоўшы ў хату, імкнуліся як мага хутчэй палажыць дзіця ў калыску: згодна з мясцовымі вераваннямі, ён тады хутка жэніцца.

На другім застоллі, на якім прысутнічаў ужо ўвесь род дзіцяці, кумоў і бабулю садзілі на куце. Першую чарку падымалі за новага члена роду і яго імя, выказваючы самыя розныя пажаданні: «Дай, Бог, каб наш Максімка шчаслівы рос!» або «Дай Божа, нашай Хрысцінцы добрай долі!» і інш. Як бачна з прыведзеных прыкладаў, у пажаданнях, якія адрасуюцца дзіцяці, абавязкова ўпамінаецца яго імя. Такая акалічнасць не выпадковая ў абрадзе: непасрэдна пасля хрышчэння (і толькі пасля гэтага) дзіця набывае значэнне асобы ў сваім родзе і грамадзе. Многа зычэнняў і жартаў выказвалася таксама на другім застоллі ў адрас бацькоў, кумоў, бабулі.

Бадай што кульмінацыйным момантам не толькі абрада хрысцін, але і ўсёй радзіннай абраднасці было ў гэты дзень трэцяе застолле, на якім падавалі на стол бабіну кашу.

Бабіна каша — гэта рытуальная страва, якая варылася як ахвяравальная ежа Багам. З яе дапамогай імкнуліся заручыцца падтрымкай апошніх

«на шчаслівы лёс дзіцятка». Варыла такую кашу бабуля-пупарэзніца. На Беларусі гэту рытуальную страву з незапамятных часоў рабілі з прасяных круп, да якіх абавязкова дабаўлялі мёд (цяпер часцей цукар), масла, малако і іншыя прадукты. Каша павінна была быць «жоўценькай, як сонейка», і абавязкова смачнай, «каб усім спадабалася». Трэба зазначыць, што кожная бабуля па-майстэрску імкнулася справіцца з гэтай задачай. Бо калі каша смачная і спадабаецца гасцям, то адпаведна яна павінна спадабацца і Багам, прысутнасць якіх дапускалася на падобным застоллі. Верылі, калі вышэйшыя Духі ўпадабаюць прынесеную ім рытуальную ежу, то і дзіцятка надзеляць добрым і шчаслівым лёсам.

Перад тым, як падаць бабіну кашу, на кутнім стале засцілалі ручнік, запальвалі свечкі перад абразамі. Бабулі прыносілі кашу тройчы, прычым першыя дзве кашы былі падстаўныя і толькі за трэцім разам падавалі на стол тую, якую выпякала бабуля. Такім чынам імкнуліся ўвесці ў зман «нячысцікаў», каб яны не зрабілі якой шкоды або мясцовыя ведзьмакі не змаглі сваімі злымі чарамі паўздзейнічаць на лёс нованароджанага.

Паўсямесна ў беларусаў захаваўся рытуал выкупу бабінай кашы. Запісаны яго варыянт у вёсцы Аляксандраўка Старадарожскага раёна найбольш тыповы ў нашым краі. «На гэту кашу кладуць грошы. Прыгаворваюць, каб баба прадавала тавары. Баба абяцае, што тавары (*У. С.* — тут пад таварамі маецца на ўвазе каша) будуць добрыя, дарагія і каб больш грошай лажылі. І хто больш паложыць, той б'е кашу. Але абычай у нас такі: каб кум пабіў кашу. Таму кум стараецца павяршыць. Грошай кладзе апошнім і тады б'е кашу» (8-93-270-1, л. 35).

У Слаўгарадскім раёне, што на Магілёўшчыне, бабуля ўставала з-за стала, калі ёй падавалі гаршчок з кашаю, і пытала ў гасцей:

— Як будзем дзяліць кашу?

— А сколькі бабіна каша стоіць?

Бабуля ж адказвала:

— Мая каша з канапелькамі, а Вы падхадзіця з рублямі і капейкамі (8-93-273-3, л. 20).

Як толькі кум разбіваў гаршчок з кашаю, бабка-павітуха брала адзін, а калі нараджаліся двайняты або блізняты — два чарапкі ад разбітага гаршчка і хуценька кідала іх у парог хаты са словамі:

Як хутка і бесперашкодна
Ляцяць гэтыя чарапочкі ад кута да парога,
Няхай будзе ў майго ўнука
Такой у жыцці дарога!

Недапушчальна было, каб хто-небудзь або што-небудзь перапыніла палёт гэтых чарапочкаў. Ну, напрыклад, выйшаў бы нехта з-за стала і яны ўдарыліся аб яго ці ўзнікла іншая перашкода: зачыніліся дзверы, бабуля не трапіла ў праём дзвярэй і яны ўдарыліся аб вушак ці ў сценку і г. д. —у такім выпадку прадказвалі, што ў дзіцяці будзе нейкае няшчасце ў жыцці, а магчыма, і жыццё нядоўгае.

Гэтымі ж чарапкамі пакрывалі галовы маладзіцам, у якіх доўгі час не нараджаліся дзеткі, або, што характэрна для нашага часу, дзяўчатам, якія доўгі час не выходзілі замуж. Так імкнуліся перадаць часцінку пладавітасці, дзетанараджальнай моцы і сямейнага шчасця членам свайго калектыву. У іншых мясцовасцях (Старадарожскі раён) «чарапкі гэтыя ложаць у платочак з грошамі да аддаюць маладой гэтай рожаніцы, кідаюць яшчэ іх на крышу і ў бярлогу свінням, каб свінні вяліся» (8-93-270-1, л. 35) і г. д.

Баба рэзала сваю кашу на кавалкі і раздавала ўсім прысутным. У гэты ж час, калі госці атрымлівалі бабіну кашу, або трошкі раней, калі клалі грошы на выкуп кашы, выказваліся шматлікія зычэнні ў адрас новаароджанага. Уяўляючы прысутнасць вышэйшых Духаў на рытуальным застоллі, чалавек менавіта да іх і звяртаўся ў сваіх пажаданнях:

Дай, Бог, каб наша дзіця
Было крэпка, як вада,
Багата, як зямля,
Вясёла, як пчала,
І красна, як вясна!

Многія падказкі і павучанні адначасова з зычэннямі дзіцяці былі звернуты і да бацькоў:

Няхай Бог дае
Шчаслівы лёс вашаму Максімку,
А я дару грошы і пшанічку,
Каб муж жонцы і далей
Часцей глядзеў пад спаднічку!

або

Дай Бог вашаму Максімку
Здаровенькім, шчасліве́нькім і вясёленькім жыць!
А я на бабіну кашу
Кладу грошы і трошкі гліны,
Каб і на наступны год
Прыйсці да вас на радзіны!

Падобнымі эротыка-жартаўлівымі павучаннямі імкнуліся скіраваць увагу, асабліва маладых бацькоў, на тое, што першае дзіця — гэта толькі пачатак сям'і, і чым больш будзе дзетак, тым больш сям'я будзе багацейшай і мацнейшай. Падобны погляд найбольш выразна зафіксаваны ў беларускіх прыказках: «Адно дзіця — не дзіця, два дзіця — паўдзіця, тры дзіця — гэта ўжо дзіця», «Багаты Аўдзей, калі поўна хата дзяцей» і іншых.

На радзінным застоллі бацькі давалі падарункі бабе і кумам. Рытуал адорвання «нарачоных дзіцяці» не мае ў абрадзе строгай прымеркаванасці, але часцей адорвалі іх на другім застоллі, перад дзяленнем бабінай кашы ці адразу падзяліўшы яе. Як расказваюць носьбіты мясцовых традыцый, найбольш даруюць «куме плацця, а куму рубашку і бабе на плацце мацер'ялу» (8-93-270-2, л. 37) або «бабе намётку давалі і на плацце, а куму з кумой адрэзы на штаны і на плацце» (8-93-270-3, л. 20).

Абрад хрысцін у залежнасці ад дастатку сям'і мог праводзіцца і некалькі дзён. У згаданай вы-

шэй вёсцы Аляксандраўка Старадарожскага раёна «на другі дзень садзяць бабу на барану ўверх зубамі і цягнуць па сялу з красным флагам. Заходзяць к бабе ў хату, яна частуе сваёй гарэлкай. І так па парадку: кума, куму возяць цэлы дзень. А калі на трэці дзень гулянка, то ходзяць збіраюць куры, б'юць іх, скубуць, гатуюць і частуюцца далей. Так праходзілі хрысціны» (8-93-270-1, л. 35).

Рытуал «вазіць» бабу і кумоў на баране, відаць, мае сувязь са старажытнай магіяй і ў даным выпадку з яе ахоўнай функцыяй. Зразумела, што ні баба, ні кумы не маглі сесці на барану і таму яны вымушаны былі адкупліваццa частаваннем гасцей, а за гэта ім клалі на барану адну, а то і дзве падушкі, на якіх можна было не баючыся сядзець і на баране. Відавочна, што падобнымі дзеяннямі чалавек імкнуўся запалохаць злых Духаў, «нячыстую сілу», адагнаць іх ад свайго роду, выказваючы сваімі дзеяннямі, што і з імі можна так зрабіць — пракалоць на баране. Пераконвае ў падобным меркаванні і тое, што рытуал гэты праводзіўся на вуліцы, на адкрытай прасторы, дзе прысутнасць розных уяўных істот была найбольш верагодна.

Уражваюць сваёй паэтыкай і вобразнасцю песні, што спяваліся на хрэсьбінах. Тэксты іх пачынаюцца звычайна матывамі, якія ўпадабляюць род дзіцяці малюнкам прыроды і адлюстроўваюць шматгаліновасць і бясконцасць роду: «На дварэ вярба сукаватая, на куце кумка ўсё й багатая...», «А ў бару дуб'е ялаватае, у Іванькі кум'е ўсё й багатае...», «А ў Антонькі ды явар на дварэ, сабраў пір не людзём ён — сабе...», «А ў каго, каго вінаград на дварэ? У Колечкі, у Колечкі вінаград на дварэ, вінаград на дварэ, а хрэсьбіны ў хаце...».

У хрэсьбінных песнях усхвалялі кумоў, бацькоў, бабулю. Бясконцым ланцужком у іх падтэксце праглядваецца эротыка-жартоўная матывацыя, якая мае тую ж скіраванасць, што і пажаданні бацькам пры дзяленні бабінай кашы:

Ой, кум куме рад,
Павёў куму ў вінаград:
Шчыпі, кума, ягодкі,
Каторыя салодкі,
Каторыя вінны,
То для маёй мілай...
Каторыя горкі,
То для чужой жонкі.

У песнях, звернутых да бабулі, малявалі «бабусю» падпіўшай, вясёлай, але непасрэдна праз такую сюжэтную распрацоўку імкнуліся паказаць багацце і заможнасць сям'і, у якой яна бабіла дзяцей:

Ой, запала, ой, запала
Дарожка сняжком,
Да не дойдзе, да не дойдзе
Бабачка пяшком.

Запрагом мы, запрагом мы
Да дванаццаць валоў,
Адвязём мы, адвязём мы
Бабачку дамоў.

Значную групу ў хрэсьбіннай паэзіі складаюць песні з павучальнымі матывамі, звернутымі да бацькоў дзіцяці, у якіх, зыходзячы з маральна-этычных пазіцый свайго роду або калектыву, гучаў напамін пра іх адносіны паміж сабою, абавязкі перад немаўляткам і бацькоўскую адказнасць за яго:

А ў каморы, а ў каморы
Краватка стаіць,
А ў краватцы, а ў краватцы
Радзішка ляжыць.
А ў галавах, а ў галавах
Сам Бог стаіць.
А ў ножачках, а ў ножачках
Муж стаіць:
— Пазволь, Божа, пазволь, Божа,
Да радзішкі ступіць.
— Не пазволю, не пазволю
Да радзішкі ступіць,
Шэсць нядзель выйдзець,
Сама к табе прыйдзець...

ці

...А ў нашым садзе ўсе роўныя кветкі,
Сынкі, дачушкі — усе роўныя дзеткі.

У многіх хрэсьбінных песнях, як і ў пажаданнях, звярталіся з прашэннямі да Багоў аказаць станоўчы ўплыў на лёс дзіцяці і яго здароўе:

А ў нядзелечку спараненечку
На небе развіднела,
Кумочак ходзіць, дзіцяцю носіць,
А ў Бога долі просіць:
— А дай, Божа, етай дзіцяці
Усякую долю ўзяці:
І хлебавую, і салявую,
Трэцюю — здаровейкую!

У іншых сюжэтных распрацоўках прасілі «добрую долю: і грашавую, і збажжавую, і трэцюю вянчальную», «добрую долю ўбачыць: і хлебавую, і салявую, трэцюю — здаровейкую, а сілачку — багатырскую, а волю — свабодную», «судзі, Божа, майму дзіцяці да хросту, ад хросту судзі, Божа, да вянца, а ад вянца судзі, Божа, да жыцця».

Відавочна, што песні, тыповыя апошняму прыкладу, са старажытных часоў неслі у сабе сакральную функцыю і мелі ў радзінных абрадах нашых продкаў непарыўную сувязь з адпаведнымі рытуаламі. На сённяшніх хрысцінах яны часцей прымяркоўваюцца да трэцяга застолля.

Беларускую радзінную абраднасць істотна дапаўняюць, адпаведна яе тэматыцы, прыпеўкі, прыгаворы, жарты, розныя магічныя дзеянні і забароны, што ў значнай ступені падкрэслівае яе як добра распрацаваны і змястоўны традыцыйна-абрадавы пласт у нашай культурнай спадчыне.

За сталом і песні свае: на хрысцінах — хрысцінныя, на вяселлі — вясельныя.

Каго добра паважаюць, таго і ў кумы выбіраюць.

Не быўшы кумам, не піць піва.

Гнісь, кум, не гнісь, да каля кішэні павярнісь.

Вяселле і хрысціны — ксяндзу (папу) добрыя гадзіны.

Дзетак узгадаваць — не курак пасклікаць.

Дзіця, не ўпаўшы, не вырасце.

Ад году да трох — качай дзіця, як яечка, а ад трох да сямі — пасі, як авечку.

### А Ў КАВО ВІНАГРАД НА ДВАРЭ?..

*Радзінная.*

А ў каво вінаград
На дварэ*.

Ў Любачкі вінаград
На дварэ.

Сабраў ты не людзём —
Сам сабе.

Пасадзіў ты кумульку
На куце.

Пі, гуляй ды кумулька
Ў мяне.

Звелічай ды дзіцяцё
Маё.

Каб яно ды вяліко
Расло.

Каб яму ды Бог долюшку
Даў,

Бог долю даў,
Шчасцем надзяляў.

(8-92-265-3, л. 89)

* У песні кожны куплет паўтараецца.

## АЙ, КУМ НА КУЦЕ...

*Радзінная.*

Ай, кум на куце,
Як галубчык на гняздзе*.

Ня рушця яго,
Ня чапайця яго.

За етый куток
Заплаціў ён рублёк.

Кума на куце,
Як галубка на гняздзе.

Ня рушця яе,
Ня чапайця яе.

За етый куток
Патраціла ласкуток.

Бабка на куце,
Як галубка на гняздзе.

Ня рушця яе,
Ня чапайця яе.

За етый куток
Палучыла ласкуток.

(8-91-258-А-3, л. 29)

## НАД РАКОЮ ВЯРБА, ДЫ РАГАТАЯ...

*Радзінная.*

Над ракою вярба, ды рагатая**,
За сталом кума, ды багатая.
А ў кумы кралі сто рублёў сталі,

* У песні кожны куплет паўтараецца.
** Кожны радок паўтараецца.

А ў кума штаны, дык німа цаны —
Кругом ворыта, а ўсё золыта.

(8-91-258-А-2, л. 12)

## КОЛЕЧКА, НЕВЯЛІКІ ТЫ ПАН...

*Радзінная.*

Колечка, невялікі ты пан, Колечка*,
Запражы, запражы да дзвенадцаць валоў,
Завязі же, завязі же да бабусю дамоў.
Колечка, невялікі ты пан, Колечка,
Запражы же, запражы же да дзвенадцаць валоў,
Завязі же, завязі же да кумочка й дамоў.
Колечка, Колечка, невялікі ты пан,
Запражы же, запражы же да дзвенадцаць валоў,
Завязі же, завязі же да кумусю дамоў.

(8-94-282-1, л. 64)

* Кожны радок паўтараецца.




Сватанне — перадвясельны абрад, у час якога сваты — выбраныя прадстаўнікі ад пэўнай сям'і і роду дамаўляліся з бацькамі, якія мелі дарослую дачку, каб тыя выдалі яе замуж за хлопца, род якога яны прадстаўлялі.

Сваталі дзяўчат звычайна да Пакроваў, што адзначаюцца 14 кастрычніка, таму ў народзе гавораць «Прыйшла Пакрова — дзеўка гатова» або «Пакрывае святы Пакроў лес лісцем, лог травою, рэчку лядком, а дзяўчыну шлюбным чапком».

Дзяўчаты нават звярталіся з малітвамі да святога Пакрова, каб надзяліў іх мужам:

> Святы Пакроў, Пакроў!
> Пакрыў зямлю і ваду,
> Пакрый мяне маладу!..

Тут варта адзначыць, што амаль да пачатку XX стагоддзя моладзь уступала ў шлюб ва ўзросце да васемнаццаці год. Дзевятнаццаці-, дваццацігадовая дзяўчына ў сям'і бацькоў ужо лічылася перарosткам, і калі такое здаралася, бацька быў гатовы аддаць дачку «хоць за каго, абы не засталася старою дзеваю». Магчыма на падставе гэтых абставін, што нельга было ў такой справе даваць маладому розуму дзяцей, а таксама зыходзячы са спрадвечнага ўкладу жыцця патрыярхальнай сям'і, пытанне аб уступленні ў шлюб маладых людзей вырашалі толькі бацькі. Калі ж заглянуць крыху глыбей у гісторыю вясельнай абраднасці, то варта прыпомніць, што падобнай акалічнасці ў шлюбнай справе садзейнічала і тое, што першапачаткова абрад сватання ўяўляў сабою куплю-продаж дзяўчыны ў сям'ю жаніха.

На працягу лета і асабліва пад восень, калі заканчваліся палявыя работы, бацькі, у якіх быў дарослы хлопец, выглядалі сабе будучых нявестак, раіліся паміж сабою: у каго дзяўчына больш спрытная ў працы, больш кемлівая, ці багаты і добры яе род, з кім увогуле лепш бы параднiцца.

У сваты, а іх абавязкова павінна была быць няцотная колькасць, запрашалі бацьку хроснага — найчасцей ён быў старшы сват, дзядзькоў хлопца, братоў, калі тыя былі жанатыя, а таксама сватняя дружына ўключала жаніха і яго роднага бацьку: па колькасці набіралі пяць-сем сватоў, не лічачы хлопца, якога збіраліся жаніць. У сённяшнім абрадзе сватання нярэдка ўдзельнічае і хросная маці жаніха, а сучасная сватняя дружына ў беларусаў можа налічваць і большую колькасць сватоў — усё залежыць ад заможнасці і магчымасцей роду і сям'і.

Амаль што да пачатку XIX стагоддзя, а на цэнтральным і заходнім Палессі і сёння ў сваты

выязджаюць пасля поўначы, ноччу. Але ўжо ў XIX—XX стагоддзях на большасці тэрыторыі Беларусі склаўся звычай ехаць сватаць дзяўчыну пасля заходу сонца, калі пачынае змяркацца. Тады маці жаніха засцілае на стол ручнік або хустку, кладзе на яе круглы бохан хлеба, святую соль і ставіць бутэльку гарэлкі. Затым яна завязвала хустку рогнарог або заварочвала ўсё гэта ў ручнік і запрашала ўсіх прысутных у хаце «прысесці на дарожку».

Ехалі сватаць дзяўчыну абавязкова на конях, запрэжаных у павозку, нават калі б ехаць прыйшлося толькі да суседняга двара. Сватняя дарога да мяркуемай нявесты пачыналася даволі незвычайна. Калі, напрыклад, дзяўчына жыла побач з хлопцам або на адной вуліцы з ім, то не ехалі прама ад двара да двара, а абавязкова выязджалі ў адваротны ад яе дому бок, а потым аб'язджалі суседняй вуліцай ці ўвогуле за вёскай і так вакольнай дарогай дабіраліся да яе хаты.

Прыехаўшы да дзяўчыны, сваты не заходзілі ў хату, а пачыналі гаманіць паміж сабою ў яе двары так, каб пачулі гаспадары. Бацька нявесты, выйшаўшы на ганак, пытаў: «Што за людзі будзеце? Чаго да нас заблудзілі?». На што сваты адказвалі: «Ды вось дачуліся мы, што ў Вас ёсць цялушка на продаж. Ці не маглі б Вы нам паказаць яе?» або «Былі мы на паляванні і гналіся за куніцаю, а яна ў Ваш двор забегла, дык ці не дазволіце пашукаць яе?». Падобныя размовы маюць у народзе імправізаваны характар. У адказ гаспадар запрашаў гасцей зайсці ў хату.

Чым жа тлумачыцца семантычнае значэнне гэтых рытуалаў, размоў і падобныя паводзіны дарослых людзей? Зыходзячы са спрадвечных вераванняў аб існаванні злых і добрых Духаў, розных «нячысцікаў», ведзьмакоў, пантэон дзеяння якіх, барацьба і супрацьстаянне разварочваліся першачаргова на адкрытай прасторы, у адкрытым космасе, чалавек баяўся іх уздзеяння на сябе і асабліва перашкоды ў задуманай справе. Таму і выязджалі сватаць дзяўчыну ноччу або ў вячэрні час, наўмысна парушаючы звычайны рытм жыц-

ця, прысядалі на дарожку, ехалі ў адваротны ад дзяўчыны бок, каб увесці ў зман нячыстую сілу, не даць ёй альбо чарам ведзьмакоў здзейсніць свае супрацьчалавечыя планы. Падобнае значэнне мае і размова з бацькам дзяўчыны: на двары не асмельваліся сказаць праўду, раскрыць сапраўдную мэту свайго прыезду. Паколькі сваты — людзі чужыя, то і размову з гаспадаром вялі іншасказальную: аб куплі-продажы цялушкі ці аб пагоні за куніцай. На працягу многіх стагоддзяў падобная размова набыла ў перадвясельнай абраднасці метафарычны сэнс і кодавае значэнне.

Адзначаныя перасцярогі былі выкліканы яшчэ і тым, што не заўсёды сватняй дружыне ўдавалася засватаць дзяўчыну, мець поспех у сваёй справе. Найчасцей бацькі не адразу адказвалі станоўча сватам, а, пакінуўшы ў сябе іх хлеб і гарэлку, прасілі пачакаць, даць ім магчымасць паразважаць над пытаннем замужжа дачкі. Калі ж да дзяўчыны сваталася некалькі жаніхоў, то адказ, за каго выдадуць дачку, бацькі давалі толькі напярэдадні заручын, пры гэтым ужо выбіраючы сабе зяця ў залежнасці ад заможнасці і аўтарытэту яго роду і сям'і сярод жыхароў вёскі або акругі. Тыя ж, хто атрымліваў адмову, ніколі не лічылі гэта абразай, хоць, зразумела, і адчувалі сябе сваты-няўдачнікі няёмка. У такім выпадку звычайна гаварылі, што гэта напэўна «нячысты прыклаў руку» ці спісвалі няўдалую паездку на дзеянні мясцовых ведзьмакоў.

Зайшоўшы па запрашэнню гаспадара ў хату, сваты віталіся, кланяліся гаспадарам і, заявіўшы аб мэце свайго прыезду, ставілі на стол хлеб, соль і гарэлку. Рытуалы ўваходу сватоў у хату дзяўчыны маюць на Беларусі некалькі варыянтаў.

У Чэрыкаўскім раёне старшы сват, паднёсшы да стала хлеб, соль і гарэлку, прыгаворваў:

Кладзём Вам хлеб, соль і гарэлку,
Аддайце нам красную дзеўку.

(8-93-273-1, л. 6)

У Буда-Кашалёўскім раёне сваты, зайшоўшы ў хату, пыталіся:

Ці можна нам у Вашай хаці пабываці,
Ды Вашу нявесту павідаці,
А Вам нашага маладога паказаці?

(8-94-285-2, л. 5)

На Рагачоўшчыне, Слаўгарадшчыне і Кармяншчыне, пераважна сярод беднякоў, да дня сватання жаніх павінен быў сплесці дзяўчыне лапці. Прычым хлопец стараўся нарыхтаваць мяккае лыка і сплесці з яго прыгожыя белыя лапці, каб абутак спадабаўся нявесце і яе бацькам. Пераступіўшы парог хаты, старшы сват гаварыў:

Шуру-буру,
Лапці ў хату!

Калі сваты і жаніх былі бацькам да спадобы, то яны адказвалі:

Лапці на крук,
А гасцей просім
На Божы кут.

Госці вешалі падарунак жаніха на крук, які быў убіты ў кожнай вясковай хаце ў сцяну каля печы, і праходзілі да стала, што стаяў у вялікім пакоі перад абразамі.

А калі сваты ці жаніх не падабаліся гаспадару хаты, то ён даваў адваротны адказ:

Не шурай, не бурай,
Лапці з хаты забірай.

Спачатку размову за сталом вялі сваты ад хлопца і бацькі будучай нявесты. Старшы сват наліваў усім па чарцы гарэлкі і прасіў бацьку і маці дзяўчыны параіцца з ім аб іхняй справе. Калі ў час размовы сватняя гарэлка была выпіта да дна і гаспадар дома ставіў на стол сваю бутэльку і закуску, гэта азначала, што згода бацькоў на выданне дачкі сватамі атрымана, а сватняя справа

вырашана станоўча. Напрыклад, на Слонімшчыне дзяўчына, бачачы, што сватняя бутэлька пустая, падыходзіла да стала, забірала яе і ішла ў камору ці іншае месца, дзе бацькі захоўвалі збажыну; яна насыпала сватнюю бутэльку жытам, абвязвала яе чырвонаю стужкаю з сваёй дзявочай касы і ставіла зноў на стол. Потым, калі сваты паедуць, маці хавала гэту бутэльку за абразы, дзе яна стаяла да дня вяселля. А на вяселлі, калі маладыя выходзілі з хаты, каб ехаць пад вянец, маці абсявала іх гэтым жытам. Як адзначаюць мясцовыя жыхары, гэта яна «аддавала дачушцы долю» або «надзяляла доляю».

Сватняя гарэлка ў абрадзе мела даволі сімвалічнае значэнне: калі бацькі не хацелі аддаваць дачку за хлопца, то сватнюю гарэлку «да дна» ніколі не дапівалі; калі ж і выпілі сватнюю гарэлку, але па нейкіх прычынах шлюб не мог адбыцца, то бацька вяртаў такую ж бутэльку з гарэлкай сватам, бо ў адваротным выпадку сваты пакідалі за сабой права нанесці абразу сям'і дзяўчыны — вымазаць дзёгцем вароты, абнародаваць пэўную загану дзяўчыны, з-за якой не адбыўся шлюб, і г. д. У Старадарожскім раёне «...сваты бяруць гарэлкі бусел — гэта чатырохлітровая бутылка і ў маладой тожа ставяць такі бусел. І потым яны зліваюць патрошкі ...у адну пасуду гарэлку: чый будзя верх, хто апошнім налье, хто ўжо перацягне, той будзе мець верх у сям'і» (8-93-270-1, л. 37).

Як толькі гаспадар падаваў на стол сваю гарэлку, маці дзяўчыны абвязвала сватоў ручнікамі — «бацьку і бацьку кроснаму ўжэ намітку падчэпяць і другім сватам тожэ палатно такоя тканае» (8-93-270-2, л. 38). Тады ж запрашалі за стол і дзяцей — жаніха і нявесту, каб пачуць і іх згоду на рашэнне бацькоў. Калі ж дзяўчына была супраць замужжа, то яе ўгаворвалі, пераконвалі і ўрэшце рэшт імкнуліся дабіцца асабістай згоды дачкі на шлюб.

З абрадам сватання ў нашым краі звязаны і некаторыя павер'і і прыкметы. Каб сватняя спра-

ва ўдалася, маці, выпраўляючы з хаты сватоў, зычыла ім поспеху і «накладвала» ўслед рукою крыжык. З гэтай жа мэтай старшы сват браў з сабою ў рукаў грамнічную свечку, а на Віцебшчыне маці звязвала пасля выезду сватоў у дарогу «усё, што ёсць у качарэжніку: памяло, качаргу, вілкі, чапялу, венік і г. д.».

Калі ж сватам нехта пераходзіў дарогу, а тым больш з пустымі вёдрамі, ці перабягала ўперадзе праз дарогу кошка, то ўся сватняя дружына вярталася назад, бо падобныя дзеянні прадказвалі няўдачу ў задуманай справе. Вярталіся дадому сваты і тады, калі ў дарозе часта іржаў конь або калі, едучы, чулі спеў пеўня. У такіх выпадках у сваты выязджалі ў іншы раз.

На Случчыне сваты, зайшоўшы ў хату, садзіліся на лаве ад двара, бо на лаву, якая стаяла ад вуліцы, тут клалі нябожчыкаў, і калі хто са сватоў сядзе на яе, то «адзін з маладых хутка заўдавее».

У народзе таксама лічылі, што ў сваты лепш выязджаць маладзіком.

Дзяўчына ў бацькі ў гасцях.

Дзеўкі — як вярба: іх усюды перасаджваюць.

Прыйшла пара — ступай з двара.

З вялікай выбірачкі падсуне чорт гарачку.

Жонку выбірай не вачамі, а вушамі.

Шукай жонку не на йгрышчы, а на ржышчы.

Суджанага і канём не аб'едзеш.

Жні пшанічаньку прызеляненькую, аддай дачку маладзенькую.

Хоць за старца, абы ў дзеўках не застацца.

Гора маё чубатае! Ніхто мяне не сватае.

Дзеўка маткаю красна.

Да мілай сцежка лёгкая.

З каго кпіла, смяялася, таму сама дасталася.

Хлопца за свата не пасылаюць.




Заручыны — перадвясельны абрад, на якім сустракаліся род жаніха і род нявесты, каб даць сваю згоду на шлюб маладых і абмеркаваць пытанні, звязаныя з правядзеннем вяселля.

Значэнне, пашана і гонар роду ва ўсе часы мелі важнае значэнне ў жыцці нашых продкаў. Дамоўленасць бацькоў аб жаніцьбе сына і дачкі яшчэ не мела поўнай сілы ў вырашэнні гэтага пытання. Апошняе слова павінен быў сказаць род, а дакладней яго члены як з боку хлопца, так і з бо-

ку дзяўчыны. Адсюль і паходзіць назва заручыны, этымалагічнае значэнне якой — заручыцца падтрымкай, атрымаць згоду на дамоўленасць бацькоў у час сватання. На Беларусі, асабліва ў яе ўсходняй частцы, даволі актыўна бытуе і яшчэ адна назва гэтага абраду — запоіны, якая паходзіць ад мясцовага выразу «запіць дзеўку».

Як і сватанне, заручыны праводзіліся ў хаце нявесты, звычайна на працягу тыдня-двух пасля прыезду сватоў. Абрадавае застолле пачыналася недзе з абеду. Пачыналі яго старшы сват ад хлопца і бацька ці бацька хросны дзяўчыны. Яны аб'яўлялі прысутным аб згодзе бацькоў пажаніць дзяцей і пыталіся, ці мае хто з роду што-небудзь супраць іх дамоўленасці. Такое пытанне мела даволі грунтоўнае значэнне, бо калі здаралася, што хтосьці з кімсьці меў раней сварку ці бойку або па іншых прычынах незадаволенасць і варожасць у адносінах паміж сабой, то цяпер гэту праблему вырашалі калектыўна і ўжо па-сяброўску. У такім выпадку варожыя бакі прымушалі прынародна памірыцца і пацалавацца. Інакш і нельга было: з гэтага дня род хлопца і род дзяўчыны лічыліся ў адносінах адзін да аднаго сваякамі.

Першую чарку выпівалі за згоду бацькоў і «каб усё было добра». На пачатку застолля дамаўляліся аб пасагу, які бацькі павінны даць дзяўчыне. Старшы сват ад хлопца звяртаўся да бацькі дзяўчыны прыкладна з такімі словамі: «З чым жа Вы выдаеце дачку? Што даеце дачцы на пасаг, а ёй і зяцю на разжыванне?» На што бацька, часам пажартаваўшы, што пасагу не будзе, урэшце рэшт павінен быў назваць суму ці пералічыць тавар, які атрымае дзяўчына на пасаг.

У Баранавіцкім раёне Брэсцкай вобласці ў час такой размовы жанчыны спяваюць:

**Увайдзі, Божа,**
**Уступі, Божа,**
**Ды ў нашую хатку,**
**Дай, Божа, шчасце,**
**Дай, Божа, долю**
**Нашаму дзіцятку...**

Калі пытанні пасагу і сяброўскіх адносін паміж сваякамі былі вырашаны, на застолле запрашалі маладых і знаёміліся з паднявесніцамі нявесты, яе старшымі дружкамі або, як іх яшчэ называюць, — шаферкамі. Вядомая на Магілёўшчыне знаўца сямейных абрадаў і песень Ефрасіння Іванаўна Мельнікава расказвае, як гэта адбываецца ў вёсцы Урэчча Слаўгарадскага раёна: «Нявеста і паднявесніцы стаяць у парозе, а сваты і людзі сядзяць за сталамі. І заслата века белешочкай скацерачкай: булка хлеба на веку, соль, свечка гарыць. ...Ну і нясуць падаркі... ужо кладзець нявесце на века матка або сістра, а іна падношала на заручынах бацьку, свёкру, свату, хто там ёсць, ...чалавекам пяцём дае. Раньшэ жа палатно толькі было, не было купленага нічога, дак палатно дарылі. А на свадзьбе іна ўжо ні свёкру, ні свякрусе падаркаў не давала, толькі на заручынах.

А тады падводжуць наперад на паднявесніцы к сталу дочку бацькі хроснага. Сват кладзе ёй грошы — дваццаць капеек. Гэта цяпер тысячы, а тады за дваццаць капеек можна было купіць харошы шарсцяны платок. Тады падводжуць дочку маткі хросныя, тады ўжо йшчэ падругу якую трэцюю, а тады ўжо нявесту вядуць к сталу. Яна ўжо кладае сватам падаркі, а свёкар ёй дае грошы. Ну, а мы пяём:

Ня гніcь, свёкарка, ня гніся,
А ўкінь чырванец і ў карец,
Белыга рубля на рукі,
Каб ім ні было разлукі!

Ну на веку свечачка гарыць, чаркі налiваюць — усім ужо паднявесніцам і ёй, нявесце, чарку. І ёй свёкар ужо там скольки: ці пяць, ці дзесяць рублёў, ці тры — колькі ўжо пакладзе...» (8-94-282-2, л. 8—9).

У старажытныя часы, калі да дзяўчыны сваталася некалькі жаніхоў, паміж іх дружынамі ў дзень заручын праводзілася спаборніцтва на сілу, кемлівасць і лоўкасць — і толькі той, хто пера-

магаў, варты быў рукі нявесты. Гледачом і адзіным суддзёю ў такім выпадку быў яе род. Пра гэты рытуал сведчаць шматлікія казачныя сюжэты, у якіх цар-бацька, перш чым выдаць маладую царэўну замуж, наладжвае будучым зяцям розныя перашкоды (загадвае загадкі, пасылае здабыць заморскія падарункі, прымушае даскакаць на кані да дачкі, якая знаходзіцца ў высокай вежы, і г. д.), правяраючы тым самым іх розум, свядомасць, спрыт. У шырока вядомай шматварыянтнай беларускай вясельнай песні «Як пайшлі мы на заручыны...» спяваюць:

Як пайшлі мы на заручыны,
А там дзверы пазакручаны.
Пакуль дзверы адкруцілі,
Нашу Светачку заручылі...

Рэлікты падобнай барацьбы жаніхоў за нявесту захаваліся і ў многіх рытуалах XIX—XX стагоддзяў. Паводле звестак беларускага этнографа А. Я. Багдановіча, у мінулым стагоддзі ў Барысаўскім павеце Мінскай губерні род маладога, які прыехаў на заручыны, павінен быў як бы «заваяваць» двор, у якім жыла нявеста. Вароты ў падворку яе бацькоў былі зачынены перад «радзіначкай» жаніха на ўсе запоры. Госці стукаліся, прасіліся пусціць у двор, але іх як бы не чулі. Урэшце ў размову ўступаў бацька, які, называючы розныя прычыны («хата цесная», «падворак вузкі»), адмаўляўся адчыніць вароты, а то і праганяў «купцоў-сватоў» ад двара, абражаючы іх «разбойнікамі». Калі спрэчка дужа зацягвалася, то «...часам жаніх, пералезшы праз плот, сам адчыняў сватам вароты». Нарэшце, зайшоўшы ў хату, госці жаніха «заставалі сваякоў нявесты за сталом ...і прасілі, каб іх, падарожных, пусцілі за стол. Радня нявесты на пускае. Сваты ставяць на стол баклагу з гарэлкай. Тады госці пацясняцца і саступаюць сватам месца ў ганаровым куце». Дружкі нявесты, якія прысутнічалі ў гэты час у хаце, спявалі:

Ляцелі коршуны чыраз бор,
А селі коршуны к нам на двор.
Чаго ж тыя коршуны лятаюць?
Яны шэру вутачку шукаюць...
А ты, шэра вутачка, хавайся,
Лютаму сокалу не давайся,
Бо ён цябе, вутачку, прыклюе,
У чужую старану панясе.

Тады жаніх знаходзіў сярод дружак нявесту і выводзіў яе на сярэдзіну хаты. Да іх падыходзілі бацькі і сваты — хросныя бацькі. Бацька дзяўчыны складваў маладым рукі адна на адну і прасіў:

Дай, Божа,
У добры час,
На вясёла жыцце,
На добрае здароўе,
На доўгі век,
На дзяцінае шчасце!

На заканчэнне яго слоў усе прысутныя хорам паўтаралі: «Дай, Божа!».

Завяршаўся гэты рытуал тым, што жаніх наліваў чарку гарэлкі, адпіваў з яе крыху сам і падносіў нявесце, а затым частаваў гарэлкай і яе сяброваk*.

У дадатак варта сказаць, што падобны рытуал быў даволі пашыраным у нашым краі, і, напрыклад, на Пружаншчыне бацька, выконваючы такое благаславенне дзяцей на шлюб, рабіў гэта «на хлебе» — складваў рукі маладых на бохане круглага жытняга хлеба.

У Глускім раёне, па звестках беларускага фалькларыста В. І. Скідана, нявеста рыхтавала да заручын ручнік, спецыяльна вышываны для сватоў. На пачатку застолля старшы сват падносіў ёй чарку гарэлі, а яна абвязвала яго «накрыж праз плячо і пад паху, вузлом наперад» гэтым ручніком. Затым абменьваліся падарункамі паміж сабою бацькі маладых.

* Цыт. па кн.: Беларуская народная творчасць. Вяселле: абрад/Уклад. К. А. Цвірка. Мінск, 1978. С. 285—287.

У кожным рэгіёне адпаведна патрабаванням канкрэтнай традыцыйнай зоны вылучаліся свае характэрныя для заручын рытуалы, песні, вераванні, пра што сведчаць і вышэйапісаныя абрадавыя дзеянні, але мэта гэтага абрадавага застолля заўсёды заставалася нязменнай — пачуць слова роду на плануемы шлюб маладых.

Паколькі нашы продкі рабілі вяселле маладым усім родам, то на заручынах дамаўляліся таксама, зыходзячы з магчымасцей роду, колькі будзе запрошана гасцей, хто чым дапаможа арганізаваць абрадавае застолле, у які дзень яно адбудзецца і г. д. Усе арганізацыйныя пытанні вяселля вырашаліся абавязкова толькі калектыўна.

У час заручын маладыя абменьваліся пярсцёнкамі або, як гэта было найчасцей, малады сам купляў і дарыў нявесце пярсцёнак.

На абрадавае застолле заўсёды запрашалі музыкаў, пад мелодыі якіх «радзіначка» маладых пасля ўсіх рытуалаў і вырашэння пытанняў, звязаных з правядзеннем вяселля, тынцавала, спявала песні, бліжэй пазнавалася паміж сабою. На падобных гуляннях часта спявалі жартоўныя вясельныя песні, або, як гавораць у народзе, «сватнія дражнілкі». Вось адна з такіх песень, запісаная ў Чэрыкаўскім раёне, што спявалі госці жаніха:

Як засватылі, ды й заручылі,
Казалі кароў многа.
Як пайшлі даіць —
Адзін бык стаіць,
Рожычкі закручыны.

(8-93-273-3, л. 43)

На ад'езд «радзіне» маладога маці нявесты падносіла пірог і падарункі або, што было найчасцей, бохан хлеба.

З дня заручын (запоін) і да вяселля маладых называюць *заручоны* і *заручоная*.

## ПРАПІЎ БАЦЬКА ДАЧКУ...

*Вясельная, на заручынах.*

Прапіў бацька дачку
На салодкім мядочку,
Ды й на белай тарелцы.

Ды й на белай тарелцы,
Ды й на горькай гарелцы,
Да й напіўшыся скача.

Да напіўшыся скача,
Да напіўшыся скача,
А праспаўшы ж усё плача.

А праспаўшы ўсё плача:
— Куды ж маё да дзіця пашло,
А ці ў бор да па ягады?

А ці ў бор да па ягады,
А ці ў бор да па ягады,
Ці ў святліцу зы вадзіцай?

Свашачка,
Свашачка, мыя мамачка,
Глядзі ж майго да дзіцятачка.

(8-94-285-2, л. 6)

## ТЫ ЛІСТОК МОЙ КЛЯНОВЫ...

*Вясельная, на заручынах.*

Ты лісток мой кляновы,
Куда ж цябе вецер гоня?

А ці ў луг, ці ў даліну,
А ці ў чыстае поле?

— Ты, Надзечка маладая,
Куда ж цябе бацька 'ддае?

18 Зак. 1339

Куда ж цябе бацька 'ддае,
А ці ў людзі, ці ў тэтары?

А ці ў людзі, ці ў тэтары?
— Калі ў людзі — я з людзьмі буду.

Калі ў людзі — я з людзьмі буду,
А ў тэтары — дык тэтарычкай.

А ў тэтары — дык тэтарычкай,
А ў баяры — дык баярычкай.

(8-94-282-2, л. 8)

## ОЙ, ЦЁМНЫЯ, НЯВІДНАЯ НОЧЫНЬКА...

*Вясельная, на заручынах.*

Ой, цёмныя, нявідная ночынька,
Ой, вумная, разумная дзевычка.
Паставіла старожычку ў варотах:
— Стыражы ж, мая старожычка, вярненька,
Пакулічка ясен месячык ня ўзойдзіць,
Пакулічка малады хлопчычак прыедзіць.
Аб'ехаў ён тры гарадочкі, два месцы,
Ня выбраў ён луччэ дзевачкі-нявесты.

(8-93-273-1, л. 8)

## ЯК ПРЫЙШЛІ МЫ НА ЗАРУЧЫНЫ...

*Вясельная, на заручынах.*

Як прыйшлі мы на заручыны,
А там дзверы пазакручыны.

Пакуль дзверы адкруцілі,
Нашу Светачку забілі*.

Зялёненькі падалешнічак,
Калі рос, калі раскідаўся?

* *Забілі* — занялі, зваявалі, забралі.

Калі рос, калі раскідаўся,
Калі ў веццця браўся?

А я рос у Вялікі пост,
Раскідаўся проці лецічка.

Раскідаўся проці лецічка,
Проці лета, проці цёплага.

Ты, Светачка, ты, малодыя,
Калі расла, калі разумнела?

Калі расла, калі разумнела,
А калі замуж паспела?

А я расла ў матулечкі,
Разумнела ў татулечкі.

(8-92-265-3, л. 104)




Зборная субота — передвясельны вечар, у час якога жаніх і нявеста збіраліся, рыхтаваліся да вяселля, кожны паасобна з сваёй дружынай. Паколькі традыцыйнае вяселле беларусаў пачынаецца ў нядзелю, то зборы маладых да перадшлюбных рытуалаў праводзіліся ў суботу, чым і тлумачыцца этымалагічнае значэнне гэтай назвы (даслоўна: збірацца да вяселля ў суботу).

Па традыцыі жаніх і нявеста не павінны былі сустракацца перад вяселлем сем дзён, пра што спяваецца ў многіх вясельных песнях:

— А чаго ж ты, Манечка, схмурнела,
Ці твая ж галоўка балела?
— Не балела ні галоўка, ні вочы,
Не бачыла Ванечку сем ночы...

Падобная забарона была скіравана супраць злых чараў, якія маглі зрабіць або наваражыць ведзьмакі, ці ўяўляемая чалавекам «нячыстая сіла», каб «расстроіць вяселле». Злыя ж чары, як верылі нашы продкі, здольны ўздзейнічаць на чалавека і шкодныя для яго толькі сем сутак, дакладней, на сёмыя суткі з пачаткам светавога дня яны губляюць сваю сілу.

Гэтыя ж сем дзён былі разлічаны на тое, каб праявіць у маладых цікавасць і жаданне адзін да аднаго, даць магчымасць кожнаму з іх асэнсаваць свой шлюб як нешта сакральнае і ўрачыстае ў іх родзе.

У хлопца-жаніха ў зборную суботу на зыходзе дня збіраліся паджанішнік, або старшы шафер, яго сябры, браты, сёстры. Зборы жаніховай дружыны маюць у народзе і яшчэ адну назву — хлапечнік. Сабраўшыся, хлопцы вычэсвалі коней, змазвалі і рыхтавалі да паездкі на наступны дзень калёсы або брычкі — спецыяльныя павозкі для адправозкі людзей, добра кармілі нанач коней. Адначасова ў хаце ўпрыгожвалі маленькімі бубенчыкамі конскую вупраж, дугу абмотвалі жоўтай, блакітнай і чырвонай паперай або такімі ж стужкамі і прыбівалі да яе тры медныя званочкі: пасярэдзіне большы, а па баках крыху меншыя. У некаторых рэгіёнах, напрыклад у Глускім раёне, дугу да павозкі, на якой ехаў малады, аплялі яловымі галінкамі, а каб яны лепш трымаліся, зверху абкручвалі іх рознакаляровымі стужкамі. На заканчэнне, калі змеркне, бацькі жаніха рабілі для моладзі невялікае застолле, на якім таварышы развітваліся са сваім сябрам-халасцяком напярэдадні пачатку ім сямейнага жыцця і размяркоўвалі паміж сабою ролі і абавязкі на наступны дзень.

У паўднёвай частцы Беларусі ў гэты вечар у маладога маці хросная з яго цёткамі і сёстрамі

завівалі ёлку — упрыгожвалі маладое дрэўца ёлкі кветкамі з каляровай паперы, фальгі, палатна. Вершаліну такога завітага дрэўца вянчала вялікая прыгожая шышка чырвонага або зялёнага колеру.

Некалькі інакш праходзіў перадвясельны вечар у нявесты. У зборную суботу, якая адносна дзявоцкіх збораў мае найбольш пашыраныя ў нашым краі назвы: дзявочнік, суборы, паненскі вечар, вяночкі, дзявоцкія заручыны, дзявічкі, да дзяўчыны-нявесты прыходзілі сяброўкі — яе шаферкі. Маладая назначала сярод іх старшую дружку. У хаце нявесты ў зборную суботу праводзіліся чатыры вельмі важныя перадвясельныя рытуалы: пасад, развітанне з касою, завіванне вянка і развітанне з дзяўчатамі-сяброўкамі.

Перш чым садзіць дзяўчыну на пасад, бацька ўносіў у хату, дзе сабраліся «таварышкі» нявесты, дзяжу, у якой мясілі хлеб, і ставіў яе пасярэдзіне хаты ці перад кутнімі абразамі. Такую дзяжу накрывалі паверх века кажухом, вывернутым поўсцю наверх. Затым брат браў сястру за руку і, абвёўшы вакол дзяжы, прасіў:

Благаславіце, татка і маці,
Сястру на пасад саджаці!

Бацькі, як таго патрабавалі звычаі, адказвалі:

Бог благаславіць,
А ацец і маць вяліць!

Такое благаславенне паўтаралася тры разы.

Калі дзяўчына была цнатлівая, ці, як сёння гавораць, чэсная, яна тройчы кланялася перад абразамі Богу і садзілася на пасад. У іншым выпадку ёй катэгарычна забаранялася займаць гэта месца. Падобнае вераванне звязвалася з шчасцем і дабрабытам у сям'і маладых. Саграшыўшую раней часу дзяўчыну садзілі на стуле побач з дзявоцкім пасадам, што, зразумела, было вельмі няёмка і сарамліва для маладой і яе сябровак. Але і пару-

шыць спрадвечны закон продкаў наўрад ці адважылася б хоць адна дзяўчына, тым больш, што праўда аб яе цнатлівасці ўсё роўна пацвердзілася б рытуаламі пасля першай шлюбнай ночы.

Шырока вядомы ў беларусаў звычай у час пасаду абкурваць маладой валасы грамнічнай свечкай. Брат, пасля таго як дзяўчына сядзе на пасад, тройчы абносіў запаленую свечку вакол галавы сястры, пры гэтым за кожным разам прыпальваў ёй невялічкае пасемца валасоў спераду і з двух бакоў на скронях. У раёнах паўночнай і цэнтральнай Беларусі такі рытуал праводзіўся крыху інакш. Напрыклад, на Вілейшчыне ён мае назву падстрыганне маладой. Старэйшая сястра клала ёй крыж-накрыж два доўгіх пучкі вычасанага лёну, пасярод на лён — пярсцёнак і лыжачку мёду, а адна з маладзіц, найчасцей родная цётка, запальвала грамнічную свечку і, падышоўшы да нявесты з правага боку, пытала:

Дзе тут ёсць бацька і маці
Гэтага дзіцяці?
Гэта дзіця плачыць,
У Бога долі просіць,
Ад людзей благаславення хочыць.
Вы мужы статэчныя,
Хлопчыкі запечныя,
Жоначкі — белы галовачкі,
Дзевачкі — красны паненачкі,
Старыя бабкі, малы рэбяткі, —
Упысткі пакорныя, нічога не выборныя,
Благаславіце Манечку застрыгчы!

Потым гэта ж маладзіца з дапамогай сястры маладой працягвала кончыкі лёну з валасамі дзяўчыны праз пярсцёнак і прыпальвала іх агнём свечкі. Такім спосабам «застрыгалі» валасы нявесце ззаду, з левага боку і спераду.

Як сведчаць этнаграфічна-фальклорныя апісанні беларускага вяселля, у XIX—XX стагоддзях храналагічная прымеркаванасць рытуалаў пасаду ў абрадзе не заўсёды захоўваецца. У залежнасці ад сучасных традыцый канкрэтных рэгіёнаў няве-

сту могуць садзіць на дзявоцкі пасад непасрэдна ў першы дзень вяселля перад прыездам жаніха, перад выездам маладых пад вянец, а найчасцей гэтыя рытуалы ўвогуле не праводзяцца, што можна растлумачыць больш свабоднымі паводзінамі цяперашняй моладзі або, як асэнсоўваюць адсутнасць пасаду ў сучасным вяселлі старэйшыя людзі: «Няма каго садзіць на пасад».

У нашым народзе не выпадкова зазначаюць: «Каса — дзявоцкая краса». Тым самым падкрэсліваецца сімвалічнае значэнне касы ва ўбранні кожнай дзяўчыны. Каса — гэта абавязковы атрыбут дзявоцтва. І так было спрадвечна: дзяўчына заплятала валасы толькі ў адну касу, стаўшы ж жанчынай, маладзіцай, яна не мела права больш насіць касы. Ёй можна было заплятаць валасы ў дзве касы, рабіць прычоску і г. д., але нашэнне касы жанчынай было недапушчальным, што, дарэчы, характэрна і для іншых славянскіх народаў.

Напярэдадні вяселля, непасрэдна ў рытуалах апошняга дзявоцкага вечара нявесты, праводзілася рытуальнае развітанне са сваёю касою. Пасля абкурвання яе валос старшая дружка або брат расплятала і расчэсвалі, як спяваецца ў вясельных песнях, «русую косаньку дзеванькі». Перад гэтым, як і перад пасадам, тройчы прасілі бацькоўскага благаславення на расплятанне касы. Сяброўкі ў гэты час станавіліся ў круг альбо вадзілі карагод вакол нявесты ў паўголаса напяваючы:

Зборная суботачка настала,
Манечка дзевачак збірала.
Пасадзіўшы, работкі задала:
Чырвоныя стужачкі ўшпіляць,
Манечцы галовачку прыбіраць...

Стужкі або, як іх яшчэ называюць, уплёткі з дзявочай касы аддавалі меншым сёстрам нявесты ці пакідалі на падарункі яе сяброўкам, «каб і яны следам за маладой пашлі замуж». У многіх рэ-

гіёнах Беларусі нявеста заставалася з расплеценай касой да наступнага дня. У песнях, якія суправаджалі гэты рытуал, дзяўчаты імкнуліся «разжаліць» маладую, каб яна аплаквала сваю «русую косаньку». Калі дзяўчына пачынала плакаць, ёй спявалі:

...Да гуляла, красавалася
Манечка ў сваёй мамкі.
Да не даў ёй Ванечка
Яшчэ болей пагуляці,
Коскаю да памахаці.
Расплёў ёй косачку,
Разліў ёй слёзачку.
Каса мая да русенькая,
Сляза мая гарачэнькая...

Пасля рытуалаў расплятання касы старшая дружка завівала для нявесты вяночак. Часцей, паколькі традыцыйнае вяселле праходзіла ў позьнюю восень, вяночак шылі са штучна зробленых кветак. На дзявічнік дзяўчаты запрашалі таксама адну з вясковых маладзіц, якую называюць у абрадзе свацiцай. Яе роля заключалася ў тым, што яна павінна была ў абручык вянка для маладой ушыць пярсцёнак. Пасля гэтага старшая дружка абшывала абручык у два рады зверху і знізу кветкамі. Спрадвечным атрыбутам вясельнага вянка для маладой была рута. Вядомы беларускі фальклорыст XX стагоддзя Р. Р. Шырма зазначыў: «Рута — сімвал маральнай чысціні і цнатлівасці — упрыгожвае падвянечны ўбор кожнай нявесты-дзяўчыны. Па няпісанаму народнаму закону ўдава, хаця і самая маладая, калі выходзіць замуж, не мае права мець на галаве руцяны вяночак. Рута бывае атрыбутам вяселля не толькі летам або восенню. Яна павінна быць і ў зімовы час вяночкам на галаве маладых. Дзеля гэтага восенню, калі хаваюць бульбу на зіму, у яме робяць пячуркі, зрываюць у агародзе цэлымі пучкамі яшчэ зялёную руту і разам з бульбай хаваюць яе на зіму»*.

---

* *Шырма Р. Р.* Беларускія народныя песні. У 4 т. Т. 4. Мінск, 1976. С. 7.

У Маладзечанскім раёне, калі маладой завівалі вяночак, то родныя сёстры або бліжэйшыя сяброўкі падносілі да яе на талерцы пярсцёнак, руту, ніткі і восем-дзесяць іголак. Шылі вянок такім чынам: старшая дружка адрывала доўгую нітку і, прапусціўшы праз вушка іголкі, прывязвала яе да пярсцёнка, а потым гэтай жа ніткай падшывала да пярсцёнка галінку руты, затым дзяўчаты бралі з талеркі астатнія іголкі і працягвалі іх праз пярсцёнак, перадаючы па чарзе ад сяброўкі да сяброўкі. На заканчэнне яны нанізвалі на канец ніткі, якой шылі вяночак, усе іголкі і беглі да рэчкі, каб укінуць іх у ваду, што нібыта павінна было пасадзейнічаць іх хутчэйшаму замужжу.

Адначасова, пакуль старшая дружка з некалькімі сяброўкамі шыла вяночак, частка дзяўчат вырабляла штучныя галінкі квецені ці яркія ружова-чырвоныя кветкі ў выглядзе ружы, якія прышпілялі на наступны дзень з правага боку на пінжак усім членам дружыны жаніха і нявесты. У сучасным вясельным абрадзе такія штучныя кветкі носяць на вяселлі толькі маладыя і іх шаферы.

Сяброўкі нявесты таксама прыбіралі і падганялі, калі была такая неабходнасць, адзенне для маладой: андарак, кофту, фату, якая абавязкова павінна была спераду закрываць твар нявесты тонкім белым амаль што празрыстым палатном, або намітку. Такая работа выконвалася з асаблівай стараннасцю, каб на наступны дзень нявеста выглядала прыгожа і «ўсё на ёй было да месца», бо пры самым нязначным недаглядзе чаго-небудзь на вяселлі дружына маладога песнямі і прыпеўкамі-дражнілкамі абавязкова будзе імкнуцца высмеяць за гэта шаферак маладой.

Адзяваючы на галаву нявесце вяночак, запальвалі перад абразамі свечку. Старшая дружка, калі вянок добра «сядзеў» і глядзеўся на маладой, брала яго на ўказальны палец і падымала ўгару, каб ён быў вышэй усіх. Дзяўчаты ішлі па кругу вакол яе і нявесты, спяваючы:

Ой, звілі да й вяночак,
З зялёнае руты цвяточак...

У канцы рытуала вянок нявесты перадавалі яе маці, якая вешала яго да наступнага дня на набожніцу перад абразамі.

Зборную суботу невыпадкова ў народзе назвалі дзявоцкім вечарам. Гэта быў сапраўды апошні вечар у жыцці дзяўчыны, які яна праводзіла са сваімі сяброўкамі, апошні вечар яе дзявоцтва. Ужо на наступны дзень пасля вянчання яна стане жонкаю свайго мужа, а пасля першай шлюбнай ночы — жанчынаю. Таму на заканчэнне рытуалаў зборнай суботы нявеста развітвалася з дзяўчатамі і сваім дзявоцтвам, пра што сведчыла ў адрозненне ад сяброўак яе развітая каса. Устаўшы з пасада, са слязамі на вачах яна падыходзіла да «таварышак», цалавала іх і дарыла кожнай штонебудзь са сваіх дзявоцкіх упрыгожванняў або раздавала стужкі, якія заплятала ў дзявоцкую касу.

Сярод вясельных песен, якія суправаджалі рытуалы зборнай суботы, асобны цыкл складаюць песні, прысвечаныя нявесце-сіраце. Іх лейтматывам быў напамін дзяўчыне пра яе бацькоў, якіх яна сімвалічна запрашала на сваё сіроцкае вяселле:

Ой, хадзіла дзевачка на крутой гарэ
Да глядзела шчуку-рыбу на ціхай вадзе.

— Плыві-плыві, шчука-рыба, на ціхай вадзе,
Прыбудзь-прыбудзь, мая мамко, на раду ка мне.

— Ой, як жа мне, мае донько, прыбуці,
Ой, налегла сыра зямля на грудзі.

Налегла мне й сыра зямля на грудзі,
Самкнуліся кары вочы. Вой йдзі ў людзі.

Ой, кланяйся, дзіця мае, чужой чужыне,
Няхай дае параданьку беднай сіраціне.

(8-89-243-2, л. 14)

У іншых песнях вуснамі дзяўчыны-сіраты прасілі ў яе бацькоў-нябожчыкаў благаславення

на рытуалы, праводзімыя вечарам у зборную суботу.

Прыкмячаючы за некаторымі з'явамі і паводзінамі маладых у перадвясельны вечар, у народзе імкнуліся прадказаць іх будучы лёс. Напрыклад, калі дым ад патушанай свечкі, якой прыпальвалі валасы нявесце, ішоў да кута, то гэта азначала, што маладых чакае шчаслівы лёс і дабрабыт у сям'і, а калі да парога, то хуткую смерць каго-небудзь з іх. Нельга было маладой хлусіць у гэты вечар наконт сваёй цнатлівасці, бо за такую ману ў яе нібыта сем гадоў не будзе радзіць лён, а калі і жаніх хоць аднойчы «саграшыў» з якой-небудзь дзяўчынай да вяселля, то ў яго такі ж тэрмін не будзе даваць добрага ўраджаю пшаніца.

Дзеўкам суборы, а нявесце — зборы.

Каса — дзявоцкая краса.

Як касу расплятае, то і хату растрасае.

Нідзе дзявоцкага сяла няма.

Пакуль дзеўка — галава ў вянку, станеш маладзіцай — будзе ў платку.

Як пасаджана, так і асуджана.

## БРАТ СЯСТРУ НА ПАСАД ВЯДЗЕ...

*Вясельная, як садзілі на пасад.*

Брат сястру на пасад вядзе,
Вядзе, вядзе да выпытвае,

Да выпытвае,
Вядзе, вядзе, да выпытвае:
— Сястрыца мая родная!

Мая родная,
Сястрыца мая родная!
Хто ў цябе надмілейшы?

Надмілейшы,
Хто ў цябе надмілейшы?
Хто ў цябе надвярнейшы?

Надвярнейшы,
Хто ў цябе надвярнейшы,
А ці бацька, ці матка?

Ці матка,
А ці бацька, ці матка,
А ці родненькі братка?

Братка,
А ці родненькі братка?
— Надвярнейшы мой бацюхна.

Мой бацюхна,
Надвярнейшы мой бацюхна,
Надмілейшы Іванка.

(8-93-270-6, л. 52)

### ЛЯЦЕЛІ ГУСАЧКІ ЦЕРАЗ САД...

*Вясельная, як садзілі на пасад.*

Ляцелі гусачкі цераз сад*.
Крыкнулі, гукнулі на ўвесь сад:
— Пара табе, Іначка, на пасад.
— Што ж Вам, гусачкі, да таго,
Ёсць у мяне мамачка для таго,
Як скажа пайсці, я й пайду,
А скажа сесці, я й сяду,
А дасць чарачку, я й вып'ю,
А дасць другую, я й тую,
А за трэцюю «дзенькую»,
Дзенькую, мамачка, дзенькую,
Паследнюю ночаньку начую.

* Кожны радок паўтараецца.

А заўтра ўжо не прыйду
Не на дзве ночанькі, не на 'дну.
— Ні адной табе на свеце,
Сколька дзевачак на ўмеце.

(8-92-268-1, л. 26)

## У НЯДЗЕЛЮ РАНА...

*Вясельная. «...Ета яна ўжо з пасаду ўставала, тады ёй жадалі ўсяго добрага, маці плакала, цалавала яе, а жанчыны спявалі гэту песню.»*

У нядзелю рана *
Неба зьвінела **,

Марыя з Богам
Параду мела:

—Ой, дай жа, Божа,
Насцячцы долю.

Ці збажжавую,
Ці грашавую.

Калі збажжавую —
Багацеці будзе.

Калі грашавую —
Панаваці будзе.

Калі ж слязавую —
Гараваці будзе.

(8-94-280-2, л. 31)

## ОЙ, БРАТ СЯСТРЫ...

*Вясельная, як расплятaлі касу.*

Ой, брат сястры
Касу расплятаў,
І дзе тыя ўплёткі
Ты дзяваў?

* У вёсцы, дзе запісана песня, дзяўчыну садзяць на пасад у першы дзень вяселля перад прыездам жаніха, а напярэдадні ў дзявоцкі вечар толькі расплятаюць касу і прымяраюць плацце.
** Другі радок у кожным куплеце паўтараецца.

І дзе тыя ўплёткі
Ты дзяваў,
А ці меньшуй сястры
На знак даў?

А я меньшуй сястры
На знак даў:

— Вот табе, сястрыца,
Сястрын знак.

Вот табе, сястрыца,
Сястрын знак,
А судзі ж, Божачка,
Табе так.

(8-93-270-6, л. 53)

## ЧАГО Ў ЦЯБЕ, ДЗЕВАЧКА...

*Вясельная, сіраце, як расплятаді касу.*

Чаго ў цябе, дзевачка,
Да параду німа,
Ці твайго бацюхны
На свеце ні...

Ці твайго бацюхны
На свеце німа?
— Вой, людзі, людзі,
Якія Вы дзіўны...

Вой, людзі, людзі,
Якія Вы дзіўныя,
Ці Вы ні знаеця,
Што Вы пыта...

Ці Вы ні знаеця,
Што Вы пытаеця.
Ужэ ж мой бацюхна
За трыма замка...

Ужэ ж мой бацюхна
За трыма замкамі,
За трыма замкамі,
За старажам...

Первый замочак —
Зялёны дзярночак,

А другі замочак —
Жоўты пясо...

А другі замочак —
Жоўты пясочак,
А трэці замочак —
Цісовая дошчач...

Зялёны дзярночак,
Ты ж развярніся,
А жоўты пясочак,
Ты ж рассыпні...

А жоўты пясочак,
Ты ж рассыпніся,
Цясовая дошчачка,
Ты ж й адчыні...

Цясовая дошчачка,
Ты ж й адчыніся,
Родны мой бацюхна,
Ты ж адзаві...

Заву цябе, бацюхна,
Ты ж й адзавіся,
На маё вяселле
Да й на сіроцка...

На маё вяселля
Да на сіроцкая.
— Весяліся, дзіцятка,
Весяліся, родна...

(8-93-270-1, л. 50—51)

## СТАНЬЦЕ БАБАЧКІ...

*Вясельная, сіраце, у зборную суботу.*

Станьце, бабачкі, а ўсе ў рад*,
Пойдзіць Манечка мамку іскаць.
А ўвесь рядочык абышла —
Нідзе сваю мамку ні найшла.
Галоўка мая — роза-цвет,
Пайшла мая мамачка на той свет.

(8-92-265-3, л. 67)

* Кожны радок паўтараецца




Каравайны абрад, які суправаджае выпяканне вясельнага караваю, пачынаецца амаль што адразу пасля заканчэння рытуалаў зборнай суботы. У гэты ж вечар бліжэй да поўначы ў хату жаніха і нявесты збіраліся каравайніцы: маці хросная — яна ж старшая каравайніца, цёткі, суседкі і іншыя вясельныя асобы, прысутнасць якіх вызначалася патрабаваннямі канкрэтнай традыцыйнай зоны. У вясельным абрадзе каравай — гэта ры-

туальны хлеб, што выпякаўся ў ахвяру вышэйшым Духам і Багам, з дапамогай якіх імкнуліся забяспечыць шчасцем і добрай доляй маладых. Выпякалі яго паасобна ў хаце жаніха і нявесты ноччу напярэдадні вяселля, чаму перадвясельную ноч называюць яшчэ каравайнай. Такое парушэнне паводзінна-звычаёвага рытму жыцця чалавека было наўмысным і выкарыстоўвалася як адзін са спосабаў барацьбы са злымі Духамі ці ўяўнымі нячысцікамі, якія ў даным выпадку чалавек імкнуўся ўвесці ў зман, падмяняючы свае штодзённыя дзеянні адпаведна дня і ночы. Праўда, пазней, у апошнія стагоддзі, як сведчаць запісы многіх этнографаў і фалькларыстаў гэтага часу, на большай тэрыторыі этнічнай Беларусі каравай пачынаюць выпякаць у зборную суботу вечарам ці раненька ў нядзелю ў першы дзень вяселля, але, як бачым, усёроўна ў цёмную пару сутак.

Традыцыйны беларускі абрад выпякання караваю ўключае ў сябе многія магічныя рытуалы, якія хоць і суправаджалі, але хутчэй і самі былі абумоўлены такімі практычнымі дзеяннямі каравайніц і іншых асоб, як распальванне печы, рашчыненне каравайнага цеста і падыход яго ў дзяжы, саджэнне каравая ў печ і выпечка яго, вынас каравая да месца захавання.

Адразу ж пасля поўначы бацька і адзін з жанатых братоў маладога або маладой уносілі ў хату бярозавыя ці кляновыя дровы і запальвалі ў печы агонь. У сучасным каравайным абрадзе ярка выражаныя рытуалы распальвання агня для каравая адсутнічаюць, няма іх апісанняў і ў этнаграфічных матэрыялах XIX—XX стагоддзяў. Але сярод нямногіх рытуальных кампанентаў захаваліся абрадавыя песні, якія спяваюць у гэты час каравайніцы:

Ой, у кузні кавалі куюць
Да новыя тапары робяць,
Дубовыя дровы сякуць
Да і ў печачкі кладуць.
Шаўковыя да дымы ідуць —
Там Манечцы каравай пякуць...

У іншых песнях спяваюць і так:

...Медзяныя печы паляць,
Шаўковыя дымы дымяць.
Шаўковыя дымы дымяць,
Залатыя іскры ляцяць...

Падобнае метафарычнае ўвасабленне печы, дыма, іскраў, агня, на якім павінны выпякаць каравай, магчыма, і захавалася ў каравайных песнях як рэліктавыя адгалоскі тых старажытных рытуалаў, што былі звязаны ў нашых далёкіх продкаў з заклінаннямі і маленнямі да сваіх Духаў і Багоў пры распальванні каравайнага агня. Адсутнасць правядзення такіх рытуалаў тут проста цяжка ўявіць, улічваючы яшчэ і той факт, што нашы продкі-язычнікі былі вогнепаклоннікамі. Магчыма, што пазней на працягу апошняга тысячагоддзя, з вынаходствам чалавекам новых спосабаў атрымання агня, рытуальнае яго разведзенне, нават у традыцыйных абрадах, адпала само сабою, і, відаць, у сённяшніх каравайных абрадах гэтыя рытуалы часткова перайшлі або зліліся з рытуаламі рашчынення каравая, бо менавіта тут мы і знаходзім першыя песенныя заклінанні і формульныя звароты да Багоў дазволіць «вяселле зачынаці, каравай рашчыняці»:

Тройца па царкве хадзіла,
Спаса за ручку вадзіла.
— Прачыстая Маці,
Прыйдзі к нашай хаце
Вяселле зачынаці,
Каравай рашчыняці!

або

...Дай, Бог, нашаму караваю
У дзяжы спор, а ў печы падыход!

Адначасова з распальваннем печы каравайніцы пачыналі рашчыняць каравай. На якую-небудзь падстаўку засцілалі кажух або клалі крыж-накрыж дзве дошкі і ставілі наверх дзяжу. Старшая каравайніца пытала:

Ці ёсць у нашага дзіцяці
Бацька і маці?
Ці дазволіце каравай рашчыняці?

на што, напрыклад у Ваўкавыскім павеце, бацькі адказвалі:

На нашае пазваленне не зважай,
А Божы дар рашчыняй,
У Божы час зачынай,
Як у людзей, так і ў нас!
Прасі на помач Бога з высокага неба,
Каб дапамог ім у жыцці, чаго будзе трэба!..

Каля дзяжы працавала толькі старшая каравайніца, астатнія ж жанчыны прасейвалі і падносілі ёй жытнюю або пшанічную муку, ваду, соль, цукар, масла, малако, дрожжы і іншыя прадукты, з якіх тая замешвала каравайнае цеста. Пры гэтым прытрымліваліся пэўных правілаў, напрыклад, імкнуліся ўліць у дзяжу вады, усыпаць мукі ці пакласці іншых прадуктаў столькі, каб другі раз не дабаўляць, замешвалі цеста толькі ў адзін бок — па ходу сонца, і г. д.

Каравайніцы ў гэты час у песнях прасілі Багоў надзяліць жаніха і нявесту доляю або з такой жа мэтаю зазывалі да каравая маці:

А дзе тут ёсць, а дзе тут ёсць
Маладой Манечкі мамачка,
Ды няхай прыходзіць, ды няхай стане
К гэтаму караваю,
Ды няхай прося, ды няхай моля
Свайму дзіцяці долю:
І хлебавую, і салявую,
Дай, Божа, ўсялякую!

Прасілі таксама благаславення ад людзей «каравай учыняці»:

Благаславіце, людзі,
Блізкія суседзі,
Гэтаму дзіцяці
Каравай ўчыняці
Ручкамі да бяленькімі,
Перснямі залаценькімі,
Песнямі весяленькімі.

«Песні весяленькія», пра якія тут спяваецца, гучалі ў хаце на працягу ўсяго каравайнага абраду, суправаджаючы амаль кожнае дзеянне, кожны рух каравайніц. Са старажытных часоў у іх закладзены вялікі магічны сэнс, які праяўляўся праз рытуальную мелодыку гэтых песен і быў разлічаны, што ўвогуле характэрна ўсёй вясельнай песнятворчасці, на адпужванне злых сіл і, як гэта бачна з прыведзеных прыкладаў, рытуальныя звароты да Багоў з прашэннямі і маленнямі.

Рашчыніўшы каравайнае цеста, дзяжу ставілі на верхнюю чарэнь печы, каб яно хутчэй падыходзіла, а каравайніц частавалі салодкімі прысмакамі і гарэлкаю.

Печ палілі прыкладна гадзіны дзве, каб яна добра прагрэлася, а затым гаспадар хаты выгортваў з яе ўвесь жар, вымятаў ад попелу ўнутраную чарэнь і правяраў разам са старшай каравайніцай, ці можна саджаць у яе каравай, для чаго кідалі ў печ дубовы або кляновы лісток: калі ліст зажальвае (гарыць), то чакалі, каб яна крыху астыла. Толькі тады, калі ліст не падгараў, усю чарэнь у печы ўсцілалі дубовымі або кляновымі лістамі.

Пакуль каравай падыходзіў, каравайніцы пільна сачылі за дзяжою, каб цеста не «выбегла» за яе краі. І ўжо прыкладна да таго часу, як бацька пачынаў выграбаць з печы жар, жанчыны запявалі:

На небе месячык узышоў,
У дзяжы каравай падышоў,
На дзяжы вечачка падымае,
Да сябе каравайнічак склікае...

Гэта азначала, што прыйшла пара «качаці каравай», на што, як і ў папярэдніх рытуалах, прасілі благаславення бацькоў. Затым хросная маці запальвала грамнічную свечку, тройчы абыходзіла з ёю вакол дзяжы і толькі пасля таго пасыпала стол мукою і выкладала на яго з дзяжы цеста. Яна вымешвала каравай і выкачвала яго, надаючы цесту круглую форму у выглядзе шара. Гэту

працу дзе-нідзе называюць яшчэ гібаннем караваю.

Іншыя каравайніцы, аддзяліўшы частку каравайнага цеста, ляпілі з яго шышкі, паўмесяц, зорачкі і іншыя фігуркі, што сімвалізавалі жывёл, расліны, прадметы, якія маюць культавае значэнне ў традыцыйнай абраднасці беларусаў. Такімі фігуркамі аздаблялі (упрыгожвалі) верх каравая.

Па звестках вядомага этнографа і фалькларыста XIX стагоддзя М. Федароўскага, у Ваўкавыскім павеце рабілі дванаццаць караваяў. Спачатку галоўная каравайніца вымала з дзяжы частку падышоўшага цеста для асноўнага, галоўнага каравая, а потым яшчэ адзінаццаць каравайніц, якія ёй дапамагалі, дзялілі рэшту цеста ў дзяжы на адзінаццаць роўных частак і ўсе разам вымешвалі (валкавалі) на стале каравай. У песнях каравайніцы сімвалічна ад імя маці зазывалі ўсю яе радзіначку «каравай валкаваці»:

Выйду я на гулыньку,
Стану я на грудочку,
Гукну я на радочку,
Каравай валкаваці,
Мёд-віно папіваці,
Каравай да печы саджаці...*

Выпяканне па некалькі караваяў характэрна для многіх рэгіёнаў Беларусі, але найчасцей іх было тры ці чатыры. Кожны каравай на вяселлі меў сваё прызначэнне: галоўны, самы вялікі, падавалі на стол, калі надзялялі маладых, адзін-два караваі прызначаліся для частавання гасцей, калі праводзілі розыгрышы над маладымі на другі або трэці дзень вяселля, і адзін каравай раздавалі «запарожцам» — людзям не свайго роду, якія прыходзілі паглядзець вяселле.

У паўднёва-ўсходняй частцы Беларусі ў кожнага з маладых звычайна выпякалі да вяселля

* Беларуская народная творчасць. Вяселле: абрад / Уклад. К. А. Цвірка. Мінск, 1978. С. 136.

толькі адзін каравай, які вызначаўся сваёй вагой і памерамі. Як зазначае М. М. Доўнар-Запольскі на падставе сваіх назіранняў у Рэчыцкім і Мазырскім паветах Мінскай губерні, вясельны каравай важыў часам каля пуда, які раўняецца шаснаццаці кілаграмам*. Зразумела, што такі каравай нават ад уласнай вагі расцячэцца і немагчыма будзе пасадзіць яго ў печ, а трэба было, каб ён атрымаўся высокі, што сімвалізавала б багацце ў сям'і маладых. Таму, напрыклад на усходнім Палессі, вымешанае і скачанае цеста абвязвалі вакол шырокаю чырвонаю стужкаю, якая надавала яму круглую форму і адначасова выконвала магічную функцыю: ахоўвала ад злых чараў і «людскіх нагавораў».

У жаніха ж найчасцей асноўнаму караваю надавалі форму паўмесяца.

Вымешаны каравай пераносілі на вялікую шырокую драўляную лапату, якую таксама, як і печ, засцілалі дубовымі або кляновымі лістамі, паміж якімі клалі засушаныя сцяблінкі і кветкі аеру, васількоў, рамонак, барвінка і іншых раслін.

Здаралася, што вялікі каравай саджалі ў печ два або нават тры чалавекі. Калі ж караваяў было некалькі, то галоўны падавалі ў печ першым і ставілі на сярэдзіну чарэні, а астатнія вакол яго. Пасля кожнай падачы каравая ў печ стукалі лапатаю ў столь, зазываючы такім чынам на дапамогу Духаў памёршых продкаў.

Адначасова і каравайніцы запрашалі абрадавымі песнямі Багоў памагчы садзіць каравай у печ:

Сступ, Божа, з неба,  
Як нам цяпер трэба:  
Памагаў замясіць,  
Памажы ж і ўсадзіць...

Звярталіся таксама да печы, у якой павінен выпякацца каравай, ухваляючы яе прыгажосць і годнасць:

---

* Беларуская народная творчасць. Вяселле: абрад / Уклад. К. А. Цвірка. Мінск, 1978. С. 256.

Гожа, печка, гожа,
Як чырвона рожа,
Не жаль караваю даці,
Бо ўмее запякаці.

Дзякавалі Багоў за ўдала зробленую справу:

Дзякуем табе, Божа,
Што каравай гожы,
Хораша спарадзілі
І ў печ пасадзілі...

Як толькі каравай пасадзяць у печ, каравайніцы станавіліся вакол дзяжы, дзе падыходзіла цеста, і тройчы падкідвалі яе ўверх са словамі:

Хоць скачы, дзяжа, не скачы,
Твой каравай ужо ў пячы.

Пакуль каравай выпякаўся, увесь час каля яго «ухажвала» маці хросная: каб ён не згарэў, апрысквала яго ў печы крынічнай вадою, каб надаць пэўны колер, змазвала яго зверху і па баках маслам або жаўтком і г. д. Іншыя ўдзельнікі абраду ў гэты час весяліліся, танцавалі, спявалі каравайныя песні, у якіх раз-пораз напаміналі старшай каравайніцы аб яе абавязках:

Каравай у печы йграе,
Заслонку адбівае:
— Старшая каравайнічыца,
Не сядзі на заслоне.
Сядзь жа ты каля печы
Каравай сцярэгчы:
Каб яго не спалілі,
Харашэнька ўгадзілі,
Увесь род абдзялілі...

або

А каравай у печы гіча,
А каравайнічак кліча:
— А каравайнічкі Вы мае,
А хадзіце Вы да мяне,
А каб мне трошкі масла,
Было б мае цела красна.

Выпечаны галоўны каравай ставілі на века ад дзяжы, засланае ручніком, і выносілі ў камору, клець або на кут пад абразы, астатнія ж караваі захоўвалі да вяселля толькі ў каморы ці клеці.

У народзе захаваліся і бытуюць некаторыя павер'і і гаданні, якія дапасоўваюцца да каравайнага абраду: у каго каравай згарыць, як пякуць, то той жаніх (або нявеста) будзе вельмі сварлівы (гарачы) ў сям'і; нельга было мясіць каравай кулакамі, бо «муж будзе біць жонку»; ваду, якой каравайніцы мылі рукі, выліваюць пад садовыя дрэвы і кусты, «каб добра ўсё пладзіла ў садзе»; каб следам за дачкой-нявестай хутка павыходзілі замуж і астатнія дочкі, калі такія былі, бацька, пасля таго як рашчыняць каравай, прыпадымаў дзяжу з чатырох розных бакоў, заклінаючы: «Дай, Бог, каб як гэта дзяжа не стаіць на месцы, так і мае дачушкі не сядзелі доўга ў бацькавай хаце», пры гэтым нявеста пакрывала дзяжу белым абрусам; нельга было перарабляць каравай пасля таго, як яго скачаюць і пасадзяць на лапату, або выпякаць новы, у народзе тлумачаць гэта вераванне так: каравай выпякаюць на долю, а доля даецца чалавеку Богам адзін раз, таму, што Бог даў, тое няхай і будзе; нельга было дапусціць, каб каравай укралі, у такім выпадку вяселле хоць і рабілі без каравая, але лічылі, што маладыя ўсёроўна не будуць жыць у пары, або з тым, у каго ўкралі каравай, здарыцца нейкае няшчасце, або, як мяркуюць апошнім часам, маладыя развядуцца.

Па звестках беларускага фалькларыста XX стагоддзя А. С. Фядосіка, у Пухавіцкім раёне старшая шаферка пасля вымання каравая з печы бярэ лапату, на якой яго вынімалі, стукае ёю тры разы ў столь, а потым выбягае з гэтай драўлянай лапатай на вуліцу, і калі першы прахожы, каго яна сустрэне, будзе мужчына, то і яна хутка выйдзе замуж, а калі жанчына, то ўвесь год будзе хадзіць у дзеўках.

Ставілі яшчэ ў замешаны каравай дзве лыжкі і глядзелі, куды яны будуць нахіляцца: калі сыдуцца, то і маладыя пражывуць усё жыццё ў пары, а калі нахіляцца ў розныя бакі — разыдуцца.

Відавочна, што адзначаныя рытуалы, як і заклінанні, зычэнні, вераванні, гаданні, песні каравайнага абраду, выконваюць засцерагальную функцыю адносна рытуальнага вясельнага печыва, адлюстроўваюць у сабе магічныя захады чалавека і спробу паўздзейнічаць на будучы лёс маладых і іх сямейнае шчасце і дабрабыт.

Каравай родзіць у полі, а сям'я ў долі.

Каравай яшчэ выпякаецца, а дзеўка ўжо да вянца збіраецца.

## КАРАВАЙ, КАРАВАЙ, КАРАВАЮ...

*Каравайная, як выпякалі.*

— Каравай, каравай, караваю,
А хто ж цябе задумаў?

А хто ж цябе задумаў?
— А задумаў мяне хлопчычак.

А задумаў мяне хлопчычак
Ў чыстым полі аручы.

Ў чыстым полі аручы
Да пшанічаньку сеючы.

Да пшанічаньку сеючы:
— Зарадзі ж, Божа, пшоначку.

Зарадзі ж, Божа, пшоначку
Да на маладую жоначку.

(8-93-270-2, л. 53)

## ДА ДЗЕВАЧКІНА МАТКА...

*Каравайная, як выпякалі.*

Да дзевачкіна матка,
Да па вуліцы хо...

Ходзіць,
Да па вуліцы хадзіць,
Да суседачак просі...

Просіць,
Да суседачак просіць:
— А, суседачкі мае,

Мае,
А, суседачкі мае,
А хадзіця ж Вы ка мне.

Ка мне,
А хадзіця ж Вы ка мне,
А ні ка мне, к дзіцяі...

К дзіцяці,
А ні ка мне, к дзіцяці
Каравай пасаджаці.

(8-93-270-1, л. 52)

### А ЗНАЕМ МЫ, ЗНАЕМ...

*Каравайная, як вымаюць з печы.*

А знаем мы, знаем*,
Што ў Вашым карываі:

Пяць бочак вадзіцы,
Сем мерак мучыцы,

З дзесяцёх кароў масла,
Яец паўтараста,

Сыру падкрышылі,
Каравай падбальшылі.

(8-91-258-А-3, л. 17)

* Кожны радок паўтараецца.




Вяселле — сямейны абрад, які праводзіцца з выпадку рытуалізаванага заключэння шлюбу паміж хлопцам і дзяўчынай і пачатку імі сямейнага жыцця, а таксама сімвалізуе грамадскае прызнанне новай сям'і ў канкрэтным родзе і этнічным калектыве.

Абрадавыя вясельныя ўрачыстасці адбываюцца з другой паловы кастрычніка па 28 лістапада — дня, з якога пачынаецца піліпаўскі пост. Іншыя найбольш вядомыя ў нашым краі тэрміны пра-

вядзення вяселляў вызначаюцца мясаедам, напярэдадні перадвялікоднага посту, і перыядам ад Пятроўкі да пачатку жніва. Традыцыйнае вяселле гулялі пераважна два дні: у нядзелю пачыналі, а ў панядзелак заканчвалі.

У першы дзень вяселля, адразу пасля поўдня, жаніх з сваёю дружынаю выязджаў да маладой. Уперадзе на лёгкай павозцы ехалі малады, паджанішнік, маці хросная і старшы сват, а астатнія госці — следам за імі. Маці, праводзячы сына ў дарогу, перакрыжоўвала яго ўслед рукою. Старшы сват перад выездам браў з сабою ў рукаў грамнічную свечку, «гэта каб у абозе і на вяселлі было ўсё добра». Дружына маладога выглядала даволі маляўніча і гулліва: у кожнай павозцы запрэжаны лепшыя коні, вупраж упрыгожана каляровымі стужкамі і бубенчыкамі, па-святочнаму апрануты госці, з-пад кожнай дугі далёка па наваколлю раздаецца пералівістая мелодыя званочкаў. Усё гэта дапаўняюць музыка і песні, што спявалі госці ў дарозе:

А едзь, Васечка, ды й не пазніся,
Штоб твая шапачка пылам ні спала,
Штоб твая дзевачка з другім не стала.

(8-94-279-1, л. 12)

Сівы конь бяжыць — аж зямля дрыжыць.
На ім грывачка раскідаецца,
Едзе Васечка і ўцяшаецца:
— Ай, конь, ты мой конь, ай, конь, вараной,
Пацеш ты мяне ў цешчы на дваре,
Ў цешчы на дваре, сеўшы на куце.

(8-94-282-2, л. 21)

У дзяўчыны-нявесты таксама з абеда пачынаюць збірацца госці — яе «радзіначка». Дзяўчаты ў гэты час адводзілі маладую ў адну з суседніх хат, каб апрануць у вясельнае ўбранне і схаваць ад жаніха. Да выбару такой хаты існавалі пэўныя патрабаванні. У вёсцы Іванаўка Буда-Кашалёўскага раёна і сёння павучаюць, каб маладую «чэ-

раз вуліцу не пераводзілі, нельга», а вялі ў хату, якая стаяла па тым баку вуліцы, дзе жыве нявеста, «...і дайжа еслі жаніх будзе ехаць з якога боку, дык туды на сустрэчу не вядзі, а вядзі наадварот ад жаніха, у другую старану», не пераапраналі нявесту і ў хаце ўдавы або ўдаўца (8-94-285-2, л. 9).

Закрыўшыся, каб ніхто не зайшоў на той момант, у адпаведнай хаце дзяўчаты «ўбіралі» сваю сяброўку да вяселля: расчэсвалі і прыгожа заплятালі касу, абувалі на ногі боцікі белага або чырвонага колеру, адзявалі бялізну, вясельнае плацце, галаўны ўбор і прыкалвалі да валос вяночак, які шылі дзяўчаты-шаферкі ў зборную суботу.

У двары нявесты раз-пораз гучалі вясельныя песні — напаміны аб хуткім прыездзе жаніховай дружыны:

А сягоння нядзелька
Да святы дзянёчак,
Раскаціла Манечка
Свой кужалёчак.
— Да, дзевачкі ж мае,
Сястрыцы мае,
Ужэ ж мне, дзевачкі,
Не да кужалёчка,
Ужэ ж мой Васечка
Да недалёчка...

(8-93-270-6, л. 39)

Уехаўшы ў «дзеўчын двор», госці распрагалі коней, віталіся са сватамі, знаёміліся з гасцямі нявесты. Малады браў з сабою паджанішніка, сяброў-шафераў і ішоў шукаць маладую. Яе «радзіна», як бы падзадорваючы хлопцаў, спявала:

А чаго ж ты, Васечка, прыехаў?
Мы ж табе Манечкі не 'ддадзім,

Мы ж табе Манечкі не 'ддадзім,
Мы ж табе агуду тут дадзім...

(8-93-270-6, с. 38)

Дзявочая дружына затайвалася, хавалася так, каб хлопцы не адразу знайшлі іх. Калі ж урэшце яны траплялі ў хату, дзе была нявеста з сваімі шаферкамі, то за дзвярыма перад парогам у сенцах далейшы праход быў перагароджаны сталом або лаваю, за якой кучкаю стаялі дзяўчаты. Яны не пускалі хлопцаў далей у хату і патрабавалі выкуп за сяброўку-нявесту. На «выкуп» дзяўчатам паджанішнік і яго сябры давалі грошы, цукеркі, пернікі, абаранкі, з напіткаў — настойку, наліўку і іншыя прысмакі. «Выкупіўшы» нявесту, жаніх браў яе за руку і вёў, у суправаджэнні моладзі, у хату, дзе іх чакалі госці. Ён тройчы абводзіў вакол стала па ходу сонца сваю суджаную і за трэцім разам садзіўся з ёю на куце. Следам за імі сядалі за стол і госці: радзіна хлопца на левы бок ад кута, а радзіна дзяўчыны — на правы.

Першае застолле пачынаў хросны бацька нявесты — старшы сват, які спачатку прасіў на гэта дазволу ў бацькоў, а потым запрашаў гасцей частавацца, «чым Бог паслаў». За першай вясельнай чаркай выказваліся пажаданні «на добрае пагуляннейка», накшталт: «Вып'ем, каб было весела гуляць і наша вяселле доўгія гады не забываць!», «Дай, Бог, нашым маладым дарогу лёгкую, а долю шчаслівую!», «Дай, Божа, каб доўгія лета жылі, здаровы былі, нас не забывалі!» і іншыя. За сталом доўга не заседжваліся, бо прыкладна на тры гадзіны дня святары назначалі маладым вянчанне ў царкве або касцёле. Таму бліжэй да гэтага часу бацькі дзяўчыны пачыналі рыхтавацца да «благаславення дзяцей пад вянец» ці, як называюць гэты рытуал яшчэ, «выпраўляць маладых пад вянец». Яны засцілалі пасярод хаты кажух або ручнік, бацька запальваў грамнічную свечку, маці брала ў адну руку невялічкі абразок з выявай святога, які лічыўся заступнікам яе роду і сям'і, побач на стуле ставілі невялікую пасудзіну — гаршчок ці міску з асвянцоным у царкве зернем, у якое дасыпалі і тое зерне, якім дзяўчына ў час сватання напаўняла сватнюю бутэльку, і клікалі маладых стаць «на ручнічок».

Жаніх уставаў, браў нявесту за руку і вёў яе зноў жа па ходу сонца на сярэдзіну хаты. Пакуль маладыя выходзілі з-за стала, госці спявалі ім:

У нас сягоння васкрэсенне,
Начынаецца Манечкіна вяселле.
Віно з мёдам зліваецца на піццё,
Пара людзей злучаецца на жыццё.
Віно з мёдам мы піць будзем — дар Божы,
Пара людзей жыць будуць — шчасце Божа.

Маладыя станавіліся на кажух або ручнік і, нізка пакланіўшыся бацькам тройчы, пыталіся спачатку ў маці: «Дазвольце, мама, пад вянец ехаць», на што тая адказвала: «Бог дазволіць!», пасля таксама тройчы маладыя звярталіся да бацькі: «Дазвольце, тата, пад вянец ехаць», на што і той адказваў: «Бог дазволіць!», і, нарэшце, такое ж траістае благаславенне на просьбу маладых «Дазвольце, добрыя людзі, пад вянец ехаць» давалі госці. Атрымаўшы благаславенне бацькоў і «радзіначкі» на вянчанне, маладыя тройчы цалавалі абраз і выходзілі з хаты ў двор. Маці ў гэты час перадавала абраз святога ў рукі бацьку, а сама брала пасудзіну з зернем і, ідучы следам за маладымі, «абсявала іх жытам», калі яны праходзілі парог хаты, а потым і на парозе ў сенцах, «каб іх доля была добрая».

Перад выездам маладых пад вянец мясцовыя бабулькі-шаптухі папярэдне «шапталі» на ваду, якую непрыкметна налівалі ў чаркі і давалі выпіць маладым або замаўлялі іх непасрэдна ў час выезду са двара, «каб злыя людзі не расстроілі вяселле»: «Іван — вялікі воін! Не баішся ты ні ліхадзея, ні супастата. Памагі рабу Васілю і рабе Мані, штобы яны павінчаліcь ні на муку, ні на гора, ні ў ліхой час, а ў добры час — на радасць, на вяселле, і штобы не баялісь яны ні калдуноў, ні калдуніц, ні эрэцікаў, ні ерэціц. І сажгі калдуноў, сажгі калдуніц каменнай стралой, вогнем нябесным, штобы яны ні брасалісь, ні кідалісь, на

свадзебку ні зіраліcь. Ты святы Лука-Дзем'ян! Атлучы іх ад света белага, а раба Васіля і рабу Маню салучы ў вадно места. Амінь!».

На вянчанне маладыя ехалі не менш як на трох падводах: на першай — жаніх, яго хросныя бацька і маці, паджанішнік і сябры, на другой — нявеста, таксама яе хросныя бацька і маці, старшая дружка і некалькі сяброваk, а на трэцяй — вясельныя госці, бліжэйшыя родзічы жаніха і нявесты.

Пакуль маладыя і госці садзіліся ў павозкі і выязджалі са двара, вясельная дружына абвяшчала песнямі наваколле і ўсю вуліцу, дзе жыла маладая:

Вася коніка сядлаіць,
А ў каня праўды пытаіць:
— А, кося ж ты мой, вараной,
Ці надзеешся на сілу?
Ці звязеш маю княгіню?
...Пад тую гару крутую,
Пад тую цэркаўку святую?
А ў той цэркаўкі Святы Спас,
Звінчайце Вы нас ў адзін раз.

(8-92-265-3, л. 26)

Калі ў маладой было некалькі сясцёр, а яна першаю выходзіла замуж, то, выязджаючы са двара, нявеста кідала з воза клубок, трымаючы за канец нітку з яго. «Ета, штоб дзеўкі за ею ішлі замуж. Штоб усе так замуж, як клубок, каціліся» (8-93-270-3, л. 17).

Рытуал вянчання многія стагоддзі, бадай што ад пачатку стварэння манагамнай сям'і, быў адзіным рэлігійна-грамадзянскім актам, які дазваляў і ўзаконьваў пачатак сямейнага жыцця паміж хлопцам і дзяўчынай. Першапачаткова на язычніцкіх месцах пакланення Багам, а цяпер, як гэта вядома нашым пакаленням, у Божым храме жаніх і нявеста адзяваюць адзін аднаму шлюбныя кольцы, даюць згоду на сямейнае жыццё і клятву ў непарушнасці вернасці. Такія важныя крокі ў жыцці маладых суправаджаюцца і аб'ядноўваюц-

ца ў адзінае рытуалізаванае дзеянне вянчальным рытуалам, асаблівую ўрачыстасць якому надаюць маленні, царкоўныя спевы і зычэнні «На многае лета!» і, што самае галоўнае, сваю згоду на шлюбны саюз маладыя даюць перад Божым лікам і, бадай, у самым святым месцы, якім спрадвечна лічыўся для чалавека Божы храм, дзе іх, дарэчы, упершыню і абвяшчаюць мужам і жонкаю. Усё гэта надавала важнасць прынятаму рашэнню ў час вянчання і сур'ёзную адказнасць маладой пары за іх будучае сумеснае жыццё. І хоць у савецкі час камуністычныя ідэолагі імкнуліся падмяніць рытуал вянчання рэгістрацыяй шлюбу ў ЗАГСах і іншых падобных ім дзяржаўных установах, канец XX стагоддзя паказвае, што людзі ўсё больш актыўней вяртаюцца да сваіх спрадвечных святых каранёў, а вянчанне ў царкве або касцёле становіцца неад'емнай часткай сучаснага вяселля.

У час вянчання па тым, як гарэлі свечкі ў маладых, гадалі аб іх будучым лёсе: «...ежалі ў маладых свечкі гараць жарка, то будуць жыць дужа харашо», калі ж у нявесты або жаніха свечка «...будзе як-небудзь там плоха гарэць», то верылі, што ў таго і ў жыцці нешта будзе «няладзіцца» (8-94-282-2, л. 19); свечкі, якія часта патрэсквалі, прадказвалі, што маладыя будуць часта сварыцца паміж сабою, а калі «трашчала» свечка толькі ў аднаго з іх, то «судзілі», што той будзе сварлівы ў сям'і; і зусім непажаданым знакам было патуханне свечкі ў каго-небудзь з маладых, у такім выпадку гаварылі, што той хутка можа памерці, а яго суджаны або суджаная заўдавее. Падобныя назіранні і гаданні на свечках у час вянчання адносяць у народзе да Божага прадказання лёсу маладых.

Паводле запісаў М. М. Доўнар-Запольскага, непажадана было, каб па дарозе ў царкву маладыя сустрэлі жанчыну з пустымі вёдрамі, бацюшку або зайца; пры ўваходзе ў Божы храм жаніх і нявеста імкнуліся не наступаць на царкоўны парог, што магло быць прычынай іх сямейных сварак;

дождж у дзень вянчання азначаў, што маладыя будуць жыць багата, і г. д.

Пасля вянчання маладыя ехалі разам на першай павозцы, з імі побач сядзелі хросныя бацькі і старшыя шаферы. Іншыя госці і моладзь ехалі следам за імі, усю дарогу спяваючы песні:

Спасіба папу і паповічу,
Што рана звінчаў
Ды нядоўга дзяржаў.
Нядоўга дзяржаў —
Кольцы паміняў.

А з гары, з гары, з даліны
Беглі конікі чатыры,
Вязлі карэту сінюю,
Звінчалі Манечку сілаю...

(8-94-282-2, л. 35—36)

і многія іншыя. Вясельные песні, звон бубенчыкаў пад кожнай дугой у абозе і на конскай вупражы, залівістая мелодыя гармоніка далёка абвяшчалі навокал, што ў дарозе едзе вясельная дружына маладых.

Да нашага часу ў вясельным абрадзе захаваўся звычай «лавіць зайца». Ён заключаецца ў тым, што як толькі маладыя ўязджаюць у вёску, а ў вялікіх населеных пунктах — на сваю вуліцу, ім перагараджваюць дарогу: ставяць на сярэдзіну вуліцы скамейку або стул, на якім ляжыць хлеб, святая соль і стаіць поўнае вядро з вадою. У іншых мясцовасцях нацягваюць праз усю вуліцу чырвоную стужку або кладуць на два стулы жэрдку. Робяць гэта звычайна людзі чужыя, не свайго роду, якія і чакаюць каля створанай імі перашкоды маладых. На размову з імі выходзіць сват: ён дае «чэсным людзям» пачастунак — бутэльку або дзве гарэлкі, а тыя перадаюць праз яго маладым «хлеб-соль», зычаць ім шчасця і невялікай мяцёлачкай або проста рукою акрапляюць, абыходзячы вакол падводы вясельнай дружыны, вадою.

Звычай гэты паходзіць з вельмі старажытных часоў і мае ў сённяшнім варыянце двухсэнсавае

семантычнае значэнне. Па-першае, ужо сама назва «лавіць зайца» гаворыць пра тое, што трэба некага лавіць, хто ўцякае. У гісторыі вяселля, бясспрэчна, так і было. Мы ўжо адзначалі, што ў больш старажытныя часы дзяўчыну за пэўны выкуп прадавалі ў сям'ю хлопца. Але калі маладыя кахаліся або хлопец умеў выкрасці спадабаўшуюся яму прыгажуню, што найбольш верагодна ў перыяд племяннога суіснавання нашых продкаў, калі дзяўчыну з аднаго племя не заўсёды маглі аддаць замуж у другое, то такога жаніха называлі зайцам. Тады браты дзяўчыны або іншыя яе родзічы садзіліся на коней і імкнуліся вылавіць такога ўцекача-зайца, каб узяць, зразумела, што ўжо сілаю, хоць які выкуп за сястру: адабраць коней, грошы ці іншыя каштоўныя рэчы. Па-другое, у гэтым звычаі захавалася спрадвечнае добразычлівае жаданне нашых продкаўславян сустрэць новую сям'ю хлебам-соллю і з святой вадою, каб ёй добра жылося і «багата было ўсяго», і тым самым выказаць сваю любоў, цярпенне і добрыя пачуцці да маладажонаў.

Пад'язджаючы да нявесцінага двара, госці ў абозе запявалі:

Выйдзі, мамачка, з свічамі,
Мы тваіх дзетачак звінчалі,
За што звінчалі, за грошы,
Што яны абоя харошы.

Госці ў двары, убачыўшы дружыну маладых, таксама, амаль што працягваючы змест пачутай песні, пелі:

Запалі ж, мацi, свечу,
Выйдзі на сустрэчу,
Сустрэнь свайго чада,
Чада дарагога, госця маладога.

(8-94-282-2, л. 37—38)

Маладых сустракалі ў варотах пры ўваходзе ў двор. Папярэдне бацькі выносілі на мяжу варот

стол, засцілалі яго абрусам, клалі на стол на веку круглы бохан хлеба, «свяцоную соль», ставілі бутэльку гарэлкі і дзве чаркі. На Палессі да ўсяго дабаўлялі яшчэ сподачак з мёдам. Ад стала да парога сянец рассцілалі саматканую дарожку — палавік.

Са з'яўленнем вясельнай дружыны насупраць хаты бацька і маці апраналі на сябе вывернутыя поўсцю наверх кажухі, ішлі да стала, запальвалі грамнічную свечку і чакалі маладых. Жаніх і нявеста, падышоўшы да стала з супрацьлеглага боку, кланяліся бацькам, тыя ж у сваю чаргу віншавалі маладажонаў з заключэннем шлюбу і «Божай воляй» на іх сямейнае жыццё. Бацька наліваў у чаркі маладым гарэлку, якую яны, толькі прыгубіўшы, вылівалі праз левае плячо за сябе. Маці брала хлеб і давала ўкусіць з цэлага бохана спачатку «доньцы», а потым зяцю: так па чарзе яна падносіла бохан да кожнага з іх тры разы. У такім жа парадку яна частавала маладых і мёдам.

Паўсюдна на Беларусі забаранялася, каб жанчына, у якой памёр, загінуў муж або калі яна развялася з ім, сустракала маладых з іншым мужчынам. Напрыклад, у Слаўгарадскім раёне Магілёўскай вобласці ў такім выпадку ролю маці выконвае іншая жанчына. Як тлумачаць мясцовыя жыхары: «Еслі мацць замужам і ана дачку замуж аддаець, то нада, штобы ў яе быў толька родны ацец. Еслі жа ў яе не родны ацец, то сама мацць не встречала. Встречала ілі цёця, ілі... карацей, блізкій чалавек, жэншчына, каторая замужам. Вот ана адзявае шубу і встречае маладых з хлебам-соллю» (8-94-282-2, л. 11).

На заканчэнне рытуальнага пачастунку бацька падзвігаў у бок стол і прасіў маладых прайсці ў хату. Жаніх браў нявесту «пад ручку», абводзіў яе паўз край стала і, ужо не спыняючыся, маладыя ішлі па разасланай дарожцы ў суправаджэнні бацькоў у хату, прычым маці з боханам хлеба і соллю праводзіла іх з боку зяця, а бацька з грамнічнай свечкаю — з боку дачкі. Следам ува-

ходзілі ў хату і садзіліся за вясельныя сталы госці — «радзіначка» маладажонаў.

Варта асобна спыніцца на семантыцы некаторых дзеянняў рытуала сустрэчы маладых у бацькоўскім двары пасля вянчання. Сямейнае жыццё для маладой пары практычна толькі пачыналася, таму ўсе дзеянні чалавека былі скіраваны на тое, каб забяспечыць дабрабыт і «шчаслівую долю» маладой сям'і, што, дарэчы, характэрна ў далейшым і іншым рытуалам вяселля. Хлеб і века, якім накрываюць хлебную дзяжу, сімвалізуюць тут «долю» і дастатак, чым і надзяляюць бацькі сваіх дзяцей «на добры пачатак сумеснага жыцця». Кажух, што апраналі бацькі, роўна як і каза, якую вадзілі ў калядныя дні калядоўшчыкі, па народных уяўленнях адпужваў нячыстую сілу ад месца сустрэчы маладых, прысутнасць якой на адкрытай прасторы ў двары была найбольш верагодна. Падобную скіраванасць мае і стараславянскі звычай выліваць чарку праз левае плячо, бо, як лічылі нашы продкі, у кожнага з нас за спіною стаіць дзве істоты: з правага боку — анёл-захавальнік, а з левага — д'ябал, таму і павучаюць: «вылі праз левае плячо» або «сплюнь праз левае плячо», менавіта ў вочы «нячысціку», які, адпаведна павер'ям, пастаянна суправаджае чалавека.

Другое вясельнае застолле было самым працяглым па часе. Госці віншавалі маладых, выпівалі за іх шчаслівае сямейнае жыццё, спявалі песні, у якіх ухвалялі жаніха і нявесту:

Ёсць чым Васечку хваліцца,
Яму ўдалося жаніцца.
Узяў жоначку красотку,
Добранька робіць работку.
Узяў жоначку стройную,
Маець натуру добрую.
А хоць жа мы яе не зналі,
Добрыя людзі сказалі...

іх радзіначку:

Казалі сваты багаты,
На чатыры гумны малоцюць:

А ў первым гумне — цапочкі,
А ў другім гумне — снапочкі,
А ў трэцім гумне — пышаніца,
А ў чадвёртым гумне — пчаляніца.

(8-94-282-2, л. 30)

У некаторых вясельных песнях госці імкнуліся асэнсаваць і падкрэсліць сакральнасць свайго абрадавага застолля:

А вяселлейка
Бог нам даў,
Ажаніўся Васечка —
Маню ўзяў...

Сягоння ў нас вяселлейка —
Бог нам даў,
Пара людзей звянчалася,
Бог нам даў...

Да вілася свадзьба
Хмелем каля двара,
А ветрам каля вакна...

Спявалі таксама песні-дражнілкі маладым і іх роду, у многіх вясельных песенных матывах павучалі маладажонаў сямейнаму жыццю, adносінам паміж мужам і жонкаю і г. д.

Асаблівы настрой гасцям стваралі музыканты, якія падыгрывалі спевакам мелодыі адпаведных песен або выклікалі іх на танец вясёлым россыпам мелодый гармоніка, бубна, скрыпкі, цымбал і некаторых іншых народных музычных інструментаў. «Лявоніха», «Полька», «Нарэчанька», «Венгерка», «Вальс», «Сямёнаўна», «Сербіянка», «Падыспань», «Кракавяк», «Карапет» і многія іншыя народныя танцы да сённяшняга дня захаваліся ў беларусаў як неад'емная частка вясельных і іншых сямейных абрадаў і застолляў.

Да хаты, дзе праходзіла вяселле, збіраліся «паглядзець на маладых» і тыя аднавяскоўцы, якія не прымалі ў ім непасрэднага ўдзелу. Такіх гледачоў на вяселлі называюць «запарожцамі», што азначае: людзі, якія стаяць за парогам. Да за-

парожцаў з графінам гарэлкі, чаркай і малымі, спецыяльна спечанымі для гэтага моманту круглымі булачкамі і другой закускай выходзілі сват і адна з жанчын. Яны частавалі ўсіх прысутных, наліваючы ім па чарцы гарэлкі і даючы «прыкусіць». Гэты звычай звязаны са старажытнымі ўяўленнямі нашага народа аб душах продкаў. Лічылі, што ў любой сямейнай урачыстасці чалавека прымаюць удзел і продкі яго роду, прысутнасць якіх уяўлялася ў выглядзе духаў або душ. Да сённяшняга дня булачкі, якія выносяць «на закусь запарожцам», падаюць гарачымі і, разламаўшы напалам, частуюць гасцей. Вераць, што менавіта пар, які ідзе ад гарачага печыва, і спажываюць душы продкаў, падсілкоўваюцца ім.

Трэцяе і апошняе вясельнае застолле ў хаце дзяўчыны-нявесты пачыналася з дзялення караваю. Спачатку хросныя бацька і маці дзяўчыны «накрывалі каравайны стол»: запальвалі перад абразамі або на стале грамнічную свечку, засцілалі на кутні стол ручнік, ставілі на яго талерку, накрытую хусткай, чатыры чаркі: дзве для маладых і дзве для гасцей, графін з гарэлкай і закуску: хлеб, каўбасу, смажаную бульбу, вэнджаную «палямбіцу» і іншыя прысмакі, найбольш любімыя ў народзе. А потым маці хросная, за ёю жаніх з нявестай і бацька хросны ішлі і станавіліся за «накрыты стол».

Крыху іншы пачатак рытуал дзялення караваю мае на Палессі. Замест маці хроснай тут удзельнічала «свяцельніца», ролю якой выконвала дзяўчына — малодшая сястра нявесты. Яна брала свечкі, з якімі маладыя стаялі пад вянцом у царкве, утырквала іх у бохан хлеба і, запаліўшы, вяла за сабою маладых на кут. На працягу ўсяго рытуалу «свяцельніца» трымала свечкі ў руках.

За стол садзіліся толькі госці маладога, якія назіралі, як надзяляе маладых «радзінчачка» нявесты. Усімі дзеяннямі рытуала кіраваў старшы сват — хросны бацька дзяўчыны:

Ці ёсць у гэтай хаце
Ацец, родна маці?
Дазвольце каравай падаці!

«Бог дазволіць!» — адказвалі бацькі.

Каравай падавалі на стол каравайніцы або, як гэта робіцца ў паўднёвай частцы Беларусі, мужчыны з роду дзяўчыны. Яго ставілі на веку па цэнтру кутняга стала. «На каравай» бацька хросны выклікаў усю радзіну нявесты, але па старшынству роду: родных бацьку і маці, іх братоў і сясцёр, другіх родзічаў, а потым суседзяў, шафераў і іншых удзельнікаў вяселля.

Практычна ўсе размовы, што тычыліся дзялення караваю, вяліся ў форме паэтызаваных, добра вядомых у кожнай мясцовасці формул-зваротаў і пажаданняў маладым:

Ці ёсць у гэтай хаце
Ацец, родна маці?
Чым будзеце дзяцей надзяляці?

або

Ці ёсць у гэтай хаце
Бацька, родна маці?
Просім да караваю стаці,
Сваіх дзетак надзяляці.

(8-94-282-2, л. 47)

Бацькі, паклаўшы на талерку грошы або надзяляючы дзяцей матэрыяльнымі каштоўнасцямі, адказвалі:

Даруем хлебам-соллю!
Няхай Бог надзяляе
Шчасцем і доляй
І векам доўгім!

Хросныя бацька і маці кожнаму, хто надзяляў маладых, адразалі і давалі кавалак каравая і налівалі чарку гарэлкі.

Каравай выкарыстоўваўся ў абрадзе як ахвяравальны пачастунак Багам і Духам — ахоў-

нікам роду. Менавіта таму тады, калі выносілі каравай, запальвалі свечкі, у больш даўнія часы маліліся Богу, а таксама, уяўляючы прысутнасць Багоў і Духаў на застоллі, імкнуліся ўсім родам папрасіць іх надзяліць маладажонаў «шчасцем і доляй і векам доўгім». Непасрэдна са слоў «Дай, Божа!» пачыналася кожнае пажаданне, што зычылі маладым госці і «радзіначка»:

Дай жа, Божа,
Каб Вам было гожа,
Весела жылося,
Шчасліва вялося:
У полі ўродзіста,
У гумне намеліста,
У клеці насыпіста,
У млыне намеліста,
У дзяжы падыходзіста,
На стале ўедзіста!

Дай, Божа,
Каб Вы пілі, елі
І спераду гарбацелі!

Пра тое, што дзеці — радасць і аснова сям'і, нашы дзяды і прадзеды помнілі заўсёды і надавалі нараджэнню дзетак найважнейшае значэнне. У вясельных пажаданнях гэта тэма становіцца актуальнай для большай часткі тэкстаў:

...Дару каробку гліны,
Штоб хутчэй клікалі на радзіны!

...Дару скрынку мукі,
Каб раджаліся сынкі!

...Колькі ў хаце сучкоў,
Каб столькі было сынкоў,
А колькі пчэлачак,
Каб столькі было дзевачак!

У іншых пажаданнях павучалі цярплівасці і павазе адзін да аднаго:

...Дарую ветку з бярозы,
Штоб муж да жонкі
Заўсёды прыходзіў цвярозы!

(8-94-282-2, л. 48)

...Дарую каня і калёсы,
Штоб не ганяў жонку
На двор босу!

(8-94-282-2, л. 51)

...Дарую бочку жыта,
Штоб у Вашай жызні
Усё было скрыта!

(8-94-282-2, л. 54)

...Дарую жменьку суніцы,
Штоб малады не бегаў за кожнай спадніцай!
А маладой семя для гуркоў,
Штоб не глядзела на чужых мужыкоў!

(8-92-266-4, л. 27)

Падобныя павучанні-падказкі нярэдка вынікалі з ведання гасцямі заганаў хлопца і дзяўчыны, іх адмоўных рысаў.

Вясельныя пажаданні як разнавіднасць фальклорнага жанра і сёння маюць вельмі актыўны і прадуктыўны пачатак. Як вядома, у 90-я гады XX стагоддзя ў нашым краі з'явіліся ўласныя грошы, якія ў народзе празвалі «зайчыкамі», бо на кожнай грашовай адзінцы намаляваны звяры, што складаюць беларускую фауну: на пяцідзесяцікапеечнай купюры — вавёрка, на рублёвай — заяц, на пяцірублёвай — ваўкі, на дваццаціпяцірублёвай — лось і г. д. Гэта адразу знайшло адлюстраванне ў сучасных вясельных пажаданнях. Пад час адной з нядаўніх паездак у Мазырскі раён мне асабіста ўдалося назіраць за віншаваннем маладых і занатаваць ад жанчыны даволі сталага ўзросту такі тэкст:

Дай, Божа, каб у Вас
Заўсёды было і на хлеб, і на квас!
А я дару белачку,
Штоб маладая первую радзіла дзевачку,
Дару і зайчыка,
Штоб думалі пра другога мальчыка,
Дару і ваўка,

Штоб жызнь Ваша была давольна і легка,
А яшчэ дару ласіныя рогі,
Каб маладая маладому
Часцей расстаўляла ногі!

(8-94-280-1, л. 18)

І хоць у прыведзеным прыкладзе эратычная канцоўка, можа, і мае адценне вульгарнасці, але ў рытуале такая акалічнасць набывае апраўданасць тым, што ў першую чаргу тут гучыць падказка маладым, што сям'я і ствараецца менавіта для таго, каб нараджаць дзетак, дбаць аб прадаўжэнні свайго роду і сям'і.

Падзяліўшы каравай, старшы сват запрашаў усіх гасцей сесці за сталы, але застолле гэта было кароткім, бо практычна адразу пасля першай агульнай чаркі маладыя ўставалі з-за стала і збіраліся ад'язджаць да маладога. Ды і госці за сталом неаднаразова напаміналі песнямі маладым і бацькам нявесты, што «пара збірацца ў дарогу»:

Мамачка,
Мамачка мая родная,
Не пазні мяне позненька.
Мяне позненька,
Да не пазні мяне позненька,
Выладай мяне раненька.

Мяне раненька,
Выладай мяне раненька:
Дарожачка да вялікая...

(8-93-270-6, л. 20)

Развітанне дзяўчыны з роднай хатай і бацькамі было найбольш драматызаванай сітуацыяй вяселля, якая суправаджалася слёзнымі галашэннямі дачкі і яе маці:

Ай ты, родная мая мамка,
Дай мне долейкі-шчасцейка,
А я ж іду ў чужыя людзі
І ка чужой маманькі.
Будзіць яна мяне можа забіжаць,
Яна будзіць мяне можа абгаварываць,

А мне ж яе нада будзіць уважаць,
Каб жа яна мяне не забіжала.
Да свідання, мая мамка родная,
Да свідання на ўвесь век...

Дачушка мая, каму ж ты мяне кідаеш,
А што ж я цяпер буду без цябе дзелаць,
А хто ж мне будзець работку рабіць,
А хто ж мне будзець вадзіцу насіць,
Ды хатачку-у месці...

Куды ж ты, мая мілая дзетачка, сабралася,
Куды ж ты гэта так нарадзілася,
І хто ж цябе там устрэціць?
Няродная мамачка і няродны татачка,
Устрэцяць цябе чужыя людцы,
Благаслаўляю цябе шчаслівай долечкай...

Вясельныя галашэнні былі абумоўлены лёсам дзяўчыны, якая павінна была назаўсёды пакінуць бацькоў, родную ёй сям'ю, хату. Асаблівы сэнс гэта набывала ў недалёкім мінулым, калі, адпаведна патрыярхальнаму ўкладу жыцця, нявеста не мела права наведваць бацькоў без дазволу мужа на працягу першых трох год пасля замужжа.

«На ад'езд» маці «збірала дачушцы пасцель»: падушкі, коўдру, прасціну, посцілкі, давала ў рукі свечку і абразок. З маладой у сям'ю жаніха ехала таксама адна з замужніх жанчын з яе роду — сястра, цётка або хросная маці.

У двары жаніха маладажонаў сустракалі яго маці і бацька. Яны «абсявалі» маладых жытам і праводзілі ў хату.

Перад першай шлюбнай ноччу маладой здымалі вянок і расплняталі касу. Пра такі рытуал апавядае жыхарка вёскі Оршаль Старадарожскага раёна Кацярына Сямёнаўна Жукавец: «Перад тым як ужо ложаць іх спаць разам, ёй расплятаюць касу. Дзевачкі ці дзеці, як у каго, ...е й брацікі расплятаюць, а ў каго пляменнікі, но толька дзеці. Вот стануць сымаць вянок і яны расплятаюць касу, а жаніх ужэ плоціць ім дзеньгі за ета. І еты вяночак к іконе вешаюць. А свякруха ёй

завяжэ платочак, ...пакуль жа яны яшчэ паходзяць. Эта закон такі» (8-93-270-3, л. 15).

Крыху інакш праходзіла традыцыйнае вяселле ў былой Магілёўскай губерні, на тэрыторыі, якую ў мінулым насялялі радзімічы, патомкі якіх і захавалі да нашага часу храналагічна-падзейны «сцэнарый» старадаўніх вясельных традыцый і рытуалаў. «Раньшэ свадзьбу пачыналі гуляць как-то ў дзвюх хатах, — сведчаць старэйшыя жыхары Чэрыкаўшчыны, — жаніх у сваей хаці гуляіць, а нявеста ў сваей. ...Едуць вянчацца: жаніх сабе едзіць, а нявеста сабе. І жаніх едзіць са сваімі гасцямі ат сябе пад вянец, а нявеста са сваімі. Там ужо іх становюць пад вянец. А адтуль ужо яны едуць у пару і вязуць яе да жаніха» (8-93-273-3, л. 21). Але праз нейкі час нявеста з сваёй дружынай ад'язджала дадому, дзе яе «радзіна» працягвала гуляць вяселле і дзяліла свой каравай. Жыхарка вёскі Ржавец Чэрыкаўскага раёна Зінаіда Паўлаўна Філіпава расказвае, як далей праходзіла вясельнае застолле ў хаце дзяўчыны: «У маладога і маладой разам гулялі ў адзін дзень, а тады ўжо вечарам сабіраецца малады і едзіць за маладою. Да яго ж прыезда мы ўжо па-даруем маладую. Прыязджаець... у хату ж не пускаюць маладога, патрабуюць, каб ён выкупіў (нявесту), паставіў там гарэлкі трохі тым, каторыя ўжо ўстрачаць яго выйдуць. Выходзюць устрачаць з хлебам-соллю. А тады содзюць за стол маладога ўжо з маладою, ужо як адкупіць ён яе. Там яны гуляюць умесце. Ну, пагуляюць трохі, і забіраець малады ўжо маладую і вязець к сабе. Гэта ў васкрэсення на першы дзень ён забіраець яе да сябе» (8-93-273-1, л. 9).

Другі дзень вяселля ў панядзелак праходзіў у доме маладога. Недзе зранку, гадзін у восем, у хату, дзе начавалі маладажоны, збіраліся родныя цёткі жаніха. Маці накрывала ім стол, на якім абавязкова ставілі бутэлькі з салодкай чырвонай наліўкай і белай гарэлкай. Калі маладыя прачнуцца, памыюцца, за стол запрашалі нявестку.

«Якую гарэлку будзем піць?» — пыталі жанчыны ў маці. «А зараз паглядзім», — адказвала тая і прыносіла на паказ начную рубаху або прасціну, на якой спалі маладыя. Калі дзяўчына захавала сваю цнатлівасць, у першую чаргу ёй, а потым іншым жанчынам налівалі чырвонай наліўкі, абвязвалі нявестцы галаву хусткай і прасілі яе выпіць «на здароўе!», «на шчаслівы век!». Пасля выпіўкі жанчыны спявалі:

А ў нашым двары каліначка расцвіла,
Каліначка расцвіла, наш дварочак асвяціла,
Наш дварочак асвяціла, наш радочак ашчасціла.

Нашы продкі ва ўсе вякі надавалі цнатлівасці дзяўчыны вельмі важнае значэнне, звязваючы з гэтым здаровае прадаўжэнне роду, якое ў немалой ступені залежыла ад нявесткі, і шчасце ў сям'і. І такія песні гучалі як гімн дзявочай чысціні і непарушнасці.

Дзяўчыне ж, якая раней часу страціла сваю непарушнасць, налівалі белую гарэлку, а ў песнях даволі абразліва высмейвалі такую нявестку. Адпаведна народных павер'яў, лічылі таксама, што нецнатлівая дзяўчына прыносіць у дом збядненне, разлад і спусташэнне.

На Магілёўшчыне, напрыклад, калі дзяўчына выйшла замуж «чэсная», жаніх зранку запрагаў коней, браў з сабою паджанішніка, у рукі вялікі бутэль чырвонай, настоенай на ягадах гарэлкі і ехаў запрашаць род маладой да сябе на вяселле. Па звестках старэйшых жыхароў вёскі Ржавец Чэрыкаўскага раёна, «...назаўтрыга ўжо ў пынядзелак яго госьці разам з жаніхом ідуць туды к маладой. Малады завець нас ужо ўсіх родственікаў к сабе ў хату. Ён ужэ прыносіць, ежэлі яна заслужыла там, гарелычку красненькую, лентачку завяжыць йшчэ на бутылачку. Ужэ штоб усе бачылі, што маладая харошая. Прыносіць гарелку з краснаю лентаю, і гарелка закрашыная. Усё прыносіць, што паложана, — вот Вам, наця, гля-

дзіця, якая Ваша дочка. А калі дзяўчына была порчана, без гарелкі запрашалі» (8-93-271-1, л. 9).

Зранку амаль паўсюдна над нявесткай госці праводзілі розыгрышы: рассыпалі па хаце гарох або якое-небудзь смецце, і тая павінна была падмятаць хату, пасылалі «маладуху» за вадой, прымушалі напекчы гасцям бліноў і г. д. Зразумела, што маладая не стаяла цэлы ранак каля печы або не займалася ўборкай ці іншай працай, яе заўсёды падмянялі залоўкі — сёстры маладога, яго маці або нават самі госці, але менавіта праз такія розыгрышы імкнуліся падкрэсліць новы сацыяльны стан маладой, якая пасля першай шлюбнай ночы станавілася жанчынай ці маладзіцай, як часцей называюць у нас маладых жанчын, што рэзка мяняла яе штодзённы круг абавязкаў і паводзін.

Радзіна і госці дзяўчыны з другога дня вяселля называюцца «прыданкамі», «прыданачкамі». Недзе к абеду яны прыязджалі ў двор хлопца з прыданым нявесты, якое прывозілі «у сундуку» — размаляваным куфры. «Прыданачкі» не злазілі з павозак, чакалі, каб ім насустрач выйшлі маладыя. У песне яны спявалі:

Выйдзі ж, Манечка, к нам на двор,
Расцялі хвартушок у тры пол.

Расцялі хвартушок у тры пол,
Наехала прыданак повен двор.

Наехала прыданак повен двор,
Да з таго двара, йдзе й расла.

Да з таго двара, йдзе й расла,
Да на тоя падвор'я, куды зайшла.

(8-93-270-6, л. 40)

«Прыданак» запрашалі ў хату сваты і маладыя. Госці жаніха ўносілі следам за імі куфар. Маці дзяўчыны даставала з куфра і вешала на абразы свае «набожнікі», а потым паказвала гас-

цям ручнікі, палатно, посцілкі, абрусы, бялізну, падарункі, якія выткала і вышыла яе «донька», рыхтуючыся да замужжа. Для кожнай маці было вялікім гонарам, калі тое, што яна даставала з куфра, падабалася гасцям і ўсе хвалілі яе дачку як «рукадзельніцу» і спрытную працаўніцу.

Як і ў першы дзень, вяселле ў маладога таксама праходзіла з трыма застоллямі. Але вянчальнае плацце і вянок на другі дзень маладая ўжо не адзявала. Госці віншавалі маладажонаў, танцавалі пад музыку, спявалі, весяліліся. За трэцім застоллем жаніхова радзіна падавала каравай і надзяляла маладых.

Сярод шматлікіх песень, што гучалі на вяселлі ў хаце жаніха, асобную групу складаюць песні з матывамі-прашэннямі да яго бацькоў і роду не крыўдзіць «нявехну»:

Ой, свашачкі, ой, братачкі,
Просім Вас,
Каб не было нашай Манечцы
Ліха ў Вас.

Каб не была паветачка
За хатачку,
Каб не была суседачка
За мамачку.

Паветачка за хатачку —
Халодна,
Суседачка за мамачку —
Недобра.

(8-93-270-1, л. 46)

розныя павучанні і прашэнні да маладога мужа:

...А, Васечка, наша сердзечка,
Ня бі Маню дубцом, дубцом.
Ня бі Маню дубцом, дубцом.
Заві Маню добрым слаўцом.

Заві Маню добрым слаўцом,
Ня бі яе да дубінкаю.



21 Зак. 1339

Ня бі яе да дубінкаю,
Заві яе гаспадынькаю.

(8-93-270-6, л. 27)

а таксама павучанні абодвум маладым — мужу і жонцы:

Пайшла ты, Манечка, ў чужоя сяло,
У чужоя сяло, а ў чужыя людзі.

У чужоя сяло, а ў чужыя людзі,
Хто ж цябе, маладую, шкадаваці будзя?

Хто ж цябе, маладую, шкадаваці будзя?
— Пашкадуя мяне малады Васечка.

Пашкадуя мяне малады Васечка,
Я ж за вядзерца, а ён за другоя.

Я ж за вядзерца, а ён за другоя,
Пойдам па воду мы разам абоя.

(8-93-270-6, л. 42)

Падобныя павучанні, падказкі, прашэнні, што былі выкліканы трывогай за лёс маладой пары, і ў першую чаргу за лёс «донькі», якую бацькі назаўсёды пакідалі ў доме хлопца, узніклі як глыбокае народнае асэнсаванне жыцця і жаданне дапамагчы маладажонам больш упэўнена пачаць станаўленне сваёй сям'і. Асновы такіх павучанняў складаюць няпісаныя законы сямейнай этнапедагогікі, якая перадавалася ад пакалення да пакалення праз розныя жанры вуснапаэтычнай творчасці і захоўваецца да сёння як неад'емная частка ўкладу жыцця чалавека.

Вечарам «прыданкі» развітваліся з маладажонамі, бацькамі і родам жаніха і ад'язджалі з песнямі дадому. Так заканчвалася беларускае вяселле, бадай што адзін з самых прыгожых, вясёлых, урачыстых і ў той жа час найбольш сакральных сямейных абрадаў.

На тое і нядзелі, каб спраўлялі вяселлі.

Жаніцеся, панічы, ды знайце скутку: два дні вяселля, а цэлы век смутку.

У маладажонаў, як у маладажонаў: першы гадок — мядок, другі — халадок, а трэці — сівуха (рэдзька) горкая.

Замуж пайсці — трэба знаць: позна легчы, рана ўстаць.

Горкая рэдзька, ды ядуць, кепска замужам, ды ідуць.

Ажаніся — кепска, не жаніся — яшчэ горш.

Дзеўцы вяселле, а цяляці смерць.

З тварам да вянца, а з розумам да канца.

Красата — да вянца.

Калі дзеўка ідзе к вянцу і не плача, пэўна замужам не паскача.

Дачку аддаваць — плакаць і гадаць.

Багацце нявесты на шчасце не пераробіш.

З добрага цеста — добрая паляніца, з добрае дзеўкі — добрая маладзіца.

Жыццё, пражытае без кахання, не жыццё, а існаванне.

## А СВАТ НА ПАРОГ ЛЕЗЕЦЬ...

*Вясельная, сватам, калі госці жаніха заходзяць у хату да маладой (пачатак вяселля).*

А сват на парог лезець*,
Плячамі паціскаіць:
— А ці густа капуста,
Ці вялік гаршок кашы?

* Кожны радок паўтараецца.

— Ай, густа капуста,
Вялік гаршок кашы
Для святыя пашы.

(8-91-258-А-3, л. 33)

## ХАДЗІЛА МАШЫЧКА ПЫД ЛЯСКОМ...

*Вясельная, сіраце, на першым вясельным застоллі.*

Хадзіла Машычка пыд ляском*,
Гукала татычку галаском:

— Хадзі, мой татычка, у двору,
А німа пырядку нікому.

А німа пырядку нікому,
Ні мне, маладзе, ні радне.

— А йдзі, маё чадзечка, ні бойся,
А ў добрых людзей нытайся.

І як пырядычык і нывадзіць,
Як свякровыццы наравіць.

(8-91-254-4, л. 14)

## А З ГАРЫ, З ГАРЫ, З ДАЛІНЫ...

*Вясельная, калі маладыя ехалі з-пад вянца.*

А з гары, з гары, з даліны*
Беглі конікі чатыры,
Вязлі карету сінію,
Вінчалі Надзечку сілыю,
Вінчалі яе за грошы,
Што яе Віцечка харошы.

* Кожны радок паўтараецца.

Ён харош, прыгож, конь выраны:
Чатыры капыты ў зылаце,
Пятыя грывачка ў сірябре —
Жыць табе, Надзечка, а ў дабре,
Насіць гарелку а ў вядре.

(8-93-273-1, л. 12)

## МАМАЧКА МАЯ РОДНАЯ...

*Вясельная, «...ета, як с-пад вінца прыедуць. Матка й бацька прыглашаюць дзяцей у хату. Цяпер жа палавікі сцелюць, а раней рушнікі рассцілалі, штоб маладыя йшлі, і ўжо госці пяюць ету песню».*

Мамачка,
Мамачка мая родная,
Разрышы мне на ручнічок стаць.

Разрышы мне,
Разрышы мне на ручнічок стаці,
Васечку павітаць.

Васечку,
Васечку павітаці,
Перснейкі падмяняць.

Перснейкі,
Перснейкі падмяняці,
Мужам, жаной назваць.

Мужам, жаной,
Мужам, жаной назваці,
Здароўейка пажалаць.

Здароўейка,
Здароўейка пажалаці,
Ай ат веку да веку.

Ай ат веку,
Ай ат веку да веку,
А Васечку чалавеку.

(8-94-285-2, л. 10—11)

## ДЗЯКУЙ, ДЗЯКУЙ, МАЯ МАМАЧКА...

*Вясельная, першы дзень вяселля, спяваюць за сталамі ў маладой пасля вянчання.*

Дзякуй, дзякуй, мая мамачка,
На твой род,
Чаму мяне не падзяржала
Яшчэ з год.

Чаму мяне не падзяржала
Яшчэ з год.
Ой, хай бы я русую косачку
Часала.

Ой, хай бы я русую косачку
Часала,
Няхай бы я яшчэ і з годзік
Гуляла.

(8-93-270-6, л. 36)

## БЕГЛА Й ТАНЕЧКА ЎСЁ Й ЛЯСКОМ...

*Вясельная, спявалі сіраце перад тым, як пачыналі дарыць маладых.*

Бегла й Танечка ўсё й ляском*
Ды крічала йна гыласком.
Йна сваю мамачку й шукала,
А нышла ж іна каліну,
Пыд каліныю й магілу.

---

* Кожны радок паўтараецца.

— Уставай, мамачка, ні ляжы,
Мне дарожычку ж пыкажы.
— Ну, йдзі ж, дачушка, я пріду,
Сама ў хатычку й ні пайду,
С сабой ангелуў й прівяду.
Сяцце ж, ангелы, на куце,
Дайця пырядак сіраце.

(8-94-282-1, л. 26)

## ОЙ, РАНО, РАНО, ДА ЗА ГАРОЮ НОВЫЙ ДОМ...

*Вясельная, «як унясуць каравай».*

Ой, рано, рано, да за гарою новый дом,
Да, рано, рано, а ў том доме святліца.

Да, рано, рано, а ў том доме святліца,
Да, рано, рано, а ў святліцы скаміца.

Да, рано, рано, а ў святліцы скаміца,
Да, рано, рано, на скаміцы скацерка.

Да, рано, рано, да на скаміцы скацерка,
Да, рано, рано, на скацерцы каравай.

Да, рано, рано, да на скацерцы каравай,
Да, рано, рано, а што ў етым каравại?

Да, рано, рано, да што ў етым каравaі,
Да, рано, рано, да з сямі крыніц вадзіца.

Да, рано, рано, з сямі крыніц вадзіца,
Да, рано, рано, да з сямі нівак пшаніца.

Да, рано, рано, да з сямі нівак пшаніца,
Да, рано, рано, да з сямі 'кровак маслечка.

Да, рано, рано, да з сямі 'кровак маслечка,
Да, рано, рано, да з сямі курак яечка.

Да, рано, рано, да паслушайце, баяры,
Да, рано, рано, каторяму дружку кроіці.

Да, рано, рано, старшы кажа: «Ня ўмею»,
Да, рано, рано, «Я й ножыка ня мею».

Да, рано, рано, «Я й ножыка ня мею»,
Да, рано, рано, «Я й каравай не ўкрою».

Да, рано, рано, другому дружку кроіці,
Да, рано, рано, другі кажа: «Ня ўмею».

Да, рано, рано, другі кажа: «Ня ўмею»,
Да, рано, рано, «Я й ножыка ня мею».

Да, рано, рано, «Я й ножыка ня мею»,
Да, рано, рано, «Я й каравай не ўкрою».

Да, рано, рано, меншаму дружку кроіці,
Да, рано, рано, меншы кажа: «Я ўмею».

Да, рано, рано, меншы кажа: «Я ўмею»,
Да, рано, рано, «Я й каравай укрою».

Да, рано, рано, «Я й каравай украю»,
Да, рано, рано, «Я й радзіну абдзялю».

(8-89-243-2, л. 12—13)

## А ЎЖО Ж НА ДВАРЫ ЗМЯРКАЯ...

*Вясельная, спявалі ў маладой за сталом у канцы першага дня вяселля.*

А ўжо ж на двары змяркая,
Да Іванка ж Волечку таркая.

Да Іванка ж Волечку таркая:
— Едзьма ж, Волечка, да мяне.

Едзьма ж, Волечка, дадому,
Да ні заязжайма ж к нікому.

А ні заязжайма ж к нікому,
Ні к майму роду, ні к твайму.

Ні к майму роду, ні к твайму,
Толька заедзьма к аднаму.

Толька ж заедзьма к аднаму,
К майму ж бацюхну роднаму.

К майму ж бацюхну роднаму,
Там у яго каморка прыбрана.

Там у яго каморка прыбрана,
Там у яго пасцелька заслана.

Там у яго пасцелька заслана,
Прыбрала каморку залавіца.

Прыбрала каморку залавіца,
Заслала пасцельку сястрыца.

(8-93-270-6, л. 14)

## АЙ, ВЯЗУЦЬ МІНЕ БАРАМІ...

*Вясельная, калі жаніх вёз маладую да сябе дадому.*

Ай, вязуць міне барамі*,
А, як цёмны бор, цёмны бор,
Каб ня відзела таткін двор,
Як мая мамачка печ топіць,
Як мой татачка дровы коліць.
— А, браточкі мае, сакалочкі,
А вазьміце ж Вы тапарочкі,
Прарубіце ж Вы цёмны лес.
А, як цёмны лес, цёмны бор,
Каб я відзела таткін двор,

* Кожны радок паўтараецца.

Як мая мамачка печ топіць,
Як мой татачка дровы коліць.

(8-89-244-4, л. 42)

## ЦІ НІ ЖАЛКА ТАБЕ, НАДЗІЧКА...

*Вясельная, на другі дзень вяселля.*

Ці ні жалка табе, Надзічка*,
Абсела ж цябе чужбіна,
А ўсё ж Колечкіна радзіна.
Коліва радзіна мёд-віно п'е,
Надзіна радзіна сьлёзкі лле.
Коліва радзіна ўсё скача,
Надзіна радзіна ўсё плача.

(8-94-282-2, л. 45)

* Кожны радок паўтараецца.




Перазовы — гэта паслявясельны звычай, у час якога сваякі — родзічы маладажонаў запрашаюць (перазываюць) і ходзяць на працягу тыдня адзін да аднаго ў госці з мэтай больш цеснага знаёмства. Прычым перазываюцца пагасцяваць родзічы жаніха да нявесціных і наадварот.

Падобны звычай у многім грунтаваўся на народным поглядзе: «Дык што ж ета за сваяк, калі ён у мяне яшчэ і ў хаце не быў». Найбольш

вядомыя лакальныя назвы перазоваў — пярэзвы, банкеты, пірагі. Напрыклад, у Слаўгарадскім раёне самі вяскоўцы так характарызуюць гэты звычай: «Ета бывало, во, свадзьбу згулялі. Родственнікі просюць: «Ну, а во ўжо заўтрі ка мне». І так во йдуць гуляць к тому, а ў другоя скрысенне ці цераз сколькі там дней — к трэцяму. Ета родственнікі вадзілі банкеты» (8-94-282-1, л. 30).

Генетычныя карані перазоваў паходзяць з часоў узнікнення абшчынна-родавага грамадства, многія традыцыі якога захаваліся да нашага часу, што канкрэтна і адлюстроўвае гэты паслявясельны звычай. Род жаніха і род нявесты, паяднаўшыся паміж сабою, а члены іх, стаўшы сваякамі, у далейшым жыцці імкнуліся разлічваць на падтрымку і дапамогу адзін аднаму ў гаспадарчых справах і розных відах іншай дзейнасці. Менавіта для гэтага і трэба было больш цесна пазнаёміцца з кожнай сям'ёю новых сваякоў, агледзець іх гаспадарку, падворак, каб у патрэбны момант ведаць, на каго і ў чым можна спадзявацца і якую канкрэтную дапамогу чакаць.

Гаспадар хаты рабіў для гасцей застолле, зразумела, як гавораць у такім выпадку, «з чаркай і шкваркай», на якім вялі часцей гутарку на гаспадарчыя тэмы, хвалілі маладажонаў і іх вяселле. Песні на перазовах спявалі тыя ж, што і на вяселлі, але тэматычна яны былі скіраваны на ўслаўленне роду, удалага сваяцтва і маладой сям'і:

Ой, бёг зайка,
Чараз галінку куляўсь.

Ехаў Васячка
Ат свайго цесьця, хваліўсь:

— Ой, Бог мне даў
Такога цесьця, як татка.

Ой, Бог мне даў
Такую цешчу, як мамка.

Ой, Бог мне даў
Такую жану, як м й сам.

(8-94-285-2, л. 13—14)

Госьці мае, пагасьцюйці-ка ў мяне,
Пагасьцюйця, пубяседыйця ў мяне.
Я й длі Вас, госьці, кыбына завалю.
...Я ж сваіх гасьцей, чым-н-будзь й адбуду.
Госьці мае, прылюбовенькія!
Пыгасьцюйця, пубяседыйця ў мяне!

(8-93-278-2, л. 12)

У апошні дзень перазоваў самыя блізкія родзічы маладой і яе бацькі ехалі праведаць маладажонаў. Прыпадаў ён найчасцей на наступную пасля вяселля нядзелю, але ў некаторых мясцовасцях гэта мог быць і іншы дзень. Змястоўнае апісанне такога наведвання і слушнае яго тлумачэнне на падставе матэрыялаў з вёскі Рудск Пінскага павета дае польская даследчыца Гелена Чахоўская: «У сераду да маладой едзе так званы перазоў. Даслоўна яго можна назваць адзываннем — ад слова зваты, зваць, клікаць, таму што бацькі маладой, сваякі і вясельныя госці едуць нібы ў пагоню за маладою перазваты, адклікаць яе назад, выкупіць з няволі, як гэта сустракаем у песнях пярэзвянаў:

Ой, свіснула два салавейкы на морэ...
Адазвалася малада дзівонька ў каморы:
— Да чы есць тута да мой батэнька на двары,
Ды чы выкупіць мяне, маладую, з няволі?
Не за многа, мой батэнька, з няволі:
За сто злотых, за чатыры чырвоны!
— Да не выкуплю, маё дзіцятко, ніколі,
Пакуль табе Гасподзь пазволіць...

Пярэзвяныя спяваюць у дарозе і прыехаўшы ў двор. Едуць праз вёску, пяюць:

Ой, чые ж то перазвяначкі блудзілі,
У чыстому полю да дарожаньку згубілі?
Ой, выбегло да маленькае паколя,
Сюда, й сюда перазвяначкі да сяла;
Ой, сюдою нам дарожанька казёна,
Ой, сюдою наша дзівонька вязёна.

Перазоў прывозіць з сабою для маладой кавалак каравая, які яна дзеліць і дае ўсім дамашнім,

акрамя таго, яшчэ настольнікі, г. зн. абрусы і ручнікі. Адна з жанчын і мужчына засцілаюць на стол два настольнікі і ўпоперак іх адзін ручнік; астатнія ручнікі (шэсць) развешваюць па сцяне, на абразы і на крукі. Пачынаецца частаванне — перазоў гуляе і ад'язджае».

У Барысаўскім павеце Мінскай губерні, па звестках Я. Тышкевіча, П. Шэйна, О. Кольберга і іншых фалькларыстаў, на апошні дзень перазоваў малады запрашаў хроснага бацьку, дзядзькоў, цётак і іншых «найбольш сталых асоб». «Яны прыносяць з сабой лубянкі, напоўненыя пірагамі, мочаным макам з мёдам; аладкі ў смятане, смажаніну. Матка ўсё гэта дзеліць паміж сваімі. П'юць гарэлку і спяваюць:

У нас сягодня перазоў —
Сам Бог перайшоў,
З святой Тройцаю, з Прачыстай,
З усімі святымі, з шчасцем і доляй.

Госці гуляюць даволі доўга...»*.

Пры наведванні маладажонаў род нявесты, як і на вяселлі, у многіх песнях павучаў маладых сямейным адносінам, і ў першую чаргу маладуху паразуменню з свекрывёю:

Ой, у леся, ў леся мядзьведзь рыкая:
— Будзе табе, Манечка, свякруха ліхая.

— Я ж тому мядзведзю сілязён паткіну,
Я сваю свякруху пярынаю накрыю.

Яна будзя варчаці, а я буду маўчаці,
Яна будзя гаварыці, а я буду наравіці.

Яна будзя гаварыці, а я буду наравіці,
Яна будзе мяне клесьці, а я буду хату месьці.

(8-93-270-6, л. 24)

прасілі сватоў не крыўдзіць маладую «нявехну»:

* Беларуская народная творчасць. Вяселле: абрад / Уклад. К. А. Цвірка. Мінск, 1978. С. 91.

Вы, сватовя, Вы, братовя, просім Вас,
Каб не было нашай Манечцы ліха ў Вас.

Хоць Вы яе палоць, малоць застаўця,
Но Вы яе часта ў госьцейкі пускайця.

Но Вы яе часта ў госьцейкі пускайця,
Яна ў нас палоць, малоць ня будзя.

(8-93-270-6, л. 22)

Як працяг вышэйзгаданых імкненняў перазоўшчыкаў нібыта адазваць або забраць з сабою дзяўчыну дадому, у многіх песнях, што спявалі госці ад'язджаючы, «намаляваны» розныя сімвалічныя перашкоды, якія быццам бы зрабіў яе «хлопчычак»:

Дадому перазване, дадому,
Да з Вамі Манечка не паедзець,
Хлопчычак вулачку перагарадзіў —
Пракапаў канавы глыбока,
Паклаў жэрдачкі й высока,
Да дзевачцы дадому далёка

ды і самі госці добра ўсведамлялі, што іх «дзеванька» стала часцінкай роду сваякоў, стваральніцай уласнай сям'і. Многія вясельныя песні прысвечаны менавіта такому заключэнню:

Мамачка мая, я ўжо ж не твая,
Я ж таго стала, с кем ночку спала,
Я ж таго баюся, с кем спаць лажуся.

(8-94-282-2, л. 15)

Перазовы — заключная частка вясельнай абраднасці, у працэсе якой стваралася новая сям'я, новая ячэйка роду. Сямейным адносінам маладажонаў, іх шчасліваму і заможнаму жыццю ў далейшым была скіравана ўся ўвага іх родзічаў. Гэта адчуваецца ў паводзінна-звычаёвых нормах сваякоў, у дачыненні да маладой сям'і, з першых паслявясельных дзён, што яскрава і праглядваецца праз прызму перазоўнага звычая.

Калі сваяк дарагі, кліч на пірагі.

Вяселлю казала і качарга гуляць ад нядзелі да чацвярга.

Вяселле скончылася, а пахмелле пачалося.

Няма вяселля без пахмелля.

## ДОБРЫ ДЗЕНЬ ТАБЕ, СВАЦЕЙКА...

*Вясельная, на перазовах.*

Добры дзень табе, свацейка*,
Ці вясёлая твая хатынька?
Ці здарова Ваша сямейка?
Ці вяліка вырасла Манечка?
— Вясёла наша хатынька,
Здарова наша сямейка,
Вяліка вырасла Манечка.

(8-92-265-3, л. 68)

## ДЗЕ Ж НАША ДА ПАВІННАЯ...

*Вясельная, спяваюць на другі дзень вяселля «прыданкі» і на перазовах.*

Дзе ж наша да павінная,
Чаму з намі не вітаецца?

Не вітаецца,
Чаму з намі не вітаецца,
Пра здароўя не пытаецца?

(8-93-270-6, л. 41)

* Кожны радок паўтараецца.

## ЕЛКА НА ЕЛКУ ПАХІЛІЛАСЯ...

*Вясельная, «...як збяруцца маці маладога і маладой разам, дык ета ім пяюць».*

Елка на елку пахілілася,
Сваха к свасе скланілася.

Сваха к свасе скланілася:
— Штоб з майго да дзіцяці не глумілася.

— А ў мяне да чатыры бочкі,
Я жэ іх на гарэлцы прап'ю.

Я ж іх да на гарэлцы прап'ю,
Да твайму дзіцяці, да што хош зраблю...

(8-93-270-2, л. 59)

## КАЛЯ ЖОЎТАГА БРОДА...

*Вясельная, на перазовах.*

Каля жоўтага брода
Піў конь сівы вод... .

Воду,
Піў конь сівы воду,
А Манеччына мам... .

Мамка,
Да Манеччына мамка
Таго каня да пракліна... .

Праклінала,
Таго каня праклінала,
А бадай табе, конік.

Конік,
А бадай табе, конік,
Ўтроя сіл да паменьшал... .
Да паменьшала,
Ўтроя сіл да паменьшала,
Звёз маю да работніц... .

Да работніцу,
Звёз маю да работніцу,
Хаты, сеняў да прыборніц... .

Да прыборніцу,
Хаты, сеняў да прыборніцу,
Сям'і маёй да прыветніц... .

Да прыветніцу,
Сям'і маёй да прыветніцу,
Каля жоўтага брод... .

Брода,
Каля жоўтага брода,
Піў конь сівы вод... .

Воду,
Піў конь сівы воду,
А Васькава мамк... .

Мамка,
Да Васькава мамка,
Таго каня да павыша... .

Да павышая,
Таго каня да павышая,
А бадай табе, конік.

Конік,
А бадай табе, конік,
Ўтроя сіл да пабольшал... .

Да пабольшала,
Ўтроя сіл да пабольшала,
Прыв'ёз мне да работніц... .

Мне работніцу,
Да прыв'ёз мне работніцу,
Хаты, сеняў да прыборніц... .

Да прыборніцу,
Хаты, сеняў да прыборніцу,
Ў сям'ю маю да прыветніцу.

(8-93-270-6, л. 19)

## ВЫХВАЛЯЛАСЯ МАНЕЧКА...

*Вясельная, на другі дзень вяселля і на перазовах.*

Выхвалялася Манечка*,
Што ў яе бацюшкі двор вялік:
Пасярод двара — пшаніца,
А ў вароцечках — крыніца,
Пад акошачкам — вінаград.
Як зачуў тое Васечка:
— Не выхваляйся, Манечка,
Я тваю пшаніцу вытраўлю,
Я тваю крыніцу выпалю,
Я твой вінаград заламлю,
Я цябе, Манечка, забяру.
Ой, хітра-мудра Манечка
Ставіла чарачку на мядок,
А сыма пашла па ваду.
Ой, хітрэй яе Васечка,
Не ўзяў чарачку на мяду,
А ўзяў Манечку маладу:
— Мне з тае чарачкі мёд не піць,
А мне з Манечкай увесь век жыць.

(8-92-265-3, л. 103).

## ДАДОМУ, ГОСЬЦЕЙКІ, ДАДОМУ...

*Вясельная, на заканчэнне вяселля ці перазоваў.*

Дадому, госьцейкі, дадому*,
Паелі конікі салому.
Саломы жменька — капейка,
А сена кулачок — пітачок,
Ацірі лубачка — рублічка.

(8-94-282-2, л. 57)

---

* Кожны радок паўтараецца.




Абрад провадаў навабранца ў войска храналагічна мае больш позняе паходжанне ў параўнанні з іншымі сямейнымі абрадамі. На Беларусі ён узнік прыкладна на рубяжы XVIII—XIX стагоддзяў, пасля таго як землі беларусаў далучылі да Расіі, дзе на гэты момант была ўведзена і дзейнічала «рекрутская повинность». Як вядома, першы рэкруцкі набор на Беларусі праводзіўся ў 1794 годзе. У той час на службу ў войска забіралі на 25 год, прычым узрост навабранцаў не абмяжоўваўся, і ў

рэкруты маглі запісаць як семнаццацігадовага юнака, так і больш сталага сямейнага чалавека.

Часцей падобны выбар залежыў ад мясцовых улад, бо забіралі тады на службу ў войска не ўсіх, а толькі частку мужчынскага насельніцтва. Напрыклад, у 1831 годзе з тысячы душ прызывалі 5—7 чалавек, а ў 1836—1874 гадах з такой жа колькасці жыхароў набор складаў 4—6 чалавек. Такія ўмовы прызыву ў царскае войска давалі магчымасць мясцовым уладам пазбаўляцца ад рознага роду «непрыемных людзей», накшталт бунтароў, завадатараў, непакорных і г. д. Гэта ж спрыяла таму, што больш заможныя сем'і маглі адкупіцца ад вайсковай службы ці знайсці падставы для вызвалення ад яе, а рэкруцкае жэ́рабя ўсё часцей выпадала на долю бедных людзей, на дзяцей-сірот і дзяцей удоў. Падобная няроўнасць у выбары будучых рэкрутаў адлюстравана ў шматлікіх беларускіх песнях гэтага перыяду:

...Ідзе соцкі, ідзе войт,
Ідуць яны раду браць,
Каго ў рэкруты аддаць:
— А дзе пяць — там не браць,
Дзе чатыры — не вяляць,
А дзе тры — у двор не йдзі,
А дзе два — там няма,
А ў удоўкі адзін сын,
Ён падходзіць пад аршын...

І толькі ў 1874 годзе з увядзеннем усеагульнай вайсковай павіннасці падобная няроўнасць больш-менш была ліквідавана, а з устанаўленнем двума гадамі пазней пяцігадовага тэрміну службы «цару і Айчыне» ў народзе да службы ў войску пачалі ставіцца не толькі прыхільна, але і як да абавязковага этапу на жыццёвым шляху кожнага юнака.

Зразумела, што ўсякая сям'я, выпраўляючы сына, брата ці нават бацьку і мужа на доўгі і небяспечны тэрмін у рэкрутчыну, імкнулася ўсімі сродкамі паўплываць на яго лёс і пасадзейнічаць, каб ён жывым і здаровым вярнуўся да роднага парогу, на зямлю сваіх продкаў. З гэтай мэтай уз-

нікла неабходнасць правядзення пэўных рытуальных дзеянняў, якія дапаўняліся шматлікімі вераваннямі і забаронамі, нярэдка запазычанымі з іншых сямейных рытуалаў.

З другога ж боку, чыста жыццёвыя нормы паводзін чалавека ў сваім родавым калектыве патрабавалі правядзення з такога выпадку пэўнага застолля, на якое запрашаліся сваякі, нарачоная прызыўніка і сябры. Хутчэй за ўсё гэтыя перадумовы і паспрыялі ўзнікненню ў народным асяродку абрада провадаў у войска.

Абрад гэты нескладаны і амаль аднолькава вядомы сярод беларусаў. Звычайна пасля таго, як навабранец атрымліваў павестку на прызыўны пункт, ён ехаў з родзічамі ў царкву. Будучы воін закупліваў некалькі свечак і абавязкова ставіў іх перад вобразам святога, які найбольш ушаноўваўся ў яго сям'і і лічыўся яе заступнікам. Пасля гэтага за здароўе прызыўніка служылі абедню, маліліся Богу.

У больш буйных населеных пунктах, калі з адной вёскі ці горада прызывалі на службу некалькі чалавек, святар адводзіў ім асобны дзень, у які ўсе прысутныя ў храме маліліся за іх здароўе і вяртанне ў родныя хаты, служылі ім агульную абедню. Святы айцец чытаў павучальныя пропаведзі і настаўленні, у якіх заклікаў не забываць і любіць свой край, бацькоў, землякоў, даражыць чэсцю свайго рода і радзімы.

Пасля паездкі ў царкву ў наступныя два-тры дні прызыўнік лічыў неабходным наведаць перад ад'ездам у вялікую дарогу сваіх аднавяскоўцаў, блізкіх і сяброў. У час такіх абходаў людзі давалі хлопцу добрыя парады, зыходзячы з уласнага жыццёвага вопыту. Старыя салдаты расказвалі яму пра армейскую службу, вучылі, як трэба паводзіць сябе ў тых ці іншых абставінах. Старэнькія бабулькі навучалі яго малітвам і замовам ад ліхой кулі, ад смерці, на загаўленне раны і гэтак далей.

Непасрэдна за дзень да адпраўлення прызыўніка на зборны пункт бацькі рабілі яму вечар провадаў, які ўяўляў сабой рытуальнае застолле.

Напрыклад, на Магілёўшчыне навабранца садзілі пад абразамі. Побач з ім сядалі бацька і маці хросныя, бабка-пупарэзніца, дзядзькі, цёткі і іншыя сваякі. З другога боку садзілася моладзь. Як толькі ўсе селі за стол, родная маці ці старэйшая жанчына ў хаце запальвала свечку альбо лампаду пад абразамі і ставіла на стол соль і круглы бохан хлеба. У хлеб устаўлялі свечку і таксама запальвалі яе. Прызыўніка абвязвалі ручніком, вешалі яму на шыю невялічкі крыжык і абразок. Потым усе ўставалі і маліліся Богу, просячы, «каб яго Бог назад вярнуў на сваю зямлю». Пасля такога малення выпівалі па чарцы гарэлкі за здароўе навабранца. Затым маці хросная засцілала перад ім на стале саматканы ільняны ручнік, ставіла на яго талерку, якую пакрывала невялічкай хусцінкай, і запрашала прысутных выказаць на дарогу будучаму воіну свае пажаданні. Сваякі і госці падыходзілі да прызыўніка, адорвалі яго грашыма ці рэчамі, неабходнымі ў будучай дарозе, зычылі яму здароўя, поспехаў у вайсковых справах. Нярэдка ў гэты вечар мясцовыя шаптухі заклікалі магічныя істоты і Божую сілу ў дапамогу на захаванне будучага салдата. Яны замаўлялі яму на ваду, на хлеб, якія на застоллі непрыкметна давалі выпіць ці з'есці навабранцу.

Калі ў хлопца была каханая дзяўчына, яна абавязкова дарыла яму на вечары провадаў хусачку, якую сама ткала і вышывала. На такую хустачку многія дзяўчаты шапталі вядомыя ім замовы-прысушкі, верачы, што хлопец за час службы не забудзе сваю каханку.

Заканчваўся вечар провадаў звычайна вячоркамі, на якіх спявалі, танцавалі, весяліліся. У нашым народзе да гэтага часу актыўна бытуе цыкл песень, якія, як і раней, спяваюць на провадах у войска: «Ой, у лузе пры даліне...», «Праходзіць лета залатое...», «У нядзелю рана...», «Апошні ноняшні дзянёчак...», «Было ў сям'і ўсяго тры брата...» і іншыя. Для прыкладу праілюструем некалькі куплетаў з песні «Белая бяроза ў полі стаяла...»:

Белая бяроза
Ў полі стаяла,
А маці сыночка
На службу 'тпраўляла.

На службу 'тпраўляла,
Наказ яму давала:
— Служы, сыну, верна
Сваёй ты радзіме.

Служы, сынок, верна
Свайму ты народу,
Каб быў за цябе гонар
Ўсяму твайму роду...

Многія абрадавыя песні провадаў у войска ўяўляюць сабой перапрацоўку некаторых даўнейшых песенных тэкстаў, часам запазычаных з рускага і польскага фальклору. Змяненне ўмоў службы і ролі арміі ў жыцці народа вызначыла таксама ўтварэнне сугучных канкрэтнаму гістарычнаму перыяду песенных варыянтаў. Яны вызначаюцца характэрнай тэматыкай, паэтыкай і мелодыкай, у большасці набліжаных да песеннага фальклору, які бытуе ў салдацкім асяродку.

У дні провадаў маці і сёстры нававбранца ў прадчуванні хуткай разлукі аплаквалі яго, не хаваючы сваёй журбы і неспакою за будучы лёс сына ці брата.

У дзень ад'езду на зборны пункт, ці ў наш час — у ваенкамат, бацькі благаслаўлялі сваё дзіця «на шчаслівую дарогу і добрую службу». На стол клалі каравай — круглы бохан хлеба, запальвалі каля яго свечку, пастаўленую ў стакан з зернем ці соллю. Маці здымала з кута абразок і давала тройчы пацалаваць яго сыну, пры гэтым бацькі жадалі добра адслужыць і здаровым вярнуцца дадому.

Многія беларускія рытуалы і магічныя дзеянні, праводзімыя перад адыходам з бацькоўскай хаты, накіраваны на захаванне роднага дзіцяці. Яны не вызначаюцца пэўнай аднароднасцю, а маюць вузкалакальнае, характэрнае часцей для кожнага асобна населенага пункта выкананне тых ці

іншых дзеянняў. Гэта апраўдваецца храналагічна познім узнікненнем абраднасці провадаў у войска, калі ў кожнай вёсцы «начынялі» гэту абраднасць вядомымі мясцовым знахарам дзеяннямі, якія, на іх думку, маглі садзейнічаць вяртанню будучага салдата на родную зямлю і ахоўваць яго ад розных няшчасцяў. Прычым многія з іх маюць даволі цікавае і старажытнае паходжанне.

У вёсцы Аляксандраўка Старадарожскага раёна Мінскай вобласці як толькі хлопец сабраўся выходзіць з хаты, яму давалі тройчы ўкусіць хлеба з бохана, які ляжаў на стале, «на лёгкую долю». Затым, дайшоўшы да парога, ён павnapочваўся тварам у хату і, перакрыжаваўшыся, кланяўся сваім родным. У гэты час сястра, а калі не было, то нехта іншы з сям'і зрывалі з яго кашулі гузік. Пераступіўшы парог, навабранец апранаў шапку, але тая ж жанчына павінна была, не выходзячы з хаты, дацягнуцца да яго рукою, сарваць з галавы шапку і кінуць яе ў кут. Адначасова старая жанчына, звычайна бабуля, пераварочвала вілкі, ёмку і качаргу, што стаялі каля печы, знізу ўверх. За парогам сянец пасыпалі зямлю жоўтым пяском. «Як сыходзіць з парога на двор, дак з яго следа бралі» — саграбалі ў кучку пясок, дзе застаўся адбітак следа. Потым гэты адбітак следа, гузік і кавалачак хлеба з бохана, ад якога адкусваў хлопец, завязвалі ў хустачку і лажылі за абразамі, дзе ўсё гэта ляжала да заканчэння яго службы (8-93-270-1, л. 39).

Відаць, няма неабходнасці тлумачыць падобныя дзеянні, бо і так бачна, што яны па свайму зместу накіраваны, гаворачы словамі аляксандраўскіх сялян, на тое, «каб салдат вярнуўся дадому».

У суседняй з Аляксандраўкай вёсцы Старыя Дарогі навабранец не выходзіў з хаты як звычайна, а «вылазіў праз кутняе акно». Такі незвычайны спосаб адыходу з хаты тлумачыцца ўяўленнямі нашых продкаў аб існаванні злых і добрых Духаў. Многія рытуалы ахоўнай магіі былі накіраваны на падман уяўных «нячысцікаў». І каб

такая злая істота не сустрэла хлопца за парогам хаты, ён наўмысна выходзіў на вуліцу падобным спосабам.

Бацькі і іншыя члены сям'і праводзілі прызыўніка за ваколіцу ці да месца збору навабранцаў, дзе, развітваючыся, абдымаліся і цалаваліся з ім. Маці ўслед ад'язджаючаму сыну рабіла знак крыжа над ім.

У нашы дні абрад провадаў у войска значна змяніўся, дапоўніўся новымі абрадавымі дзеяннямі, сугучнымі свайму часу, але яго ідэйная мэтанакіраванасць і значэнне асобных рытуалаў не страцілі і сёння сваёй значнасці і актуальнасці ў народным жыцці.

Гуляй хлапец, будзе і на цябе лавец.

Лепей дома касою касіць, чым у войску ранец насіць.

У каго грошай кашэль, на таго не апрануць шынель.

Рэкрутава жана — не дзяўчына, не ўдава.

Ваяка ваюе, а жонка дома гаруе.

Бацька ў салдатах, а ў дзяцей кашуля ў латах.

Салдацкі сон усюды салодкі.

Не смейся, брат: будзеш сам салдат.

Хлеб ды вада — салдацкая яда.

Бацька ў салдатах, а жонка на людзях — чакай, чаго будзе.

## ЕДУ, ЕДУ Я ДАРОГАЙ...

*Салдацкая, на провадах.*

Еду, еду я дарогай,
Глаза запыляюцца*.

* Кожны куплет паўтараецца. Пры паўторы ў пачатку куплета дабаўляецца вокліч «Алі!».

Глаза запыляюцца,
Не магу зірнуць назад.

Азірнуўся я й назад,
Стаіць дзевачак атрад.

Стойця, дзеўкі, я не к Вам,
У салдаты я аддан.

У салдаты я аддан,
Ай, на дваццаць пяць гадкоў.

Ў дваццаць пятам я гаду
Пріязджаю ка двару.

Пріязджаю ка двару,
Стаіць крутая гара.

Стаіць крутая гара,
Айцец, мамінька ўмірла.

Айцец, мамінька ўмірла,
Жана замуж пайшла.

Жана замуж пайшла,
Я й астаўся сірата.

(8-92-266-2, л. 26)

## ОЙ, У ЛУЗЕ ПРЫ ДАЛІНЕ...

*Салдацкая, на провадах.*

Ой, у лузе пры даліне
Расцвіла каліна*.

Спарадзіла і ўдавіца
Салдацкага сына.

* Кожны куплет паўтараецца. Пры паўторы ў пачатку куплета дабаўляецца вокліч «Гэй!».

Гадавала, гаравала
Над сыночкам маці.

А прыйшлося й вупраўляці
Сына і ў салдаты.

Заігралі музыканты,
Б'юць у барабаны,

Пры коніку сын ўдавіцын
Ўжэ й стаіць убраны.

Ён на коніка садзіўся,
Нізенька схіліўся:

— Выбачайце, суседзейкі,
Можа з кім сварыўся.

Палівайце дарожаньку,
Штоб і не курыла,

Разважайце маю мамку,
Штоб і не тужыла.

Пытаецца маці ў сына:
— Калі прыйдзеш у госці?

— Калі вырасце травіца
Ў сенях на памосце.

(8-89-243-2, л. 5)

**ВЕЦЕР ВЕЕ, ЖАРКА СОНЦА ГРЭЕ...**

*Салдацкая, на провадах.*

Вецер вее, жарка сонца грэе,
Йшчэ й жытушка едранее.

Харош, прыгож мальчык нарадзіўся,
Ды работаць ня ўмее.

Толькі ўмеець беленькі малойчык
Ён у дудачку йграці.

Ён іграець, ён іграець,
К сабе дзевак прызываець.

— Берягіся, белая бярёза,
Заўтра мароз будзець.

А ці знаеш, беленькій малойчык,
А што заўтря набор будзець?

— Я й набору таго ні баюся,
Ў салдацікі сыбярюся.

Прыляцелі трі-чатырі братцы,
Ўзялі молыйца звізалі.

Пасадзілі молыйца ў вазочык,
Свае сабелькі ў задочык.

Самі селі, песенкі запелі,
Добры моладзец заплакаў.

(8-94-279-1, л. 15)




Хата была і ёсць для чалавека тым месцам, дзе ён праводзіць усё сваё жыццё, калыскай, у якой нараджаецца і расце не адно пакаленне сям'і. І таму з даўніх часоў, выконваючы запаветы сваіх дзядоў і прадзедаў, а таксама зыходзячы з уласных назіранняў за жыццём, чалавек надаваў будаўніцтву новай хаты вельмі важнае значэнне. Пад увагу бралася ўсё — і месца, дзе будзе стаяць хата, і як і калі яе пачынаць будаваць, і нават хто яе будзе будаваць. Новая хата павінна была стаць

засцерагальніцай чалавека, ахоўваць яго жыццё і спакой як у прамым сэнсе, так і зыходзячы з тых павер'яў і ўяўленняў, што спрадвечна перадаваліся ад дзядоў і прадзедаў.

Перш трэба было нарыхтаваць лес для будаўніцтва хаты. І калі пачыналі секчы першае дрэва, напрыклад, па звестках жыхароў Старадарожчыны, глядзелі, як упадзе кара на зямлю: «Трэба, каб белым бокам кара ўпала кверху, а верхняй шархаватай часткай уніз» (8-93-270-2, л. 11). У іншым выпадку такое дрэва не ссякалі, а шукалі другое. Не секлі таксама на будаўніцтва хаты сухіх дрэў (бо можа вымерці ўся сям'я), з дуплом унутры (гэта прадвяшчала беднасць у хаце) і дрэў, якія гарэлі ад маланкі («каб Пярун не спаліў падвор'е»).

Па каляндарным часе будаўніцтва пачыналі толькі пасля Благавешчання. У Лельчыцкім раёне Гомельскай вобласці гэты звычай тлумачаць так: «Прыйшло ўжо Благавешчанне, Бог землю адмукнуў, тогда ўжэ почыналі дома робіць» (8-94-280-2, л. 30).

Са старажытных часоў месца для новай хаты выбіралі наступным чынам: за некалькі дзён да будаўніцтва кідалі на зямлю дубовую кару з лесу, нарыхтаванага на хату, і прыкладна на чацвёрты дзень падымалі яе і глядзелі, што пакажацца пад карой. Калі там знаходзілі чарвякоў ці чорных мурашак, лічылі, што такое месца найбольш спрыяльнае для будаўніцтва, а калі пад карой заводзіліся павукі ці звычайныя мураўі, хату ў такім месцы не будавалі.

З гэтай жа мэтай гадалі яшчэ на хлебе. Кідалі з-за пазухі тры невялічкія круглыя боханы хлеба і глядзелі, як яны ўпадуць на зямлю: калі хлеб ляжа верхам да неба — будаўніцтва пачыналі, а калі да зямлі — вызначалі новае месца.

Не ставілі хату таксама там, дзе раней праходзіла дарога альбо стаяла лазня, верылі, што ў такім месцы водзіцца нячыстая сіла.

Не меншае значэнне надавалася і будаўніцтву калодзежа: шукалі месца, дзе блізка да паверхні

зямлі падыходзіць падземны ваданосны слой, пра што ў народзе гавораць «знайсці ключа». Для гэтага звечара напіхвалі гаршчок воўнай і, перавярнуўшы ніц, клалі на зямлю. Як раніцай на воўне знаходзілі кропелькі вады, у такім месцы капалі яму для будучай студні.

З часоў сівой даўніны людзі верылі, што ў кожнай хаце жыве дамавы — Дух далёкага продка, родапачынальніка, які спрыяе і дапамагае ў справах сям'і і роду. Таму, пачынаючы будаўніцтва, дамавому прыносілі ахвяру: адсякалі пеўню ці курыцы галаву і закопвалі яе пад вугал будучай хаты. Падобную ахвяру рабілі і Хлеўніку — Духу-ахоўніку дамашняй жывёлы, закопваючы пад вугал хлява косці жывёл ці пучок валасоў з кароўяга або конскага хваста.

Будаўнікі пачыналі звязваць першы вянец зруба з таго месца, дзе ў хаце павінен быць кут — пачэсны і святы вугал, на якім вісяць абразы.

У Мінскім павеце пры закладцы першага вянца ў зарубку паміж бярвеннямі клалі духмяныя зёлкі, якія збіралі і асвячалі ў царкве напярэдадні Івана Купалы. Больш шырока вядомы ў беларусаў, як і ў іншых славянскіх народаў, звычай класці ў зарубкі вуглоў першага альбо трэцяга вянца медныя і сярэбраныя манеты, воўну, зерне, кавалачкі хлеба, карацей кажучы, усё, з чым можна было асацыіраваць багацце ў будучай хаце.

Як толькі першы вянец зруба быў укладзены на фундамент ці шліндары, шулы, як яшчэ называюць у нас дубовыя апоры пад хату, што закопвалі ў зямлю, гаспадыня ўносіла стол, ставіла яго ўсярэдзіне будуемай хаты і пачынала частаваць цесляроў. Пры гэтым старшы майстар, узяўшы чарку з гарэлкай у рукі, замаўляў:

Дай жа нам, Божа,
Пачатае дзела зрабіці
І рук не пабіці!
І ад гэтага гаспадара
Грошай зарабіці,
А яму доўга жыці!
Каб у яго радзілі

**Валы, коні і каровы**
**І мужчынскія галовы!..**

Звычай частавання тых, хто будаваў хату, шырока вядомы ў нашым краі. Сярод беларусаў нават бытавала павер'е, што калі майстар-будаўнік, загневаўшыся з чаго-небудзь на гаспадароў і выказаўшы пры гэтым пэўнае праклянцце, пры ўкладцы бярвенняў трэцяга вянца, апошні раз стукнуўшы сякерай, скажа: «Гак! Хай будзе так!», то такое праклянцце абавязкова збудзецца.

Верылі таксама і ў тое, што ў час будаўніцтва хаты, падобна цеслярам, і мясцовыя ведзьмакі маглі заклясці каго-небудзь з членаў сям'і ў ахвяру злым Духам, што азначала б у хуткім часе смерць у доме. Таму ў нашых продкаў быў звычай па заканчэнні будаўніцтва не спяшацца з перасяленнем, ва ўсякім разе на працягу першых шасці дзён, і на гэты час пасялялі ў новай хаце дамашніх жывёл і птушак. На першыя суткі ўпускалі туды пеўня з курыцай, на другія — гуся ці ката, на трэція — парася, затым авечку, карову, каня і толькі на сёмыя суткі, калі з жывёламі і птушкай нічога не здарылася, перабіраліся ў хату жыць самі. Рэлікты гэтага звычая вядомы і сёння, амаль што ўсюды перш чым увайсці ў новы будынак, папярэдзе ўпускаюць у хату пеўня або ката.

Перасяляліся ў пабудаваную хату звычайна перад поўняй. Па некаторых звестках, у старажытнасці гэта рабілася ў поўнач альбо залазілі першы раз у хату праз акно, адкуль і паходзіць назва — улазіны. Зразумела, што такія дзеянні, як і ўпусканне першапачаткова на пражыванне ў будынак жывёл, рабілася з мэтай падмануць нячыстую сілу, адвесці яе ад месца пражывання чалавека.

У дзень перасялення ў хату запрашалі святара, які асвячаў яе і чытаў малебен на ўсяленне. Уваходзілі ў новую хату з радавым абразом, звычайна з тым, што падарылі бацькі маладой на вяселлі, ці, калі ўся сям'я пераязджала ў новую хату, забіралі абразы са старога месца жыхарства. Такі

абраз уносіла жанчына. Яна першай уваходзіла ў хату і вешала яго на куце.

Важнае месца ў рытуалах перасялення надавалася такім сямейным атрыбутам, як дзяжа, у якой мясілі хлеб, печ, агонь. Напрыклад, вось як праходзіў рытуал перасялення агню. Гаспадар нагортваў у гаршчок з печы ў старой хаце гарачых вугалляў. Ён жа нёс гэты гаршчок з распаленымі вугаллямі ў новую хату. За ім ішлі з хлебам-соллю і святою вадою астатнія члены сям'і. Увайшоўшы ў хату следам за гаспадыняй, гаспадар абносіў агонь вакол сцен, кланяючыся з агнём кожнаму вуглу і просячы быць міласцівым да кожнага вугла і не спаліць хату, а потым ставіў гаршчок на прыпечку і гарачымі вугаллямі падпальваў дровы ў новай печы. Нават калі здаралася такое, што адлегласць паміж старой і новай хатай была вялікая і агонь нельга было перанесці, то тады бралі з сабой хатнія рэчы, якія мелі дачыненне да агню: качаргу, вілкі, чапялу і інш.

Як толькі ў печы разгараўся агонь, гаспадыня набірала са студні ў сваім двары вады і ставіла ў вялікім гаршчку ці чыгуне для награвання ў печ. Гэтай вадой яна павінна была да таго, як хто-небудзь чужы зойдзе ў хату, памыць падлогу, прычым мылі абавязкова ад кута да парога. Да таго часу, пакуль хата была не асвечана, як мы ўжо адзначалі, уяўлялася магчымая прысутнасць у новай пабудове нячыстай сілы. Таму цяпер патрэбна было змыць яе «след» ці, як тлумачаць у народзе, каб і следа ад яе не засталося. Крыху іншае тлумачэнне такому звычаю надаюць на Рагачоўшчыне: «Ета каб была хазяйкай у сваёй хаце». Па аналогіі з папярэднім прыкладам, відаць, лічылі, што ў адваротным выпадку гаспадарыць у хаце будзе «нячыстая сіла».

Калі ж старая хата ўжо была не прыгодна для жылля і яе пакідалі назаўсёды, то запрашалі характэрнымі рытуальнымі дзеяннямі і зваротамі перайсці ў новую хату дамавога.

На наступны дзень зранку чакалі, хто першым зойдзе ў новую хату да гаспадароў. Пажадана бы-

ло, каб гэта быў добры чалавек і шчаслівага лёсу. Часам, не дачакаўшыся першага наведвальніка, гаспадар сам запрашаў да сябе каго-небудзь з суседзяў і смачна частаваў яго.

Звычайна на першым тыдні, а ў сённяшні час і значна пазней да гаспадароў прыходзілі госці, каб павіншаваць іх з наваселлем, пажадаць ім плёну і дабрабыту ў новай хаце. Для гэтага нярэдка, пераступаючы парог, у хату жменяй кідаюць манеты, што добра вядома на сучасных падобных урачыстасцях. У больш даўні час госці неслі з сабой хлеб, соль, жыта, сала, каўбасы, бліны для ахвяравання Духам новай хаты, а таксама, каб гаспадары жылі заможна і ў дастатку, пра што гавораць — «на разжыванне» ці «каб было з чаго разжывацца».

Застолле ж з нагоды наваселля праходзіла, як усякая вечарынка, з песнямі, танцамі, жартамі і добрымі зычэннямі ў адрас навасёлаў.

Свой дварочак, як вяночак.

Свая хатка, як родная матка.

Свая стрэха — свая ўцеха.

У сваёй хаце і качарга маці.

У сваёй хаце і вуглы дапамагаюць.

На сваім падвор'і і сабака пан.

На сваёй лаве ніхто не скажа: «Адсунься!»

Свая салома мякчэй чужой пярыны.

Бяда не мець свайго вугла.

Дурная тая птушка, якая свайго гнязда не мае.

Уперад збудуй клетку, а тады шукай птушкі.

Не дай, Божа, часта жаніцца і часта сяліцца.

Не дай, доля, два разы жаніцца і два разы будавацца.

А жаніцца — жонку выбірай, а будавацца — суседа.

Хата гаспадыняю красна.

Калі ў хаце парадак і лад — гэта найлепшы клад.




Пахаванне, або хаўтуры, — абрад, рытуалы і іншыя кампаненты якога праводзяцца з моманту смерці чалавека і да пахавання яго на могілках.

Традыцыйнае пахаванне нябожчыкаў працягваецца звычайна тры дні. Хрысціянская канцэпцыя наконт гэтага такая, што, падобна таму, як цела Ісуса Хрыста знікла з поля зроку чалавека на трэці дзень пасля яго распяцця на крыжы і смерці, так і цела памёршага чалавека павінна быць пахавана ў зямлі на трэці дзень.

Яшчэ ў глыбокай старажытнасці нашы продкі, зыходзячы з візуальнага ўспрыняцця і кантакта ў паўсядзённым жыцці з супрацьлеглымі паняццямі «святло — цемра», «белае — чорнае», «цёплае — халоднае», «дабро — зло», назіралі і сваё існаванне ў сусвеце ў рознапалярных суадносінах «жывы — мёртвы». Адпаведна кожнаму з гэтых відаў чалавечага прабывання старажытныя людзі стварылі ўмоўную мадэль сусвету, якая палярызавалася на «белы свет», у якім жывы чалавек праводзіць рэальнае зямное жыццё, і «той свет», у якім уяўлялася яго вечнае і замагільнае існаванне. Менавіта існаванне, а не бясследнае і канчатковае знікненне пасля смерці. Мадэлі «белага» і «таго свету» вызначаліся ў свядомасці людзей як дзве паралельныя прасторы, прычым другая сваімі прасторава-часавымі характарыстыкамі амаль поўнасцю дублiравала першую. Пахавальны абрад уяўляе сабой не што іншае, як сакральную мяжу паміж гэтымі двума прасторамі, праз якую жывыя праводзяць памёршага ў замагільны свет продкаў. Дарэчы, «пахавальны абрад» — гэта больш навуковы тэрмін, бо ў народзе ён мае іншую назву — «провады памёршага на тэй свет» або «хаўтуры», пад якімі падразумяваюцца падобныя провады.

Па ўяўленнях жывых, чалавек пасля смерці пераўвасабляўся ў Духа-продка, які, падобна Багам, існаваў дыстанцыявана ад іх і мог спрыяць або помсціць сваім патомкам, шкодзячы ў іх паўсядзённых справах і клопатах. Менавіта таму да нябожчыка ставіліся з найвышэйшай павагай і пашанай, што выразна праявілася ў рытуалах пахавання і ў наступныя памінальныя дні. Памёршага баяліся, яму дагаджалі, яго ўшаноўвалі, у яго верылі і, як Духу, яму ахвяравалі, да яго звярталіся з рознымі просьбамі і маленнямі аб дапамозе.

Зыходзячы з падобных уяўленняў, смерць успрымалася нашымі продкамі, як самая звычайная з'ява. І таму, калі ў сям'і бачылі, што стары ці хворы чалавек паміраае, блізкія яму людзі — жон-

ка, дзеці, унукі і іншыя родзічы імкнуліся аказаць садзеянне ў больш лёгкай смерці з дапамогай вядомых традыцыйных рытуалаў ці, як гэта тлумачыцца ў народным асэнсаванні, «дапамагчы душы лягчэй адысці ад цела». У многіх сем'ях на гэты час запрашалі ў хату святара, які спавядаў, прычашчаў паміраючага і чытаў над ім «атхадную малітву».

Хворага пры цяжкай канчыне пераносілі з ложка на падлогу і клалі на салому ці сена, бо лічылі, што падушка, напоўненая пухам, затрымлівае смерць. У Віцебскай і Магілёўскай губернях такога чалавека клалі на кажух, які ляжаў на падлозе. Звычай пераносіць паміраючага на зямлю, падлогу, кажух, салому ці сена існаваў у многіх славянскіх народаў і свята захоўваўся нашымі продкамі. Вядомы беларускі этнограф і фальклярыст П. М. Шпілеўскі адзначаў, што сяляне надавалі яму асабліва ўрачыстае значэнне. «Так уміраў мой бацька і мне так казаў», — тлумачылі ў народзе гэты звычай.

У час працяглай перадсмяротнай агоніі хвораму давалі напіцца халоднай крынічнай ці калодзежнай вады, пераапраналі ў чыстую бялізну і пераносілі з ложка на лаўку, дзе клалі галавой да абразоў, ля якіх запальвалі свечку, акурвалі паміраючага асвечанай у царкве травой ці вярбою, а пры цяжкай канчыне дзіцяці яго нават купалі ў адвары зёлак, якія былі вядомы толькі мясцовым знахарам і бабулькам-шаптухам.

У падобных дзеяннях, што папярэднічалі моманту смерці, знайшлі адлюстраванне вераванні ў ачышчальную сілу агню, вады і зямлі. Тое ж значэнне мае і перанос хворага на кажух, салому ці акурванне рознымі травамі, дзе відавочна праяўленне засцерагальнай функцыі старажытнай магіі ад злых духаў і розных дэманічных істот, якія нібыта перашкаджалі больш лёгка і хутка паміраць хвораму.

У самыя апошнія хвіліны жыцця чалавека ў хаце наступала поўная цішыня. Верылі, што калі

чалавеку перабіць момант смерці, то ён будзе паміраць у цяжкіх пакутах цэлыя суткі. Нішто не павінна было перашкодзіць душы адысці ад цела, і, калі бачылі, што паміраючы доўга не можа сканаць, да яго не падыходзілі блізка, «каб не палохаць душу». У гэты ж час запальвалі васковую свечку, звычайна прынесеную з царквы на Грамніцы ці Чысты чацвер, і давалі яе ў левую руку паміраючаму. У народзе тлумачаць, што правая рука павінна быць вольная, каб можна было хрысціцца, «як пакойнік будзя іцці на тэй свет». Аднačасова запальвалі лампады ці свечку перад абразамі. Калі паміраючы ўтрымліваў у руках свечку да наступлення смерці і яна працягвала гарэць далей, падобнае лічылася для яго добрай прыкметай. У некаторых мясцовасцях Віцебшчыны, Віленшчыны і Гродзеншчыны, калі свечка патухала, глядзелі, як разыходзіцца ад яе дым: пойдзе за дзверы — хворы вось-вось памрэ, а як разойдзецца па хаце, то верылі, што ён пражыве яшчэ цэлыя суткі.

У час смерці гаспадара расчынялі ўсе дзверы ў хаце і ў хляве. Усякія работы на гэты момант прыпыняліся. А калі тапілася печ ці тлелі ў ёй гарачыя вуголлі, то іх залівалі вадой.

Адразу пасля смерці чалавека ўсе хрысціліся і маліліся за нябожчыка, жадаючы яму «вечнага спакою, царства нябеснага і рая светлага». Абавязкова глядзелі, каб у памёршага былі самкнуты вусны і закрыты вочы, у іншым выпадку іх прыкрывалі меднымі грашыма ці халоднымі вуголлямі, якія потым кідалі ў труну. Тлумачылі гэта тым, што нябожчык можа выглядзець і ў хуткім часе забраць да сябе яшчэ каго-небудзь з членаў сям'і ці сваякоў.

Паўсюдна на Беларусі з наступленнем смерці ў хаце спыняюць гадзіннікі, закрываюць люстэркі, на акно ставяць стакан з вадой і побач вешаюць ручнік. На Віцебшчыне яшчэ клалі на акно на талерцы хлеб і соль. Верылі, што душа, разлучыўшыся з целам, павінна памыцца і паесці.

Калі ў час смерці ў хаце дзе-небудзь стаяла вада, яе абавязкова вылівалі, бо баяліся, што ў такую ваду магла акунуцца душа і той, хто яе нап'ецца ці выкарыстае для прыгатавання ежы, у хуткім часе памрэ.

Адзін са сваякоў ішоў у царкву і прасіў пазваніць у царкоўныя званы па душы нябожчыка.

Плакаць у час смерці чалавека ці галасіць па ім катэгарычна забаранялася. І толькі пасля яго смерці сваякі давалі волю сваім пачуццям. Першыя галашэнні па нябожчыку ўяўляюць лагічна непаслядоўныя і незакончаныя тэксты. Хутчэй гэта надрыўны ўсплеск чалавечага гора, жалю і смутку, калі плакальшчыца, акрамя звароту да нябожчыка і двух-трох выказванняў да яго, заліваючыся плачам і горкімі слязамі, не магла больш прамовіць ні слова. Прыкладам такога галашэння можа быць тэкст, запісаны ў Расонскім раёне Віцебскай вобласці:

А, мамулічка мая, шэрая зязюлечка!
А куды ж ты ад міне ўлітаіш?
А што ж ты міне адні кідаіш?
Божачкі ж мае! Ай-я-я-я-яй!..

(8-89-244-2, л. 16)

Жывы чалавек не мог імгненна ўспрыняць смерць свайго суродзіча. Ва ўладзе эмацыянальнастрэсавага зрыву ад уражання яшчэ не да канца зразумелай страты і гора для сваякоў нябожчыка пачыналіся сумныя і жалобныя дні провадаў свайго сем'яніна на «той свет».

Пасля смерці чалавека пакідалі прыкладна на дзве гадзіны на тым месцы, дзе ён памёр, а потым пачыналі мыць і пераапранаць у пасмяротнае адзенне. Звычаі, звязаныя з абмываннем нябожчыка, маюць шматлікія лакальныя асаблівасці.

Па звестках М. П. Шпілеўскага, у паўночнаўсходняй частцы Беларусі ў хату да памёршага запрашалі «мертвячых», якія адразу пасля смерці распальвалі ў печы агонь і ставілі туды вялікі

гаршчок з вадою. Ваду не проста наґравалі, а варылі ў ёй розныя травы: руту, барвенак, бяліцу, расходнік, папаратнік, казелец, жабіну лапку, з якіх атрымлівалі моцны адвар. На Палессі і ў Магілёўскай губерні наґравалі ваду і абмывалі нябожчыка, як правіла, жанчыны сталага ўзросту або далёкія сваякі ці суседзі. У Гродзенскай вобласці гэтым займаецца павівальная бабка з дапамогай іншых жанчын. У Горацкім павеце Магілёўскай губерні адна з жанчын, якая пражывала ў сям'і памёршага, ці суседка распальвала печ саломай, а потым падкідвалі ў агонь тонкія сасновыя паленцы і грэлі на такім агні ваду.

Калі вада наґравалася, «ста́навілася цёпленькай», пачыналі абмываць «нябогу». Рабілі гэта звычайна два-тры чалавекі — блізкія сябры памёршага. Яны распраналі яго і садзілі на лаўку, пад якой стаялі «вялікія ночвы», а потым абмывалі ўсё цела вадой. У іншых рэгіёнах, напрыклад, у Ігуменскім павеце Мінскай губерні, памёршага мылі ў карыце, зробленым з дрэва, у сем'ях стараабрадцаў, якія пражывалі сярод беларусаў, «пакойніка» садзяць на падлозе на салому з абавязковым напрамкам яго твару на ўсход. Дарэчы, і ў сучасных пахавальных абрадах Магілёўшчыны нябожчыка ў час абмывання садзяць «ліцом тока да абразоў» (8-96-290-1, л. 7). У час абмывання памёршага чалавека забаранялася, каб у пакоі, акрамя тых, хто яго мылі, прысутнічаў яшчэ хтонебудзь. Перш за ўсё гэта табу тычылася цяжарных жанчын і моладзі: ім катэгарычна не дазвалялася не толькі глядзець, «як мыюць мерцвяка», але нават і заходзіць у гэты момант у яго дом.

Ваду пасля абмывання памёршага выносілі з хаты і вылівалі там, дзе менш за ўсё хадзілі людзі і жывёла, напрыклад пад вугал нейкай нежылой агапабудовы, у якім-небудзь нізкім месцы за агародам і г. д. Такой вадзе часцей надавалі якасці нежывой вады. Згодна з народнымі ўяўленнямі, калі гэту ваду выліць на агародзе, то на тым месцы нічога не будзе радзіць. «...Ее нільзя ліць на

жывоя», — тлумачаць палешукі, а ў многіх мясцовасцях увогуле лічаць, што калі паходзіш ці пастаіш там, дзе вылілі «ваду з мерцвяка», то ў хуткім часе і сам памрэш (8-89-244-3, л. 8).

Адзенне, якое было ў смяротны час на нябожчыку, салому або коўдру, прасціну, на якой ён паміраў, спальвалі на перакрыжаванні дарог за вёскай.

Памыўшы, нябожчыка прычэсваюць і пачынаюць адзяваць. Амаль усюды старыя людзі яшчэ пры жыцці рыхтавалі для сябе адзенне на смерць, якое павінна было быць чыстым і новым, і пажадана, каб чалавек хоць адзін раз пабываў у ім у царкве або касцёле. Калі ж смерць была нечаканай і памёршы чалавек не падрыхтаваў пасмяротнае адзенне, яго сваякі ішлі да любой швачкі і прасілі яе пашыць «адзенне на пахаванне». Пры такой просьбе работа выконвалася неадкладна, адмова, як верылі, магла б выклікаць гнеў нябожчыка, што было зусім непажадана. Прычым тканіну на адзенне памёршаму не рэзалі нажніцамі, а разрывалі палатно рукамі і сшывалі яго ў адну нітку, накіроўваючы іголку ад сябе (8-89-243-1, л. 9—10).

Пасмяротнае адзенне мала чым адрознівалася ад таго, якое чалавек апранаў пры жыцці ў святочныя дні. Маладых жа нябожчыкаў — хлопца або дзяўчыну апраналі так, як пад вянец.

Ложа, на якім памёршы ляжыць да пераносу яго ў труну, робяць на лаве пад абразамі, але для мужчын на лаўцы, якая стаяла ў правы бок ад абразоў, а для жанчын — у левы бок. Лаўку засцілаюць сенам або саломай ці кладуць на яе сяннік, на якім чалавек паміраў, і падушку, набітую сенам, а зверху ўсё гэта пакрываецца прасцінай або посцілкай. Пасмяротнае ложа заставалася ляжаць засланым на куце да дзевятага дня пасля смерці нябожчыка, а потым выносілі з хаты і спальвалі. Памёршага хрысціяніна кладуць на лаве галавою да абразоў. Зверху яго да грудзей пакрываюць белым палатном, наміткаю ці белымі

тканінамі тыпу марлі, гардзін і г. д. Рукі складваюць крыжападобна на грудзях і перавязваюць у кісцях белай марлевай павязкай. У левую руку памёршаму даюць васковы крыжык і невялікі абразок ці хусцінку, а ў правую — свечку або ўвогуле нічога, «бо правуй рукой хрысціцца яму трэба ўжо на тум свеці» (8-93-270-4, л. 32). На галаву накладваюць «венчык», які купляюць у царкве ці касцёле, а на лоб і грудзі — спецыяльныя папяровыя «сцелькі» з намаляваным лікам Ісуса Хрыста і надпісам «Вечная памяць». У такім выглядзе, па народных уяўленнях, памёршы павінен быў з'явіцца ў замагільны свет продкаў.

Варта зазначыць, што з пачатку абмывання і пераапранання памёршага і да пераносу яго на пасмяротнае ложа галасіць па нябожчыку катэгарычна забаранялася. У Мазырскім раёне гэта табу тлумачаць так: «...Не плачуць, каб можна было яго адзець, прыбраць, а еслі галосяць, дык цела прама дубовае становіцца, няможна яго ўвярнуць» (8-89-243-1, л. 32). Таму, як толькі нябожчыка «прыбяруць» і пакладуць на кут, родныя давалі волю сваім пачуццям, выказваючы іх у слёзных галашэннях:

Мамулічка мая родная, жаласніца мая!
Верная сустраканніца мая прыхільная,
Праваднiца мая шчырая!
Хто ж мяне так сустрэнець,
Хто ж мяне так правядзець,
Як мая мамулічка, як ты, мая родная?
Хто ж у мяне аб здароўі папытаець,
Хто ж пра маю худобаньку праведаець,
Хто ж пра майго няўдаліцу так распросіць,
Як ты, мая мамулічка, як ты, мая родная?..

А дубочак ты мой зялёненькі,
А бярозка мая кудравая,
А ці ветры ж цябе падвеялі,
А ці буры цябе падламілі?
А супружачык мой міленькі,
А куды ж ты гэта прыбраўся,
А нашто ж ты мяне пакінуў?
А к каму ж я цяпер прыхінуся:
Няма ж у мяне нікога роднага!..

У першы ж дзень пахавання прасілі мясцовых майстроў зрабіць труну і крыж. На іх выраб кожны гаспадар «на ўсякі выпадак» трымаў у запасе сасновыя ці яловыя дошкі і брускі, якія захоўвалі на гарышчы, дрывотні ці іншым зручным месцы. Труну і крыж рабілі на двары памёршага. Але калі ў яго гаспадарцы была сівая карова або чорны певень, то падобны заказ выконвалі ў каго-небудзь з суседзяў. У такім выпадку зробленую труну хуценька неслі ў хату да памёршага, а крыж ставілі каля брамы на вуліцы або на двары з боку кутняга акна. Для маленькіх дзетак «дамовачку», як называюць у нас у абрадзе труну, рабілі без цвікоў, бо ў адваротным выпадку баяліся, што ў сям'і больш не будзе дзяцей. Святар, які маліўся над нябожчыкам, акрапляў труну святою вадою, пасля чаго яе ўсцілалі знізу рэшткай стружак, што заставаліся пасля габлявання дошак, галінкамі бярозавых венікаў, сенам і засцілалі паверх адрэзам белага палатна. Века — крышку труны і яе бакавіны аббівалі таксама льняным палатном або, як гэта робяць у наш час, белай атласнай ці шаўковай матэрыяй, а зверху чырвоным або сінім сітцам. Зробленую і асвечаную труну нельга было ні на хвіліну пакідаць пустою, баяліся, што ў ёй можа пасяліцца «нячыстая сіла», якая будзе дакучаць целу нябожчыка ў яго замагільным жыцці. Таму, заслаўшы і ўбраўшы «дамовачку памёршага», у яе адразу пераносілі яго цела.

Паўсюдна ў беларусаў, як і ў іншых славянскіх народаў, у труну «мерцвяку» клалі некаторыя прадметы дамашняга ўжытку адпаведна яго заняткам пры жыцці, а таксама ежу — бліны, кашу, гарэлку, курыва і г. д. Па ўяўленнях нашых продкаў, такія прадметы патрэбны былі памёршаму ў яго замагільным жыцці для гаспадарчай дзейнасці, а гарэлка, ежа і курыва — для пачастунку родных і знаёмых, калі ён прыйдзе на «тэй свет». З падобнай мэтай жанчыне, памёршай у час родаў, у труну кладуць пялёнкі, кашульку і

хусцінку для спавівання і дагляду дзіцятка, а нябожчыку-дзіцятку — цацкі, цукеркі.

Труна-«хатачка» ўпадабляецца ў народным асэнсаванні жыллю, якое, па ўяўленнях жывых, было такой жа неабходнасцю на «тым свеце», як і ў рэальным жыцці, што выразна перадаецца ў галашэннях:

А мамулька,
А зязюлька,
А ты ж адзавіся,
А ты ж адгукніся,
А мае ж ножачкі,
А мае ж слядочкі,
А пазарастаюць,
А пазаплываюць.
А мая мамка
Паставіла хатачку,
Аддзялілася, адлучылася...

Пайшоў мой татачка ў сваю хатачку ў новенькую.
А хто ж цябе там разбудзе?
Хто ж табе анучачкі пасушыць?
Да хто ж табе іх падасць?
Хто ж табе пасцельку пасцеле?

Да ўсяго варта дадаць, што ў беларускім пахавальным абрадзе словы «труна» або рускамоўнае «гроб» амаль не ўжываюцца. Яны замяняюцца цэлым шэрагам назоўнікаў-сінонімаў: «хата», «хатка», «хатанька», «даміначка», «дамочак», «свяцёлачка», «сялібачка» і іншымі, што надае пэўную таямнічасць жыллю нябожчыка і падкрэслівае яго сакральнае значэнне ў абрадзе.

Крыж, які стаяў каля брамы або ля кутняга вугла хаты, а да яго часам прыносілі з царквы і ставілі побач дзве-тры харугвы з лікам святых, быў умоўным знакам для прахожых аб тым, што ў гэтай хаце здарылася непапраўнае гора і вялікая жалоба. Таму ўсякі, хто праходзіў міма, спыняўся насупраць такога падворка і, зняўшы шапку, хрысціўся і зычыў: «Пухам яму зямля!» або «Спасі, Божа, душу яго!».

Над нябожчыкам перыядычна мясцовы дзяк або набожныя бабулькі чыталі «Псалтыр» і ма-

ліліся Богу. Родныя і знаёмыя, усе, хто наведваў памёршага, зайшоўшы першы раз у хату, падыходзілі да труны і з вялікім шкадаваннем моўчкі або з галашэннямі развітваліся з ім. М. Я. Нікіфароўскі яшчэ ў мінулым стагоддзі ў адным з сваіх артыкулаў адзначаў, што гэта «не прытворны смутак», які жанчыны «выражаюць» у слёзных галашэннях, а мужчыны — у доўгай гутарцы з нябожчыкам, размаўляючы з ім у думках быццам з жывым*. У нашым краі і да сёння бытуе пераканание, што калі жанчына, прыйшоўшы наведаць нябожчыка, не прагалосіць па ім хоць бы адно галашэнне, то гэта непавага да памёршага і яго сям'і, а «разгневаны дух памёршага» можа пакараць яе хваробай або доўгі час страшыць.

Бліжэй да вечара родзічы запрашалі «нанач к пакойніку» старэйшых жанчын і мужчын, якія па чарзе па два-тры чалавекі сядзяць каля труны. Памёршага ніколі не пакідаюць ноччу аднаго. З наступленнем цемры ў хаце запальвалі святло і свечкі, якія гарэлі да самай раніцы. Начным «пасядзелкам» з нябожчыкам у народзе надаецца самае рознае значэнне. На Гомельшчыне, напрыклад, тлумачаць, што калі пакінуць нанач нябожчыка аднаго ў пакоі, «нячыстая сіла» можа зрабіць што-небудзь з яго целам і «...будзе страх у хаце, здавацца нешта будзе: столь, сцены трашчаць, нехта будзе хадзіць па хаце» (8-91-254-86, л. 6). У цэнтральных раёнах Беларусі гэтаму звычаю надаюць крыху іншы сэнс: «Трэба сцерагці, таму што Ісуса сцераглі.., ангел на грабу сядзяшчы. Так і ля пакойніка трэба сядзець» (8-93-270-5, л. 37).

Ноччу каля памёршага маліліся Богу, успаміналі і расказвалі выпадкі з жыцця «пакойніка», пра яго продкаў, пра смерць, аб Страшным судзе, які чакае кожнага, хто памірае, на «тым свеце». Тэматыка падобных размоў грунтуецца на аснове біблейскай сюжэтыкі і хрысціянскіх уяўленняў аб

---

* *Шейн П. В.* Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-Западного края. СПб., 1890. Т. 1, ч. 2. С. 520.

стварэнні свету і месцы чалавека ў ім. У начны час у хаце нічога не робяць. Забараняецца таксама плакаць і галасіць. «Еслі ў нас умёр чалавек, — расказвае Марыя Ермалаеўна Марозава з вёскі Ржавец Чэрыкаўскага раёна, — і ўжо сонца зайшло, ні ў коім случаі ды заўтріга да ўтра галасіць ніхто не будзіць. У такоя ўрэмя і ні плачуць і ні харонюць» (8-93-273-1, л. 47).

Раніцай наступнага дня праводзіўся рытуал гукання нябожчыка. На світанку ўсе, хто праводзіў каля яго ноч, спачатку мыліся самі, а потым мылі твар нябожчыку і выцiралі ручніком. Пры гэтым да яго, па звестках Е. Р. Раманава, звярталіся, як да жывога: «Нада цібе (імя) памыць! Нешта ты сяньні зыспаўся: ня думаіш ні 'б чом! І прыгожа прыбраўся!». Пасля падобнай размовы запальвалі свечку перад абразамі і маліліся Богу, а затым бліжэйшыя памёршаму людзі — жонка, дачка ці сястра гукалі яго адпаведнымі таму галашэннямі:

Годзе, годзе табе спаці-і,
Пара табе дыхаці-і
Да пара ўставаці-і!
Да пара па двару пахадзіці-і,
Да работу рабіці-і!
А чаго ж ты ляжыш?..

(8-93-270-4, л. 55)

Пасля плакальшчыца выходзіла на двор, вуліцу і «звала радзіначку, каб скарэй збіралася»:

Да ляці ж, мой галасочак,
Да цераз рэчку,
Да цераз лясочак!
Да ты ж, дачушка, дагадайся,
Да скарэй сабірайся!

(8-93-270-4, л. 55)

Прыкладна такімі ж галашэннямі заклікалі і іншых родзічаў, што раней жылі разам з нябожчыкам: сына, які ажаніўся і пераехаў у сваю хату, дачок, што павыходзілі замуж, і г. д. Закон-

чыўшы спецыфічныя галашэнні-клічы, плакальшчыца вярталася ў хату і разам з гаспадыняй частавала людзей, якія начавалі каля труны, чаркай гарэлкі і хлебам-соллю.

Дзень пахавання называецца ў народзе провадамі. У гэты дзень дамаўляліся зранку з суседзямі і хто-небудзь з іх — чалавекі тры-чатыры ішлі капаць магілу. Адразу пасля поўдня пачыналі адпяваць памёршага, для чаго ў хату запрашалі мясцовага бацюшку або ксяндза, а калі дазвалялі магчымасці сям'і, то і хор пеўчых. Святар апранаў рызу, запальваў з абодвух бакоў у галавах труны васковыя свечкі, абкурваў памёршага ладанам і пачынаў адпяванне. Усе прысутныя пры гэтым трымаюць у руках запаленыя свечкі, якія знізу абгортваюць у невялікую хусцінку або лоскуток палатна. Па заканчэнні рытуалу адпявання асцярожна тушылі свечкі, баючыся ўпусціць ці зламаць іх, падобнае нібыта прадказвала, што ў хуткім часе ў сям'і, дзе жыў нябожчык, можа быць яшчэ адна смерць.

Пасля адпявання труну з целам памёршага адразу ж выносяць з хаты. Робяць гэта звычайна чужыя людзі. Уяўляючы, што з гэтага моманту нябожчык быццам «уходзіць», «ад'язджае» з роднага дому ў свет продкаў, выносілі яго «нагамі ўперад». Плакальшчыцы даволі актыўна і эмацыянальна галосяць услед «ад'язджаючаму госцечку»:

Мой жа ты Іванічка!
Госьцічак мой родненькі!
...А ўся радзіначка твая прыехала,
Куды ж ты ат міне ўїзджаіш?
Куды ж ты-тка паедзіш, Іванічка мой?
Галубчык мой даражэнькі!
Галубчык мой родненькі!
А хай бы ты быў у хатачцы,
Нашто ж-то яны ўжо праводзяць?
Галубчык ты мой любенькі,
Нашто ж ты сваю хатачку кідаіш?

(8-91-254-1, л. 8)

У мінулым стагоддзі ў Віцебскім павеце, як толькі падымалі труну для вынасу, на тое месца клалі хлеб і соль, а ў Мазырскім павеце ў гэты час выконваўся такі рытуал: адна з жанчын становілася каля дзвярэй з боку печы, а другая — за дзвярыма ў сянях, трымаючы ў руках бохан хлеба і соль, і, калі труну праносілі праз дзверы, жанчына, якая стаяла ў сянях, перадавала той, што была ў хаце, хлеб і соль. Мясцовыя жыхары тлумачаць гэтыя дзеянні так: нябожчык з хаты, а хлеб-соль у хату.

У час вынасу памёршага яго абсявалі зернем. Выкарыстанне зерня і хлеба ў пахавальных абрадах, што выразна заўважна пры вынасе труны, калі памёршы чалавек у апошні раз «пераступаў» парог сваёй хаты, мае сваё асэнсаванне. У разуменні славяніна-земляроба хлеб — гэта жыццё. Не выпадкова, што і вядомая ў многіх славянскіх мовах лексема «жыта» па свайму паходжанню вельмі блізкая да слова «жыць». Відавочна, што нашы продкі, праводзячы члена свайго роду на «тэй свет» з хлебам-соллю, верылі і спадзяваліся на яго спрыянне і дапамогу ў дамашняй гаспадарцы і добры ўраджай на жытнёвай ніве і агародзе, увогуле імкнуліся забяспечыць такім чынам спор у жыцці.

Адначасова нябожчыку аддавалі што-небудзь у ахвяру. Напрыклад, у Мазырскім раёне старэйшы сын ці другі роўны яму па старшынству член сям'і ішоў у сад і высякаў лепшае пладовае дрэва: яблыню, грушу, сліву, вішню. «Гэта ўжо аддаюць яго долю, — тлумачаць мясцовыя жыхары, — бо калі не аддасі долі, высахне ўвесь сад, і каб у хазяйстве не было ўпадку» (8-91-254-8, л. 11).

Праносячы труну з целам памёршага праз хатнія дзверы, баяліся дакрануцца ёю ці векам да вушакоў і парога, бо гэта азначала б, што ў хаце хутка яшчэ нехта памрэ. Разам з нябожчыкам імкнуліся «вывесці» смерць з хаты, для чаго адразу ж пасля вынасу памёршага вымяталі следам за ім падлогу і апырсквалі яе і парогі «свянцонай ва-

дою», каб смерць не знайшла больш дарогі ў гэты дом (8-96-290-1, л. 13).

Калі паміраў гаспадар, труну з яго целам ставілі на лаву або іншую падстаўку на пяць-дзесяць мінут на двары. Па перакананню вясковых жыхароў, «хазяіну нада даць прасціцца з сваёй сядзібай». На Беласточчыне ў гэты час у двор выпускаюць з хлява дамашнюю жывёлу, якая быццам бы таксама развітваецца са сваім «кармільцам». Сяляне вераць, што падобнымі дзеяннямі можна забяспечыць у далейшым паспяховае вядзенне гаспадаркі і добры прыплод жывёльнага статку.

Да могілак, калі тыя знаходзяцца недалёка, нябожчыка нясуць на руках, у іншым жа выпадку яго вязуць на падводзе або машыне. Паперадзе пахавальнай працэсіі адзін з мужчын нясе надмагільны крыж, за ім, таксама мужчыны, нясуць царкоўныя харугвы або, як гэта назіралася ў савецкі час, жалобныя вянкі, а следам ідзе святар, які чытае «Евангеліе». За святаром везлі або неслі труну, а за труною ідуць родныя: бацька, маці, жонка, муж, сыны, дочкі і іншыя сваякі. Замыкаюць пахавальную працэсію аднавяскоўцы, знаёмыя і сябры памёршага.

Для жыхароў Беларусі провады ў апошні шлях свайго роднага, аднавяскоўца, знаёмага ва ўсе часы былі святой справай. Таму на «провады» збіраліся ўсёй вёскай, а ў вялікіх населеных пунктах — усе жыхары вуліцы або дома. «Ідзець людзей багата, — расказвае Ганна Рыгораўна Купцова з вёскі Іванаўка Буда-Кашалёўскага раёна, — каторыя ўжо слабыя ні дайдуць ды кладбішча, дык яны тады молюцца Богу, ужо праважаюць так, а етыя далей прадалжаюць іці. І наўстрэчу ніхто ня пойдзя: еслі толькі ідзець машына з пакойнікам — усе астанаўлююцца, дайжа й машыны, й трактары — усе стаяць, пакуль не правязуць пакойніка» (8-94-285-1, л. 28). У народзе вераць яшчэ, што ў час, калі «праводзяць» нябожчыка праз вёску, нельга спаць, бо соннага чалавека можа забраць з сабою смерць.

Пахавальная працэсія на сваім шляху прыпыняецца на перакрыжаваннях дарог або вуліц, насупраць Божага храма і ў месцах, блізка звязаных з жыццём памёршага.

На могілках труну ставяць на свежавырыты пясок побач з магільнай ямай. Святар акрапляў яму святой вадою і ў апошні раз адпяваў памёршага. Пасля рэлігійна-абрадавай часткі з нябожчыкам развітваюцца сваякі і блізкія, цалуючы яго ў твар, рукі. Падобныя развітанні суправаджаюцца, як правіла, душараздзіраючымі крыкамі і галашэннямі:

Прашчай жа ты, мая мамачка,
Прашчай жа ты, мая дарагенькая!
...Да атхадзілі етыя твае ножачкі,
Да атработалі етыя твае ручачкі...

(8-94-285-1, л. 30)

...Дабранач, брацейка!
У паследнюю гадзіначку
Да ў паследнюю мінутачку
Я з табой бачуся!
Да выдайся, мой брацейка,
Хоць уночы.
Да прысніся, да раскажы,
Як табе там жывецца?

Трунары і людзі, якія капалі яму, закрываюць труну векам, забіваюць яе цвікамі і затым на доўгіх палатняных ручніках або вяроўках апускаюць у магілу.

Папярэдне родныя кідаюць у яму медныя грошы, «каб адкупіць пакойніку месца». Усе прысутныя сыплюць таксама ўслед за труною па тры жменькі зямлі і адыходзяць убок. Яму ж зарываюць тыя людзі, што і капалі яе. Цела чалавека ў магіле заўсёды кладуць нагамі на ўсход, куды нібыта ён ідзе пасля пахавання. Размяшчэнне ж крыжа на магіле залежыць ад бытавання да нашых дзён язычніцкай ці хрысціянскай традыцыі ў канкрэтным населеным пункце. Нашы продкі-

язычнікі*, зыходзячы з уяўленняў аб барацьбе чалавека са злымі Духамі за сваё выжыванне, ставілі крыж (а ў больш даўнія часы — камень з высечанай на ім выявай крыжа) у галавах памёршага: крыж, як знак, які не можа пераступіць «нячыстая сіла», быў у такім выпадку як бы над нябожчыкам і ахоўваў цела памёршага ў магіле. Хрысціянская ж традыцыя, наадварот, патрабуе стаўлення крыжа ў нагах пахаванага, каб пры ўсеагульным уваскрашэнні чалавек мог бачыць перад сабою крыж і хрысціцца на яго.

У заключэнне над свежанасыпаным пясчаным холмікам святар выконвае рытуал «апячатвання магілы», для чаго ён, пачынаючы ад крыжа, тройчы акрапляе святой вадою крыж-накрыж магілу і ў такой жа паслядоўнасці тройчы крыж-накрыж «абсявае» пяском магільны насып, пасля чаго пачынае спяваць «Вечную памяць, вечны пакой...». Паводле народных уяўленняў, такі рытуал ахоўвае магілу ад «нячыстай сілы», а памёршы ніколі не будзе палохаць сваіх родных ці знаёмых.

Адыходзячы дадому, нябожчыку зычаць: «Дай, Божа, душаньцы яго святласць векуістую, а целу — лёгкую зямліцу!», «Прымі, Божанька, яго душу! Няхай зямля будзе табе пухам!» і інш.

Рытуалы пахавання заканчваюцца памінальным сталом, які называюць яшчэ «гарачым абедам» і робяць у хаце памёршага ў дзень пахавання. Жыхарка вёскі Касцюшкавічы Крычаўскага раёна Марыя Іванаўна Акустрэй расказвае, як памінаюць памёршага на «гарачым стале» у іх вёсцы ў нашы дні: «...Прыйшлі ў хату, там ужэ сталы прыгатоўлены. Пачынаем с кануна — салодкая жыжка такая: вада на мяду і булка пакрышана. Мёда ў каго няма — сахару. Па тры ложкі нада кануна каждаму ўзяць. Ну, а тады на-

* Тут маецца на ўвазе язычніцтва апошніх двух тысячагоддзяў, калі абрады трупаспальвання і пахавання ў зямлі бытавалі паралельна. Гл.: Сысоў У. М. Беларуская пахавальная абраднасць. Мінск, 1995. С. 65—68.

ліваюць іншае. Там хто-небудзь рэч скажыць. У нас во і квасолю варачь, і мяса будзет нескалька сартоў, і салатаў ...Там во боршч падаюць. Дак у нас падымаюцца на боршч, Богу молюцца. «Боршч, боршч, боршч!», — падымаемся значыць, «Отча наш» молімся. Патом яшчэ садзімся посля баршча» (8-96-290-1, л. 14). У гэтым жа рэгіёне на першы памінальны стол падаюць не менш як дванаццаць розных страў. Увогуле ж кожны ўдзельнік «гарачага абеду» павінен быў выпіць тры чаркі гарэлкі («а калі няможна, то трэба хоць прыгубіць») і паспрабаваць не менш, як тры стравы.

У народзе да сёння вераць, што на «гарачы абед» душа памёршага заклікае і іншыя душы раней памёршых членаў свайго роду. І таму лічылі, што парам, які ідзе ад гарачых страў, частуюцца душы — нябачныя госці жалобнага застолля.

Пасля трэцяй чаркі госці дзякавалі гаспадароў і, выказваючы ім свае спачуванні, ішлі дадому, але першым з хаты павінен быў выходзіць старэйшы па ўзросту чалавек: вераць, хто раней выйдзе, той раней і памрэ. Такое павер'е не тычыцца толькі царкоўных служак і асоб, якія адпяваюць нябожчыка.

Пахавальны абрад — жалобны абрад. У ім, як у люстэрку, праявіліся смутак і боль родных і знаёмых памёршага, іх любоў да члена свайго роду, любоў да жыцця. Менавіта жыццесцвярджальным пафасам напоўнены кожны абрадавы рытуал: чалавек не знікае па смерці, існасць у свеце яго вечная, як вечнае і само жыццё.

Колькі на свеце не лікаваць, а смерці нікаму не мінаваць.

Сколькі не лікаваць, а па смерці труны не мінаваць.

Смерць не перабірае і не мінае.

Смерці не падперці.

Ад смерці нідзе не схаваешся.

Усе прайшлі праз той ложак, дзе на горачцы гаёк.

Круці, не круці — трэба памерці.

Не бойся смерці ані сваёй, ані чужой — кожнага свая стрэне.

Не дапамогуць лекі, калі прыйшло навекі.

Два разы паміраць не будзем.

Двум смерцям не бываць, а адной не мінаваць.

Магіла ўсіх зраўніла.

Хаваць на векі вечныя.

Пакуль жывеш — усяго трэба, а як памрэш — чатыры дошкі і пяску трошкі.

Дзе хаваюць, там і прычытаюць.

Які жаль, такі і плач.

Па-рознаму па бацьках плачуць: хто ў кулак, а хто — ніяк.

Гэты свет і плачучы пераплачаш, а той і скачучы не пераскачаш.

Малады можа памерці, а стары мусіць.

Жывы не без хаты, а мёртвы не без магілы.

У магілу можна і дубцом загнаць, а з магілы і пірагамі не выклічаш.

Каб не мерлі, дык ба неба падперлі.

Бацька памрэ, то палавіна сіраты, а як маці памрэ, то цэлая сірата.

Хаўтуры добрай натуры: хоць галосяць, ды гарэлку падносяць.

Хаўтуры адпелі і клёцкі паелі.

Пра нябожчыка блага не кажуць.

## МАМАЧКА МАЯ ДАРАГАЯ!

*Галашэнне пахавальнае,*
*як ляжыць у хаце*

Мамачка мая дарагая!
Мамачка мая любімая!
Парадніца ты мая!
Я ж з табою ўсё гора дзяліла,
Ты маё ўсё гора знала,
Ты мне ўсё памагала:
Ты мне й сціpала,
Ты мне й мыла.
Ручкі мае залатыя!
Вочкі мае дарагія!
А калі ж я буду паглядаць на вас?
...А ты ж мне дзеткі памагала гадаваць.
А ты ж пыталася ўсё:
— А ці Света званіла?
— А ці ты пра Надзю што знаіш?
— А што ты пра Ніну знаіш?
— А што ты пра каго..?
А ты ж хацела ўсе знаць,
А ты ж хацела ўсе ведаць,
А я ж табе ўсе расказвала,
А я ж з табою ўсе дзялілася.
А з кім жа я буду дзяліцца?
А з кім жа я буду гаварыць?
А каго я буду ўстракаць?
А каго я буду ўглядаць?
А закрыюцца твае дарожкі,
А закрыюцца твае сцежкі...

(8-89-243-1, л. 63—64)

## ТАТАЧКА МОЙ!

*Галашэнне пахавальнае,*
*па дарозе на могілкі.*

Татачка мой!
Куда ж ты выбраўся ў далёкую дарогу?
А ты ж ужо не бачыш, што мы па табе плачам,

Што твае дочачкі ідуць ды галосяць.
Чо ж ты нас аставіў?
Чаго ж ты нас пакінуў?
Чаго ж ты з намі не захацеў жыць?
Да паследняя ж у цябе дарога,
Да паследній пуць.
Закрываюцца сцежкі-дарожкі твае,
Сабраўся ты ў вялікую дарогу,
А больш мы не пабачым цябе...

(8-89-243-1, л. 55)

## ДА СВІДАННЯ Ж, ДА СВІДАННЯ!

*Галашэнне пахавальнае, як развітваюцца на могілках.*

Да свідання ж, да свідання!
Да шчасліва ж табе дарожачка!
Да сустракайце ж бацькі-мацеры,
Да радзімачка!
Да сустракайце ж госцейку.
Да бярыце яго памаленечку,
Бо ён балючы,
Да глядзіце яго тутака.
...Да калі ж ты ка мне прыйдзеш?
Да ў якую пору?
Да з якога боку іці меш?

(8-93-270-4, л. 28)

# Жалобачка мая, ды балючая





Існасць нябожчыка пасля смерці ў свядомасці чалавека на падставе візуальна ўспрымаемых падзей у час пахавальнага абраду і міфалагічных уяўленняў аб ім раздвойвалася, набывала двухварыянтную матэрыяльную і анімістычную форму. Цела яго было пахавана ў зямлі, дзе яно заставалася навечна і як бы растваралася ў зямной плоці, злівалася з ёю, каб, як верылі нашы продкі, садзейнічаць адтуль захаванню зямлі, на якой жыў род памёршага, спрыяць яе жыватворнай, нараджаль-

най і пладавітай моцы. Матэрыяльнаму вобразу нябожчыка ў беларускай міфалогіі адпавядаюць Чур, Пращчур, Дамавы і некаторыя іншыя істоты, якія нібыта пастаянна і нябачна жывуць разам з людзьмі ў сваім родзе.

Душа ж нябожчыка да сарака дзён пасля яго смерці заставалася на зямлі, каб прайсці па ўсіх пуцявінах, якія той зрабіў пры жыцці, і ўспомніць яго ўчынкі і справы, і толькі затым з'яўлялася на Божы суд, дзе адпаведна жыццядзейнасці памёршага ёй прадвызначалася месца ў раі або за грахі чалавека падвяргалася мукам у пекле ці ўвогуле вечнаму скітанню па зямлі.

Развітанню з душою памёршага, рытуальнаму наведванню месца яго захавання, афармленню магілы і былі ў асноўным акцэнтаваны памінальныя абрады і рытуалы, што праводзіліся ў першы год пасля смерці, на працягу якога родныя «насілі» таксама жалобу па свайму сем'яніну-нябожчыку.

Ужо на другі дзень пасля пахавання члены сям'і памёршага зранку едуць на магілу і вязуць «пакойніку» сняданак або, як гавораць у некаторых рэгіёнах пра гэты звычай, «ідуць пабуджаць нябожчыка на магілу». Такі абрад даволі актыўна бытуе ў нашы дні і, як расказваюць аб ім сяляне вёскі Касцюшкавічы Крычаўскага раёна, адбываецца ў такой паслядоўнасці: «...На наступны (пасля пахавання) дзень родныя вязуць заўтрак. Там у дзевяць часоў ілі ў дзесятым часу гатуюць заўтрак і на магілу едуць. ...Бяруць ету ежу, ну, с памінальнага стала (што рабілі ў дзень пахавання), там пакыршні: то рыбу, то каклеты якія і водку ўжо абізацільна і едуць туды. Там засцілаюць на магіле скацерць і заўтракаюць». Перад пачаткам «заўтрака» запальвалі каля крыжа грамнічную свечку і маліліся Богу аб прашчэнні грахоў памёршага. На асобную талерку для нябожчыка адкладвалі па лыжцы прывезенай на магілу ежы» (8-96-290-1, л. 15).

Паводле запісаў вядомага беларускага краязнаўца Г. А. Каханоўскага, у вёсцы Паставічы Ста-

радарожскага раёна на заканчэнне памінальнай трапезы родныя адкладваюць па тры лыжкі ежы на магілу свайго сем'яніна і суседнія магілы, прыгаворваючы пры гэтым: «Мы на гэтым свеце частуем, а Вы нас на тым пачастуеце»*.

Першае наведванне магілы амаль заўсёды суправаджалася плачам і галашэннямі жанчын, калі ўсё навокал: і ўчарашняе пахаванне, і свежанарыты магільны холмік, і яшчэ жывы ў памяці вобраз памёршага — так выразна і балюча напамінала аб ім:

А мая мамачка,
Да што ж ты нам зрабіла,
Нашто ж ты нас кінула?
Да мы ўсе цябе просім:
Прыйдзі к нам на вячэрку.

Да ці ж ты не чуеш,
Ці ты зазлавалася,
Што к нам няйдзеш сёння?
...А мы ж цябе просім:
А ты ж нас не забывай,
А ты ж нам усё прашчай,
А ты нам усё раскажы,
А ты нам хоць сасніся.

Калі пахаванне нябожчыка адбывалася на другі дзень, то, паснедаўшы на яго магіле, родныя запрашалі памёршага да сябе на памінальны абед, які рабілі на трацціны — трэці дзень пасля яго смерці. Лічылі, што на трэці дзень душа ўпершыню пакідае хату і выходзіць за межы дома ў адкрытую прастору: «Трэба яе правесці і благаславіць».

На трацціны, як, дарэчы, і на ўсе іншыя памінальныя абеды, члены сям'і памёршага запрашалі свой род, а таксама тых, хто прымаў хоць які ўдзел у пахавальным абрадзе, — людзей, якія капалі яму, рабілі труну, шылі адзенне і г. д. Па-

* Беларуская народная творчасць. Пахаванні. Памінкі. Галашэнні/Уклад. У. А. Васілевіч і Т. Б. Варфаламеева. Мінск, 1986. С. 109—110.

мінальны стол рыхтавалі, як і ў дзень пахавання, пераважна з гарачых страў. На пачатку памінак усе прысутныя, стоячы за сталом, маліліся Богу, у адрас нябожчыка зычылі «рая нябеснага яго душаньцы!», а целу «пуховай зямелькі». Пачыналі трапезу з кануна ці, як называюць яшчэ дзенідзе гэту памінальную страву, сыты, а потым выпівалі па чарцы і прадаўжалі памінкі. На такіх застоллях забаранялася «чокацца чаркамі» у час выпіўкі. Пасля зычэння нябожчыку, якое гаварыў гаспадар перад першай чаркай, моўчкі выпівалі і закусвалі. Лыжкі, якімі елі, клалі на стол перавярнуўшы дном кверху («Паеў і абарапі яе ніц»). На трацінах абавязкова падавалі на стол бліны і кашу, звараную з зярнят, вырашчаных на ўласным полі.

Як адзначае Е. Р. Раманаў, у мінулым стагоддзі частку ежы з памінальнага стала трэцяга і дзевятага дня родныя аддавалі «старцам» і прасілі тых маліцца за памёршага. «Старцы» — жабракі, якія хадзілі ад вёскі да вёскі, просячы міластыню, спявалі па іх просьбе такі верш:

Госпадзі, спамяні!
Дзяды Вашы да бабусі,
Атцы Вашы да матусі,
Дзядзькі Вашы да цёткі,
Браты Вашы да сёстры,
Дзетачкі Вашы маленькія,
Ангалы хрышчоныя,
Чада вазлюблёныя!
Госпадзі! Божа, спамяні:
Да дзевятага пакалення,
Да дзесятага пачытання
У вялікім росце,
Каторых мы не знаем,
Сам Бог спазнае
Па імені пачытае!..

У народзе бытавала павер'е: чым больш за нябожчыка будзе выказана маленняў і прашэнняў да Бога, каб той «адпусціў яго грахі», тым лягчэй будзе душы памёршага атрымаць Божае пакаянне на Страшным судзе.

На дзевяты дзень пасля смерці адзначаюцца дзевяціны — провады душы ў дальнюю дарогу, з якой яна вяртаецца толькі на саракавы дзень свайго зямнога блукання. У народзе мяркуюць, што душа да дзевяці дзён ходзіць па падворку, агародзе, у хаце, дзе жыў і працаваў памёршы, а пасля дзевятага дня адпраўляецца па больш дальніх пуцявінах, дзе бываў у сваім жыцці яе гаспадар. Таму да дзевятага дня ложа, на якім ляжаў нябожчык пасля абмывання і пераапранання, кожны дзень старанна папраўлялася і засцілалася гаспадыняю хаты, верылі, што ноччу на гэта месца «лажыцца спачываць яго душанька».

На Палессі членам сям'і памёршага да дзевяці дзён забаранялася рабіць якую-небудзь работу ў хаце або на падворку: «дамашнія нічога ні рабілі, а чужыя ўсё роб'яць». Нават памінальны стол на дзевяціны «гатовілі дальнія родственнікі».

Саракавіны — памінкі на саракавы дзень пасля смерці, якія маюць і такія лакальныя назвы, як саракі, сарачыны, саракапуст, астанне, або шасціны — шэсць тыдняў па смерці, адзначаюцца як провады душы на той свет. Па вераваннях беларусаў, на сорак першы дзень пасля смерці чалавека над яго душою адбываецца Божы суд. У залежнасці ад таго, наколькі вялікім было грэхападзенне чалавека на «етым свеце», ёй прадвызначаецца месца ў раі або пекле.

Адпаведна народным уяўленням, рай — гэта чыстая, залітая сонцам прастора, дзе цякуць блакітныя рэкі, а па іх берагах растуць вечназялёныя сады з залатымі пладамі. Душы памёршых адпачываюць там, моляцца і ўслаўляюць Бога. Уваход і выхад з рая ахоўвае сам святы апостал Пётр. Пекла — змрочная прастора, якая нагадвае падзямелле, дзе ў вялізным чорным катле на вялікім агні кіпіць смала. У гэтай смале дзень і ноч варацца і пакутуюць душы грэшнікаў. У пекле гаспадараць чэрці, якімі кіруе вялікі чорны чорт з закручанымі на галаве рагамі.

У нашым народзе вераць таксама, што душы ведзьмакоў, нехрышчоных людзей і самазабойцаў не дапускаюцца Богам на той свет і вечна пакутуюць на зямлі. Яны пасяляюцца ў дрэве, камні, зямлі, асобных прадметах. Нярэдка пра скрыпучае ў лесе дрэва можна пачуць, што «эта плача чыя-то душа». Падобнае значэнне надаюць старэйшыя людзі завыванню ветра ў коміне, незразумелым гукам у лесе, на полі і г. д.

На саракавы дзень родныя нясуць у царкву «праскуру» — бліны, пірог, пшанічную кашу і іншыя стравы, што рыхтуюць да памінальнага стала, і ставяць перад святымі абразамі. Прыносяць таксама з сабою або купляюць і ставяць свечку перад вобразам святога, які, па вераваннях сям'і, найбольш дапамагае і спрыяе яе членам. Пры гэтым звяртаюцца, напрыклад, да Мікалая-цудатворца:

Святы Мікола-ўгоднік!
Прасі Госпада Бога,
Каб дараваў душы
Раба свайго Рыгора*!

Затым заказваюць, каб свяшчэннік адслужыў заўпакойную абедню па нябожчыку. Пасля богаслужэння прынесеныя стравы забіраюць дадому, з іх звычайна пачынаюць памінкі за сталом або адвозяць на могілкі, дзе пасля невялікай трапезы рэшту іх пакідаюць на магіле ці закопваюць у магільны пясок.

Калі пахаванне адбывалася без свяшчэнніка і рытуал «апячатвання магілы» не праводзіўся, то на саракавіны зранку бралі ў хустачку некалькі жменек зямлі з магілы, адвозілі яе ў царкву, асвячалі, а па заканчэнні царкоўнай ранішняй службы ехалі зноў «на кладбішча і высыпалі ету зямлю на акрай», г. зн. начэрчвалі рукою пасярэдзіне магілы крыж і засыпалі яго асвечаным пяском (8-89-243-1, л. 19). У асобных месцах, на-

* У падобных прашэннях называецца імя нябожчыка.

прыклад у Старадарожскім раёне, пясок з магілы бяруць у дзень пахавання і «да шасці нядзель» захоўваюць у хаце за абразамі. «А як шэсць нядзель пройдзе, у царкаў нясуць, асвецяць і нясуць абратна на магілу. Там зробяць крэсцік рукой і сыплюць на той крэсцік пясок. Ета называецца запячатана ўжо магіла» (8-93-270-5, л. 37—38).

Пераважна жанчыны не праміналі ў гэты час прыпасці да магільнага жвіру з працяглымі жалобнымі галашэннямі:

А жалобачка ж мая, ды балючая,
А мамачка ж мая, ды карміліца мая!
А краснае маё соўнейка!
Адкуль жа мне цябе паглядаць?
Адкуль жа ты іці меш?
Закацілась жа ты за цёмныя лясочкі,
А за цёмныя лясочкі ды за шэрыя барочкі.
Нідзе ж я цябе, мамачка, не пачую...

(8-91-254-8, л. 16)

Прымеркавана да таго часу, калі адбывалася пахаванне нябожчыка, пачыналі памінальную трапезу. На гэты памінальны стол абавязкова запрашалі бацюшку і пеўчых, што адпявалі памёршага. Усе прысутныя маліліся разам з імі Богу перад запаленай грамнічнай свечкай, якая гарэла на рагу стала «на покуце», а па заканчэнні малення гаспадар хаты прасіў:

Дай, Госпадзі,
Вечны спакой і царства нябеснае
Рабу сваяму Рыгору!
Чэсныя і праведныя радзіцелі,
Хадзіце к нам абедаць!

Культ продка і пашана яго ў сваім родзе прымушалі родных строга прытрымлівацца тэрміну правядзення памінак на траціны, дзевяціны і саракавіны: застоллем раней часу члены яго сям'і як бы прымушалі душу хутчэй пакінуць іх хату, а больш позція памінкі адбываліся б ужо без душы памёршага сем'яніна. Як у першым, так і ў

другім выпадку падобныя дзеянні маглі выклікаць гнеў нябожчыка да свайго роду і яго помсту.

У нашым народзе бытуе вельмі многа былічак пра сустрэчы з памёршымі людзьмі, якія адбываюцца на працягу сарака дзён пасля іх смерці, а найбольш у першыя дзевяць дзён. Вось адна з іх, запісаная ў вёсцы Залужжа Старадарожскага раёна: «Вот у нас было. Адной жанчыне прысніўся сын, які раней памёр. І прасіў ён маці, каб тая перадала яму пасцель... Ён не тут памёр. Яго прывезлі ў гробе. Яго не вумалі ўжо і яна нічога ні паслала. І ён ей сасніўся, кажа: «Мама, ты мне не паслала пасцель». Яна пайшла, раскапала яго магілу, не да гроба, а так з паўметра і закапала туды гэту пасцель. І ён не сніўся ўжо больш» (8-93-270-4, л. 33).

Як і ў прыведзеным прыкладзе, сустрэчы з нябожчыкамі часцей адбываюцца ў сне, але ў час фальклорных экспедыцый аўтару не аднойчы даводзілася чуць ад розных людзей пра падобныя сустрэчы і наяву. Ніна Міхайлаўна Няхаева, што пражывае на Шклоўшчыне, расказала пра сустрэчу з сваёй памёршай маці, з якой яны пасварыліся незадоўга да смерці: «Эта було страшна. Прыходзіла яна ў хату, станавілася ля койкі, стыяла, прасіла прашчэння. Дзевяць дней яна ка мне пріхадзіла, а на дзевятый дзень я сказала: «Мама, ніякога прашчэння. Нас будзець судзіць Бог». Яна рукой махнула і пайшла. Пріхадзіла, як яе адзелі. Я ляжу на койцы, а яна стаіць. Я бачыла яе, чула яе голас. Яна ўсё пріходзіла і адно цвярдзіла: «Ніна, я прышла яшчо раз. Буду хадзіць датуль, пакуль ні прасціш міня». Маці ругала мяне за табак і за тое, што я хочу прадаць хату. А хату я прадаць не магла, бо хата, калі паміраў тата, пазваў нас усіх і сказаў: «Хата мая». Як жа я магла прадаць...» (8-91-254-4, л. 40).

У многіх выпадках сустрэчы з нябожчыкамі адбываюцца каля могілак. Пра адну з іх расказвае Яўгенія Якаўлеўна Курганава з вёскі Забор'е

Расонскага раёна: «Во, дзе мае родзічы хаваліся*, там аднаго барына хавалася дочка, ...барышня, не жанатая, а барышняй схаваная. І вот мы с сваёй бабай хадзілі ў Валатоўкі**. Ну, другій раз на работу спяшаеш, на хутары жылі, ета йшча да калхозаў было, ідзём. Сначала ў нас выбегіць рабый сабака на дарогу. Баба:

— Нябойся, мая ўнучычка, нябойся. І ты яго рукамі ні датрагівайся, ён панюхаіць і пойдзіць.

І праўда, сама я відзела, мне вот пры памяці, што небальшый рабый сабака.

— А сійчас, — гаворыць, — к нам выйдзіць дзяўчына ў белым плацці і ты на яе не глядзі, ідзі прама, як ідзеш, так і йдзі, — яна мяне ўсё прыдупраждала, — і назад ні аглядайся.

І вот ішлі мы, а я іду, а мае ногі дзеравянныя такія сталі. Іду, ды й думаю, зачаплюся, завалюся. І баюся ж, каб назад ні паглядзець. Іду, у пярэднік***, во так, галаву закручу, баялася я дужа. А тады адным вокам аткрыла, гляджу, выйшла такая, аваль белая на ёй. Як вот .., такая, як з тумана ўсіраўно вышаўшы. Ідзець, спакойна, рукі на выцяжку і аваль гэту вецер так раздуваіць. Яна па кладбішчу йдзець.

Баба атыйшлася, гляджу, нешта з-за пазухі цягнець. Выцягнула платок, махнула тры разы платком і ні глідзела йна на іе, толькі платком махнула. Атыйшлась.

— Ну, цяпер, — гаворыць, — ідзі, унучка, нябойся.

І нігдзе нічога не стала.

— А адтуль, — гавару, — як будзем іці, ці будзіць нам, баба, што?

— Не, — гаворыць, — адтуль нам нічога ні будзіць. Але іна будзіць хадзіць сорак дней, а большэ яна хадзіць ня можэць.

А пакойнік жа абізацільна ходзіць сорак дней» (8-89-244-2, л. 42—43).

---

* *Хаваліся* — былі пахаваны.

** *Валатоўкі* — назва вёскі.

*** *Пярэднік* — фартух.



25 Зак. 1339

Калі нябожчык доўга і часта надакучаў родным ці аднавяскоўцам сваім з'яўленнем, то пасля дзевяцін некалькі чалавек з вёскі патаемна разрывалі яго магілу і аддзялялі ад цела галаву, якую лажылі ў труне ў нагах «мерцвяка» і зноў «закрывалі» магілу.

На магіле памёршага ведзьмака, калі той з'яўляўся сярод людзей пасля смерці, у магільны насып зверху забівалі асінавы кол. Па звестках М. Я. Нікіфароўскага, якія ён зрабіў на падставе запісаў у Віцебскім павеце, «гэты сродак так цудатворна дзейнічае, што вядзьмак не толькі пазбаўляецца здольнасці ператварацца ў якую-небудзь жывёлу, выходзіць з магілы і інш., але нават і тыя чары, якія ён зрабіў пры жыцці, цалкам губляюць сваю сілу»*.

Роўна праз год у сям'і памёршага «адбываюць» апошняе яго пасмяротнае памінанне, якое называюць у народзе ўгодкі, ракавіны, гадавіна, гадаўшчына. У гэты дзень родзічы «заказвалі» ў царкве «заўпакойную літургію», а на «кладбішча» запрашалі бацюшку ці іншага свяшчэнніка, дзе той «служыў над магілаю заўпакойную паніхіду». Пасля поўдня «дома правілі стол», на які запрашалі тых жа людзей, што былі і на сарачынах.

Да году блізкія памёршаму людзі — маці, сястра, жонка, дзеці і іншыя носяць па ім жалобу. У гэты ж перыяд членам яго сям'і забаранялася прымаць удзел у вясёлых застоллях або праводзіць такія дома.

Акрамя адзначаных вышэй дзён памінання першага года пасля смерці ва ўсходняй частцы Беларусі, пераважна на Магілёўшчыне, на дваццаць першы дзень адзначаюць паўсарачыны. Лічаць, што на гэты дзень душа памёршага наведвае родны дом, каб «падсілкавацца» і адпачыць, а потым зноў блукае па зямлі да сарака дзён. У за-

---

* *Шейн П. В.* Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-Западного края. СПб., 1890. Т. 1, ч. 2. С. 520.

ходняй частцы нашага краю і часткова ў яго цэнтральных рэгіёнах «робяць» прыкладзіны, на якія на сёмы дзень ці праз год пасля смерці або 2 лістапада (такі тэрмін залежыць ад мясцовых традыцый) ходзяць папраўляць магілку памёршага сем'яніна, ставяць на ёй крыж і ў заключэнне «правяць» сваёю сям'ёю невялікую памінальную трапезу. Дзе-нідзе адзначаюць таксама паўгодкі і трохгадовае памінанне нябожчыка, якое, як і трохдзённыя памінкі, называюць трацiны.

У памінальнай абраднасці першага года пасля смерці чалавека відавочна праяўляецца яе поліфункцыянальнасць. Пашана і гонар продка, жалоба па ім і ўспаміны аб яго жыццядзейнасці, што дазваляла зафіксаваць у памяці жывых вобраз памёршага продка, значна дапаўняюць магічныя функцыі памінальнай абраднасці, скіраваныя на захаванне чалавечага роду і яго жыццяздольнасці.

Зразумела, што першы год быў найбольш цяжкім у жыцці членаў сям'і памёршага і іншых людзей, каму ён быў блізкі і дарагі. Трэба было змірыцца з беззваротнай стратай дарагога ім чалавека, перажыць душэўны боль і смутак. Нельга залячыць падобныя раны душы імгненна, для гэтага патрэбен працяглы час. І ў такім плане памінальныя дні першага года маюць выключнае значэнне, бо кожны з іх перыядычна даваў магчымасць праз галашэнні, выказванні, плачы зняць эмацыянальнае напружанне з душы блізкіх да памёршага людзей, а таксама адчуць імі падтрымку і спачуванне ад сваіх родзічаў і аднавяскоўцаў, якія прысутнічалі на памінках. Захаванню здароўя і жыцця жывых нашчадкаў садзейнічаюць таксама шматлікія забароны, перасцярогі, вераванні, што бытуюць да сёння ў памінальных абрадах трацін, дзевяцін, саракавін і г. д.

Паміну душа просіць.

Лёгка (добра) памінаць, пакуль сваіх не хаваеш.

## РАСХІНЦЕСЯ ВЫ, ЦЁМНЫЯ ЛЯСОЧКІ...

*Галашэнне памінальнае, у першы год пасля смерці.*

Расхініцеся Вы, цёмныя лясочкі!
Расхініцеся Вы, жоўтыя пясочкі!
Адкрыйся, грабавая дасочка!
Выйдзі ка мне, мая дачушка!
Хачу я з табою пагаварыці,
Сваё гора падзяліці.
А зачэм ты мяне пакінула
На ўвесь век гараваць?
Вазьмі мяне к сабе,
Не хачу я адна жыць...

(8-89-244-2, л. 20)

## МАЦІ МАЯ ДАРАГАЯ...

*Галашэнне памінальнае, у першыя дні пасля пахавання.*

Маці мая дарагая!
Куда ж ты мяне аставіла адну?
На каго ж ты мяне кінула?
А з кім жа я буду гаварыць?
А з кім жа я буду дзела рабіць?
А хто ж мне пасаветуя?
А хто ж мне пакамандуя?
А чаму ж я такая нешчаслівая?
Хай бы ж я шчаслівая была,
Да з маці рабіла,
Да мне маці пакамандавала,
Да мне маці што памагала.
А к каму ж мне зараз прыхіліцца?
А куды ж мне дзецца?
А ў каго ж мне савету папутаць?
А хто ж мне цяпер што скажа?

(8-89-243-1, л. 41)

## ОЙ, ДОНЬКА Ж МАЯ...

*Галашэнне памінальнае,*
*у паўгода на могілках.*

Ой, донька ж мая!
Галубка мая!
Ягадка мая!
Зорачка мая!
Чаго ж ты так рана выбралася ат мяне?
Чаго ж ты замуж не пайшла,
Да ў магілу лягла?
Чаго ж ты не гуляла з дзеўкамі?
Чаго ж ты не красавалася?
А я ж буду ждаць цябе і з музык,
Кругом вездзе, аткуль ты не йці меш.
А я ж буду думаць, што ета ты тамака...
Йдзе дзеўкі, там і ты.
...А ты ж у магіле ляжыш,
Да хаця ж мне ўжо сасніся,
Да раскажы, як табе і што табе,
Бо я ж цябе сколькі буду жыць,
Столькі я цябе ўспамінаць буду,
Столькі ж я па табе і плакаць буду...

Далей плакальшчыца гаворыць не галосячы:

Мае дзіця!
Прыяй жа мне з таго свету,
І сваім сёстрам, і сваім братам.
Не абіжайся, бо я шкадавала цябе
І глядзела да пасledняга твайго жыцця.

(8-89-243-1, л. 61)




У коле традыцыйных абрадаў праваслаўных беларусаў важнае месца займаюць Дзяды — штогадовыя памінанні продкаў у сваім родзе і сям'і. Праводзяцца яны тройчы на год: зімою — Дзяды масленічныя, улетку — Дзяды траечныя і ўвосень — Дзяды восеньскія, ці Асяніны.

Такія памінкі маюць у народзе і яшчэ адну, агульную назву — радзіцельскія суботы, паколькі прымеркаваны толькі да шостага дня тыдня — суботы.

У каталіцкай часткі нашага насельніцтва падобнае памінанне продкаў адбываецца адзін раз у год — на Задушны дзень і мае строгую прымеркаванасць да канкрэтнага дня — 2 лістапада.

Паходжанне і бытаванне гэтых памінальных дзён цесна звязана з земляробчым календаром нашых продкаў.

Масленічныя або, як іх яшчэ называюць, мясаедныя Дзяды, Мясніцы адзначаюцца ў суботу напярэдадні масленічнага тыдня ў канцы мясаеду. У старажытныя часы амаль да сярэднявечча Масленіца завяршала каляндарны год. Прыкладна з масленічнага тыдня ў сялян пачынаўся новы малочны год. Зразумела, што па сваёй прыроднай філасофіі старажытны чалавек-земляроб надаваў выключнае значэнне такім падзеям, зыходзячы з чаго лічыў неабходным запрасіць да свайго стала Духаў памёршых продкаў, каб прынесці ім свае ахвяраванні-пачастункі, выказаць падзяку за пражыты год, за новае малако, за прыплод у жывёльным статку і г. д. З незапамятных часоў у народзе бытуе павер'е, што ў таго, хто не спраўляе Мясніцы, ніколі «не будзе весціся скаціна».

Праваслаўная царква памінае ў гэты дзень усіх памёршых хрысціян «ад Адама да нашых дзён» і просіць у сваіх маленнях Ісуса Хрыста ў час яго другога прышэсця на зямлю дараваць чалавеку за яго грэхападзенне і даць яму магчымасць пакаяцца за свае грахі.

Траечныя, або духаўскія, Дзяды святкуюцца ў суботу напярэдадні Тройцы. Другая назва паходзіць ад дня Святога Духа, які прыпадае на панядзелак траечнага тыдня. У гэты дзень чалавек дзякаваў сваіх продкаў за паспяхова завершаную пасяўную, прасіў іх аб добрым і ціхім леце, буйным росце раслін і багатым ураджаі на яго палях.

У большасці рэгіёнаў да гэтых Дзядоў прымыкае і яшчэ адна назва — стаўроўскія. Пра паходжанне стаўроўскіх Дзядоў апавядае наступная легенда: «Над ракой Дрысай некалі быў хутар Краснаполь, акружаны з усіх бакоў густым, ста-

радаўнім лесам. Каля гэтага Краснаполя ў адным з непраходных лясных гушчароў жыў багаты князь, уладар абшырных памесцяў, незлічоных замкаў і астрогаў, якія размяшчаліся ўздоўж ракі Дрысы. Ён славіўся на ўсёй Белай Русі наезд-ніцтвам і стральбой, за што і празвалі яго князем Боем. Любімым яго заняткам было паляванне з лукам і стрэламі за ласямі, дзікамі і іншымі лясными звярамі ў самых глухіх пушчах і ярах. Для такога палявання ён меў двух борзых сабак, з якіх адна называлась Стаўры, а другая Гаўры, і абедзве былі незвычайна дужыя, так што самы вялікі мядзведзь не мог вытрымаць барацьбы з імі: у адзін момант разрывалі яго на часткі. Колькі раз здаралася, што Бой, адпраўляючыся з суседзямі на паляванне, заходзіў у такія глухія месцы, што ня ведаў, як і куды выйсці з іх. У такім выпадку яму дапамагалі верныя слугі яго, выводзілі на дарогу і праводзілі да самага замка. Мала таго, у выпадку нападзення разбойнікаў на Боя слугі ахоўвалі яго ад іх, забіваючы няпрошаных гасцей. За такія паслугі Бой надзвычай даражыў сваімі слугамі і патрабаваў ад падначаленых сваіх дварчан, каб тыя аказвалі пашану ім, як самым важным асобам пры яго замку. Калі ж Стаўры і Гаўры памерлі, то ён пахаваў іх з вялікімі абраднасцямі і назначыў у гонар іх штогадовыя ўрачыстыя памінанні. Народ збіраўся на месцы, дзе былі пахаваны Стаўры і Гаўры, прыносіў ім з сабою розныя напоі і пачастункі і, разлажыўшы агонь, баляваў да позняй ночы. Рэшту ежы і косці кідалі ў агонь, вымаўляючы гучна імёны Стаўры і Гаўры, і потым выклікалі іх цені...*». Як адзначаюць многія фальклярысты і этнографы XIX — пачатку XX стагоддзя, пачыналіся стаўроўскія Дзяды з таго, што гаспадар пасля малення заглядваў пад стол і клікаў:

* *Шпилевский П. М.* Белоруссия в характеристических описаниях и фантастических поверьях. Пантеон, 1856. Т. XXV. С. 26—27.

**Стаўры, Гаўры, гам,**
**Прыхадзіце к нам!**

У праваслаўных храмах на «троіцкую суботу» успамінаюць «усіх спачылых праваслаўных хрысціян».

Восеньскія Дзяды, або Асяніны, бадай што самыя галоўныя ў цыкле памінальных дзён. Іх правядзенне абумоўлена ахвярапрынашэннямі і падзякамі селяніна Духам продкаў за здабыты ураджай з палёў, павелічэнне і прырост жывёлы і птушкі ў дамашняй гаспадарцы, увогуле за плён і здабыткі працоўнага года. Адзначаюцца восеньскія Дзяды пераважна ў лістападзе, але ў залежнасці ад асобных рэгіёнаў у розныя дні. Напрыклад, на Палессі памінаюць «мёртвых» напярэдадні Міхайла (21 лістапада), а дзень гэты называецца тут міхайлаўскія Дзяды, на поўдні Міншчыны, пераважна ў Магілёўскай вобласці, а таксама ў паўночных раёнах Гомельшчыны восеньскія Дзяды прымяркоўваюцца да суботы, што напярэдадні Піліпаўкі (28 лістапада), і называюцца піліпаўскія Дзяды або запустныя, на Віцебшчыне, у цэнтральнай і паўночнай частцы Міншчыны, асобных раёнах Магілёўшчыны і некаторых іншых рэгіёнах восеньскія памінкі продкаў адзначаюцца ў суботу перад днём Дзімітрыя Салунскага (8 лістапада) і маюць назву змітраўскія Дзяды.

На змітраўскую памінальную суботу царква моліцца за ўпакой праваслаўных воінаў, загінуўшых у баях за веру і незалежнасць сваёй Айчыны.

На Дзяды, згодна шматвяковым вераванням нашага народа, продкі нібыта выходзілі з царства мёртвых і наведвалі сваіх родных і блізкіх. У гэты дзень да абеда мужчыны, як звычайна, займаюцца сваімі гаспадарчымі справамі, а жанчыны з самага ранку пачынаюць падрыхтоўку да сустрэчы «шаноўных гасцей». Вымываюць падлогу, вокны, сталы, вешаюць на абразы новыя набожнікі, на вокны лепшыя фіранкі, прыгожа засцілаюць ложкі. На траецкія Дзяды нават вымятаюць чыста двор і пасыпаюць яго жоўтым пяском, што асабліва любяць рабіць дзеці (8-93-270-5, л. 20).

З абеда гаспадыні распальваюць у печы і рыхтуюць памінальныя стравы, абавязкова пякуць бліны, булачкі ці бублікі, вараць кашу, галушкі, смажаць бульбу з мясам і каўбасой.

У некаторых мясцовасцях, як толькі спячэцца першы блін, яго разрывалі на часткі і ставілі ў талерцы на акно, уяўлялі, што парам, які ідзе ад гарачага бліна, «угашчаюцца» душы памёршых продкаў.

З абеда мужчыны «тапілі» лазню і перад вячэрай усе жыхары хаты ішлі мыцца. Апраналіся ў дзядоўскі вечар у чыстае святочнае адзенне. Гаспадыня падпяразвала новы фартух і падавала на стол прыгатаваную ежу. Гаспадар ставіў да памінальных страў бутэльку гарэлкі. Адначасова старэйшы член сям'і запальваў перад абразамі свечку і маліўся за памёршых родзічаў. Вельмі часта да яго далучаліся і іншыя члены сям'і.

Пасля малення ўсе падыходзілі да стала, але перш чым сесці самім, запрашалі зрабіць гэта «дзядоў-радзіцеляў»:

Прыхадзіце, дзяды-радзіцелі,
І старыя, і малыя,
Хто на етай сялібе жываў,
Хлеба-солі ядаў,
Прыхадзіце, дзяды-радзіцелі!
К свайму сталу, к нашаму прыпечку.
Хлеба-солі засылайце,
Каб было чым душы памінаць,
Год ад году,
Век ад веку!

Самі ж садзіліся за стол, не прыціскаючыся блізка адзін да аднаго: баяліся выціснуць памёршых продкаў, якія нібыта нябачна прымалі ўдзел у памінальнай вячэры.

Пачыналі вячэраць абавязкова з кануна. Затым гаспадар наліваў усім па чарцы гарэлкі і запрашаў памянуць «святых радзіцеляў». Для дзядоў таксама ставілі асобна на стале талерку, у якую адкладвалі па лыжцы кожнай стравы і налівалі ў асобную чарку гарэлку.

За памінальным сталом кожны мог есці і піць, што яму падабаецца, але, як і ў пахавальным абрадзе, на Дзяды бытавала традыцыйнае патрабаванне: выпіць тры чаркі гарэлкі ці віна за памёршых і паспрабаваць не менш як тры стравы. Перад кожнай чаркай гаспадар выказваў розныя зычэнні ў адрас дзядоў-продкаў і прашэнні да Багоў:

Памяні, Бог, хто ў яме,
Паздароў, Бог, хто з намі!

(8-81-190-2, л. 40)

або

Памяні, Божа, душачку іх,
Царства ім нябеснае!

(8-94-280-2, л. 29)

З-за стала ў гэты вечар уставаць не спяшаліся. Паеўшы, расказвалі пра памёршых членаў свайго роду, успамінаючы іх жыццё, учынкі, добрыя справы. Для малодшых членаў сям'і гэта быў своеасаблівы напамін пра свой радавод і яго паходжанне. Такія аповяды перадаваліся часта ў міфалагічнай форме, часам таму ці іншаму продку надаваліся якасці, падобныя казачным альбо эпічным героям.

Кожны невядомы гук, рух у двары, хаце ці за сталом сведчыў аб прысутнасці дзядоў.

Многа ў народзе бытуе павер'яў пра тое, што менавіта ў гэты вечар можна пабачыцца са сваімі продкамі. У Рагачоўскім раёне Гомельскай вобласці да сённяшняга дня старажылы вераць, што гэта можна зрабіць такім чынам: дзяўчына ці жанчына, якая пажадае пабачыцца з памёршымі, тры дні з чацвярга да дзядоўскай суботы павінна пасціцца — нічога не есці, не піць і не размаўляць. У дзядову суботу ёй трэба залезці на печ і цэлы дзень выглядаць на хату з-за коміна. Расказваюць, што тыя, хто выконваў такі абрад, ве-

чарам, калі сям'я рыхтавалася сесці за стол, бачылі, як у хату са свечкамі ўваходзяць знаёмыя і нават незнаёмыя продкі, як садзяцца разам са сваімі за стол, вячэраюць, размаўляюць паміж сабой, слухаюць размовы сваіх нашчадкаў. Назаўтра такая «жрыца» дзялілася з родзічамі і блізкімі сваімі ўражаннямі.

У іншых месцах Беларусі гэты рытуал дапаўняўся больш складанымі элементамі. Напрыклад, на Піншчыне такую жанчыну садзілі ў дзядовую суботу зранку на слуп, што быў закапаны каля печы, дзе яна павінна была праседзець цэлы дзень з завязанымі вачыма.

Закончыўшы вячэру, усе ідуць спаць, але са стала ў гэты вечар нічога не прыбіралі, спадзеючыся, што продкі працягваюць частавацца да самага ранку.

Спачатку трэба грэшнае цела абмыць, а тады ўжо Дзяды адбыць.

Хто дзядоў не ўважаець, таму ўсяляк бываець.

На Тройцу май стаўляюць, дзядоў памінаюць.




Прэстольныя святы, што актыўна бытуюць да нашага часу, праводзяцца ў гонар пэўнага цудатворнага вобраза або святога, які лічыўся заступнікам і дабрадзеем канкрэтнага роду, якія і адзначаліся ў дахрысціянскую эпоху толькі ў гэтым родзе, а з прыняццем хрысціянства — у асобнай вёсцы ці царкоўным прыходзе, дзе да гэтага дня прымяркоўваецца таксама звычай калектыўнага наведвання членаў свайго роду.

Традыцыя падобных урачыстасцей паходзіць з часоў родавага грамадства, калі кожны род ушa-

ноўваў і пакланяўся свайму Богу-апякуну, выяву якога ўвасабляла каменная або драўляная статуя. Пазнейшая трансфармацыя такой традыцыі праз племянную культуру нашых продкаў надала ёй яшчэ больш глыбокае асэнсаванне, а рытуальная распрацоўка набыла шырокую маштабнасць па колькасці ўдзельнікаў і «тэатралізацыі» рытуальных дзеянняў (калектыўныя маленні, ахвяра-прынашэнні, рытуальныя танцы, песні і г. д.).

Хрысціянская рэлігія, якая з пачатку другога тысячагоддзя нашай эры актыўна асімілявала альбо ганьбіла і забараняла пры падтрымцы дзяржаўных улад язычніцкія святы і рытуалы, у дадзенай сітуацыі вымушана была ўступіць спрадвечнай традыцыі нашых славянскіх продкаў, зразумела, надаўшы ёй сваё азначэнне. Прэстольныя святы, як назвала родавыя святкаванні афіцыйная царква, найбольш актыўна і прадуктыўна існуюць сёння толькі на ўсходне-славянскіх землях. Іх традыцыйная зона бытавання менш вядома ў Балгарыі, Славакіі, Югаславіі, Польшчы і амаль зусім адсутнічае ў іншых краінах Еўропы і Азіі.

Адным з аспектаў хрысціянізацыі родавых свят з'яўляецца пашырэнне іх сферы бытавання ад членаў канкрэтнага роду на ўсіх жыхароў асобнага населенага пункта ці прыхода, дзе найбольш урачыста ўшаноўвалі аднаго з хрысціянскіх святых (Ісуса Хрыста, Багародзіцу, Іллю-прарока, святога Юрыя, Мікалая-цудатворца і г. д.) з маленнямі, прашэннямі да яго і ахвяра-прынашэннямі. Як правіла, у такіх населеных пунктах царква або касцёл носяць імя таго ж святога, у гонар якога адзначаюцца храмавае і прэстольнае святы адначасова. У многіх выпадках падобныя святкаванні прымяркоўваліся да нейкіх найважнейшых ці гістарычных падзей, што адбываліся ў той альбо іншай мясцовасці. Аб тым пераканаўча сведчаць шматлікія былічкі і паданні нашага краю. Для прыкладу прывядзём адно з такіх паданняў, запісанае ў вёсках Асінагарадок і Сарокі, што ў Пастаўскім раёне Віцебскай воб-

ласці: «Ва ўрэмя шведскага нашэствія там стаяў полк рускі. Разведка данесла, што ідуць шведы з-пад дзярэўні Сарокі. Сталі дзелаць малебен, іконы павесілі на асіне. Але не кончылі малебна — шведы насціглі. Рускія кінуліся ў бой, у ватаку і адбілі шведаў, і пагналіся за імі, а ікона асталася на асіне. І па сённяшні дзень тая ікона вісіць на тым самым месцы. Там паставілі царкву, Пакроўскую, а ў ёй тая ікона, чудатворная, асінагародская. Там фэст штогод, другога ліпеня»*.

У іншых вёсачках і мястэчках прэстольныя святы мелі даволі бытавыя матывы ўзнікнення: ці то, па ўяўленнях жыхароў, маленні да таго ці іншага святога дапамагалі выратаваць канкрэтнага чалавека альбо ўсіх жыхароў ад цяжкай хваробы, смерці, пажару, галадоўкі, ці, можа, абараніць, выратаваць вёску і яе жыхароў у час паводкі або ад іншых стыхійных няшчасцяў.

Як сведчаць этнаграфічна-фальклорныя матэрыялы апошніх двух стагоддзяў, у кожным населеным пункце прэстольнае свята праходзіла прыкладна ў такім парадку: зранку ў вёску ці мястэчка прыязджалі ўсе, хто тут нарадзіўся або меў сваіх родных, і збіраліся ў мясцовым храме («на вутраннюю»), каб разам памаліцца Богу і паставіць свечку перад цудатворнай іконай ці лікам святога, у гонар якога адбывалася святкаванне, пакланіцца і звярнуцца да яго з прашэннямі аб здароўі і дабрабыце ў сваёй сям'і і родзе, а к абеду ішлі праведаць членаў свайго роду, якія жылі ў гэтым населеным пункце, каб разам пагасцяваць і пасядзець за агульным сталом.

Дарэчы, назва прэстольнае свята ў народзе ўжываецца даволі рэдка, актыўней бытуюць яе лакальныя адпаведнікі.

Напрыклад, на Віцебшчыне і поўдні Міншчыны ў гэты дзень «збіраюцца на кермашы». «Кер-

* Беларуская народная творчасць. Легенды і паданні / Склад. М. Я. Грынблат і А. І. Гурскі. Мінск, 1983. С. 248.

машы» як мясцовая назва прэстольнага свята паходзіць ад таго, што, сабраўшыся з усіх «пастаронніх сёл» у канкрэтную вёску, «родзічы» прывозілі з сабою некаторыя гаспадарчыя тавары і пасля малення ў царкве, прыкладна ў абедзенны перапынак, ці да малення каля царквы наладжвалі на гадзіну-другую гандаль, невялічкі кірмаш, што і дало падставу для такой назвы, а потым ішлі «ў госці» да сваіх родных (8-93-270-4, л. 49).

На ўсходнім Палессі да прэстольных свят пашырана назва госьці, на Гродзеншчыне і Брэстчыне — фэст, у Лельчыцкім раёне Гомельскай вобласці — прыход, у Крупскім раёне Мінскай вобласці — хадзіць у піва і г. д.

Пра сучаснае бытаванне прэстольнага свята ў вёсцы Іванаўка Буда-Кашалёўскага раёна расказвае мясцовая жыхарка Марута Ільінічна Казлова: «Прэстольны праздн̇ік у нас Прачыстая, 21 сінцібра. Збіраімся, гатуімся, завом гасцей — сваіх радных з Глазаўкі, з Недайкі, са Мхоў. ...Прыходжылі сёстры, сёстры хадзілі замуж ужо ў Недайку, у Клімавіцы ўжо была адна сістра, у Лазаўцы былі сёстры — прыходжылі. Цёткі прыходжылі, дзядзькі. Свой род збіраўся. Прыходжуюць і ка ʼбеду стаўлялі на стол яду, гарэлку. Прысаджуюцца нашы госці за сталом, вупіваім, гаворым. А тады, як вып'ім, пад'ядзім, ну, давай жа й песні пець. Песні ўсе пелі. Пелі «Над ярам каліна стыяла...», пелі песню «Ох ты, голуб, голуб сізакрылый...». Багата песень пелі. І песні співалі, і ў гармонь igралі. А тады к усім сходзяць. І хай і два ці чатыры двары радні тутака, ці пяць — усіраўно яны далжны пабыць у каждым дварэ, ва ўсее радні. Усёю раднёй абходзяць усіх, праведаюць, як яны пражываюць...» (8-94-285-1, л. 31).

Зразумела, што праз месяц-другі на прэстольнае свята ўсе родзічы ехалі ў другую вёску, потым — трэцюю, чацвёртую і т. д., што давала магчымасць наведаць на працягу года ўсе сем'і свайго роду, дзе б яны ні жылі.

Звычай калектыўнага наведвання членаў свайго роду у нашых продкаў быў прасякнуты ў першую чаргу клопатам аб кожным з іх. У вясёлай бяседзе, за чаркай выраашалі самыя розныя праблемы, што тычыліся ўсяго роду. Пытанні, як жывуць члены роду, што іх хвалюе, ці ёсць патрэба ў канкрэтнай дапамозе ім, заўсёды былі ў цэнтры ўвагі на падобных гасцяваннях. Высакародна і тое, што ў гэты дзень ішлі «праведаць сваіх»: калектыўна наведвалі кожнае падвор'е, кожную сям'ю свайго роду, удзяляючы ёй максімум увагі і падтрымкі. Трэба было на ўласныя вочы пераканацца, як жывецца замужам дачцы, сястры, унучцы, як «вядзе гаспадарку» сын, брат, дзядзька, якая «помач» патрэбна старым бацькам і г. д. Часам камусьці неабходна было дапамагчы парадай, а мо і ўшчуваннем, калі той адыходзіў ад прынцыпаў родавага калектыва, сароміў яго сваімі паводзінамі ці нечым парушаў законы продкаў. Дапамога словам, слушнай падказкай нярэдка патрэбна была маладажонам, якія праходзілі пэўны перыяд станаўлення як сям'я: мо ў іх жыцці штосьці не ладзілася, мо муж часта заглядваў у чарку, мо ў маладухі нешта не атрымлівалася ў дамашняй гаспадарцы. Прычыны маглі быць самыя розныя, але, як гавораць, «у добрым родзе — усё ў згодзе», а шчырая парада, ушчуванне ці нават асуджэнне блізкімі людзьмі былі напоўнены не столькі крыўдай, колькі павучальна-выхаваўчым зместам і клопатам пра аўтарытэт і гонар роду ў сваім этна-сацыяльным калектыве.

Апошнім часам, як правіла, працягам прэстольнага свята з'яўляецца вечарынка. Надвячоркам, калі больш старэйшыя члены роду развітваюцца і раз'язджаюцца па сваіх вёсках, моладзь і мясцовыя сямейныя жыхары збіраюцца ў адной з вясковых хат або клубе і гуляюць вячоркі. Для гэтага наймаюць музыкаў. Увесь вечар танцуюць, спяваюць песні, весяляцца.

26 Зак. 1339

У добрым родзе — усё ў згодзе.

Там, дзе згода, заўсюды добрая прыгода.

Кожная хвоя свайму бору спявае.

Шчаслівы той, каго і ў няшчасці помняць.

Свой сваяка бачыць здаляка.

Ад добрага кораня добры і адростак.

Разумны тата робіць сям'і свята.

Радні багата, а паабедаць няма дзе.

Няма роду без выроду.

Ні роду, ні плоду — як камень у воду.

### А НА ГАРЭ САСНА...

*На прэстольных святах*
*і ў любы час.*

А на гарэ сасна,
Пад сасною карчма,
А у той карчомцы
Ўвесь мой род гуляе. } 2 р.

Ўвесь мой род гуляе,
Мяне ўспамінае:
— Ой, наша сястрыца
Горку долю мае. } 2 р.

Горку долю мае,
К нам не прыбывае,
А я к свайму роду
Хоць па шыю ў воду. } 2 р.

Хоць я абмачуся,
Я ж і абсушуся,
Там я з сваім родам
Ды нагаваруся. } 2 р.

(8-92-265-5, л. 93)

## А Ў ПОЛІ СЛІЎКА...

*На прэстольных святах
і «ў бяседзе».*

А ў полі сліўка,
Пад сліўкаю вішня,
Там мая радзіна
На гуляння вышла. } 2 р.

Мая радзінонька
Мядок папівая,
Браточак сястроньку
Ў госці запрашае. } 2 р.

— А мой ты браточак,
А мой ты радненькі,
Калі ж твая міла
Паглядае скрыва. } 2 р.

— А мая ж ты міла,
Ні паглядай скрыва,
Бо й мая сястронька
Ні штодзень гасціла. } 2 р.

Мая радзінонька
Мядок папівая,
Крынічная во́да
Ў лузе высыхая. } 2 р.

А ў лузе высо́хня,
А ў рэчцы прыбудзя,
Як памрэ матуля,
Гасціны ня будзя. } 2 р.

А на рэчцы кладка,
Кладачка ўгнецца,
Як памрэ матуля,
Гасціна мінецца. } 2 р.

А на рэчцы кладка,
Кладачка ўпадзя,
Як памрэ матуля,
Гасціна прападзя. } 2 р.

(8-94-284-1, л. 8)

## СТАЮ НА СЛУЖБЕ Я...

*На прэстольных святах
і «абы калі».*

Стаю на службе я
І думку думаю:
Адбілася ад роду,
Адбілася ад роду
Ў чужую старану. } 2 р.

А ў чужой старане
Так цяжка пражываць,
Нават німа часу,
Нават німа часу
Пісьмачка напісаць. } 2 р.

Выйду на ганачак,
Стану на парожак,
Ідуць дзве дарожкі,
Ідуць дзве дарожкі
Ад маёй стараны. } 2 р.

Адна дарожанька,
Гдзе прахажала я,
Другая дарожка,
Другая дарожка,
Гдзе матуля мая. } 2 р.

Не плач ты, матуля,
Не плач ты, родная,
Коль буду шчасліва,
Коль буду здарова,
Дамой павярнуся. } 2 р.

Дамой павярнуся,
Буду расказваць,
Як была цяжанька,
Як была трудненька
Без мамы пражываць. } 2 р.

(8-90-250-1, л. 19)

## ДА БУЛА Ж Я Ў РАДУ, Ў РАДУ...

*На прэстольных святах.*

Да була ж я ў раду, ў раду*,
Напіласа ж, да чуць іду.

Напіласа ж, да чуць іду,
Да баюса ж дамоў іцці.

Да й баюса ж дамоў іцці:
Будзя ж мілы мяне біці.

Будзя ж мілы мяне біці,
Няма ж каму бараніці.

Няма ж каму бараніці,
Свякруха ж навучая.

Свякруха ж навучая,
Заўвіца паджугая.

Заўвіца паджугая,
Дзяўратка просіць: — Братка!

Дзяўратка просіць: — Братка!
Ня бі жонку п'яненькую.

Ня бі жонку п'яненькую,
А бі жонку цвярозую.

А бі жонку цвярозую
Беленькаю бярозаю.

— Бярозачка бяленькая,
Мая жонка міленькая.

Бярозачка бялей за ўсіх,
Мая жонка мілей усіх.

(8-93-270-4, л. 13)

---

* Першы радок у кожным куплеце паўтараецца.

## Заключэнне

Традыцыйная абраднасць — гэта спрадвечная крыніца народнай памяці, часцінка нашага духоўнага жыцця. Як у мінулыя часы, так і сёння яе надзённасць відавочная, бо праяўляецца яна побач з «хлебам насушчным» як «духоўны хлеб» чалавека. Пра гэта пераканаўча сведчыць лёс перасяленцаў з Чарнобыльскай зоны. Так ужо атрымалася, што і гэтай бядою жыццё як бы даказвае ўсяму свету даўно вядомую існасць пра «хлеб наш духоўны».

Адразу пасля аварыі на ЧАЭС тагачасныя правячыя колы перасялялі тысячы сямей у розныя куточкі Беларусі. Высялялі цэлыя раёны, пасёлкі, вёсачкі, а практычна, раскідвалі гэтыя «мурашнікі», якія жылі на сваёй зямлі спрадвечна, са сваімі людзьмі, сваімі абрадамі, звычаямі, песнямі, у акружэнні свайго духоўнага традыцыйнага локуса. Менавіта раскідвалі, а інакш і нельга назваць падобнае перасяленне, бо ў тагачаснай савецкай краіне народная духоўнасць амаль не заслугоўвала ўвагі, а паняцце духоўнага атаясамлівалася пераважна толькі з савецкай рэальнасцю, у рамках яе ідэалагічнай канвы. Хаця, калі б вывучэнню традыцыйнай культуры і духоўным повязям чалавека ў той час надавалася адпаведнае значэнне, можна было б зрабіць і інакш: перасяляць людзей цэлымі вёскамі і такім чынам захаваць цэласнасць гэтых этна-сацыяльных калектываў з іх укладам жыцця, духоўнай спадчынай і г. д.

Вынікі падобнага перасялення праявіліся прыкладна праз пяць год з часу пражывання людзей у месцах пасялення. У ходзе гутарак з перасяленцамі неаднойчы, пераважна ад людзей сярэдняга і старэйшага ўзросту, даводзілася чуць, што адчуваюць яны сябе на новым месцы чужымі людзьмі. У новым, але ж этнічнароднасным калектыве ўсё раптам стала для іх «не так»: не так у новых месцах пражывання гавораць, не так «спраўляюць» абрады, не так спяваюць, не так выконваюць тую ці іншую работу, адным словам, не так, як было ў іх раней. Менавіта гэта «не так», якое паходзіць ад духоўнага густу чалавека, і стала перашкодай у жыцці беларусаў, вымушаных у наш час пакінуць свой «родны кут», а туга па сваіх аднавяскоўцах і зямлі стала для іх сапраўднай настальгіяй.

Апынуўшыся ў новым калектыве для сумеснага пражывання, гэтыя людзі востра адчулі і пачалі цаніць, як ніколі раней, каштоўнасныя крытэрыі блізкай і вядомай толькі ім культурнай традыцыйнай зоны, хвалюючыся за далейшы лёс сваёй духоўнай спадчыны, і ў першую чаргу за лёс традыцыйнай абраднасці і вуснапаэтычнай творчасці. У хуткім часе пасля перасялення на нацыянальнае радыё, тэлебачанне, у друк пачалі прыходзіць дзесяткі, сотні пісем, у якіх людзі акцэнтавалі ўвагу на праблеме захавання іх культурных традыцый. Некалькі такіх пісем захоўваецца ў фондах Архіва Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АНБ. Вось адно з іх: «Паважаная перадача «Запрашаем на вячоркі»! Піша вам Лагвіненка Ніна Сцяпанаўна, 1941 года нараджэння, уражэнка вёскі Белая Сарока Нараўлянскага раёна Гомельскай вобласці. Праўда, цяпер я жыву ў Жлобінскім раёне ў вёсцы Бабоўка, так як нас адсялілі 4 мая 1986 года, цяпер я перасяленка. ...Мне вельмі шкада, што нас адсялілі з такога маляўнічага куточка роднай зямлі. Гэта можа паняць толькі той, хто гэта адчуў на сабе. Я згубіла сваіх сяброў, родных, знаёмых. Мы жылі

ў 10—13 кіламетрах ад Прыпяці, дзе адбылася гэтая бяда — Чарнобыльская бяда. Наш край быў песенным краем. Спявалі каляды, праводзілі русалкі... Як нам там добра жылося, спявалася, а цяпер не так, як было на радзіме. Мне вельмі хочыцца, каб нашы песні не прапалі, не канулі. Пагэтаму спявайце нашы каляды, вясельныя і русальныя песні. Шкада, што не магу напісаць, на які голас гэтыя песні спяваюцца. І яшчэ я ведаю многа нашых песень, якія так нідзе і не чую» (8-94-287-1, л. 5). У дадатак аўтарка пісьма даслала дзесяткі два песенных тэкстаў, што актыўна бытавалі на яе малой радзіме.

Як бачна са зместу пісьма, у ім выказваецца ў першую чаргу хваляванне за лёс традыцыйнай абраднасці, а дакладней тых абрадаў і песень, якія ў навуковым ужытку называюцца аўтэнтычнымі. Менавіта аўтэнтычная канва духоўнай спадчыны кожнай канкрэтнай вёсачкі і вызначае духоўны густ чалавека, які ў народзе асэнсоўваецца паняццямі «так» або «не так», «наша» ці «не наша», «сваё» — «чужое». Безумоўна, што аўтэнтычная культура ўяўляе сабой першааснову, вытокі, з лепшых узораў якіх фарміруецца і складаецца агульнанацыянальная культура любога народа.

Бадай далёка не кожная еўрапейская, ды і нават славянская, краіна захавала ў сваіх культурных здабытках столькі звычаяў, абрадаў, песень у жывым бытаванні да сёння, як Беларусь. Шматлікія гістарычныя працэсы, што адбываліся на нашых землях, садзейнічалі таму. З гонарам у нашым народзе зазначаюць: «Што ні дом — толк, што ні дзярэўня — вера», падкрэсліваючы тым самым багацце і шматграннасць аўтэнтычнай духоўнай спадчыны. І пакуль гэта спадчына будзе жыць, не згасне жывое слова нашага народа, яго песні, абрады, звычаі, павер'і і г. д. як спрадвечныя крыніцы жыватворных сіл і жыццёвай мудрасці.

# Архіўныя матэрыялы

8-81-190-2, л. 40 — зап. С. Т. Асташэвіч і У. А. Васілевіч у 1981 г. у в. Фатынь Бешанковіцкага р. Віцебскай вобл. ад Фёклы Іванаўны Шумілавай, 1886 г. н.

8-89-243-1, л. 9—61 — зап.* у 1989 г. у в. Ясенец Скрыгалаўскага с/с Мазырскага р. Гомельскай вобл. ад Ганны Міхайлаўны Куцько, 1924 г. н.

8-89-243-1, л. 63—64 — пашпартызацыя тая ж, зап. ад Сафіі Кузьмінічны Ткач, 1928 г. н.

8-89-243-2, л. 5—18 — пашпартызацыя тая ж, зап. ад групы жанчын.

8-89-243-2, л. 31, 47 — пашпартызацыя тая ж, зап. ад Вольгі Яфімаўны Сігай, 1929 г. н. і Сафіі Кузьмінічны Ткач, 1928 г. н.

8-89-243-3, л. 14 — зап. у 1989 г. у в. Слабада Мазырскага р. Гомельскай вобл. ад Лукер'і Савельеўны Гусак, 1930 г. н.

8-89-243-3, л. 61 — пашпартызацыя тая ж, зап. ад Сафіі Рыгораўны Мазуркевіч, 1927 г. н.

8-89-244-1, л. 35 — зап. у 1989 г. у в. Якубова Клясціцкага с/с Расонскага р. Віцебскай вобл. ад Ганны Міронаўны Авасёнак, 1924 г. н. і Лідзіі Лаўрэнцьеўны Семчанка, 1920 г. н.

8-89-244-2, л. 8—10 — пашпартызацыя тая ж, зап. ад Ганны Міронаўны Авасёнак, 1924 г. н.

8-89-244-2, л. 16—43 — зап. у 1989 г. у в. Забор'е Клясціцкага с/с Расонскага р. Віцебскай вобл. ад Яўгеніі Якаўлеўны Курганавай, 1932 г. н.

8-89-244-3, л. 8 — зап. у 1989 г. у в. Сакалішча Расонскага р. Віцебскай вобл. ад Аляксандры Ільінічны Гузавай, 1922 г. н.

---

* Пры апісанні архіўных матэрыялаў, запісаных аўтарам кнігі, у пашпартызацыі звесткі пра збіральніка адсутнічаюць.

8-89-244-3, л. 21—24 — зап. у 1989 г. у в. Курына Віцебскага р. ад Марыі Данілаўны Пышкінай, 1928 г. н.

8-89-244-3, л. 39 — пашпартызацыя тая ж, зап. ад Акуліны Емяльянаўны Лесніэнка, 1911 г. н.

8-89-244-4, л. 40—42 — зап. А. Я. Ільюцік, У. М. Сысоў і А. А. Харытановіч у 1989 г. у в. Башні Шумілінскага р. Віцебскай вобл. ад Еўдакіі Андрэеўны Ісьпянковай, 1926 г. н.

8-89-244-4, л. 66—67 — пашпартызацыя тая ж, зап. ад Раісы Аляксееўны Кібісавай, 1922 г. н. і Таццяны Мікалаеўны Стральцовай, 1911 г. н.

8-89-244-5, л. 15—17 — пашпартызацыя тая ж, зап. ад Ефрасінні Максімаўны Балашэўскай, 1928 г. н.

8-89-244-5, л. 51 — пашпартызацыя тая ж, зап. ад Еўдакіі Андрэеўны Ісьпянковай, 1926 г. н.

8-90-250-1, л. 19 — зап. Л. М. Грыгаровіч, С. І. Вількоцкая і У. М. Сысоў у 1990 г. у в. Повалака Воранаўскага р. Гродзенскай вобл. ад групы жанчын.

8-91-254-1, л. 8 — зап. у 1991 г. у в. Зенькавіна Кармянскага р. Гомельскай вобл. ад Сцепаніды Іванаўны Махвічэнка, 1923 г. н.

8-91-254-2, л. 9—50 — зап. А. У. Малаш і У. М. Сысоў у 1991 г. у в. Гарадзішча Шклоўскага р. Магілёўскай вобл. ад Марыі Фядосаўны Кроцікавай, 1922 г. н.

8-91-254-4, л. 6—40 — зап. Н. А. Масанская і У. М. Сысоў у 1991 г. у в. Навасёлкі Гарадзішчанскага с/с Шклоўскага р. Магілёўскай вобл. ад Ніны Міхайлаўны Няхаевай, 1920 г. н.

8-91-254-8, л. 6—16 — зап. у 1991 г. у в. Ясенец Скрыгалаўскага с/с Мазырскага р. Гомельскай вобл. ад Ганны Міхайлаўны Куцько, 1924 г. н.

8-91-258-А-2, л. 12 — зап. у 1991 г. у в. Заходы Гарадзецкага с/с Шклоўскага р. Магілёўскай вобл. ад Ганны Еўдакімаўны Аўрамавай, 1933 г. н. і Надзеі Дзянісаўны Лупікавай, 1937 г. н.

8-91-258-А-3, л. 9—33 — зап. у 1991 г. у в. Станіславова Дубровенскага р. Віцебскай вобл. ад Таццяны Прохараўны Макаравай, 1922 г. н.

8-92-265-1, л. 40—49 — зап. у 1992 г. у в. Баева Дубровенскага р. Віцебскай вобл. ад Лідзіі Сяргееўны Камароўскай, 1931 г. н.

8-92-265-3, л. 26 — пашпартызацыя тая ж, зап. ад Лідзіі Паўлаўны Палзоўскай, 1935 г. н.

8-92-265-3, л. 67—68 — пашпартызацыя тая ж, зап. ад Антаніны Якаўлеўны Карпіцкай, 1926 г. н.

8-92-265-3, л. 89 — пашпартызацыя тая ж, зап. ад Марыі Майсееўны Усянцовай, 1927 г. н.

8-92-265-3, л. 103—104 — пашпартызацыя тая ж, зап. ад Галіны Аляксандраўны Пятровай, 1968 г. н.

8-92-265-5, л. 93 — зап. у 1992 г. у в. Панізоўе Баеўскага с/с Дубровенскага р. Віцебскай вобл. ад групы жанчын.

8-92-265-6, л. 8 — зап. у 1992 г. у в. Ерхі Вілейскага р. Мінскай вобл. ад Ніны Вікенцьеўны Чарапові ч, 1923 г. н.

8-92-266-1, л. 7 — зап. у 1992 г. у в. Махава Магілёўскага р. ад Сафіі Дзмітрыеўны Чарняўскай, 1928 г. н.

8-92-266-2, л. 10—26 — зап. у 1992 г. у в. Дубраўка Махавіцкага с/с Магілёўскага р. ад Арыны Пракопаўны Дысянковай, 1903 г. н.

8-92-266-3, л. 11—20 — зап. Н. Г. Мяцельская і У. М. Сысоў у 1992 г. у в. Махава Магілёўскага р. ад групы жанчын.

8-92-266-4, л. 27 — зап. А. В. Казакова і У. М. Сысоў у 1992 г. у в. Махава Магілёўскага р. ад Ганны Максімаўны Міцьковай, 1927 г. н.

8-92-268-1, л. [illegible] — зап. у 1992 г. у в. Азарычы Слаўгарадскага р. Магілёўскай вобл. ад Кацярыны Васільеўны Стальчанка, 1927 г. н.

8-92-268-1, л. 26 — пашпартызацыя тая ж, зап. ад групы жанчын.

8-93-270-1, л. 9, 19—27, 50—52 — зап. у 1993 г. у в. Аляксандраўка Старадарожскага р. Мінскай вобл. ад групы жанчын.

8-93-270-1, л. 16 — пашпартызацыя тая ж, зап. ад Анастасіі Сцяпанаўны Александровай, 1925 г. н.

8-93-270-1, л. 30—31, 35, 39 — пашпартызацыя тая ж, зап. ад Эмы Іванаўны Александровай, 1938 г. н.

8-93-270-1, л. 31, 37 — пашпартызацыя тая ж, зап. ад Вольгі Іванаўны Александровай, 1922 г. н.

8-93-270-1, л. 34, 46, 63 — пашпартызацыя тая ж, зап. ад Кацярыны Цімафееўны Пінчук, 1917 г. н.

8-93-270-2, л. 7—15 — зап. у 1993 г. у в. Шапчыцы Старадарожскага р. Мінскай вобл. ад Макара Васільевіча Дамарада, 1909 г. н.

8-93-270-2, л. 31—38 — пашпартызацыя тая ж, зап. ад Марыі Афанасьеўны Жукавец, 1912 г. н.

8-93-270-2, л. 53—67 — пашпартызацыя тая ж, зап. ад Алены Макараўны Непачаловіч, 1933 г. н.

8-93-270-3, л. 15 — зап. у 1993 г. у в. Оршаль Старадарожскага р. Мінскай вобл. ад Кацярыны Сямёнаўны Жукавец, 1932 г. н.

8-93-270-3, л. 17 — пашпартызацыя тая ж, зап. ад Марыі Макараўны Дамарад, 1933 г. н.

8-93-270-3, л. 20 — пашпартызацыя тая ж, зап. ад групы жанчын.

8-93-270-4, л. 13—55 — зап. у 1993 г. у в. Залужжа Старадарожскага р. Мінскай вобл. ад Веры Міхайлаўны Мышко, 1916 г. н.



8-93-270-4, л. 65 — пашпартызацыя тая ж, зап. ад Вольгі Трафімаўны Мельнік, 1931 г. н.

8-93-270-5, л. 12—38 — зап. у 1993 г. у в. Языль Старадарожскага р. Мінскай вобл. ад Веры Гардзееўны Шпіленя, 1905 г. н.

8-93-270-6, л. 14—53 — зап. у 1993 г. у в. Аляксандраўка Старадарожскага р. Мінскай вобл. ад Кацярыны Цімафееўны Пінчук, 1917 г. н.

8-93-273-1, л. 6, 53 — зап. у 1993 г. у в. Ржавец Чэрыкаўскага р. Магілёўскай вобл. ад Марфы Данілаўны Філіпавай, 1916 г. н.

8-93-273-1, л. 8—12 — пашпартызацыя тая ж, зап. ад Зінаіды Паўлаўны Філіпавай, 1933 г. н.

8-93-273-1, л. 23—48 — пашпартызацыя тая ж, зап. ад Марыі Ермалаеўны Марозавай, 1928 г. н.

8-93-273-2, л. 12 — зап. у 1993 г. у в. Вербеж Чэрыкаўскага р. Магілёўскай вобл. ад Любові Рыгораўны Елісеенка, 1955 г. н. і Надзеі Мікалаеўны Марозавай, 1949 г. н.

8-93-273-3, л. 9—43 — зап. у 1993 г. у в. Гронава Чэрыкаўскага р. Магілёўскай вобл. ад Ганны Сямёнаўны Маскальцовай, 1914 г. н.

8-94-279-1, л. 12—21 — зап. у 1994 г. у в. Бяседавічы Хоцімскага р. Магілёўскай вобл. ад Матроны Рыгораўны Чыбусавай, 1915 г. н.

8-94-280-1, л. 5 — зап. у 1991 г. у в. Баева Дубровенскага р. Віцебскай вобл. ад Аляксандры Фёдараўны Варонінай, 1935 г. н.

8-94-280-1, л. 9 — зап. у 1992 г. у в. Старая Алешня Рагачоўскага р. Гомельскай вобл. ад Ганны Раманаўны Данцовай, 1930 г. н.

8-94-280-1, л. 18 — зап. у 1993 г. у г. Мазыр Гомельскай вобл. ад незнаёмай жанчыны на вяселлі ў час дзялення караваю.

8-94-280-2, л. 8—16 — зап. у 1993 г. у в. Васілёўка Светлагорскага р. Гомельскай вобл. ад Маі Антонаўны Пішчык, 1936 г. н.

8-94-280-2, л. 22—23 — зап. у 1994 г. у в. Мілашэвічы Лельчыцкага р. Гомельскай вобл. ад Таццяны Раманаўны Паповіч, 1943 г. н.

8-94-280-2, л. 25 — пашпартызацыя тая ж, зап. ад Марыі Навумаўны Гаўрылавец, 1929 г. н.

8-94-280-2, л. 29—30 — пашпартызацыя тая ж, зап. ад Любові Сяргееўны Варабей, 1938 г. н.

8-94-280-2, л. 31—33 — зап. у 1994 г. у в. Валэйкавічы Смаргонскага р. Гродзенскай вобл. ад Ванды Віктараўны Роля, 1942 г. н. і Ірэны Іванаўны Стурліс, 1933 г. н.

8-94-280-2, л. 34 — зап. у 1994 г. у в. Старая Алешня Рагачоўскага р. Гомельскай вобл. ад Надзеі Раманаўны Малалетнікавай, 1920 г. н.

8-94-282-1, л. 9—31 — зап. у 1994 г. у в. Урэчча-1 Слаўгарадскага р. Магілёўскай вобл. ад Марыі Дзімітрыеўны Багровай, 1925 г. н.

8-94-282-1, л. 35—64 — пашпартызацыя тая ж, зап. ад Ефрасінні Іванаўны Мельнікавай, 1910 г. н.

8-94-282-2, л. 8—57 — пашпартызацыя тая ж.

8-94-284-1, л. 8—9 — зап. у 1994 г. у в. Курчоўцы Воранаўскага р. Гродзенскай вобл. ад Яніны Станіславаўны Супрун, 1928 г. н.

8-94-284-1, л. 12—14 — зап. у 1994 г. у в. Старая Алепіня Рагачоўскага р. Гомельскай вобл. ад Надзеі Раманаўны Малалетнікавай, 1920 г. н.

8-94-285-1, л. 12, 14 — зап. у 1994 г. у в. Іванаўка Буда-Кашалёўскага р. Гомельскай вобл. ад групы жанчын.

8-94-285-1, л. 25 — пашпартызацыя тая ж, зап. ад Анастасіі Нікіфараўны Цімашэнка, 1921 г. н.

8-94-285-1, л. 26—29 — пашпартызацыя тая ж, зап. ад Ганны Рыгораўны Купцовай, 1937 г. н.

8-94-285-1, л. 30—31 — пашпартызацыя тая ж, зап. ад Маруты Ільінічны Казловай, 1920 г. н.

8-94-285-2, л. 5—14 — пашпартызацыя тая ж, зап. ад Маруты Ільінічны Казловай, 1920 г. н. і Ніны Сцяпанаўны Казловай, 1951 г. н.

8-94-286-1, л. 10—17 — зап. у 1994 г. у в. Веткавіца Чачэрскага р. Гомельскай вобл. ад Таццяны Яўхімаўны Раманцовай, 1929 г. н.

8-94-286-1, л. 20 — зап. у 1994 г. у г. Чачэрску Гомельскай вобл. ад Анастасіі Лявонаўны Кузняцовай, 1920 г. н.

8-94-287-1, л. 5—25 — зап. у 1994 г. у в. Бабоўка Жлобінскага р. Гомельскай вобл. ад перасяленкі з Чарнобыльскай зоны, жыхаркі в. Белая Сарока Нараўлянскага р. Гомельскай вобл. Ніны Сцяпанаўны Лагвіненка, 1941 г. н.

8-95-288-2, л. 44 — зап. у 1995 г. у в. Вялікія Аўцюкі Калінкавіцкага р. Гомельскай вобл. ад Надзеі Ільінічны Міцура, 1916 г. н.

8-96-290-1, л. 7—10 — зап. у 1995 г. у в. Касцюшкавічы Крычаўскага Р. Магілёўскай вобл. ад Ганны Фёдараўны Стралецкай, 1931 г. н.

8-96-290-1, л. 11—15 — пашпартызацыя тая ж, зап. ад Марыі Іванаўны Акустрэй, 1930 г. н.

8-96-292-1, л. 8 — зап. у 1995 г. у в. Марчанкі Гарадокскага р. Віцебскай вобл. ад Лідзіі Ігнатаўны Скуратавай, 1920 г. н.

# Змест



## АБРАДАВАЕ КОЛА БЕЛАРУСКАГА НАРОДНАГА КАЛЕНДАРА

## СЯМЕЙНАЯ ТРАДЫЦЫЙНАЯ АБРАДНАСЦЬ БЕЛАРУСАЎ

Навукова-папулярнае выданне

**Сысоў Уладзімір Мінавіч**




Рэдактар *С. І. Міхайлава*

Мастацкі рэдактар *В. А. Ярашэвіч*

Тэхнічны рэдактар *Г. М. Раманчук*

Карэктар *Т. К. Хваль*

Здадзена ў набор 07.07.97. Падпісана да друку 21.11.97. Фармат 84×100/32. Папера афс. № 1. Гарнітура школьная. Афсетны друк. Ум. друк. арк. 20,28. Ул.-выд. арк. 17,47. Тыраж 10 000 экз. Заказ 1339.

ДП Выдавецтва «Вышэйшая школа». Ліцэнзія ЛВ № 5. 220048. Мінск, пр. Машэрава, 11.

Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». 220013, Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79.

# СВЯТЫ і

## дата якіх вызначаецца ў залежнасці

| На якім тыдні да Вялікадня адзначаецца | Назва свята, прысвятка, асобных дзен або ўсяго тыдня | На якія дні тыдня або які час прыпадае |
|---|---|---|
| 10 | • Усеядны (Сплашны) тыдзень | |
| 9 | Масленічныя (зімовыя, стрэчаньскія) дзяды | У суботу, вечарам |
| 8 | • Масленічны (сырны) тыдзень<br>Крывы чацвер<br>Масленічныя (перадвелікодныя) загавіны | Чацвер<br>Нядзеля |
| 7 | Пачатак Вялікага (перадвелікоднага) посту<br>Паласказуб, Шыльны панядзелак<br>Уступная серада<br>Зборава субота, абрады "споведзі, дзежкі"<br>Ізборная нядзеля, (Зборніца) | Сем тыдняў (ад панядзелка да велікоднай нядзелі)<br>Панядзелак<br>Серада<br>Субота<br>Нядзеля |
| 4 | • Крашчаты (благавесны) тыдзень<br>Хрэстцы, Прапалоўны дзень, серадапосніца, сярэдзіна посту,<br>Кросная серада | Серада |
| 3 | Яўрэйскія кучкі | За 10-15 дзен да Велікадня |
| 2 | Пахвальны тыдзень<br>Мезіна, Пахвальная субота<br>Вербніца, Вербная нядзеля | Субота<br>Нядзеля |
| 1 | Перадвелікодны (вербны, белы, страсны) тыдзень<br>Чысты панядзелак<br>Вялікая (красная) пятніца, дзень распяцця Ісуса Хрыста<br>Вялікая (красная) субота, пахаванне цела Ісуса Хрыста<br>Усенашная, уваскрэшанне Ісуса Хрыста<br>Вялікая нядзеля, Вялікдзень | Панядзелак<br>Пятніца<br>Субота<br>Ноч з суботы на нядзелю |

# ...АБРАДЫ,

## ...дня святкавання Вялікадня (Пасхі)

...адзначаецца у першую нядзелю

...вясенняга раўнадзенства)

| На якім тыдні пасля Вялікадня адзначаецца | Назва свята, прысвятка, асобных дзен або ўсяго тыдня | На якія дні тыдня або які час прыпадае |
|---|---|---|
| 1 | • Велікодны тыдзень (Вялікадне)<br>Вялікі панядзелак, другі дзень Вялікадня<br>Вялікі аўторак, трэці дзень Вялікадня<br>Градавая серада, абрады ля калодзежа<br>Вялікдзень мертвых, Наўскі Вялікдзень<br>Фаміна (праводная) нядзеля, провады | Панядзелак<br>Аўторак<br>Серада<br>Чацвер<br>Нядзеля |
| 2 | • Радаўнічны тыдзень<br>Радаўніца (Радунічныя дзяды) | Аўторак (дзевяты дзень пасля Вялікадня) |
| 4 | • Перапалаўны тыдзень<br>Перапалавенне, Градавая серада | Серада (дваццаць пяты дзень пасля Вялікадня) |
| 6 | Ушэсце (Шоснік), абрад ваджэння і пахавання стралы (сулы) | Чацвер (саракавы дзень пасля Вялікадня) |
| 7 | Крывая, Градавая серада<br>Траецкія (летнія, духаўскія, семушныя) дзяды, вывешванне маю (упрыгожванне галінкамі дрэў падворка і хаты)<br>Тройца (Семуха, Зялянец, Зяленыя святкі) ваджэнне Куста, завіванне вянкоў, абрады "кумлення" | Серада<br>Субота<br>Нядзеля (пяцідзесяты дзень пасля Вялікадня) |
| 8 | • Траечны (Граны, Клечальны, Духаў) тыдзень<br>• Русальны тыдзень<br>Духаў дзень (Сашэсце Святога Духа)<br>Конскі Вялікдзень (на Палессі)<br>Градавая серада, серада Русаль<br>Сухі чацвер, наўскі чацвер, абрады выклікання дажджу<br>Загавіны перад пятроўскім пастом, абрады развівання вянкоў | Панядзелак<br>Аўторак<br>Серада<br>Чацвер<br>Нядзеля |
| 9 | Розгары (Провады русалкі)<br>Дзевятнік, Свята Божага Цела (у католікаў)<br>Дзевятуха | Панядзелак<br>Чацвер<br>Пятніца |
| 10 | Дзесятка<br>Дзесятуха (пяценка) | Чацвер<br>Пятніца |



# Уладзімір Мінавіч СЫСОЎ

Кандыдат філалагічных навук, працаваў старшым навуковым супрацоўнікам Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору імя К.Крапівы Акадэміі навук Беларусі. Даследаваў сямейна-абрадавую паэзію і іншыя віды беларускай народнай творчасці. Вялікай папулярнасцю карысталіся яго перадачы па тэлебачанню і радыё. Як таленавіты вучоны ён атрымаў прызнанне не толькі ў нашай краіне, але і за яе межамі. Збіраўся апублікаваць шэраг новых прац, планаваў ажыццявіць даследаванне актуальных праблем айчыннай навукі, але заўчасная трагічная смерць абарвала яго жыццё.



ISBN 985-06-0296-1

Выдавецтва "Вышэйшая школа"